

*Старадаўняй Літоўскай Пагоні*
*не разьвіць, не спыніць,*
*не стрымаць!*

Максім Багдановіч

116

ДА 1989 г. ЧАСОПІС ВЫХОДЗІЎ ПАД НАЗВАЙ «ПОМНІКІ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ»

ЧАСОПІС БЕЛАРУСКАГА ФОНДУ КУЛЬТУРЫ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ДРУКУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# СПАДЧЫНА

2 96

## У НУМАРЫ

## МЕМУАРЫ



## РЭЛІГІЙНАЯ ГІСТОРЫЯ





Адрас рэдакцыі: 220029, Мінск, Старажоўская, 5. Тэл. 34-26-50.

Здадзена ў набор 29.02.96. Падпісана да друку 10.04.96. Фармат 84×108 1/32. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 15,12. Ум. фарба-адб. 15,22. Ул.-выд. арк. 16,90. Тыраж 3380 экз. Зак. 344.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220013, Мінск, праспект Францішка Скарыны, 79.

Выходзіць 6 разоў на год. Выдавецтва «Полымя». Мінск.



**На першай старонцы вокладкі: А. Шатэрнік. Праект помніка Міколу Гусоўскаму. 1984 г.**

**На другой старонцы вокладкі: фрэска храма Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра ў Полацку. Меркаваны партрэт Еўфрасіньні Полацкай.**

**На чацвёртай старонцы вокладкі: Хрыстос Укрыжаваны. Дрэва, паліхромія (фрагмент).**

Уладзімер ГЛЫБІННЫ

# СМАЛЕНШЧЫНА — АДВЕЧНАЯ ЗЯМЛЯ КРЫВІЧОЎ

## (ГІСТАРЫЧНЫ НАРЫС)

З гор паглядае прыгожы Смаленск
цераз прысады а блоні свае.
Замак і цэрквы ў даліны глядзяць,
цяжкія дні ім прыйшлося зазнаць.
Тут адбываліся бойкі ня раз,
тут задрамаў, затрымаўшыся, час.
Сяньняшняй бойкі ня чулі вякі,
гэтакай цяжкай ня знали рукі.
Павадкай дзікай прайшлі па зямлі,
новы тэстамэнт няволі далі...
Сьціх і скарыўся магутны Дняпро...

*Ул. Дубоўка*

## I. АБ ЧЫМ ГАВОРАЦЬ СТАРЫЯ ЛЕТАПІСЫ

Смаленск... Як шмат гістарычных успамінаў будзіць гэтае слова, як многастайна ў дазнаным ведаю мінулага ўяўленьні паўстае багатая на падзеі гісторыя гэтага гораду, крывіцкага краю і народу. А гісторыя Смаленску, як крывіцкага гораду, пачынаецца яшчэ ад незапомных часоў. Бадай усе першыя летапісцы з гісторыі славянства ўжо ўспамінаюць Смаленск, як палітычны цэнтар

Друкуецца паводле выдання Беларускага Выдавецкага Таварыства, Нью-Ерк, Саўт Рывэр, 1963. Скароты нязначныя.

Крывічоў, яшчэ ў пэрыядзе паганскае старавечнасьці, калі Крывічы калянізавалі шырака поўнач і ўсход Беларусі і крывіцкія паселішчы паўставалі ў Вазёрным краі аж да самага Белавозера, а на ўсходзе і паўдні да Акі і Дону. Побач з Ізбарскам і цэнтрам падзьвінскіх крывічоў — Полацкам, навет раней за яго, называецца цэнтар усходніх прыдняпроўскіх крывічоў — Смаленск.

Смаленск быў цесна зьвязаны ў эканамічных і тэрытарыяльных дачыненьнях з слаўным Полацкам. Лучылі іх інтарэсы Дняпра-Дзьвінскага воднага шляху, якім ішоў гандаль заходніх готаў з усходнімі баўгарамі і хазарамі; эканамічна лучыў іх вялікі водны шлях «з варагаў у грэкі». Ажыўлены гандаль праз гэтыя шляхі багаціў Полацак і Смаленск, а раньняе палітычнае вылучэньне ў васобныя дзяржаўныя адзінкі рабілі іх гаспадарамі над шмат якімі суседнімі пляменьнямі, якіх яны ўзалежнівалі ў дзяржаўным дачыненьні. Шмат якія назовы мясцовасьцяў і паселішчаў, што паходзяць ад слова «крывіч», як Крывец, Крэчаны, Крыўскае, Крэва, Крывозны і г. д., што сустракаюцца ў вялікай колькасьці ў землях Радзімічаў, Северанаў, Дрыгвічоў, сьцьвярджаюць, што Крывічы надта далёка пашырылі сваё расьсяленьне. У дзяржаўнай залежнасьці ад вялікага племя Крывічоў і іхнага цэнтру Смаленску была і Северанская зямля. Аб гэтым у «Повести древних времен» гаворыцца:

«И по сих братии (пасьля Кія, Шчэка і Харыва) держати почаша род іх княженье в Полях, а в Деревлях свое, а Дрѣгевичи свое, а Словене свое Новегроде, а другое на Полоте, иже и Полочане, от них же и Кривичи, иже седять на верх Влги и на верх Двини и на верх Днепра, іх же град есть Смольнск; туде бо седят Кривичи; таже Север от них».

Зьліваючыся зь северанаўскімі, радзіміцкімі і дрыгавіцкімі землямі ў працэсе калёнізацыі гэтых земляў, яшчэ ў тыя пачаткавыя для сваёй гісторыі часы яны далі той асобны славянскі тып беларусаў, які становіць цяпер зусім не падобную да расейцаў нацыю. Этнаграфічнай і расавай чысьціні полацкіх і смаленскіх Крывічоў спрыяла раньняе дзяржаўнае самавызначэньне і магутнасьць, набытая дзякуючы этнаграфічнаму, эканамічнаму і геаграфічнаму адзінству.

Аб велічы і значэннасьці Смаленску ў тыя старадаўныя часы гавораць і летапісныя весткі пра паход

865 г. вараскіх баяраў Аскольда і Дыра, якія з згоды Рурыка пайшлі ў Царгорад з родам сваім «и поидоста изь Новагорода по Днепру и идуче мимо Смоленск, и не явистася в Смоленску: зане град велик и мног людьми».

Той самы летапіс адзначае, як пазьней, у 882 г., Смаленск прызнаў залежнасьць ад Алега і Ігара, але ўсё-ж меў самастойнага князя і належаў, як раней, да вялікіх гаспадарстваў. Калі Алег у 907 годзе супольнымі славянскімі сіламі паняволіў Грэцкую зямлю і загадаў плаціць даніну — «рускім гарадом»: перш Кіеву, так-жа Ноўгароду, а затым Полацку, Растову, Смаленску і іншым, дык адразу ж давалася тлумачэньне, што гэта вялікія княствы — «па тых бо гарадох сядзяць вялікія князі, якія знаходзяцца пад Алегам».

Гэтак, летапісы называюць гэткіх раньніх самастойных князёў у Смаленску, як князя Станіслава, сына Валадзімера, затым Вячаслава Яраслаўага (ад 1054 г.). Канчальна вызваліў Смаленшчыну ад усякае залежнасьці ад дынастыі русаў (у 1128 г.) і стварыў магутнае Смаленскае княства Расьціслаў Мсьціславіч, унук Манамаха (1125—1160 г.).

У 1137 г., імкнучыся да паступовага палітычнага самавызначэньня і навет духовае незалежнасьці ад русаў, за Расьціславам Смаленшчына вылучылася ў васобную епіскапію. За першага япіскапа быў вучоны грэк Мануіл, пасьля ў гэтай ролі былі беларусы. Адгэтуль пачынаецца час культурнага і гаспадарскага росьцьвіту Смаленску — залатая пара незалежнага Смаленскага княства.

Гандлёвыя сувязі Смаленску, даўней з арабска-бізантыйскімі краямі, а гэтым часам і з захадам — Рыгаю, Готляндам ды іншымі нямецкімі гарадамі — багацілі горад.

У Смаленскіх курганох знаходзяць шмат бізантыйскіх і арабскіх манетаў VIII—XI стст. Багата хлеба Смаленск вывозіў на свой хлебны рынак — Ноўгарад. Смаленскія купцы езьдзілі ў Суздаль і аж у Канстантынопаль. Немцы ж самі прыяжджалі ў Смаленск і трывала тут асядалі. Ужо ў XIII ст. тут была цэлая нямецкая калёнія з сваёю царквою імя Божае Маці, якая мела і свой двор. За той самы час ведамыя ў гісторыі беларускае мовы і беларускага права гандлёвыя ўмовы, якія рабіў князь Мсьціслаў з Рыгаю і Готляндам, як, скажам, Смаленская targoвая грамата ад 1229 г. і інш.

Гэтыя дакумэнты, пісаныя ў тагачаснай беларускай мове, сьветчаць пра пашыранасьць гэтае мовы далёка і за межамі Беларусі, а таксама і пра тое, што яна мела прызнаньне ў шырокіх колах замежных купцоў, як мова літаратурная, мова юрыдычных і гандлёвых дакумэнтаў і штодзённага ўжытку ў асьвечаных колах беларускага жыхарства.

## II. СМАЛЕНШЧЫНА — СТАРАДАЎНЫ АСЯРОДАК БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

Яшчэ перад афіцыйным прыняцьцем хрысьціянства беларускія купцы, разам з уплывамі хрысьціянства, прывозілі з Бізантыі і ўплывы бізантыйскае культуры. Пасьля таго, як княгіня Рагнеда з сваім сынам Ізяславам зьвярнуліся з Кіева на Беларусь і абвесьцілі тут хрысьціянства афіцыйнаю вераю, культурнае разьвіцьцё Беларусі пайшло шпаркімі тэмпамі наперад. Смаленшчына, хоць крыху і пазьней за Полаччыну, прыняла хрысьціянства, але, дзякуючы эканамічнаму ўздыму і высокаасьвечаным князём, што былі на пасадах у Смаленску, надта прычынілася да культурнага ўздыму Беларусі.

Тут у манастырох ствараліся культурныя асяродкі, зь якіх паўставалі цэлыя літаратурна-асьветніцкія кірункі і школы з шмат якімі культурнымі дзеячамі і пісьменьнікамі.

Гэтаму вельмі спрыяў высокакультурны князь Расьціслаў і асабліва князь Раман (1160—1180). Гэты апошні ўсё сваё жыцьцё аддаў развою школьніцтва, дзеля чаго наймаў за мяжою, на захадзе і ў Бізантыі, высокаадукаваных людзей, каб яны вучылі беларускую моладзь грэцкай і лацінскай мовам. Асьветна-культурнай справе князь Раман ахвяраў усе свае сродкі і багацьці.

«Князь Раман,— гаворыць летапісец,— аддаў на школы і кнігі ўсю сваю маёмасьць, і па сьмерці добрага князя Рамана смаленцы пахавалі яго сваім коштам, бо ў князеўскім скарбе не было ніводнае капейкі».

Дзякуючы гэтай рупнасьці пра культуру і асьвету з боку саміх князёў праз усе XII—XIII стст. смаленцы ўзьняліся ў тым часе на найвышэйшы ўзровень. Ужо ў XII ст. вылучаюцца такія выдатныя асобы культурных дзеячаў у Смаленску, як Клімэнт Смаляціч, Аўраам Смаленскі, мніх Апанас, прэзьбітар Хама, манах Ахрэм

і інш. Гэткага кніжніка, як Клімэнт Смаляціч, як сьветчыць летапісец, датуль яшчэ не было навет на ўсёй усходняй славяншчыне. Гэта быў высокаасьвечаны чалавек, глыбокі філёзаф, знаўца антычных пісьменьнікаў — Гамэра, Плятона і Арыстотэля. Спачатку ён быў мніхам-схімнікам, але, выклікаўшы сваёй адукаванасьцяй увагу высокапастаўленых асобаў у Кіеве і духоўнікаў у Смаленску, саборам мясцовых япіскапаў выбіраецца за мітрапаліта (1147—1154). Будучы абраным толькі саборам, а не пастаўленым канстантынопальскім патрыярхам, Клімэнт меў нямала супраціўнікаў і непрыемнасьцяў. Але гэта ж змушала яго ў абарону сваіх паглядаў пісаць нямала палемічных твораў і гэтак прычыніцца да развою беларускага пісьменства тае пары.

Гэтак, дайшло да нас ягонае «Пасланьне», напісанае ў вадказ на закіды свайго супраціўніка Хамы, што ён быццам у сваім лісьце да князя Расьціслава выхваляе сябе і выдае за лепшага філёзафа. Клімэнт адказаў, што ён не шукае сьвецкае славы, багацьцяў, а дбае толькі аб душы і пасьмяротным збаўленьні. Да гэтага, ён уважае, можна прыйсьці праз духовае дасканаленьне чалавека.

Хама трымаўся літары сьвятога Пісьма і быў ворагам усякага творчага тлумачэньня яго. Клімэнт вызнаваў іншы пагляд — патрэбы тлумачэньня сьв. Пісьма паводля твораў Гамэра, Плятона і Арыстотэля, і цьвердзіў, што гэта зусім ня зьнічвае сэнсу сьв. Пісьма, а даець яму новае алегарычна-сымбалічнае тлумачэньне. Гэтак беларус Клімэнт Смаляціч яшчэ ў XII ст. ужо бачыў тое, што перамагло ў Эўропе куды пазьней — у эпоху адраджэньня і гуманізму. (...)

Клімэнт Смаляціч памёр у 1164 г. Але ён быў не адзіным. Побач зь ім, другім, паводля значэньня культурным беларускім дойлідам у гэтых часох, зьяўляецца Аўраам Смаленскі — бліскучы прамоўца-казальнік таго часу. У сваіх запальных прамовах, што зьбіралі ўсё смаленскае грамадзянства, ён уздымаў самыя актуальныя пытаньні свайго часу і выклікаў імі магутнае водгульле, якое будзіла жывую думку, уздымала інтэлектуальныя патрэбы людзей і штурхала іх на шуканьне духовага і культурнага здавальненьня, што спрыяла культурнаму развою.

Беларускае пісьменства таго часу ўзбагацілася яшчэ шмат якімі творамі смаленскіх аўтараў. Назавём тут такі

выдатны літаратурны твор, як біяграфія Аўраама Смаленскага, напісаная ягоным вучнем Ахрэмам, аповесьці пра Мэркура, вандраваньні Ігната Смальляніна ў Палестыну і Канстантынопаль ды інш.

## III. СМАЛЕНСК — НЕПЕРАМОЖНЫ ГОРАД КРЫВІЧОЎ

Змагаючыся ўвесь час за сваю незалежнасьць, бароначыся ад агрэсіі з Поўначы (Ноўгараду) і Паўдня (Кіева), а таксама з Захаду ад Літвы і з Усходу ад татарскае навалы, Смаленск здабыў сабе імя непераможнага гораду Крывічоў. Доўга ніякія ворагі не маглі сходаць супраціву смаленцаў. Дзякуючы гэтаму, горад ураваўся і ад татарскае няволі.

Гэтак, паводля смаленскае легенды аб сьв. Мэркуры, у 1238 г., калі татары сунуліся былі на Смаленск, іх спаткаў недалёка ад гораду зь невялікім аддзелам смаленскіх жыхароў Мэркур і гэтак шмат перабіў іх, што тыя змушаныя былі ўцякаць. Калі татары агледзеліся, што смалянаў надта мала і зноў павярнулі на іх, дык на дапамогу выйшла шмат смаленскіх жыхароў і ў жорсткай бойцы зусім расьцярушылі татараў. Пярэпалах у татарскіх аддзелах і памяць аб гэтых паразах доўга стрымлівалі татараў ад намеру заваяваць гэты горад, а Смаленшчына тым часам ня мела жудаснае татарскае няволі. Нездарма народныя беларускія пагудкі пра гераічныя ўчынкі Мэркура надаюць яму рысы беларускага нацыянальнага героя і малююць яго як вернага вартаўнічага беларускае зямлі, свайго гораду і народу. На ягонай дамавіне, як нацыянальныя рэліквіі, смаленцы перахоўвалі ягоную зброю, піку і г. д.; яе надзявалі на новавянчаных беларускіх князёў — і ў Смаленску і ў Полацку, а ўсе беларускія сьвятыні імкнуліся мець хоць частачку зброі сьв. Мэркура. Гэтак ува Ўсьпенскім саборы знаходзіўся зялезны шалом і камашы з крывымі наскамі дасканальнае формы, у якіх, паводля паданьня, Мэркур біўся з Батыевым войскам. Народ верыў, што ў часы напасьцяў на беларускую зямлю розных чужацкіх зграяў беларускі нацыянальны герой сьв. Мэркур уставаў з дамавіны, браў зброю, садзіўся на каня і нішчыў ворага, чым спрыяў крыўскім перамогам. Вось-жа таму і на шмат якіх пячатках часоў незалежных беларускіх княстваў ёсьць абраз сьв.

Мэркура на кані і ў зброі. Гэтак у арэоле гераічнасьці, у вобразе народнага заступніка выступае ў народных паданьнях сьвяты Мэркур.

Смаленская легенда аб сьв. Мэркуру — выдатны літаратурны помнік беларускага народу, слаўных балонаў ягонага змаганьня за самастойнасьць у часы княжага Смаленску. Мастацкая і гістарычная вартасьць гэтага помніку не ніжэйшая за шмат якія эпічныя творы сусьветнае літаратуры. І дарма маскоўцы хочуць прысвоіць гэтага народнага беларускага героя сабе ды выкарыстоўваюць яго ў сваіх інтарэсах, выдаючы ягоныя гераічныя чыны як змаганьне за іхныя інтарэсы супроць татараў. (...)

## IV. ЗМАГАНЬНЕ ЗА СМАЛЕНСК

Багацьці і стратэгічнае значаньне Смаленску ўжо ў XIII ст. пачынаюць прыцягваць да сябе ўвагу заходніх і ўсходніх заваёўнікаў. Рэч у тым, што праз Смаленшчыну праходзіць Вялікі эўрапейскі вададзел, што дзеліць басэйны Дзьвіны і Дняпра, якія ўтвараюць тут вузкую браму, і яе як-бы затыкае сабою сам горад Смаленск. Вось-жа, уважаючы на тое, што Дзьвіна з поўначы і Днярро з усходу зьяўляюцца добрымі стратэгічнымі межамі і прыроднымі перашкодамі для праходу чужым войскам і добрымі абароннымі становішчамі (а Смаленск — ключом да гэтае Смаленскае брамы), кажны, натуральна, хацеў валодаць гэтым ключом, каб быць поўным гаспадаром над гэтым, высунутым на ўсходзе для захаду і на захад для ўсходу, пляцдармам.

Таму ўжо ад XIII ст., каб валодаць Смаленскам, робяць высілкі суседнія палітычна-дзяржаўныя згуртаваньні: Суздаль, Масква і наваствbooранае геніем Міндоўга ў Наваградчыне Літоўскае Гаспадарства.

Сваёй палітычнай мудрасьцю Міндоўг зразумеў значаньне Смаленску для росту магутнасьці маладога Беларускага гаспадарства, творанага праз задзіночаньне пад ягонаю ўладаю ўсіх беларускіх земляў. Міндоўг першым сярод беларускіх князёў задзіночанага гаспадарства робіць спробу падпарадкаваць Смаленск сваёй уладзе. З дапамогаю свайго пляменьніка Ердзавіда ён і завалодаў ім на нейкі час. Але тым-жа самым часам ня мог на гэтае абыякава глядзець другі, усходні цэнтар — Суздальскае княства. Калі не забывацца і на тое, што Смаленск да-

туль жыў незалежным княжым жыцьцём і ў ім моцна жылі сэпаратыўныя імкненьні, дык не даводзіцца дзівіцца, чаму дапамога суздальскага князя Яраслава Ўсеваладавіча вырвала Смаленск з-пад Міндоўгавае ўлады.

Але тымчасам Смаленск зноў апынуўся паміж дзьвюма сіламі — Літвой і татара-мангольскай небясьпекай з усходу. Аднаму яму абараніцца ад татарскага націску не было моцы. Гордае нясхіленьне перад усходнімі сіламі выклікала вялікія напасьці — суздальскія і маскоўскія князі наводзілі татарскіх ханаў і нацкоўвалі іх на смалянаў. Гэтак, у выніку правакацыяў, Смаленск у 1274 г. ужо быў змушаны аднойчы прызнаць залежнасьць ад ханскай арды. Арыентацыя на ўсход не ратавала. А выбіраць трэ' было. Нядзіва, што Смаленск пачаў аглядацца на захад, на Беларускую дзяржаву, г. зв. Літоўскае Княства. Гэта была здаровая ў сваёй аснове, пакуль яшчэ не расшматаная рэлігійным змаганьнем і нутранымі супярэчнасьцямі дзяржава зь лепшым для тых часоў на ўсходзе Эўропы заканадаўствам, з рэлігійнаю свабодаю і народапраўствам, з высокаю культураю.

Пры далучэньні новых тэрыторыяў да Беларускага гаспадарства праводзіўся прынцып «старыны не парушаем, а навіны ня ўводзім». Устаўныя граматы, што даваліся далучаным князём і вялікім гарадом, забясьпечвалі ім значныя правы самаўрадаваньня і фактычна былі канстытуцыйнымі граматамі асобных земляў.

Дзякуючы гэтаму, Полацкая, Віцебская і Смаленская землі, увайшоўшы ў Вялікае Княства, фактычна заставаліся як-бы асобнымі княствамі. Захоўваліся навет усе абавязкавыя для гэтага дваровыя пасады — маршалка, канюшага, лоўчага, акольнічага, сакольнічага, баброўнічага, ключніка і г. д.

Усе яны выбіраліся зь мясцовых беларусаў, гэтаксама як і на вялікакняжага намесьніка часьцей выбіралі мясцовага баярына.

Нядзіва, што Смаленск пачынае ўваходзіць у прыязныя дачыненьні з г. зв. Літвою. Гэтак, Гедымін робіць з смаленскім князем Іванам Аляксандравічам хаўрус супраць татарскага хана. За Альгердам смаленскі князь называе сябе «малодшым братам» літоўскага князя.

Аднак-жа дарма, што былі ўсе гэтыя абставіны, якія спрыялі прыязьні Смаленску да Літоўскага Княства, ён быў усё-ж такі зарабаваны гвалтам маскоўцамі, і за яго

давялося на працягу гісторыі шмат ходацца з Масквою. Тлумачыцца гэта тым, што надта моцнымі былі ў смаленцаў традыцыі волі, незалежнасьці. Масква выкарыстоўвала гэтыя свабодалюбныя пачуцьці смаленцаў і накіроўвала іх супраць Літвы, а таксама карысталася часта вайсковымі сіламі Смаленску ў сваім змаганьні за вызваленьне Маскоўшчыны ад татарскае няволі і інш. Гэтак, беларускае смаленскае войска князя Сьвятаслава Іванавіча брала ўдзел у змаганьні расейскага войска Дзьмітрыя Донскага на Куліковым полі супраць татараў. Тут, як і ў шмат якіх іншых войнах, крышыліся беларускія косьці за чужацкія інтарэсы. Лілася беларуская кроў бязь меры, аб чым некалі добра сказаў у вершы «О, Крыўская Зямля» В. Ластоўскі:

Крывёй сыноў Тваіх
Куплялі славу гучную
На Грунвальдў палёх.
Ад дзікае арды баронячы Заход
Тваіх байцоў касьцісты вал палёг!

Бязыменнаю, а ўсё-ж тваёй крывёй
Паліты Хоціма даліны:
І па-над Калкаю ракой
Маскальскія нізіны...
Арошаны крывёй Тваіх сыноў Іпранскі край,

Само-Сьера, Райн, Аара, По, Сівы Дунай!..
О, так, гаротныя Крыўцы,
Ламалі косьці за чужую справу;
Сваёй крывёй і мазалём
Ішлі купляць чужынцам славу!

## V. КРАСАВАНЬНЕ СМАЛЕНШЧЫНЫ Ў БЕЛАРУСКІМ ГАСПАДАРСЬЦЬВЕ

З гледзішча беларускіх інтарэсаў, спроба вялікага князя Альгерда далучыць Смаленск да Беларускае дзяржавы была прагрэсыўнай і ў вабставінах панаваньня беларускае культуры не азначала асаблівае страты народных свабодаў пары незалежнасьці Смаленску. Але, аднак, падбухторваньне Масквы штурхала смаленскіх князёў на супрацiў, хоць Альгерду ўдалося здабыць смаленскі горад Мсьціслаў.

Пасьля сьмерці Альгерда смаленскі князь скарыстаў

часовае замяшаньне на Беларусі і выступіў супраць беларускіх гарадоў. Але бойка ля Воршы дала перамогу беларускаму войску князёў Скіргайлы, Вітаўта ды інш., якое гнала смаленцаў да самага Смаленску. Ды дарма, што была перамога, харобрасьць і магутнасьць супраціву смаленцаў выклікала зьдзіўленьне і спачуваньне пераможцаў да сваіх-жа аднакроўных братоў, і пераможцы ўзялі зь іх толькі кантрыбуцыю. Але ў палітычным дачыненьні смаленскія князі адгэтуль зьяўляюцца як-бы толькі намесьнікамі вялікага князя літоўскага і, калі трэба было, замяняюцца на іншых. Гэтак, вялікі князь Вітаўт пасьля 1395 г. замяніў смаленскага князя Юр'я на ягонага брата Глеба. А калі смаленцы пачалі гучна выказваць з гэтага поваду сваё нездавальненьне, Вітаўт рушыў з войскам на Смаленск, здабыў яго, заарыштаваў варожых яму князёў, а на княжы пасад прызначыў намесьніка Ямонта.

Толькі перамога войскаў хана Ядыгея пры Ворсклі і параза Вітаўта вярнулі Смаленску князя Юр'я. Але ня годзіцца з гэтым слаўны Вітаўт і колькі разоў спрабуе зноў здабыць Смаленск. Урэшце, скарыстаўшы ад'езд Юр'я ў Маскву, Вітаўт аблажыў горад, і той змушаны быў здацца.

Гэтак старадаўны крывіцкі Смаленск ад 1404 г. стаўся складоваю часткаю непадзельнага цэлага — Вялікага Княства Літоўскага.

Разам з вывадам маскоўскіх элементаў беларускія валадары пачалі даваць жыхарам Смаленску вялікія палёгкі, асабліва ў гандлі. Нездарма за беларускіх часоў Смаленск надта вырас як горад. Было збудавана шмат новых цэркваў, будынкаў, паўстала шмат новых школаў. Рэлігійная лёяльнасьць і талерантнасьць у Беларускай дзяржаве спрыяла развою асьветы. Гэты пэрыяд асабліва прычыніўся да эканамічнага ўздыму гораду. Гэта быў век росьцьвіту смаленскага гандлю. Гандляваць, апрача княжнага места, пачаў сам горад. Цэлы шэраг палёгкаў гандляром прывабіў багата купцоў з Полацку, Віцебску, Дарагабужу, з-за мяжы, з Ноўгараду, Разані, Цьверы, Масквы і г. д.

Зь нястрыманаю хутчынёй расьлі гандлёвыя шэрагі. На месцы пустошаў паўставалі новыя гандлёвыя пункты, рынкі, крамы, склады. Вакол асядаў розны люд і забудоўваў горад. На Дняпры пры Траецкім манастыры паўстаў

адмысловы гандлёвы «Літоўскі гасьцінны двор», дзе складваліся вялізарныя скарбы тавараў. Ува ўсходняй частцы гораду, каля новазбудаванага Духавага манастыра, паўстаў яшчэ адзін гандлёвы асяродак. (...)

## VI. ПАХОД МАСКВЫ НА СМАЛЕНШЧЫНУ

Красаваньне Смаленску ў Беларускім гаспадарсьцьве было бяльмом на воку Масквы. Ніколі не спыняла яна сваіх інтрыгаў супраць беларускага Смаленску. Пры Жыгімонтавым намесьніку, князю Андрэю Саковічу, Масква дамагалася бунту, які быў скіраваны супраць князя. Намесьнік змушаны быў уцячы, а на пасад узышоў мсьціслаўскі князь Юры. Гэты адразу пачаў далучаць да сябе Віцебск, Полацак. Але варта было наблізіцца беларускаму войску, як ён адразу ж даў ходу ў Маскву. У Смаленску ўзнавілася беларуская ўлада.

Але Масква ўмацоўваецца і ўсё больш ды больш заяўляе свае ўяўныя правы на Смаленск, як быццам-бы «вотчину» прашчураў маскоўскіх князёў ад Валадзімера Сьвятога з часоў Кіеўшчыны. Фальсыфікуючы гісторыю Беларусі, разглядаючы яе як калішнюю «Русь», Масква пачынае лятуцець аб «адзінсьцьве» «Русі» пад маскоўскаю ўладаю. Асабліва ўзмацніліся гэтыя прэтэнзіі на Смаленшчыну за князем Іванам III.

Таму беларусы змушаныя былі ўмацоўваць Смаленск. У даўны земляны горад пераводзяць рэзыдэнцыю намесьніка, пакінуўшы старое «княжае места». Прымітыўныя з сяньняшняга гледзішча земляныя і драўляныя ўмацаваньні зь вежамі зрабіліся для гэных часоў досыць моцнымі перашкодамі для ворага. Іван III колькі разоў штурмаваў Смаленск. У сьнежні 1512 г. і ў верасьні 1513 г. расейцы ня здолелі здабыць гораду. Беларусы разбуралі ўсе іхныя ночныя падрыхтовы. Толькі ў 1514 г., калі расейцы падвезьлі 300 гарматаў і пачалі бязупынна абстрэльваць горад, які пачаў гарэць, Смаленск быў змушаны 1 жніўня скарыцца. Іван III пайшоў далей на Беларусь, але быў спатканы каля Воршы, і тут маскоўцы ўшчэнт былі разьбітыя харобрым беларускім войскам гетмана Канстантына Астроскага. Было забіта больш за 30 000 маскоўцаў. Маскоўскае войска мела 80 000, а беларускае 35 000. (...)

У вадзнаку гэтае перамогі гетман Астроскі пабудаваў у Вільні Мікалаеўскую і Сьвята-Траецкую царкву і ў

вапошняй умураваў мармуровую пліту з надпісам: «В лето 1514 церковь сю созда князь Константин Острожскій, гетман в. кн. Литовского, в память победы под Оршею над врагом и супостатом веры христіянское, православное, царем Московским».

Замілаваньне беларускага жыхарства да сваіх павадыроў і радасьць пазбаўленьня ад маскоўскае небясьпекі выявілася ў песьні вілянчанаў, якія ў часе звароту в. кн. Жыгімонта Казімеравіча і князя Астроскага спатыкалі іх краскамі і песьняю:

Великославному гаспадару королю
 Жигимонту Казимировичу
Буди чэсть и слава на веки —
Победившему недруга своего великого
 князя
 Василия Московского,
А гетману его вдатному князю
Константину Ивановичу Острожскому
Дай, Боже, здорове и щасте вперед лепшое:
Як ныне побил силу великую московскую
Абы побивал стлиную рать татарскую,
Проливаючы кровь их бессурманскую.

*(Супрасьльскі і Кароткі Кіеўскі летапіс)*

Праўда, хоць і харобра змагалася войска Канстантына Астроскага, але здабыць Смаленск тады не ўдалося. Маскоўскі намесьнік князь Шуйскі паперавешваў усіх змоўшчыкаў супроць Масквы і ўтрымаў Смаленск. Пасьля гэтага ўсе непажаданыя Маскве беларускія дзеячы былі высланыя з Смаленску, а замік іх панасылаўся маскоўскі элемент.

## VII. БЕЛАРУСЬ АДВАЕЎВАЕ СМАЛЕНШЧЫНУ

Беларусь не згадзілася з адыходам Смаленску да чужое дзяржавы. Беларускія князі неаднакрaць рабілі спробы адваяваць горад (у 1535, 1564, 1579 гг.). Таму маскоўцы пачынаюць як мага ўмацоўваць Смаленск, мабыць, няпэўна адчуваючы сябе ў гэтым беларускім горадзе. Гандлёвы цэнтар яны перанесьлі ў прыгарад перад замкам за Дняпром, што пазьней называўся «Гарадзенскаю сотняю». Задуманая яшчэ за царом Фёдарам Іванавічам каменная сьцяна вакол гораду была збудаваная за Барысам Гадуновым пад наглядам гарадзкога майстра Хведара Каня.

Але дарма, што Смаленск разбудаваўся ў моцную непрыступную цьвярдыню, аднак і ён ня вытрываў доўгае аблогі ў 1610—1611 гг. 31 верасьня 1610 г. смаленскія сьцены пабачылі перад сабою вялікае войска Жыгімонта III, які прывёў яго з намерам выкарыстаць маскоўскую «смуту» і зьвярнуць Смаленск Ліцьве. Адбыліся жорсткія баі. Горад бязупынна абстрэльваўся з гарматаў, пачаліся пажары, аднак крывавыя баі трывалі далей, бо войска ў Смаленску давала хоць і безнадзейны, але адчайны супраціў. Толькі праз 10 месяцаў пры цяжкай упорыстай аблозе Смаленск быў здабыты. Гэта было 3 ліпеня 1611 г. Гэтак, бадай, праз стагодзьдзе Смаленск быў вызвалены з-пад маскоўскага паняволеньня. Заміж расейскіх парадкаў у Смаленску пачалі тэрмінова ўводзіцца новыя заходнеэўрапейскія парадкі. Горад адразу атрымаў магдэбурскае права і пачаў зьмяняцца на эўрапейскі лад. Гэтым самым Смаленск зноў далучыўся да Эўропы. Але, на вялікі жаль, на гэты раз Літва ўжо пераставала быць незалежным задзіночаным Беларускім гаспадарствам. Вунія ліквідавала адзнакі незалежнасьці, пачаўся наступ пальшчыны, апалячваньне праз каталіцызм і вуніяцтва беларускага магнацтва, гвалтоўнае ператварэньне праваслаўных беларусаў на католікаў і вуніятаў, а праз гэта далей і на палякаў. Адвечна праваслаўны беларускі Смаленск пачаў, наўсуперак волі жыхарства, забудоўвацца каталіцкімі касьцёламі, езуіцкімі кляштарамі, дамініканскімі і базыліянскімі школамі, а праваслаўныя цэрквы ператвараліся гвалтоўна на вуніяцкія. На Саборнай гары збудавалі катэдральны касьцёл і рэзыдэнцыю біскупа Смаленскай япархіі.

Ад былое свабоды веравызнаньняў і роўнасьці ў правох у Смаленску за часамі незалежнага Беларускага Княства цяпер засталіся адны толькі ўспаміны. Вуніяцкія япіскапы ўсё больш і больш прыгняталі праваслаўных. Апошнія на гэта адказвалі зацятым змаганьнем. Змовамі, бунтамі адказваў за ўсё гэта народ. Паўставала шмат праваслаўных брацтваў, якія змагаліся за захаваньне беларускіх народных прынцыпаў, адчынялі беларускія школы, баранілі праваслаўныя цэрквы ад наступу каталіцтва і езуіцтва.

Няправільная, палёнафільская палітыка кіраўнічых колаў рабіла тое, што смаленскае жыхарства, ня бачачы ратунку, пачало схіляць свае надзеі да праваслаўнае

Масквы. А тэй толькі гэтага трэ' было, бо гэта стварыла юрыдычнае апраўданьне для ейнай агрэсіі на Захад, давала «падставы» матываваць яе канечнасьцяй «злучыць» зь вялікім расейскім «народам» ягоную «западную ветвь», далучыць да сябе «западноруссов» — «единокровных» і «единоверных».

Усё гэта паслабляла сілы супраціву маскоўскай экспансіі. Аднак нялёгка ўдаецца Маскве адарваць Смаленск ад Беларусі.

Цар Міхаіл Раманаў шле з гэтаю мэтаю войска на чале з князем Чаркаскім. Той здабыў колькі беларускіх гарадоў, але Смаленску заваяваць ня здолеў. Ды Масква на гэтым не спыняецца. За колькі часу яна пачынае вялікія вайсковыя падрыхтовы, купляе зброю ў Швэдыі, вырабляе гарматы, рыхтуе дапаможнае войска пад кіраўніцтвам замежных афіцэраў. За 9 гадоў пасьля пачатку гэтае падрыхтовы, у 1632 г., скарыстаўшы бескаралеўе ў Польшчы, маскоўскае войска, пад кіраўніцтвам ужо ведамага ў Смаленску маскоўскага стаўленьніка — Шэйна, аблажыла Смаленск і пачало яго абстрэльваць з 158 гарматаў. Але на дапамогу літоўскаму войску прыйшоў гетман Радзівіл зь Вільні з 33 000 войска і адбіў наступ маскоўцаў. Апошнія змушаныя былі ад наступу перайсьці да абароны ў вакопах, а пасьля зусім адысьці назад паводле зробленае ўмовы. Так гэтым разам ганебна для Масквы скончыліся ейныя намаганьні адарваць Смаленск ад Беларусі. І толькі за царом Аляксеем Міхайлавічам, ужо ў часе Лівонскае вайны, колькімі штурмамі маскоўцы здабылі Смаленск (23.VI.1654 г.).

## VIII. СМАЛЕНШЧЫНА Ў МАСКОЎСКІХ АКОВАХ

Пасьля заняцьця Смаленску маскоўцы зараз жа ўзяліся за ліквідацыю ў горадзе магдэбурскага права, заходнеэўрапейскіх парадкаў і пачалі ўводзіць «российские уложения». Адно толькі засталося на радасьць народу — гэта зварот праваслаўным беларусам усіх цэркваў, што былі перад гэтым ператвораныя на вуніяцкія і каталіцкія. Але і тут царква неўзабаве пачала служыць русыфікатарскім тэндэнцыям маскоўскае палітыкі.

Гандаль і прамысловасьць зноў перайшлі ў прыгарад, куды былі высланыя і ўсе гандлёвыя людзі, бо горадцьвярдыня зноў пачаў інтэнсыўна ўмацоўвацца. Тут разьмяшчаліся вялікія аддзелы маскоўскага войска.

У часе Лівонскае вайны, як і ўсе беларускія гарады, Смаленск асабліва пацярпеў, шмат гістарычных і культурных помнікаў згінула ў полымі або пад руінамі.

Паводля Андрусаўскае ўмовы 1667 г., Смаленск ужо надоўга быў далучаны да Расеі...

Ад часу далучэньня да Расеі Смаленск губляе сваё стратэгічнае значэньне. Толькі за часоў Пётры Вялікага Смаленск зноў умацоўваецца. Рыхтуючыся да вайны з швэдамі, Пётра будуе ў 1706 г. на правым беразе Дняпра Кронвэрк, каб засланіць ім мост, збудаваны пад вежамі, і парахоўніцы. Але швэдзкі кароль Караль XII абышоў Смаленск, і бойкі адбыліся каля Палтавы на Ўкраіне.

Вялізарныя разбурэньні зрабіла Смаленску Напалеонаўская армія ў 1812 г. 6 жніўня Напалеон падышоў з сваёй арміяй да гораду і, спаткаўшыся з надта моцным супрацівам расейцаў, пачаў абстрэльваць яго з гаўбіцаў выбуховымі гарматнымі набоямі ды запаліў горад з колькіх бакоў. Згарэла шмат выдатных гістарычных будынкаў і помнікаў.

2 лістапада, пакідаючы горад, Напалеон спаліў ладную частку яго і ўзарваў 9 вежаў славутае смаленскае сьцяны. Згарэла 45 каменных і 7568 драўляных будынкаў; 69 каменных і 248 драўляных крамаў. Страты дасягнулі 600 000 рублёў — сума для гэных часоў надта вялікая. Нездарма 1812 г. увайшоў у гісторыю Смаленску як год разбурэньняў. Пасьля гэтага Смаленск яшчэ больш згубіў сваё былое стратэгічнае значэньне.

Шмат гадоў пасьля гэтага па ўсім Смаленску былі відаць папялішчы і руіны. Пад таўстымі, нанесенымі ў вяках, напластаваньнямі застыла багатая мінуўшчына гэтага гістарычнага беларускага гораду.

Варта адхіліць заслону часу, зазірнуць у глыб стагодзьдзяў, як зроку паўстане абраз таго, што жыў тут беларускі народ, тварыў сваю самастойнасьць, крывёю бараніў сваю дзяржаўнасьць, ствараў багатыя матар'яльныя вартасьці і культурныя помнікі свайго існаваньня і дзейнасьці. Пад гэтымі пластамі глыбака ляжаць сьляды былое славы і магутнасьці. Шмат гавораць беларускаму сэрцу гэтыя помнікі былое велічы, а таму, як кажа Ластоўскі, яны павінны быць для нас сьвятымі, і мы павінны бачыць у іх сьветчаньне «забітай волі Крывічоў», а дату далучэньня Смаленску да Масквы — каля трох стагодзьдзяў таму падпісаную Андрусаўскую згоду — павінны

разглядаць як вялікшае злачынства, роўнае Вэрсальскаму трактату і ганебнай Рыскай умове, што пазьней разадрала цела нашае Бацькаўшчыны на дзьве палавіны і аддала іх нашым ворагам.

—Смаленскіх сьцен масыў патужны
ў бязсільлі распластаўся,
Забітай волі Крывічоў
мне ён нагробкам здаўся!..
Андрусаўскі злачын яго ўчыніў
сатрапіяй Маскоўскай:
і дзьвесьці зь лішнім год, цягаючы ярмо,
яго раджайны гоні
кармілі чужакоў і ворагаў пладзілі
Крывіцкае Пагоні.
Аж дзьвесьці цяжкіх год каханьня
сьлязьмі і потам абліваўся...
Смаленск!
Праз мукі, горасьці свае,
у рэшце-рэшт,
Сьвятым для нас ты стаўся!

*В. Ластоўскі «На Смаленскіх сьценах»*

## IX. ВЫДАТНЫЯ СМАЛЕНЦЫ — СЫНЫ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ГЕНІЯ

Дарма, што былая веліч народнага духу пахаваная ў гісторыі Смаленску, але народ выяўляў сваю сілу і творчы дух у тым, што час ад часу даваў выдатных людзей, якія множылі дасягненьні навукаў і мастацтваў.

Смаленскія беларусы далі нямала выдатных вучоных, музыкаў, пісьменьнікаў, мастакоў. Назавём тут выдатнага беларуса, ураджэнца Смаленшчыны, праф. В. В. Дакучаева — заснавальніка навейшага кірунку навукі глебаведы, якую пасьля сыстэматызаваў ягоны вучань праф. Сібірцаў.

Нельга абмінуць і другога выдатнага беларуса (нат зь сьведамасьці, бо гэтак і называў ён сябе), сусьветна ведамага дасьледніка Цэнтральнай Азіі, ген. Міколу Пржэвальскага (1839—1888), які паходзіць з Парыцкага павету і ўзгадаваўся ў Смаленску, а таксама ўдзельніка экспэдыцыяў Пржэвальскага, П. К. Казлова, вучонага — геаграфа, археалёга і этнографа з Смаленску.

Урэшце, з смаленскіх беларусаў паходзіць і сусьветна ведамы кампазытар Міхал Глінка, творца опэраў «Іван Сусанін» і «Руслан і Людміла». Кампазытар Глінка нарадзіўся ў 1804 г. у беларускай вёсцы Новаспаская, Ель-

ніцкага павету. Там ён узгадаваўся, а пазьней доўга жыў наездамі. Ад маленства ён чуў там беларускую народную песьню. Першую музычную асьвету Глінка атрымаў пад уплывам канцэртаў аркестры свайго дзядзькі, які прыяжджаў да ягонага бацькі ў госьці разам з сваімі прыгоннымі музыкамі з суседняга двара. Гэтыя музыкі-беларусы ахварбоўвалі ўсімі асаблівасьцямі беларускае народнае музыкі выкананьне якога-хаця музычнага нумару і, апрача гэтага, самі сьпявалі шмат беларускіх песьняў і гралі на розных народных музычных інструмэнтах.

Усё гэта ўразіла маладога Глінку і глыбока запала ў ягоную музычную душу, адклаўшы назаўсёды ў ёй сьлед замілаванасьці да мэлёдычнасьці беларускае народнае песьні. Пасьля, творачы выдатныя музычныя творы, Глінка поўнымі жменямі чэрпаў з гэтае скарбніцы. Музыка опэры «Іван Сусанін» цалком прасякнутая беларускімі народнымі матывамі, якія сусьветнай музычнай крытыкаю памылкова прыймаліся за зьлітак польскіх і расейскіх.

Толькі тое, што на карце Эўропы не было беларускае палітычнай адзінкі, прычынілася да гэткага рабунку беларускае культуры, як адабраньне ад беларускага народу ягоных лепшых сыноў.

Скрозь распаўсюджванае і афіцыйна падтрымліванае ўрадавымі расейскімі коламі атаясамліваньне праваслаўнага веравызнаньня з належнасьцю да «расейскага народу», нерасьлед усяго беларускага, паўсюднае панаваньне расейскае мовы ўва ўсіх асьветна-культурных і адміністрацыйных установах, культываваньне расейскага нацыяналізму і палітыка расейскае асыміляцыі беларусаў зрабілі тое, што Глінка гэтаксама, як пазьней і беларус, паводле продкаў, Тодар Дастаеўскі, стварылі шмат славы расейскаму народу. Таксама, як блытаніна паміж каталіцтвам і польскаю народнасьцю, ды нястача агульнага вызнаньня беларускае мовы як літаратурнае, штурхнулі другога выдатнага сына беларускага народу — Адама Міцкевіча, сына наваградзкага беларускага шляхціча, у вабдымкі польскае мовы, у якой ён стварыў свае паэтычныя пэрлы.

Але, як правільна гаворыцца ў артыкуле В. Ластоўскага «Тодар Дастаеўскі і Адам Міцкевіч, сыны крывіцкага народнага генія» (у часапісе «Крывіч» № 10 за 1926 г.), усе яны былі «цела ад цела і кроў ад крыві» бела-

рускага народу і павінны, хай і ўскосна, складаць славу беларускаму нацыянальнаму генію. Калі-б гэтыя людзі жылі ў вадроджанай беларускай дзяржаве з панаваньнем беларускае культуры і дзяржаўнай беларускай мовай, без сумлеву, яны тварылі-б у роднай мове і музыцы і здабылі б незраўнанай у вякох славы беспасярэдня свайму народу. І тады б увесь сьвет зусім заслужана ўважаў-бы Глінку за заснавальніка не расейскае, а беларускае нацыянальнае клясычнае музыкі і опэры, і ён быў-бы беспасярэдня нашым гонарам.

Але і без таго Смаленск з поўным правам мае ўсе падставы ганарыцца сваім слаўным сынам — кампазытарам Глінкам, якому ўдзячны горад яшчэ ў мінулым стагодзьдзі паставіў помнік. Ён уяўляе сабою постаць кампазытара з дырыгэнцкай палачкай у руцэ. На п'едэстале надпіс і дата (1885 г.), а па бакох у вянку — назовы галоўных твораў. Вакол — агароджа ў выглядзе нотаў. (...)

## X. НІ ЗМУС, НІ ГВАЛТ НЯ ВЫНІШЧЫЛІ БЕЛАРУСКАСЬЦІ СМАЛЕНШЧЫНЫ

Усе вучоныя, нават расейскай арыентацыі, заўсёды ў навуковых працах сьцьвярджалі належнасьць Смаленшчыны да Беларусі. Варта прыгадаць працы ведамых вучоных Кіркора, Максімава і Сямёнава, Доўнар-Запольскага, Дабравольскага, Раманава, этнаграфічныя мапы Шахматава, Карскага, Азбукіна, Смоліча і Пікуліка і г. д., працы шмат якіх нямецкіх вучоных, каб пераканацца ў гэтым.

Паводля ўсіх этнаграфічных адзнакаў, такіх як мова, культура, характар, занняткі жыхарства, фізычны тып, вопратка і г. д., смаляне зьяўляюцца карэннымі беларусамі.

Дый не магло быць інакш, бо сама прырода як бы вылучыла ўсю Беларусь разам з Смаленшчынай у вадну геаграфічна-эканамічную і этнаграфічную асобнасьць.

Вялікі эўрапейскі вададзел, што праходзіць праз усю ўсходнюю Смаленшчыну, ды вялікія лясы на поўначы і ўсходзе гэтае краіны (Вокаўскі, Бранскі) уяўляюць сабою як-бы натуральныя межы. Усходняя мяжа Беларусі на Волскім вададзеле супадае з кліматычнаю мяжою Вокаўскага лесу і выразна аддзяляе Беларусь зь ейным памяркоўным вогкім пад уплывам мора кліматам ад больш кантынэнтальнага і рэзкага клімату Маскоўшчыны.

Гэтыя натуральныя межы супадаюць і з гістарычнымі межамі калішняй Беларускай дзяржавы, Вялікага Княства Літоўскага, паводля, скажам, Дэўлінскага замірэньня ў 1618 г. дый ранейшых умоваў.

На паўдня і ўсход ад гэтых межаў жывуць беларусы, якія, паводля расавага і этнаграфічнага адзінства, стварылі тую народную асобнасьць, неаддымнай часткаю якое зьяўляюцца і беларусы смаленскія. Як усім беларусам, ім свомыя перш-наперш тыя ж самыя асаблівасьці мовы, як пераход «в» і «л» у «ў»; дзеканьне (нездарма і пра смаленцаў кажуць: «Хіба ліха возьме ліцьвіна, каб ён ня дзекнуў»), цеканьне і аканьне, замена расейскага гуказлучэньня «жж» беларускім «ждж», зьмякчэньне зычных перад мягкімі гукамі ды навет цьвярдое «р».

Дарма, што Смаленшчына знаходзілася пад Расеяй больш, чымся якая іншая мясьціна Беларусі (агулам беручы 350 гадоў!) і страшэнна русыфікуецца яшчэ больш сяньня, аднак народ і тут захаваў галоўныя асаблівасьці свае мовы. Тут варта прыгадаць і надрукаваныя ў часе вайны ў беларускай прэсе зацемкі, што да беларускіх усходніх прастораў («Раніца» № 43 (107), за 15 лістапада 1942 г.).

Для высьвятленьня стану беларушчыны ў Браншчыне і Смаленшчыне там знойдзем каштоўныя факты, якія падаў беларускі дзеяч, якому давялося ў 1941 г. колькі часу працаваць ува ўсходняй Беларусі. Паводля ягоных сьцьверджаньняў, найбольш зрусыфікаваныя гарады, але на сяле добра выявілася жывучасьць беларускае мовы з усімі ейнымі асаблівасьцямі, прычым лепш на паўдні, як на поўначы. «Браншчына» ўся, аж пад Арол, захавала вельмі добра беларускую мову. Тут спатыкаюцца ўсе ейныя асаблівасьці... У Смаленшчыне — беларушчына так-жа добра захавалася, хоць і не ўва ўсіх паветах (ува ўсходніх горш, як у заходніх). Цікава, што і самы Смаленск з моўнага гледзішча не выглядае надта страшна. Людзі гавораць тут з паважна захаванымі асаблівасьцямі беларускае мовы. Асабліва войстра ўтрымалася аканьне і дзеканьне...

Цікава, што і ў самай найноўшай літаратуры аб Смаленшчыне ёсьць багата фактаў, што сьцьвярджаюць належнасьць яе да беларускага этнаграфічнага абшару.

Гэтак, прыкладам, прафэсар П. Чэрных да свае працы *«Историческая грамматика русского языка»* (выданьне

другое, Учпедгиз, Масква, 1954 г.) дадаў дыялектычную мапу ўсходнеславянскіх моваў. Паводля гэтае мапы, уся Смаленшчына і Браншчына аднесеныя да тэрыторыяў беларускае мовы.

Вельмі вымоўнае сьветчаньне беларускасьці Смаленшчыны мы маем і ў найноўшай працы ведамага нястомнага навукоўца ў галіне гістарычнай дыялекталёгіі ўсходнеславянскіх моваў, вучня і пасьлядоўніка акад. А. Шахматава — праф. Паўла Растаргуева (1881—1959). Яшчэ ў 1927 г. П. Растаргуеў выдаў знаную каштоўную для навукі працу *«Северско-белорусский говор»*, за якую ён тады атрымаў годнасьць доктара філёлягічных навукаў. У 1960 г. Акадэмія навук СССР у Маскве пасьмяротна выдала працу праф. П. Растаргуева *«Говоры на территории Смоленщины»*. Дэталёвае вывучэньне гаворак заходняй Смаленшчыны Растаргуеў асабіста праводзіў у 1929, 1930 і 1931 гг. Тады ён зрабіў багата запісаў і беспасярэдніх нагляданьняў. Асабістыя нагляданьні Растаргуеў падмацаваў адказамі на адмысловую «Анкету па гаворках Смаленшчыны», якая была надрукаваная Навукова-дасьледчым інстытутам моваў у Маскве і разасланая аўтарам па школах Смаленшчыны ў ліку 510 паасобнікаў. У дадатак Растаргуеў дэталёва праналізаваў багатыя дыялектычныя матар'ялы і супаставіў іх з дадзенымі архэялёгіі, гісторыі, гісторыі матар'яльнай культуры, этнаграфіі. Выкарыстаў ён і «Смаленскі этнаграфічны зборнік» В. Н. Дабравольскага, рукапісныя матар'ялы Акадэміі навук СССР і Рускае геаграфічнае грамады, як і іншыя матар'ялы. Гістарычна-дыялекталягічнае дасьледаваньне праф. Растаргуеў правёў навукова-лінгвістычным мэтадам. Ён з усяго вялізарнага матар'ялу выбраў адно тыя факты, якія былі дасканала задакумантаваныя і мелі дакладны адрас асобы і мясцовасьці, дзе рабіліся запісы.

У гістарычнай частцы П. Растаргуеў азначыў Смаленшчыну як тэрыторыю, якую займалі смаленскія Крывічы і дыялектная мяжа якое праходзіць па моўнаму разьдзелу паміж беларускімі гаворкамі і сярэдневялікарускімі і паўднёвавялікарускімі гаворкамі. Тут, на Смаленшчыне, пачынаўся гістарычны стык беларускае мовы з расейскай. Старыя гаворкі смаленскіх Крывічоў зьявіліся падставаю для беларускае мовы Смаленшчыны. Заходняя Смаленшчына і да сяньня захоўвае беларускі характар свае

мовы, хаця-ж шматгадовы ўплыў расейскае школы, адміністраваньне ў расейскай мове, адсутнасьць беларускай кнігі і вылучнае карыстаньне расейскай літаратурай, радыё і тэатар робяць сваю справу ў сэньсе паступовай страты самабытных моўных рысаў. Праф. Растаргуеў паказвае, як у выніку перасяленьняў і мяшаньня насельніцтва на тэрыторыі Смаленшчыны, удзелу ў грамадзкім і палітычным сучасным жыцьці на вёсцы і працы шматлікіх смаленцаў на фабрыках у Ярцаве,— русыфікацыя здабывае сабе ўсё больш смаленцаў. Некаторыя вывады праф. Растаргуева наводзяць на пэсымістычныя думкі. Падкрэсьліваючы працэс моўных зьменаў, дасьледчык піша аб тэндэнцыях моўнага руху ў бок расейскае мовы: «Стан гэтых рысаў,— піша Растаргуеў,— у гаворках Смаленшчыны гэткі, што можна гаварыць аб разьвіцьці гаворак па шляху страты іхных карэнных беларускіх рысаў і замены іх расейскімі» (стар. 181). Але сам аўтар пры гэтым адзначае адно тэндэнцыі працэсу зьмены гаворак, але ён зусім не запярэчвае беларускую аснову іх, асабліва ў моўна-гістарычным пляне. Гэтаму сьведчаньнем зьяўляецца вялізарны і каштоўнейшы матар'ял, прыведзены Растаргуевым на балонках гэтае кнігі, што да фанэтыкі, марфалёгіі, лексікі і сынтаксісу мовы смаленцаў. Цэлы шэраг цікавых фактаў моўных назіраньняў і запісаў гэтак і пераліваюцца і зіхацяць жывою беларушчынай, прыкладам, ілюстрацыі да разьдзелу аб вакалізьме, дысымілятыўнага аканьня, вымовы галосных у першым складзе перад націскам, кансанантызму, асабліва наяўнасьць беларускага *г*, пераход білябіяльнага w у *ў* або *у*, пераважаньне формаў мінулага часу дзеясловаў з канчаткам на *ў* замест *л*, дзеканьне і цэканьне.

Багата цікавых арыгінальных беларускіх словаў Растаргуеў прывёў у альфабэтным парадку нязьменных словаў і скланяльных і спрагальных формаў. У разьдзеле словаўтварэньня нельга абысьці міма тыпова беларускіх суфіксаў ёнак — Іванёнак, Пятронак, прозьвішчы ад уласных імёнаў — Сьцяпанчыкаў, Сілаенкаў, Марыянкоў. Стары смаленец М. Палашонкаў зь вёскі Надва, Катынскага павету на Смаленшчыне, расказаў Растаргуеву, як у пачатку 40-х гадоў мінулага стагодзьдзя ён «прыстаў у прымні» і ажаніўся з гаспадаровай дачкой Ганнай, прыняўшы прозьвішча жонкі «Палашанька» ад

імя Палаха — «Палаша». Вось жа мова гэтага смаленца нагэтулькі чыста беларуская, што можа больш вымоўнага прыкладу беларускасьці мовы смаленцаў і не патрабуецца. Наўсуперак некаторым высновам, увесь фактычны матар'ял кнігі праф. Растаргуева *«Говоры на территории Смоленщины»* цалкам пацьвярджае нашыя думкі і навукова-лінгвістычна падмуроўвае іх, стварае нашым высновам неабвержаны фундамант.

Гэтак моцна народ трымаецца свае мовы нават там, дзе на зьліквідаваньне яе было ўжыта безьліч моцных сродкаў, як вылучна расейская школа, друк, тэатар, літаратура, прызнаньне за ўрадавую толькі расейскае мовы, гвалтоўная забарона ўсяго беларускага і перасьлед тэрорам усялякае праявы беларушчыны.

Аднак-жа ні змус, ні гвалт канчальна ня вынішчылі беларускае душы смаленца, бо ейныя асаблівасьці маюць моцныя традыцыі ў мінуўшчыне.

Паходзячы ад асноўнага беларускага племя Крывічоў і жывучы праз стагодзьдзі ў ваднэй дзяржаве з усімі беларусамі, смаленцы не маглі ня мець аднае зь імі мовы. Смаленскі беларус, пераважна селянін, гэткі, як і ўсе беларусы. Падставай ягонага быцьця зьяўляецца здаровая земляробская праца. І хоць прырода не дала смаленцу багатае глебы, аднак стараннасьць і ўпорыстасьць ягонае працы на малаўраджайных глебах можа зьдзівіць. Смаленскі селянін шмат перапрабаваў за жыцьцё заняткаў, часам адыходзіў ад зямлі на заработкі, але далей за сваю смаленскую краіну, далей за Парэчча, за дняпроўскія ды дзьвінскія прыстані ён не вандруе і ня возіць. Урэшце ўсё-ж ткі ён вяртаецца на сваю няўдзячную зямлю і ўкладае ў яе ўсю сваю сталую любасьць да працы, цярплівасьць, упорыстасьць, усе высілкі, і пад ягонымі працавітымі рукамі камяністыя і пяшчаныя глебы ператвараюцца ў шырокія нівы.

Не заўсёды зямля бывае ўдзячнай гаспадару за гэтую працу, і тады міжвольна складае ён сумную песьню:

Няма хлеба, солі,
няма шчасьця, долі!
Поле пусьцеець,
І нечым сеяць.
Ня будзем жыці,
Пойдзем блудзіці.

Але гэта толькі выява ягонага мяккага пяшчотнага беларускага характару зь ягоным нахілам да летуцен-

насьці, багатага ўяўленьня і фантазіі. Ня пойдзе ён у сьвет блудзіць, бо ведае, што ня ласкаю стрэне яго чужынец.

Чужая старана
Тугою араная,
Сьлязьмі паліваная.

Смаленскі селянін мае на запас і прыказкі: «Паміраць зьбіраешся, а жыта сей». (...) А пра свайго ўсходняга суседа мае добрае дазнаньне, што выпрацавалася ў вякох зацятага хаданьня Беларусі з Масквою і выяўленае ў дасьціпных прыказках: «Калі маскаль кажа суха, то падымайся да вуха: бо ён брэша», «Ад чорта адхрысьцішся, а ад маскаля не адмолішся», «Ад маскаля полы падрэж ды ўцякай».

Гэтак выразна ўсьведамляе сваю адрознасьць ад расейца смаленскі беларус і замацоўвае гэтае ўсьведамленьне ў вуснай народнай творчасьці. Ды ўжо гэтае адрозненьне найлепш робіць і сама мова смаленца, багатая агульнабеларускімі словамі: хата, кубел, калыска, бажніца, пол (замест расейскага «полати»), страха, катух, хустка, камізэлька (замест расейскага «жилет»), хадакі ці чаравікі, кавалак, андарак («і ў людзі і ў кабак — усё адзін андарак»), кравец, шавец, магерка, сьвітка, намітка, бохан, клёцкі, калдуны, ладкі, панцак, крупнік, шмалец, страва, бульба, крыніца, шкода (зам. рас. «беда») і г. д. г. п.

Усе гэтыя словы, як ня трэба лепш, сьветчаць пра лучнасьць смаленскага слоўнікавага складу з агульнабеларускім. Апрача таго, кажнае зь іх зьяўляецца добрым паказьнікам беларускасьці ўсіх жыцьцёвых абставінаў смаленскага селяніна, яны, нераўнуючы, тыя сымбалі, што хаваюць за сабой беларускі нацыянальны характар, усяго гэтага багацьця, у якім гэтымі словамі называюцца асобныя рэчы ці зьявы і комплекс якіх дае шырокі абраз іхнага нацыянальнага твару. Смаленскі акругова слоўнік Дабравольскага дае дзеля гэтых высноваў багаты матар'ял.

Аб беларускім складзе народнае мовы Смаленшчыны могуць добра сьветчыць, прыкладам, гэткія, пададзеныя Максімавым, сказы вазьніцаў перад карчмою да шынкара:

— «Рандар, рандар! адчыні вароты, дай гарэлкі! Ах-ці якая мяцеліца: саўсім перазяблі, і коні чуць цягнуць, і ноч цёмная, нічога ня відна, і дарогу так замяло,

што і найці ня можна. Рандар, рандар, адчыні вароты, налівай гарэлкі!».

Трэба вызнаць і немалы ўклад Смаленшчыны і ў найноўшае беларускае адраджэньне. Ведама, што смаленскія дэлегаты, удзельнікі Першага Ўсебеларускага Кангрэсу ў Менску ў сьнежні 1917 году найбольш пасьлядоўна абаранялі пагляды незалежнікаў, ня ў прыклад магілёўскім «абласьнікам». Смаленскія дэлегаты ўсьвядомлівалі сябе дзецьмі маці-Беларусі і найбольш адкрыта і рашуча дамагаліся дзяржаўнага самавызначэньня Беларусі на ўсіх ейных этнаграфічных абшарах.

Смаленшчына дала беларускай літаратуры такога выдатнага пісьменьніка, як Максім Гарэцкі, які ўзбагаціў беларускую літаратурную мову багацьцем моўнае адмены нашае ўсходняе поўначы. У смаленскай вёсцы Калесьнікі, Хіславіцкай воласьці, нарадзіўся беларускі паэт Зьмітрок Астапенка (1910—1944), які таксама, як і Гарэцкі, унёс багата смаленскіх арыгінальных словаў у беларускую паэзію. Уцякаючы ад саветаў праз Славаччыну, ахопленую паўстаньнем у 1944 годзе, Астапенка загінуў з словамі звароту да любай Беларусі, словамі бязьмежнай любові да Бацькаўшчыны, якой ён аддаў сваё кароткае, але творча плённае жыцьцё. Ягоная паэма «Эдэм» і шматлікія вершы цалкам спраўдзілі прадбачаньне Якуба Коласа, які ў 1928 годзе, будучы ў Мсьціслаўлі ў пэдагагічным тэхнікуме, падараваў Зьмітраку Астапенку сваю кнігу з надпісам, у якім прадракаў будучыню вядомага паэты і тым акрыліў малады талент.

Вывучэньне моўных асаблівасьцяў Смаленшчыны можа быць асабліва плённым для збагачэньня беларускае мовы. Прыкладам, колькі прыгожасьці і самабытнае адмены хаваецца ў словах, запісаных на Смаленшчыне і прыведзеных А. Адамовічам на адной з дыскусійных зборак у Нью-Ерку («Конадні», № 3, 1955, бал. 94—95). Вось некаторыя зь іх: утравець (зарасьці травою), асянець, абасянець (рабіцца надвор'ю, як увосень), раўніць (дзяліць на роўныя часткі), ірміцца, зайрміцца ў сэньсе загарэцца нейкім пачуцьцём, глыбіць (дамагацца), дымна (цяжкі настрой), работашна (шмат работы), вуздыхна, зямельна, улюбі (у каханьні), уцьверазі (у цьвярозасьці), час улягу, угадзіне (позьні час), удаліна (чужына). Або гэткія сынонімы і антонімы: разумлівы, бязумлівы, безум, касьнік (прамень), адкосак (водбліск), шумцець,

шумархавацъ, гульлявацъ, народліва, прынароднa, заўвеціць, заўвета (ветлая заўвага), загада, закор (дакор), маладзьга (аб моладзі грэбліва), прыродак (прырода), падаўтарацъ (паўтарацъ яшчэ раз), пераказвацъ (паўтарацъ у гаворцы), падавацъ (быць падобным), працяглівы, накупіць (падкупіць), намахнуцца, басавік (басяк), нямінучая (нямінучасьць), вухарэз (галаварэз), гарывы (гарысты), нізовы, гулявы (гуляшчы), лёгкаабычны (лёгкадумны), цанавацъ (цаніць), собства (уласнасьць), пульга (завея), маравы (морскі), маранік (марак), праказацца (праявіцца), ціхім маньнем («ціхай сапай»), на гулянках (вольным часам), абкіравацъ (арганізаваць справу), налажыць імя (даць імя), пакласьці (умовіцца), паклад (умова), вомяга (атрута), выйма (міма), сплавадзіць (збыць), наплавадзіць (навадніць), мазны, мазьненькі (мізэрны), паднебесь (гарызонт), заняважыць (зьбянтэжыць), пасылавацъ (камандыравацъ), паязда (экспэдыцыя), судлівы (крытычны), судліціць (крытыкавацъ), чырк-у-чырк (акурат).

Сп. А. Адамовіч таксама прапанаваў колькі смаленскіх словаў на зьмену ўжываным часта барбарызмам і жарганізмам (глядзіце тамжа). Яны вартыя ўвагі ўсіх беларускіх моваведаў. Варта прывесьці і іх: намінацъ, намінка (намякацъ, намёк), перагосткі (абмен візытамі), адгосткі (паўторнае адведаньне), хаджане (праходжыя), увед (іспыт), спытка («пробка»), мульлё (пролежні), машурга (мішура), праграчыць (празываць), брыжыковыя дзяўчаты («кисейные барышни»), здобіль («изобилие»), дасьпяшны (пасьпяховы), дасьпех (посьпех), посуд (судно), шугавы (ветраны) чалавек, весьці за (уважацъ за).

Агромністую колькасьць самабытных словаў заключае ў сабе ведамы «Толковый словарь живого великорусского языка» Уладзімера Даля, у 4-х томах. Багата іх у вядомым слоўніку беларускае мовы Насовіча. Значная частка гэтых словаў ужываецца і ў іншых мясцовасьцях Беларусі і ўвайшла ў агульна-літаратурную сучасную беларускую мову. Уклад смаленцаў тут асабліва вялікі і заслугоўвае свайго вызнаньня і належнае ацэны, а таксама навуковага вывучэньня. На вялікі жаль, гэтае вывучэньне ў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспубліцы вельмі запынілася дзеля ўлучэньня Смаленшчыны ў склад Расейскае Фэдэратыўнае Савецкае Рэспублікі. Таму беларускія моваведы пры Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук БССР у Менску змушаныя абмяжоўвацъ абсяг

сваіх дасьледаваньняў межамі сучаснае БССР. Праўда, у 20-х гадох Смаленшчына вылучалася беларускімі навукоўцамі, і тады шмат было зроблена для яе вывучэньня ў Інстытуце Беларускае Культуры, а на пачатку і ў Беларускай Акадэміі навук у Менску.

А паслухайце народныя песьні Смаленшчыны. Гэта тыпова беларускія народныя песьні з тэю-ж самою моўнаю і музычнаю асноваю. Для прыкладу, вазьміце жартоўную (у зборніку Дабравольскага, ч. IV):

Да сею-ж я (2)
У гародзе чарнушачку,
Пад гародам пятрушачку,
Да сею-ж я.
Да палю-ж я
У гародзе чарнушачку,
Пад гародам пятрушачку,
Да палю-жа я. (2)
Да бяру-жа я (2)
У гародзе чарнушачку,
Пад гародам пятрушачку
Да бяру-жа я.
Навару-жа я (2)
Да старому качана з бураком,
Маладому кісяля з малаком,
Навару-жа я. (2)
Пасьцялю-жа я (2)
Да старому на ўзапечкі,
Маладому да на покуце,
Пасьцялю-жа я. (2)
Падлажужа-жа я (2)
Што старому ды дзяружачку,
Маладому да падушачку,
Падлажу-жа я. (2)
Прабуджу-жа я (2)
Што старога ды піхаючы,
Маладога абдымаючы,
Прабуджу-жа я. (2)
Праваджу-жа я (2)
Як старога із сабакамі,
Маладога із музыкамі,
Праваджу-жа я (2).

Цікава адзначыць той факт, што ў выданьне Беларускай Акадэміі навук — «Песьні беларускага народу» (т. I, Менск, 1940 г.), увайшло шмат беларускіх песьняў, запісаных на Смаленшчыне ведамымі этнографамі, як Дабравольскі зь ягоным «Смаленскім этнаграфічным зборнікам» (ч. I, 1891., ч. II, 1893 г., ч. IV, 1903 г.), як Насовіч, Раманаў і інш.

У кнізе «Песьні беларускага народу» часта ўзорам песьні і прыводзіцца толькі песьня Смаленшчыны. У тым-жа выпадку, калі за ўзор даецца песьня з цэнтральнае Беларусі, дык у камэнтарох вельмі часта паказваецца на запісы тых самых песьняў або іхных варыянтаў у Смаленшчыне з паказаньнем літаратуры і бібліяграфічных дадзеных. Гэта гаворыць аб адзінсьцьве беларускае народнае песьні ад беларускае Горадзеншчыны да самых усходніх і паўночных абшараў Смаленшчыны. Адзін народ — адны і тыя-ж у яго і песьні.

Смаленскі і бранскі селянін на кірмашы ды ў людзі, як і ўсе беларусы, выяжджалі ў белай магерцы і шэрай сьвітцы, а за клясычны народны інструмэнт у іх таксама — беларуская дуда — скураны круглы мяшок і прыткнутая да дзіркі дудка з пераборам для пальцаў, якая грае і тады, калі ў яе пакідаюць дзьмуць.

Смаленскі беларус, як і ўсе беларускія сяляне, на працягу гісторыі застаўся абыякавым да розных рэлігійных змаганьняў і не даваў із свайго асяродзьдзя духовых фанатыкаў, палоненых якой-небудзь рэлігійнаю догмаю.

Беларус заўсёды адзначаўся рэлігійным індэфэрэнтызмам і таму не паддаўся ўплывам розных рэлігійных сэктаў, якіх так багата было ў ягонага ўсходняга суседа. Жыцьцё на воддалі ад гарадоў спрыяла захоўваньню свае нацыянальнае самабытнасьці ў в а  ў с і м жыцьці.

Гэтую нацыянальную беларускую самабытнасьць, як факт, пераканальна сьветчаць усе пададзеныя намі вышэй факты, навет смаленскі беларус захаваў аж дагэтуль, наўсуперак усім нягодам і перагасам лёсу, што найцяжэй з усіх беларускіх краінаў выпалі на долю Смаленшчыны...

І аб ёй таксама можа сказаць кажны зь сьведамых сыноў гэтае Бацькаўшчыны словамі таго паэта, які калісьці з такім замілаваньнем прапушчаў вачыма «прысады а блоні» яе:

Люблю я цябе, дарагая,
І веру: ня спынішся раптам,
Праз пушчы, бярэзьнікі, гаі
Да Менску заўсёды патрапіш!

*Студзень 1943—1961*

# ПАЛІТЫК
# МІХАЛ КЛЕАФАС АГІНСКІ

Ва ўсе часы, нават у самыя неспрыяльныя перыяды развіцця грамадства, на шчасце, з'яўляліся людзі, здольныя бачыць нешта самае сутнаснае ў жыцці, не траціць гістарычнае перспектывы. Да такіх людзей з поўным правам можна залічыць і Міхала Клеафаса Агінскага, палітычнага дзеяча, дыпламата, кампазітара, паўстанца.

Гады свядомага жыцця Агінскага прыпалі на другую палову XVIII і пачатак XIX стст., і невыпадкова ўсе гістарычныя катаклізмы таго часу непасрэдна адбіліся на ягонай неардынарнай асобе. Апошнім часам з'явілася нямала публікацыяў, што раскрываюць розныя бакі дзейнасці гэтай маштабнай гістарычнай постаці. Тым не менш застаецца яшчэ нямала невядомага, што звязана з дзейнасцю яго як сенатара і тайнага саветніка. А менавіта з 1810 г., калі Агінскі атрымаў гэтыя пасады і тым самым наблізіўся да цара, ён змог прыступіць да выращэння найважнейшае задумы свайго жыцця.

Пачатак XIX ст. адзначыўся супрацьстаяннем Францыі многім еўрапейскім краінам. Адна за адной яны трапляюць у залежнасць ад напалеонаўскай Францыі. Набліжэнне войскаў французскага імператара да межаў Расійскай імперыі прымусіла царскі ўрад пайсці на падпісанне ў 1807 г. Тыльзіцкага пагаднення. Яно фармальна замацавала вайсковы звяз паміж Расіяй і Францыяй, але не зліквідавала супярэчнасцяў паміж імі.

Да таго ж, згодна з Тыльзіцкаю дамоваю, Напалеон утварыў Вялікае Герцагства Варшаўскае, марыянеткавую дзяржаву, якая аб'ядноўвала мізэрны кавалак уласна польскіх земляў, адабраных Банапартам ад Прусіі. У 1809 г. Напалеон далучыў да Варшаўскага Герцагства тэрыторыі, што ў часе падзелаў Рэчы Паспалітай адышлі да Аўстрыі. Французскі імператар стварыў 80-тысячны корпус польскага войска, на чале якога быў пастаўлены пляменнік апошняга караля Рэчы Паспалітай Язэп Панятоўскі. Такім чынам, склалася даволі пікантная сітуацыя: на памежных з Расейскай імперыяй землях узнікла рэальная сіла, што бачыла ў Напалеоне аднаўляльніка і заступніка Польшчы.

Далікатнасць сітуацыі добра разумелі ў Пецярбургу.



Міхал Клеафас Агінскі.

Патрэбны былі дзеяздольныя, аўтарытэтныя людзі, асабліва з заможнае часткі жыхароў заходніх губерняў, прыдатныя для нейтралізацыі там пранапалеонаўскіх настрояў. Са свайго боку царскі ўрад павінен быў пайсці там на некаторыя саступкі.

Спрактыкаваны дыпламат Агінскі адразу ацаніў палітычную кан'юнктуру. Ён настойліва, крок за крокам, падступаецца да рэалізацыі ідэі адраджэння дзяржаўнасці

Вялікага Княства Літоўскага. Як відаць з ягоных мемуараў, Агінскі выкарыстоўвае для гэтага ўсе магчымасці.

25 чэрвеня 1810 г. М. Агінскі на працягу дзвюх гадзінаў меў асабістую размову з Аляксандрам I. Яна ўразіла яго.

Цар заявіў, што ён ніколі не ўхваляў падзелаў Рэчы Паспалітай і не жадае, каб рускім і надалей было сорамна за гэты палітычны акт. Сваімі прыхільнымі выказваннямі расейскі манарх пасеяў у М. Агінскага надзею на адраджэнне Рэчы Паспалітай.

На пачатку красавіка 1811 г. Агінскі зноў атрымлівае аўдыенцыю ў Аляксандра. Паміж імі адбылася сур'ёзная размова. Манарх спытаў Агінскага, які толькі што вярнуўся з Парыжа, пра яго стаўленне да плана пачаць прэвентыўную вайну супраць Напалеона, правёўшы рускія войскі праз Герцагства Варшаўскае ў Прусію.

Агінскі паставіў пад сумнеў паспяховасць гэтай аперацыі, бо тагачасная геапалітычная сітуацыя была не на карысць Расіі. Тады ж у ходзе размовы Агінскі прапанаваў імператару ў якасці адміністрацыйнага кроку ўтварыць з губерняў Горадзенскай, Віленскай, Менскай, Віцебскай, Магілёўскай, Кіеўскай, Падольскай з уключэннем Беластоцкай і Тарнопальскай акругаў асобную правінцыю пад назваю Вялікае Герцагства Літоўскае.

Аляксандр I даручыў графу Агінскаму распрацаваць праект рэформаў заходніх губерняў і пасля заканчэння працы адразу паведаміць яму, каб пры патрэбе, калі ўзнікнуць спрэчныя пытанні, іх вырашыць.

Да самога праекту імператар паставіў некалькі пытанняў. Сярод іх такія: ці не будзе правінцыя з 8-мі губерняў занадта вялікая для кіравання адной асобай? Ці ахвотна прымуць назву літоўцаў жыхары Падольскай, Валынскай, Кіеўскай губерняў? Ці будзе гэтае ўтварэнне зручным з фінансавага, гандлёвага гледзішча, вайсковай арганізацыі? Пагадзіўшыся ў асноўным з доказамі Агінскага, манарх тым не менш прасіў сенатара захоўваць канфідэнцыйнасць іхнае размовы. З таго часу графа Агінскага па 2—4 разы на тыдзень запрашалі на абед да цара, дзе грунтоўна абмяркоўваліся пытанні, звязаныя з гісторыяй Літоўскага краю і дэталі яго будучага дзяржаўна-адміністрацыйнага ўладкавання.

Шчыры патрыёт Рэчы Паспалітае М. Агінскі, аднак, думаў перадусім пра Вялікае Княства Літоўскае. Ён гава-

рыў: «Прыналежная Расіі частка Польшчы складала асобнае, самастойнае гаспадарства Літвы яшчэ да злучэння гэтай апошняй з Польскім Каралеўствам. Жыхары Вялікага Княства Літоўскага спаконвеку вылучаліся ваяўнічым духам, прадпрымальнасцю, неабыякавасцю да сваіх правоў, вернасцю князям-гаспадарам, мужнасцю і любоўю да Айчыны. Яны заўсёды ганарыліся сваёй народнасцю і хоць аб'ядналіся з Польшчай, аднак захавалі свае звычаі, грамадзянскія законы, мясцовае кіраўніцтва, свае войска, вярхоўныя суды, міністраў, дзяржаўных дастойнікаў і нават Сойм, таму што ён збіраўся папераменна ў Варшаве і ў Горадні. Усе гэтыя прывілеі такія дарагія ліцвінам, што яны не рашыліся развітацца з імі, нягледзячы ні на якія намаганні і красамоўныя пераконванні многіх дзяржаўных дзеячоў. Я ўпэўнены, што калі б з былых польскіх земляў адразу па далучэнні іх да Расіі была ўтвораная адна Літоўская вобласць з захаваннем яе ранейшых правоў і калі б гэтая вобласць склала асобную паводле кіравання, хоць і непарушна злучаную з Расіяй дзяржаву, то нялёгка было б пранікнуць туды якому б ні было іншаземнаму ўплыву».

15 траўня 1811 г. Міхал Агінскі падаў Аляксандру I запіску. У ёй перш-наперш асуджалася фактычна падступная палітыка Напалеона ў дачыненні да палякаў. Агінскі распавядаў імператару пра гісторыю і дзяржаўныя традыцыі Вялікага Княства Літоўскага, характарызаваў ліцвіноў як народ. Запіска змяшчала накіды асноўных тэзаў будучага праекту, падрыхтаванага Агінскім, галоўнымі з якіх былі: неабходнасць вярнуць сапраўднае гістарычнае імя краю, старажытныя юрыдычныя нормы, занатаваныя ў Статуце ВКЛ 1588 г., безапеляцыйны трыбунал, ураўнаваць жыхароў Заходняга краю ў падатках з іншым насельніцтвам імперыі. Характэрна, што пры гэтым Агінскі спасылаецца на дзяржаўна-праўнае ўладкаванне Фінляндыі, здзейсненае тады расійскімі ўладамі.

Накідаўшы пэўныя рысы будучага праекту, сенатар Агінскі сканчае зварот да Аляксандра I словамі: «Ліцвінам будуць вернуты адным росчыркам пяра іхныя імя і айчына, між тым як варшавяне да гэтага часу жывяцца толькі надзеяй, якую да таго ж павінны аплочваць асабістай крывёю...»

На ад'езд Міхала Агінскага ў Беларусь (граф накі-

роўваўся ў свой маёнтак у Залессе) Аляксандр I наказаў яму давесці да ведама землякоў змест іхнага сумеснага плану і заклікаў да спакою і разважлівасці. «Адно з двух,— гаварыў імператар: — альбо ў выніку вайны я ўтвару Польскае каралеўства, альбо, калі вайны не будзе, прывяду ў выкананне наш вялікі план наконт Літвы».

Неўзабаве ўслед за запіскаю Агінскі падаў і праект указу аб новай арганізацыі заходніх губерняў. У апошнія гады тэкст яго апублікаваны і прааналізаваны гісторыкамі.

15 кастрычніка 1811 г. Аляксандр I выклікаў Агінскага абмеркаваць палажэнні праекту. Цар прапанаваў сенатару вылучыць восем найаўтарытэтнейшых на ягоны погляд дзеячоў ад кожнай губерні, якім можна было б даверыць ажыццяўленне плану арганізацыі Вялікага Герцагства Літоўскага. Што Агінскі неўзабаве і зрабіў. Праз пэўны час імператар запрасіў названых прадстаўнікоў губерняў да сябе.

27 студзеня 1812 г. у чарговай размове з Агінскім цар зазначыў: «А між тым не забывайцеся пра землеробаў — гэта найкарыснейшы клас насельніцтва. А ў вас усё яшчэ ставяцца да сялянаў як да элотаў».

У канцы красавіка 1812 г. Аляксандр I накіраваўся ў Вільню. Агінскі з прычыны хваробы знаходзіўся ў Залессі і не змог з ім сустрэцца.

І толькі ў дзень пераправы Напалеона праз Нёман, 24 чэрвеня 1812 г., адбылася сустрэча Агінскага з царом у Вільні. Чарговая іхная размова мела месца толькі 10 кастрычніка 1812 г. Гутарка ішла пераважна пра вайну. «Спадзяюся,— сказаў імператар,— калі Бог дапаможа, то мы зможам ачысціць ад ворага не толькі мае рускія вобласці, але Беларусь і Літву...»

Аляксандр раіцца з Агінскім наконт звароту да народаў ВКЛ і Польшчы і загадвае напісаць яго ад імя імператара. Агінскі складае праект звароту Аляксандра I да жыхароў Заходняга краю, а таксама рэскрыпт на імя фельдмаршала князя Кутузава. У гэтым звароце Аляксандр I растлумачвае сваю пазіцыю і абвяшчае амністыю ўсім сваім былым праціўнікам. Трэба адзначыць, што Агінскаму давялося шмат паклапаціцца, перш чым цар абвесціў амністыю. 19 снежня імператар заявіў графу Агінскаму: «Спадзяюся, што вы задаволены маім актам амністыі...»

Летам 1814 г. у Пецярбургу былі сабраныя дэпутаты Віленскай, Горадзенскай, Менскай, Віцебскай, Магілёўскай, Кіеўскай, Валынскай, Падольскай, Курляндскай губерняў і Беластоцкай акругі. Іх прыняў Аляксандр І і падзякаваў за вернасць. Праціўнік быў пераможаны, і з абяцанай аўтаноміяй можна было не спяшацца.

У лістападзе 1815 г. Аляксандр І сустракаецца са шляхтай у Вільні, у тым ліку і з Агінскім. Тут, пры апошняй размове на тэму пра лёс Вялікага Герцагства Літоўскага, Агінскі канчаткова разумее бесперспектыўнасць сваёй запаветнай мары. Ён вяртаецца ў любае Залессе, дзе займаецца творчай і асветніцкай працай. Тут напісаў кнігу «Лісты пра музыку», дзе падаў даволі поўную карціну музычнага жыцця Еўропы XVIII— пач. XIX стст., працаваў над мемуарамі.

У апошнія гады жыцця ў Залессі Агінскі сустракаўся з прадстаўнікамі дэмакратычнае моладзі, сярод якіх былі сябры таварыстваў філаматаў і філарэтаў. У 1822 г. Міхал Клеафас Агінскі звяртаецца да Аляксандра І па дазвол выехаць за мяжу і з горыччу ў сэрцы пакідае Бацькаўшчыну, у гэты раз назаўсёды. Няздзейсненая справа жыцця М. Агінскага — аднаўленне беларуска-літоўскае дзяржаўнасці — заставалася ягоным запаветам наступным пакаленням.

**Яраслаў ЛІС.**

Алесь САЛАВЕЙ

# З КНІГІ «НЕСЬМЯРОТНАСЬЦЬ» (1949—1952)

## КРЫВІЧЫ

Старэтных вечаў водгалас пасьцежны,
твая йшчэ слава штормамі ня сьцята.
Гудзе званамі вольная Палата,
Дзьвіною рушыць на прастор бязьмежны.

Прабудны покліч — гоман прыбярэжны —
далёка чутны — навакольле ўзьнята:
— «Хай зьгіне цемра! Час табе, адплата!» —
— «Хай сонца ўзыйдзе! Прэч, набег
драпежны!» —

А чольны шэраг вой вядзе адважны,
мячом падступным грозна-недасяжны.
З гадоў паходных і зь вякоў суровых

ня сьцемяць змрокі раніцы краменнай.
Над ёй лунаюць сьветласьцяй праменнай
нашчадкаў сьцягі ў далях пурпуровых.

1948.

Друкуецца паводле: «Ля чужых берагоў». Альманах твораў беларускіх эміграцыйных паэтаў і пісьменнікаў.— Мюнхен, выдавецтва «Бацькаўшчыны», 1955.

## НАД СЛУЦКАМ ДНЕЕ

Над Слуцкам днее. Гасьне ноч на зорах.
І зь першым сьнегам вецер дзьме
калючы.
Прастуе ўперад рыцар няўміручы,
за ім — нядрэмнасьць вояў у дазорах.

Ён бачыць золак, чуе кажны шорах,
вітае ў думках сон прабудны Случы...
Абшар бязьмежны і прастор нясплючы,
у вас ня мае месца хіжы вораг.

Агні жывыя, іскры лістападу,
узьлётнасьць ваша не зазнала спаду.
За вас у муках рыцарскай дарогай

крывёй сьцякалі, гінулі і мерлі,
каб вас навекі злыбеды ня сьцерлі,
каб вы сьвяцілі прыйшлай перамогай.

## НЯ СЬПІШ СПАКОЙНА

Ня сьпіш спакойна, мой далёкі браце,
як сполах ночаў, дні твае насталі.
Пад звон зялеза і пад скрыгат сталі
імкненьняў пошуг прападае ў страце.

Бяз спыну ў доме, без начлегу ў хаце
капаеш долы, засяваеш далі.
Пад імі злыдні праўду пахавалі —
куеш навекі ім сваё пракляцьце.

Непакананы жорсткаю пакутай,
перамагаеш зьмея мукі лютай.
І шлях паўторны да жыцьця
зь цярпеньня

няволі злуду паліць пярунамі.
З табой, зы мною — крочыць поплеч
з намі
паўтору-кругу зьмена-пакаленьне.

## СЬЦЮЖА

Зьбівае з ног разьюшаная сьцюжа.
У чоўне сноў і сонца ня ўсплыло.
Цяпер ня сьпіш, усё імкнешся
дужа
ступіць на дол, ухутаны ў цяпло.
Навошта-ж ты пра заўтра дбаеш,
дружа,
калі ў цябе і сяньня не было?
Надыйдзе змрок — якраз,
калі сьвітае,—
і дагарыць надзея залатая.

## ІДЗЕШ, ПЛЫВЕШ

Зы сьвету ў сьвет ідзеш, плывеш
і едзеш,
ступаючы ці ў першы новы сьвет.
А паза ім у горы стогне недзе-ж
той кут, дзе быў гаспадаром твой дзед.
Над шэраняй шляхоў бясконцых
згледзіш
хаморны змрок і сонца ўсплеск —
прасьвет —
ты думаеш: вакно — ці мо' яшчэ не? —
у дзедаў сьвет — канец твайго
мучэньня.

## ЗОРЫ

Прыслухайся: да высяў клічуць зоры,
між іх і ў іх — і новы сьвет, і ты.
Пад імі — дол няўцешны, і суворы,
над імі — край сьвятлярна-залаты.
І паўтары — ня быў душою хворы
той пілігрым, што ня спыніў ляты
да воддаляў, яшчэ нікім нязнаных,
да зьдзейсьненьняў, бяздушшам
не таптаных.

## У СЬВЕТЛЫ ДЗЕНЬ

У сьветлы дзень Пятра — у дзень твайго
анёла
цьвілі — прыгадваеш? — лугоў шнуры
вясёла.
І песьцілі палі спацехі мройнай сны,
намірг забыўшыся пра сполахі вайны.
Яна-ж, няўмольная, падкошвала, таптала
вясёласьць пешчаў-мрой. Цябе ў нязнанасьць
гнала.
Блакітныя ільны, мядзяныя жыты
усьцяж пыталіся: — «Нас не пакінеш ты?» —

Ізноў той час. Туды, дзе дні спацеху сьнілі,
імчуць, нясуць душу твайго сьвятога крыльлі.
А зь імі ўзносішся на ўзьлёце лёгкім сам.
Ці адчуваеш ты? — ты там, ты толькі там.

1952.

## ПАЛАДЫН

Зь дзядоў і прадзедаў — гады ў вякі
наніжам —
спыніліся шляхі аж пад Паўдзённым Крыжам.
Зь ім верных пяць сяброў. А ты — зусім
адзін.
Куды-ж цяпер ідзеш, нясхільны Паладын?

Спакой вакол цябе. Ня хочаш ты спакою.
Хто вольны — дужы той. Сьцяжынаю цяжкою
ты прагнеш праставаць імкненьню наўздагон —
туды, дзе йшчэ жыве драпежны мастадон.

Пад стомаю ў руках ня схіліш галябарду.
Ты зь ёй нясеш любоў, нянавісьць і пагарду.
Нянавісьць — жорсткі скон ап'яненым крывёй,
любоў — для спрагненых бальзам вады жывой.

1950.

## ПАКІНУЎ Я...

Пакінуў я шаблённы сьвет уплываў,
здалося мне — абшар цьвіцеў
зарой.
Да заваёваў свайго героя вывеў —
змагаўся ён, стаяў за чын гарой.
Але пад клум прыліваў і адліваў
ён спарахнеў, аброс імхом, карой,
паставіў дом ня з цэглы, а з картуны,
падуў віхор — і ўвесь канец фартуны.

## ОРДЭНАНОСЦАМ

Вам прышпілілі ордэн той-жа самы:
прышлівы гонар адмысловым катам.
Нясе нядрэмнасьць варту вашым хатам,
для сьмерцяў новых выкапаўшы ямы.

На ўяўнай цноце нат ня змыты плямы
крыві пралітай закаваным братам.
Ну што-ж, тварэце неўгамонным
сьвятам
і т а т у — бацьку гучныя рэклямы!

Рука у путах — «Слава!» — піша — «Слава!»
А розум цьвердзіць — «Згінь, прысуд
крывавы!»
Не, гэна бляшка таннае мэдалі

душы ня сьмеціць, з думкай не начуе,
і вусны шэпчуць — толькі Бог вас чуе —
збавеньня словы — іх вы не прадалі.

## НЯ З ВАМІ

З трыбунных высяў прамаўлялі ўчора:
— «Калі ня з намі, першы ўчынак —
здрада!»
А сяньня ў засьці заўтрашняя ўлада
і нявыразна весьцяць гойнасьць зоры.

Вы гэтак хутка падаліся ў норы —
і млоснай сыці думка ваша рада.
Разьменных пешчаў танная прынада
душу прапасьціць у прадажнай зморы.

Часы мінаюць. Тыя, што ня з вамі
крыштальнасьць духу ўзносяць над вякамі,
яны — надойсьця чолы-авангарды.

Але ў прадоньне заламаным крокам,
найсьвятшых скарбаў зманлівым вырокам,
цяжкія цэглы ганьбы і пагарды.

## СЬВЯТЛЯРНЫЯ АГНІ

Той вечар памятны — і ці-ж ільга забыцца? —
у сэрцы і душы, сьвятлеючы, агніцца.
Па бліскных клявішах узмахі рук стрункіх —
празьвесьцівы акорд пачуцьцяў парыўкіх.

Праменны рой высі — сузор'яў пералівы.
Удумлівы Шопэн, Рахманінаў чульлівы,
Бэтховэн, Вагнэр, Бах, Чайкоўскі, Барадын —
сягаў шматструнны зык да сонечных гадзін.

Гучацьме вечна ён над лёдам анямелым,
будзіцьме дрэму сну праменьнем дзённа-
сьмелым.
Ільды цямнярныя, сьвятлярныя агні.
Руку сваю сьвятлу, ажыўчасьць, прасьцягні.

## К. Дуж-ДУШЭЎСКІ

# САМАХОДЫ

## ПРАКАПЮК

Усю ноч я ехаў конна, каб пасьпець прыехаць на месца работы, дзе работнікі з абозамі павінны былі мяне чакаць.

Было якраз палова шостай, калі я пад'ехаў да сваіх палатак, прыгожа раскіданых сярод лесу, і, саскочыўшы з каня, як сноп, паваліўся на зложаныя палотнішчы ад палатак. Усё цела млела, і кожная жылка трэслася ад зморы.

Пакуль работнікі мыліся, сьнедалі і прыгатаўлялі інструмэнт, я адпачываў і разглядаў ваколіцу... Было што глянуць. Аграмадныя кедры сажэннай таўшчыны прабівалі, здавалася, само неба сваімі вершадзямі і ў вышыне паволі ківалі сваімі шапкамі. Каля іх скромна, быццам баючыся сваіх суседаў-асілкаў кедраў, трэслася асіна і надавала нейкі легкаважна-вясёлы выгляд сваімі рознаколернымі лісточкамі (было ўжо пад восень). Як тая кабета, чуючы надыходзіўшую восень, старалася яна як мага ярчэй падфарбавацца і, калі ня сьвежасьцю моладасьці, то хоць бляскам фарбаў паказаць сябе. Унізе працякала рэчка; ціха, спакойна і патаемна цякла яна, быццам баючыся спудзіць агульны спакой і ціш.

Ніводнага звуку не чуваць было ва Ўрмане. Ніводная птушачка не адазвалася, нават рыбіна не асьмелівалася пляс-

---

*У пошуках новых архіўных знаходак неабавязкова ехаць у далёкую Нямеччыну, Польшчу ці Расею. І ў сценах родных архіваў, маючы настойлівасць і цярплівасць, трохі ўдачы, штодзённа шурфуючы залежы архіўнай «руды», можна знайсці залацінку сапраўднага адкрыцця. Друкаваныя тут нарысы, аб'яднаныя агульнай назвай «Самаходы», як ананімныя творы, былі вышуканыя ў сховішчах Беларускага дзяржаўнага архіву-музею літаратуры і мастацтва*. Дзякуючы праведзенай даследчай рабоце і злічэнню почыркаў ўдалося дакладна вызначыць, што аўтарам «Самаходаў» з'яўляецца выдатны беларускі нацыянальны дзяяч Кляўдуш Дуж-Душэўскі. Гэтыя невялічкія нарысы, што распавядаюць пра жыццё і побыт беларускіх перасяленцаў у Сібіры на пачатку Першай сусветнай вайны, былі напісаныя аўтарам прыкладна ў 1920—1922 г. Непасрэднай падставай для напісання іх К. Дуж-Душэўскаму паслужылі ягоныя сустрэчы ўлетку 1914 г. з беларус-*

нуцца па вадзе і гэтым хоць на адну хвілінку ажывіць мёртвую ціш.

Толькі манатонны, неякі нясказна нудны і няспыняны шум, разьлягаўся ад камароў і машкары. Жгужгужгу... жужжэла ад мільёнаў іх. Здавалася, што чалавек знаходзіўся на нейкім аграмадным млыне, дзе няма ніводнага чалавека, а сіла незразумелая цэлымі вякамі нешта меле.

Направа, паміж дрэваў, можна было разгледзець расчышчанае поле, абгароджанае жэрдзямі, прывязанымі да дрэваў, а за полем, з другога боку,— высокую хату. То сяліба-засьценак, якія можна часта спаткаць у Сібіры.

Абоз наш раскінуўся якраз пры плоце.

Прыглядаючыся ўважней, я ўгледзеў чалавека. Ён стаяў абаперты на плот адной нагой, пастаўленай на ніжняй жэрдзі, і задумлена, моўчкі глядзеў на зборы маіх работнікаў.

— Хто гэта? — спытаўся я ў старшага работніка.

— Самаход,— коратка адказаў ён.

Работнікі пасьнедалі, і мы пайшлі на работу. Расплянаваўшы работу, агледзеўшы інструмэнты, я скіраваўся да абозу, каб адпачыць пасьля бязсоннай ночы. Ідучы па дарозе, я сустрэціў «самахода».

Гэта быў рослы, дужа стройна і крэпка пабудаваны чалавек гадоў 45—50. Твар ён меў прадоўжны, высокае чало, густыя бровы, доўгі, тонкі, з маленькім горбікам нос, густыя вусы і бародку лапаткай. Задуманыя, з сумам, сярэдняй велічыні, глыбока абсаджаныя, вочы глядзелі сьмела, спакойна і проста. Пры гутарцы яны час ад часу бліскалі і здраджалі ва ўласьніка вялікую сілу волі, энэргію і тэмпэрамэнт.

---

*кімі «самаходамі» Табольскай губерні падчас правядзення геалагічных доследаў. У шостым нумары «Спадчыны» за 1995 мы ўжо друкавалі біяграфічныя звесткі пра К. Дуж-Душэўскага, а таксама ягоны артыкул «Беларусь і Рыжскі мір», падрыхтаваныя А. Вабішчэвічам **. Зараз наш чытач можа пазнаёміцца з літаратурнай спадчынай вядомага беларускага палітыка і асветніка і ацаніць яе мастацкія вартасці.*

---

* Рукапіс «Самаходаў» захоўваецца ў БДАМЛіМ, ф. 3, в. 1, спр. 121, арк. 4—52адв.

** Больш падрабязна пра жыццё і дзейнасць К. Дуж-Душэўскага можна прачытаць у артыкуле С. Рудовіча «Палітык, асветнік, дойлід», змешчанага ў кнізе «Памяць. Гісторыка-дакументальная хроніка Глыбоцкага раёна» (Мн., 1995).

Ад усёй фігуры яго веяла моц, праўдзівасьць і адвага. Дзіўна не пасаваў ён з прывычнымі мне ў Сібіры малымі, непрыгожымі, кволымі на выгляд тамтэйшымі татарамі, кіргізамі, а нават і з «чалдонамі».

Каб не адзежа і мазольныя рукі, то па віду яго можна было б прыняць за гарадзкога вышэйшага інтэлігента.

— Дзень добры! — прывітаўся я, даганяючы яго.

— Дзень добры,— адказаў ён проста і з павагай.

— Вы Самаход? — пытаюся.

— Самаход.

— Откуда? — кажу я па-расійску.

— З Горадзеншчыны,— кажа ён з ясным беларускім выгаварам.

— Беларус мо?

— Але, беларус, а вы?

— Так-сама беларус.

І яго вочы блiснулі, ён павярнуўся да мяне, быццам хочучы спраўдзіць мае словы. Твар яго на адну хвіліну ажывіўся.

— Даўно ў Сібіры? — пытаюся.

— Дзесяты год.

— Добра тут?

— Эт,— і ён махнуў рукой.

Мы падыходзілі да абозу, і я, разьвітваючыся зь ім, папрасіў яго прыйсьці ка мне па палудні, як я адпачну. Тады пагаворым.

— Добра,— сказаў ён і пайшоў сваей дарогай.

Мяне разбудзілі на палудзень.

— Самаход цябе ўжо даўно чакае,— кажа да мяне старшы работнік-татарын.

Я выйшаў з палаткі, і запраўды, мой гродзенчук ужо сядзіць пры работніках і чакае.

Пакуль мы палудналі, Самаход сядзеў і маўчаў. На ўсе жарты, пытаньні маіх работнікаў ён адказваў або ўсьмешкай, якая ледзь-ледзь на адну хвіліну ажыўляла яго твар, або аднаскладнымі «ага», «о», «а-а».

Папалуднаўшы, хвіліну спачыўшы, чакаючы ажно работніка, які меў чарод «кухара», пакуль ён прыбярэ посуд, мы пайшлі да работы. Пайшоў з намі і Самаход, моўчкі і ў задумленьні.

— Усюды нашы людзі працуюць. І тутака ёсьць яны. Скажам, Вы. Адно ў нас людзей не хапае.

— Дзе ў нас?

— Ды на бацькаўшчыне. Усе тамака чужакі гаспадарaць. Усюды ці рускія, ці палякі.

— Ды і там «нашы» людзі,— кажу,— толькі ж яны забыліся ці ня хочуць прызнацца, хто яны такія.

— Але, але. Гэта праўда, праўду кажаце, вось і ў нас сусед Гарашчонак вывучыў сына на машыністага, дык ён, як прыехаў пасьля, то такім фанабэрыстым стаў, ды і гаварыць пачаў ужо не па-просту, а па-руску.

Я агледзеў работу, зрабіў такія-сякія ўвагі і, маючы з гадзіну часу, пасуліў Самаходу прайсьціся.

Доўга мы ішлі, і гутарка ў нас ня клеілася. Даведаўся я з паасобных словаў, што Самаход завецца Пракапюк Макар, што ён селянін Слонімскага павету Горадзеншчыны. Малазямельле прымусіла яго шукаць долі ў Сібіры.

І толькі даведаўшыся, што і я быў у Горадзеншчыне, Слонімскім павеце і нават у яго роднай Дзярэчынскай воласьці, язык Пракапюка разьвязаўся, і ён стаў шмат расказваць аб сваім жыцьці.

— Меў я,— кажа ён,— на бацькаўшчыне тры дзесяціны зямлі, ды і тая ў шнурах. Шнур у тры баразны цягнецца на вярсту, мо дзьве. Што ж, чалавек, пасееш? А жыць трэба. І кабеціна, і дзетак Бог даў чацьвёра. Біўся, біўся, казаў той, як рыба аб лёд,— нічога не выходзіла. Да сьнегу свайго хлеба не хапала. На каляды ўжо трэ-было прыкупаць. А за што купіць? Браў загон, другі ў двары на адробак. Дык што ж, за гэты кавалачак усё лета і працуеш на пана.

— Чаму ж Вы ня йшлі на работу ў горад?

— Дзе там у горад! Не было куды, ды і не люблю я гарадзкой работы. Усё жыцьцё змалку каля сахі хадзіў, конь мяне разумее, я — яго, кароўка мне як родная здаецца. Выйду на поле, дык мне лёгка робіцца. Кождая травінка мне міла. Хараство ж якое. А што ў горадзе? Глядзяць на цябе ўсе як тыя зьвяры. У нас на вёсцы пчолкі, мёд. Пчолы ж мяне не кусалі, здэцца, як роднага брата, так мяне чула гэтае стварэньне.

— Ну, і як жа ж Вы ўсёж-такі трапілі сюды?

— Ось, біўся, біўся. А тут конь патраву зрабіў — рубля заплаціў, карова захварэла — дарэзаў. Дачка памерла, казалі, каб да доктара завёз — жывая была бы. Шмат гадоў гэтак жыў, працаваў як той вол, і ўсё не вялося. А людзі, што былі хадакамі, казалі, што тутака, у Сібіры, зямлі даюць, колькі хочучы, лесу — сячы не хачу. Прадаў я і свой шнур, і сваю хату з гародам і садочкам, і худобу.

— Хацелася ж Вам выяжджаць?

— Дзе там хацелася! Чы ж можа што-небудзь зраўняцца з нашым краем. Там і людзі свае. І зіма людзкая, ды й лета — ня лішне сьпякота... А тут... ды што і гаварыць. Нічога мне тутка ня міла. Здаецца, і хлеба маю даволі і васьмёра коні, восем кароў ды чатыры цёлкі, авечак пятнаццаць і родзіць нішто, а вось цягне на бацькаўшчыну як тая смага. Усё здаецца, што тутака жыву я да часу, так сабе, пакуль што. Часта дык і праца ня йдзе. Век гультаем ня быў, а тутка дык за работу бяруся праз сілу.

— Ну, поле то ў вас загарана і засеяна добра, ды і ў палетках парадак і праца відаць.

— Пэўне ж, чалавек, працуеш, бо прывык да работы, але ці ж гэтак можна было б узгараць? Ці ж так засеяць? Каб гэта зямля ды была ў мяне там, у Горадзеншчыне,— яна ж была б што тая пярына. Любата. Ня толькі ў полі працуеш, чалавек, бяз тэй лішняй ахвоты, а і каля хаты. Склеп трэ было капаць. Пэўне ж, выкапаў, але ўсё думаў: нашто мне склеп? Усё роўна не надоўга. Ня век жа ж жыць тутака.

Ён задумаўся, і мы йшлі моўчкі. Падходзім да хаты Пракапюка.

— Мо зойдзем? — адазваўся ён.

— Зойдзем,— адказваю.

Ён адчыніў вароты, і мы ўвайшлі ў вялікі і чысты двор. Направа, фасадам да двара і бокам да дарогі, стаяла высокая (каб не замяталі зімой сьнягі), моцная і ўважна пабудаваная хата. Насупраць праз двор такі ж высокі, з ганкам, сьвіран. Праціў варот, у глыбіні двара, крыху направа, стаяла абора і стайня з абгароджаным каля яе дзяньнікам, каля яе налева — гумно з паветкай і абгароджаным гумнішчам. Каля сьвірана была і паветка-вазоўня. Пры хаце — склеп.

У ваўсім адчувалася гаспадарская рука, удумчывасьць, акуратнасьць і працавітасьць.

На ганку хаты стаяла кабета, жонка Пракапюка, з дайніцай і цадзілкай. Гэта была кабета невысокага росту, з вельмі жывымі рухамі, вясёлым тварам і быстрымі добрымі вачамі. На знешні выгляд саўсім не падобная да свайго чалавека.

— Дзень добры! — кажу.

— Дзень добры, дзень добры,— засакатала яна неяк зразу такім тонам, быццам мы з ей ужо з дзяцінства былі знаёмыя і ўсяго пару дзён як не бачыліся.

— Кліч госьця ў хату, Макар, што ж ты стаіш і маўчыш?

— Пойдзем,— сказаў ён мне, і, адвярнуўшыся да жонкі, з маленькай паблажлівай усьмешкай — «добра»,— кажа. Відаць было, што ён любіць гэты жончын шчэбет і яе шпаркасьць, але адносіцца да яе з паблажкай як да дзіцяці.

Мы падняліся па ступеньках на ганак і ўвайшлі праз сені ў хату. Агульнае ўражаньне ад хаты было такое ж, як і ад двара. Усюды гаспадарнасьць, працавітасьць, парадак і чысьціня. Хата на дзьве палавіны з сянямі і каморай у сярэдзіне. Левая палавіна — пякарня, правая — сьвятліца. Мы ўвайшлі ў сьвятліцу. Як толькі я пераступіў парог, мне зразу здалося, што я не ў Сібіры, а на Беларусі, недзе ў Горадзеншчыне ці Меншчыне, сяджу ў беларускай тыповай хаце. Усё тутака было па-нашаму. Ад кождай рэчы, распалажэньня, ад усяго веяла нечым такім знаным і родным. На панадворку ўсё таксама прыпамінае Беларусь, але там агульнае ўражаньне псуюць непамерна высокія будынкі. Вокны хаты з панадворку нельга дастаць нават выцягнутай рукой. Гэта робіцца ў Сібіры дзеля таго, каб узімку сьнягі ня лішне заносілі будынкаў. У сьвятліцы ж прыстасоўвацца для мясцовых кліматычных варункаў такой патрэбы няма, і дзеля гэтага тутака нічога не нарушала свойскага, беларускага аблічча.

Налева ад дзьвярэй стаяла вялікая варыстая печ. Направа, пры зьнешняй сьцяне,— шафка, а пры ўнутранай — услон. У правым куце, проціў дзьвярэй, стаяў стол, пакрыты белым даматканым абрусам; каля стала пры сьцяне — лаўкі, а ад хаты — зэдлі. На сьцяне ў куце былі разьвешаныя абразы як усходняга, так і заходняга тыпу, а на абразох павешаны даматканыя белыя, з аздобнымі канцамі, ручнікі. Са столі спушчалася на дроце карасінавая лямпа. Пры сьцяне, пасярэдзіне яе, стаяла шафа дзьвярамі да стала і засланяла сабой шырокі ложак, каторы стаяў у левым куце пры зьнешняй сьцяне. Паміж ложкам і печчу стаяў вялікі куфар. Усё было на мейсцы, чыста і дамавіта. З вакон відаць была дарога, сьвіран, гумно і добрая часьць двара, а з маленькага ваконца над куфрам можна было бачыць і поле.

— Сядай, сынок,— зьвярнулася кабета ка мне.— Што ж ты ня просіш, Макар, госьця сядаць? Адпачыньце, а мосыраквашы са сьмятанай зьясьце. Добрае ў нас малако, хапае.

І яна ўзноў зашчабятала, заварушылася і шпарка пайшла

за сыраквашай, не чакаючы нашай згоды, і мы асталіся адны.

— Добрую хату маеце,— перабіў я моўчку.

— Нішто, усё сам з сынамі рабіў. Шмат папрацавалі. Ня быў ні столярам, ні цесьлям, а як прышлося, дык і зрабіў тое-сёе.

— Але бачу, што ў вас усё па-нашаму.

— Пэўне ж, па-нашаму, бо не спадручны, ды і няпрывычны нам парадкі тутэйшыя. Усё ў іх тутака ня так. Возьмем паветку. Укапаюць яны тутака слупы, папрывязуюць зьверху замест бэлек жэрдзі ды накідаюць зьверху мятай саломы. Так і трымаюць жывёлу. Як дождж — цячэ, а зімой засыпе сьнегам, дык яшчэ нішто, але і то капае лішне, на вясну дык і зусім дрэнна, бо трэба старую салому зьнімаць і ўсю паветку перарабляць нанова. Мы ж не прывыклі да гэтага. Ды і хаты неяк ня гэтак, як у нас, робяць. Нам трэба, каб усё пад рукой, спрытна было, а яны да гэтага не прывыклі. Ну а багатыя, тыя-то саўсім на гарадзкі лад будуюць, але ў іх гэта неяк ня лішне зручна выходзіць.

Покуль мы гаварылі, прышла гаспадыня і паставіла на стол гладыш сыраквашы, гладышок сьмятаны і хлеба, які меў выгляд разовага пшонага крэндэля; наклала ў гліняныя міскі сыраквашы і сута паліла сьмятанай.

— Ешце на здароўе,— сказала, як усё было прыгатавана.

— Чаму ж вы, цётка, не сядаеце?

— Сядзі, сынок, і еш, а я ўжо пастаю,— адказала яна мне,— так ужо мне спрытней неяк.

— Ну, як жа вам, цётка, падабаецца тутка ў Сібіры?

— Э, якое тут падабаецца, усё тут неяк ня так, як у нас. І людзі ня тыя, і ўсё.

— Ну, але ж хлеба маеце даволі.

— Што ж з таго хлеба... ды і хлеб не такі. Не падрастае. Ось, бачыш, якая перапечка. Неяк блінам пячэцца. Што я толькі ні рабіла: і дзежку сваю прывезла, але, мусіць, перамерзла ці што, і раўгеню рашчыняла, і скарынкі з «нашага» хлеба ў рашчыну падкідала. Не расьце, дый толькі. І боханам яго неяк пячы, пячэм-такі закрутасамі.

— Але другой стравы то хіба ёсьць шмат і добрай.

— Як чаго, бульбы, малака, аўса хапае, але што там казаць, калі тут ані вішанькі, ані яблычка, гуркоў дык колькі гадоў ня бачылі, а ў нас дык і яблыкі, і дулі, і вішні,

і сьлівы: еш — не хачу. А тут дык я ўжо забылася, як гэта ўсё выглядае.

— А ручнікі гэтыя вы тутака ткалі? — спытаўся я, паказуючы на ручнікі, павешаныя на абразох.

— Я ткала, але дома. Тутака і фарбы такой няма. Тчэм толькі белае палатно на апратку, а гэта хаваем толькі для абразоў. Глянеш на ручнік і ўспомніш, як было дома. Хаця хлеба і не хапала, але ўсё ж лепш неяк жылося.

— А тутака ж вы ня «дома»?

— Дзе тут «дома». Ось жывём з дня на дзень, як у гасьцях. Усё здаецца, што дахаты, на бацькаўшчыну паедзем,— сказала яна і раптам, таксама хутка, як і гаварыла, заплакала і стала саромліва выціраць сьлёзы фартухам.

— Там у мяне дома рэдзькаўка, буракі, там усё чыста добра, а тутка ягады адна чаромха ды маліна. У нас чаромхі ніхто ў рот ня браў, а тутака ядуць як нешта Бог ведае якое смачнае. А хлеба?.. Што з таго хлеба, калі маркота па сваіх заядае. І зноў яна неяк шчыра-шчыра заплакала. Мне стала шкада гэтай беднай кабеціны, якую вырвалі з роднай зямлі і ўсе карані пакінулі там, «дома».

— Ня плач, прыдзе час, паедзем,— адазваўся Макар.— Ня век жа ж тут будзем.

— А камары ды машкара,— раптам адазвалася зноў гаспадыня.— Жыцьця ж ад іх няма. Жывёла начыста спухла, а кароў дык нельга выгнаць на пашу. Зблажэе за лета дашчэнту. Шкада глядзець на жывёліну. Ледзь распаліш вогнішча, каб адагнаць гэтую змору, уся худоба прэцца ў дым і агонь. Папякуць сабе капыты, пасмаляць морды, а сьвіню дык летась прыйшлося закалоць, бо лыч дашчэнту асмаліла. У лес і самому нельга носу ўсунуць— заядуць гэтыя камары ды машкара. Сам жа ж ведаеш. У дыме толькі і льга працаваць.

— Пачакайце, цётачка, паедзеце калі-небудзь дамоў. Там будзе лепш,— кажу я.

— Ой, калі ж то ўжо будзе. Птушкай, здаецца, паляцела б. Так ужо абрыдла жыць тутака з камарамі, машкарой ды аваднямі. Каб жа ж тут хоць птушкі цьвіркалі, а то ж не, не пяюць. Ёсьць птушак шмат, ды маўчаць, як панямелі. А гэткіх сінічак, шылахвосьцікаў, сарок я тут і ня бачыла. Войдзеш у лес — ціха, як у труне, толькі і чуваць,

што камары жужукаюць. Няма лепш, як у нас дома,— сказала яна, адвярнулася і, скінуўшы сьлязінку, пайшла ў пякарню.

Мне трэ было ўжо ісьці, я разьвітаўся і пайшоў. Макар мяне праводзіў.

— Прыхадзіце заўтра,— сказаў ён на разьвітаньне.

Пасьля гэтага я штодзень заходзіў да Пракапюкоў. Штодзень мы падоўгу гаварылі аб нашым краі. Кабеціна звала мяне сынком, і было відаць, што кожды мой прыход яна вельмі чакала, «каб успомніць, як было дома». Я ніколі ня бачыў у нас на Беларусі такой прывязанасьці, такой любові да бацькаўшчыны, ніколі і не спадзяваўся, каб у народзе нашым родныя карэньні так глыбока сядзелі. Калі Пракапючыха гаварыла аб бацькаўшчыне, яе твар штохвіліну мяняўся. Яна то плакала, то сьмяялася. Уся душа яе, усё цела, здавалася, толькі тым і жыве і дыша, што ўсе думкі яе былі аб далёкім, страчаным шчасьці — бацькаўшчыне. Нянавісьці да Сібіры ў яе не было, аб ёй яна ня думала, жыла толькі ўспамінамі прошлага і марамі будучага. Здавалася, каб ёй хто сказаў, што яна не вернецца «дахаты», то яна б гэтага не пражыла.

Макар быў тых самых думак, тых самых перажываньняў, толькі ён рэагаваў інакш. Ён з жалезнай воляй, удумчывы, павольны і працавіты ў гэтым жаданьні трапіць калі-небудзь на бацькаўшчыну, чэрпаў сілы і энергію да працы, «каб зарабіць і паехаць», як ён сам часта казаў. Відаць, гэты самы матыў пануджаў і яго жонку працаваць за дваіх.

Пры іх жылі сын 17 гадоў і дачка гадоў 21. Старшы сын быў на вайне. Дзеці — партрэт бацькоў: здаровыя, гожыя і працавітыя. Яны, як і бацькі, глядзелі на сваё тутэйшае жыцьцё, як на часовае, перахадзячае. Калі яны што гаварылі, то гукі іх стала вярцеліся каля далёкага, але не забыванага краю.

Часта мы ўпяцёх, як спадзе дзённая сьпякота, сядалі на панадворку каля невялікага вогнішча ад камароў і доўга гаварылі. Усе закідвалі мяне пытаннямі аб Беларусі. Я ім расказваў аб Горадні, Менску, Вільні, Магілёве і іншых гарадах. Расказваў тое, што сам знаў, а часам прыходзілася і выдумляць, каб заспакоіць іх цікавасьць. Яны сядзелі і слухалі ўважна, перажываючы ўсё глыбока і з вя-

лікай шчырасьцю. Мне ж было нясказна прыемна расказваць ды слухаць іх, бо яны расказвалі проста, але з захапленьнем. Цікавіліся мы ў нашых гутарках усім: і людзьмі, і расьлінамі, і жывёлай, і песьнямі, і прыгодамі ды й проста гутаркамі, якія ішлі з мілага нам краю.

— Ось, сынок,— казала часам Пракапючыха,— каб ты астаўся ў нас. Усё ж лягчэй было б: дужа ж ты лагодны чалавек.

Праз два тыдні я выяжджаў. Уся сямейка далёка мяне праводзіла, а гаспадыня прынесла цэлы кошычак усякай стравы: сьвежага масла, тварожны сырок, сырых і гатаваных яек, а нават і смажанага пеўня. Мне было і прыкра і міла. Як прышоў час расставацца, дык ажно прасьлязілася кабеціна.

— Прыяжджай, калі будзеш у Сібіры. Дужа ж ты добры чалавек,— гаварыла скрозь слёзы яна скрагаворкай.

— Усё ж зразу відаць, наш чалавек,— сказаў Макар паважна і задумаўся.

Прыехаўшы ў Петраград, я доўга памятаў Пракапюкоў. Але падзеі на фронце, неспакойны час перад рэвалюцыяй і ўрэшце сама рэвалюцыя, шалёная праца на грамадзкабеларускім грунце, камуністычны пераварот — закрылі ў памяці маёй сям'ю Пракапюкоў.

Прайшло пяць год. Я ехаў у самым пачатку 1919 года з Петраграда праз Маскву ў Менск. Мне прыйшлося доўга чакаць машыны на станцыі Орша. Трудна ўцяміць сабе, што тварылася ў гэныя дні на чыгуначных вузлах. Той толькі можа сабе выабразіць, хто сам езьдзіў. Тысячы народу ў нейкім надзвычайным хаосе тоўпіліся ўсюды, крычалі, піхаліся, бегалі, тузалі бедных служачых. Аб нечым пыталіся, за нешта таргаваліся. Час ад часу раздаваліся стрэлы, але ў агульным непарадку і напружанасьці на іх ніхто не зьвяртаў увагі. Некага арыштовывалі, за некім гналіся. Падходзіла машына, і ўсе кідаліся да вагонаў, не пытаючыся, куды яна ідзе, колькі каштуе праезд. Людзям у гэтыя трагічныя мамэнты было ўсёроўна, куды ехаць, абы не стаяць на месцы і не чакаць днямі, тыднямі, месяцамі, падрываючы голадам і холадам сваё здароўе, кормючы сваім целам мільядры паразітаў. Хто быў фізычна крапчэйшы, той ня траціў надзеі трапіць у вагон, ха-

ця і яму гэта не давалася дарма. Кабеты ж, старыя ды хворыя асуджаны былі на цэлыя месяцы чаканьня, а часта нават на сьмерць ад галаду ці заразы. Шмат згінула такім чынам ці пад коламі машыны, ці «сваёй» сьмерцю няшчасных, нявінных людзей.

Вы ўходзілі ў салю III ці I клясы, бачылі і тутака цэлае мора людзей. Толькі гэта ўжо былі тыя, каму не хапіла сіл весьці барацьбу за месцы ў вагонах. Ляжалі яны ўсе покатам, шэрыя, жоўтыя, худыя ды страшныя ад зморы ды голаду, на зямлі, на лаўках, сталах, падаконьніках, ляжалі адзін на адным, ляжалі хто як і дзе мог. Вочы ва ўсіх бязмысныя, тупыя. У гэтыя моманты ім было ўсёроўна, што іх чакае. Яны былі бязучаснымі як да іншых, так і да сябе. Тыя ж, стаячыя на пэроне, якіх ужо пакідалі сілы, глядзелі з зайздрасьцю на «шчасьлівых», ляжачых у гразі на зямлі, але ў «цёплай» салі. Яны колькі разоў прабавалі ўжо ўвайсьці ў сярэдзіну. Часам па целах, топчучы рукі ды ногі ляжачым, ім удавалася дайсьці да сярэдзіны салі, але, пераканаўшыся ў тым, што нідзе няма месца, каб іголку праткнуць, ня то што чалавеку легчы,— яны з лаянкай ды пракляцьцямі вярталіся назад і там да апошняга ўздоха сіліліся «ўстроіцца» на машыну, калі такая падходзіла.

Тры дні і дзьве начы я ваяваў бязплодна на пэроне за месца ў вагоне. Я адчуваў, што сілы мае хутка ня вытрымаюць. Колькі дзён я ўжо блізка што ня еў. Шмат разоў падходзіў я пад дзьверы салі, але ўсё бязскутэчна. З роспачу, выбіўшыся да рэшты з сіл, я апошні раз спрабаваў прабрацца ў «пачакальню», якая была за супроцьлеглай сьцяной праз усю салю. Мне здавалася, што там ёсьць «месца». Я стаў ракам і папоўз па ляжачых праз усю салю, агрызаючыся ад тых, каго я закранаў нагой за твар ці за балючыя месцы.

Я прабіраўся гэткім чынам ужо ў дзьверы «пачакальні», як раптам чую: «Сынок! Глянь, Макар, то ж гэта ён».

Я павярнуўся ў тую старану і згледзеў шчасьлівыя, так добра мне вядомыя і мілыя твары ўсёй сям'і Макаравай: тут і сам Макар, і яго жонка Наста, і сын Пётра, і дачка Крыстына, ды яшчэ нейкі салдат, мусіць, іх сын Алесь.

Усе радасна ківалі мне галавамі і клікалі да сябе. Я

пасунуўся да іх, мне далі крыху месца, і мы сталі гаварыць, забыўшыся, дзе мы, і не зважаючы, што ногі млелі ад невыгоднага сядзэньня і вочы зьліпаліся ад сну.

Аказалася, што, калі пачалася рэвалюцыя і як дачуліся, што маюць даваць безьзямельным зямлю,— яны распрадалі ўсю сваё маёмасьць і рушылі «дамоў». Да таго часу дэмабілізавалі і сына іхнага Алеся. Цяпер ужо тры месяцы як прабіраюцца яны шчасьлівыя і радасныя на бацькаўшчыну. Усе цяжкасьці і невыгоды падарожжа пераносяць стойка і цярпліва. «Ну, яшчэ дзякаваць Богу, мы добра едзем,— шчабеча Наста,— усе яшчэ жывыя ды і здароўя хапае. Стравы, сухароў забралі з сабой шмат». І, быццам хочучы пацьвердзіць свае словы, яна зьвярнулася да малодшага сына, кажучы: «Зьбегай, Пётра, прынясі вады, будзем вячэраць». Той устаў і па галовах лежачых людзей папоўз з двума салдацкімі бляшанымі гаршчочкамі па ваду, а як вярнуўся, то Макар, разьвязаўшы торбу, дастаў сухароў, і мы сталі вясёла есьці сухары з вадой пад касыя, зайздросныя позіркі ляжачых суседзяў.

— Ну, як жа ж, Макар, вам не страшна ехаць у Горадзеншчыну? Там мо ўсё зруйнавана. Ні кала, ні двара.

— Э, чаго баяцца, са мной двох сыноў-работнікаў, ды й мы з бабай ня зломкі, ды і Крыстына да работы здатная. Чаго баяцца? Мы ўжо даехалі, дзякаваць Богу, да бацькаўшчыны. Ось бачыш, тут ужо шмат лепш жыць, ды і людзі другія, нашы.

Я падумаў сабе: «Ну, калі па гэтых азьвярэўшых ад нягод, зморы ды голаду нашых суседзях судзіць аб «людзях», то трэба быць вялікім аптымістам». Але Макар і яго сям'я былі так перапоўнены думкамі і шчасьцем з тае прычыны, што яны ўрэшце трапілі «дадому», што ўсё: і людзі, і вада, і невыгоды здаваліся ім цікавай і прыемнай прыгодай.

— А ня шкода ж было вам разставацца са сваёй сялібаю ў Сібіры? — спытаўся я ў Насты.

— Ды яно пэўне ж, столькі папрацаваўшы, дык і шкада крыху было, але не так, каб ужо лішне. Усё ж у дому лепш.

І мы зноў, як там на чужыне, гаварылі доўга-доўга. Уся сям'я Пракапюкоў была самых лепшых думак аб будучыне.




Кляўдуш Дуж-Душэўскі, студэнт Пецярбурскага горнага інстытуту. 1912 год. БДАЛіМ. Друкуецца ўпершыню.

## ЗЯМЛЯК

У далёкай Сібіры, Табольскай губэрні, Тарскім павеце, паміж дзікага, першабытнага лесу, колькісот кілямэтраў ад павятовага гораду ёсьць вёсачка ў 6 хат Асінаўка. Таму яна так называецца, што яе заснаваў «самаход» дзісенец па прозьвішчу Асінаўка. Здарылася мне яго бачыць. Гэта сярэдняга росту, каранасты, з адкрытым тварам, разумнымі жвавымі вачамі чалавек.

Вельмі ён усьцешыўся, калі даведаўся, што я дзісенец — глыбачанін.

— О,— кажа,— ведаю Глыбокае добра. Езьдзіў туды ледзь ня што чэцьвер на кірмашы.

— Дзе вам лепш жылося, тамака ці тутака?

— Тут яно неяк вальней і сытней, але там народ свайчэйшы, спрытнейшы, ды, нат, і лепшы. Ды і гутарка неяк вастрэй.

— Чаму-ж вы думаеце, што тамака народ лепшы?

— А як-жа! Вазьміце. Там у нас «пуга», г. зн. каня толькі папужай, але ня «бі», бо шкада біць, жывёла-ж, а тутака «біч». Каня трэ' знача біць. Яно тутка дурні, толькі крапчэйшыя. У нас тамака «дурні клеяныя», ледзь намок дык і распоўзься, бо кажуць та-ж: «Што ты дурня клеіш». А тутака «дурні валеныя», «дурака валяеш». Пэўна-ж, валенак ня так хутка распаўзецца. У нас тамака «пранікамі» бялізну мыюць, а тутака «пранікі» ядуць.

Я зьбіраўся ехаць, і мне здарылася адчыніць куфар. Угледзеў ён машынку «прымус».

— А, прымус маеш! А ці ведаеш ты, чаму ён завецца «прымус»?

— Ну.

— А бачыш, нальеш у яго карасіны, падпаліш сьпіртам. Сьпірт згарыць, а ён гарэць ня хоча. А калі возьмеш ды натоўхаеш яго добра вось гэтым шворнам (ён паказаў на паршэнь), дык ён шыпіць са злосьці, а ўсё-ж ткі гарыць. Бо яго «прымусілі» гарэць. Таму ён і «прымус».

**Прадмова і падрыхтоўка да друку**
**Уладзімера ЛЯХОЎСКАГА.**

Валянцін ГРЫЦКЕВІЧ

# МІФЫ І ГІСТОРЫЯ

*У духоўным спусташэнні Беларусі вялікую ролю адыграла пазбаўленне беларускае нацыянальнае гісторыі самастойнасці, падпарадкаванне яе расійскацэнтрычнай мадэлі гісторыі.*

*У асвятленні беларускай гісторыі за апошнія сто трыццаць гадоў, ад часоў тлумлення апошняга паўстання супраць імперскага прыгнёту, паназапашвалася шмат расійскацэнтрычных міфаў і легендаў. Памеры працы не дазваляюць спыніць увагу на ўсіх гэтых міфах. Частку іх я разабраў у сваім артыкуле 1982 года «Каб ведалі факты». Ен пабачыў свет з-за ўмяшальніцтва пэўнага аддзела ЦК КПБ са спазненнем на пяць гадоў і быў надрукаваны толькі ў 1987 г.*

*Але перад тым, як ахарактарызаваць асноўныя міфы, якія ўкараняюць нават дасюль у галовы беларусаў, трэба асветліць, што такое міф.*

*Гэтаму і прысвечаны наш артыкул.*

Міф і гісторыя... Звычайна спалучэнне гэтых паняццяў выклікае ўспамін пра месца міфу ў антычным свеце, пра лжэцароў ці пра старца Фёдара Кузьміча з расейскай гісторыі. Але, абмежаваўшы сувязь гісторыі з міфам гэтымі прыкладамі, мы замыкаемся ў тое кола поглядаў на мінуўшчыну, якое нам паслужліва падсоўваюць традыцыйныя гістарычная навука і адукацыя.

Апрача гэтых дзвюх сфераў гістарычных поглядаў, існуюць яшчэ іншыя. Гэта, напрыклад,— гістарычная свядомасць (або гістарычныя веды, якія функцыянуюць у чалавечай свядомасці, якія прасякнутыя каштоўнаснымі элементамі, прадвызначаныя актуальнай сітуацыяй і акрэсленым бачаннем будучыні), гістарычная ідэалогія (або гістарычна-палітычныя дактрыны, гістарычны змест палітычнай ідэалогіі), гістарычная традыцыя

(або частка гістарычнае спадчыны, пэўнай сацыяльнай групы — этнасу, класу, лакальнай групы, сям'і і інш.,— якая ацэньвае і выказвае прынятую пэўнаю групаю сістэму каштоўнасцяў) і, урэшце, гістарычныя міфы.

Усе памянёныя сферы, уключаючы гістарычную адукацыю, гістарычную навуку (вывучэннем апошняй абмяжоўвалі сябе савецкія гісторыкі), складаюць нешта больш агульнае — гістарычную культуру. Гістарычнаю культураю можна было б назваць сістэму каштоўнасцяў, якая замацавалася з дапамогаю атрыманых ведаў пра мінуўшчыну ў пэўнай групе грамадства ў пэўны перыяд, а таксама комплекс твораў, звязаных з пазнаннем і перажываннем мінуўшчыны.

Да розных складовых частак гістарычнае культуры мы абавязкова вернемся. Зараз жа хочацца прапанаваць чытачу размову пра гістарычныя міфы Бо менавіта іхнае існаванне ў гістарычнай адукацыі майго пакалення адыграла фатальную ролю ў мысленні сучаснага беларускага грамадства.

Я маю на ўвазе насаджэнне міфаў «заходне-русізму», міфаў пра існаванне беларусаў выключна ва ўлонні дабрадзейкі матухны Расіі, якая толькі і робіць, што ратуе іх ад «чужынцаў». Дзякуючы настойліваму насаджэнню падобных міфаў грамадства Беларусі было пераарыентаванае з традыцыйных «самастойніцкіх» поглядаў на мінуўшчыну — на імперскія, якія цалкам супадалі з дарэвалюцыйнымі русіфікатарскімі. Гэта не магло не прывесці да рэзкага падзення даверу гісторыкам кшталту Абэцэдарскага. Такія спецыялісты былі перакананыя ў магчымасці неабмежавана маніпуляваць гістарычнаю свядомасцю грамадства, падмяняць гістарычныя веды вышэйпамянёнаю гістарычнаю ідэалогіяй. Адсюль ішла пагарда да фактаў, фальшаванне гістарычных крыніцаў, навязванне гістарычнай навуцы прынцыпаў, выпрацаваных праз палітыку, і гвалтоўнае ўмяшанне ў асновы гісторыі дзеля неадкладнага палітычнага эфекту.

Мне даспадобы іншая пазіцыя — пазіцыя дыялогу, пазіцыя шчырай, адкрытай размовы з грамадствам, гэта значыць, партнёрскія паводзіны. Яны прадугледжваюць адпаведнае стаўленне да пазанавуковых гістарычных уяўленняў, якія непазбежна функцыянуюць у грамадстве побач з навуковымі. Надзённыя пабыто-

выя веды гісторыі складаюцца як з праўдзівых, так і з памылковых элементаў. Некаторыя лічаць, што іх трэба «выкараняць». Я лічу, што трэба разважліва спрабаваць іх рабіць больш навукова абгрунтаванымі. На мой пункт погляду, няма іншага шляху да рацыяналізацыі гістарычнае свядомасці грамадства, а гэта значыць, да разумення ісціны, апроч паступовага выдалення з яе фальшывых элементаў і замяшчэння іх як магчыма добрасумленнымі ведамі.

Ненармальныя ўмовы нацыянальнага жыцця ў часы доўгае няволі ў значнай ступені наканавалі беларусам уяўленні пра сваю гісторыю. З'явіліся стэрэатыпы не тых, хто будаваў, а тых, хто ваяваў і разбураў. Расчараванне спадчынай таталітарызму і сучаснасцю можа прывесці да будавання чарговых гістарычных утопіяў, да «антыміфаў» ці новых міфаў, да стварэння якіх іншым разам заклікаюць з зусім добрымі намерамі ў друку.

Гэтак заўсёды бывае ў пару крызісаў. Гісторыя, якая выракаецца балючых праўдаў, якая кажа толькі тое, што грамадства ў гэты момант хоча пачуць, траціць не толькі магчымасць чаму-небудзь навучаць, але раней ці пазней страчвае аўтарытэт.

Вось чаму я палічыў бы надзённым звярнуцца да досведу сумежных з гісторыяй гуманітарных навук і паспрабаваць разабрацца ў суадносінах міфу і гісторыі.

## РАЗУМЕННЕ МІФУ

Праблема суадносінаў паміж міфамі і гісторыяй дасюль недастаткова высветленая. На праблему міфаў ужо даўно звярнулі ўвагу этнолагі, сацыёлагі, псіхолагі, культуролагі, тэолагі, гісторыкі літаратуры, гісторыкі мастацтва. Гісторыкаў жа грамадства гэтая праблема абмінала. Асабліва гэта датычыць краін былога СССР. Амаль усе гуманітарныя навукі там былі наскрозь прасякнутыя міфамі, а ў доме павешанага аб вяроўцы не гавораць. Мне не ўдалося знайсці ў рускім навуковым друку працаў пра месца міфу менавіта ў гістарычнай думцы. Адна з галоўных прычынаў таму карэніцца ў неадназначных суадносінах тэрмінаў «міф» і «гісторыя».

Азначэнне міфу, якое ўспрымалася б усімі — і на-

вукоўцамі, і неспецыялістамі,— аднолькава, даць цяжка. Тэрмін «міф» мае некалькі значэнняў. Навукоўцы розных профіляў даюць міфу розныя азначэнні — ад этналагічнага ў Тэйлара праз псіхалагічнае ў Юнга да тэасофскага ў Лосева.

Для Эліядэ міф — гэта апавяданне пра падзею, што адбылася ў дагістарычныя часы, для Леві-Строса — гэта сістэма паміж сэнсавымі супрацьлегласцямі, змешчанымі ў розных плоскасцях. Сацыёлагі разглядаюць міф у аспекце першаснасці ў стасунку да ўстойлівасці сацыяльна-культурнае супольнасці (ці культурнае папуляцыі), паколькі ён стварае сацыяльнае быццё. Паводле тэолага Бультмана, міф ёсць аб'ектывацыяй панадсветнага. У гэтым выпадку культурная папуляцыя выступае як крэатура міфу, а той, у сваю чаргу, і ёсць прастора каштоўнасцяў і мэтаў, у якой чалавек жыве. Нутраная праца дзеля пераадолення разыходжанняў міфу і канкрэтных падзеяў, якія перажывае асоба,— і ёсць зместам духоўнага жыцця. Такім чынам, міф стварае, а не тлумачыць сацыяльную рэальнасць.

У вузкім значэнні этнолагаў міф — гэта апавяданне пра багоў ды іхныя ўчынкі, пра пачаткі свету, пра паходжанне рэчаў, з'яваў, устанаўленняў. Пачатковаю, асноўнаю якасцю міфу ёсць вера ягоных носьбітаў у суцэльную верагоднасць міфічнага апавядання.

Паводле меркавання Бэскама, міф ёсць празаічнаю аповесцю, якую грамадства спавядае, лічыць праўдзівым паведамленнем аб здарэннях з даўняе мінуўшчыны і штораз аднаўляе. Этнолагі звяртаюць увагу на тое, што міфічныя здарэнні, развіваныя ў часе, складаюць структуру, якая адносіцца адначасова да мінуўшчыны, сучаснасці і будучыні. У выніку гэтага міф апынаецца ўяўленнем існай і нязменнай (спыненай) рэчаіснасці.

Апісваючы паходжанне элементаў свету, міф аднолькава тлумачыць іх структуру і надае ім сэнс. Паходжанне чагосьці з міфічных часоў складае найвышэйшы сэнс, не патрабуючы ніякіх дадатковых абгрунтаванняў. Міф непасрэдна мадэлюе і асвячае прынцыпы жыцця адзінкі і грамадства, даючы прызнаныя дадзеным грамадствам узоры паводзінаў. Міфічны час ёсць эпохай першых і з гэтае прычыны ўзорных рэчаў.

Другое пашыранае разуменне міфу прыводзіць да прызнання яго своеасаблівага спосабу бачыць і адчу-

ваць свет. Гэты спосаб можа праяўляцца не толькі ў тыповай міфічнай аповесці, але таксама ў іншых формах, прыкладам, у песнях. Такое тлумачэнне міфу стасуецца, як правіла, першабытнага грамадства, ягонага своеасаблівага погляду, мыслення, якое звычайна называюць сымбалічным.

Такое мысленне канкрэтнае, з крайняй антрапамарфізацыяй свету. Пашыраным паняццем міфу карыстаюцца галоўным чынам даследнікі першабытных культураў. Дзеля аналізу гістарычных міфаў, якія функцыянуюць у сучасных грамадствах, яно, хутчэй за ўсё, малапрыдатнае.

Большае значэнне мае ў гэтым выпадку абагульненае паняцце міфу. Яго з роўным поспехам можна аднесці як да першабытнага, так і да сучаснага, суцэльна цывілізаванага грамадства.

## ЧАМУ ЎЗНІКАЮЦЬ МІФЫ

Міфы ўзнікаюць з натуральнае патрэбы чалавека валодаць цэласнаю і асэнсаванаю карцінаю свету, з патрэбы бачыць свет як працяглае існаванне, з патрэбы верыць у трываласць людскіх каштоўнасцяў. Згодна з меркаваннем Л. Калакоўскага, «і роля міфу як стваральніка сувязяў у грамадскім жыцці, і ягоная інтэграцыйная функцыя ў арганізацыі свядомасці асобы здаюцца незамяшчальнымі, асабліва немагчыма іх устараніць на карысць перакананняў, якія рэгулююцца крытэрыямі навуковае веды».

Абагульненая канцэпцыя міфу звязвае гэтае паняцце з пэўным уяўленнем з'яваў мінуўшчыны, сучаснасці або будучыні. Часцей за ўсё спатыканым крытэрыем, які адрознівае міф ад іншых уяўленняў ці поглядаў, ёсць ягоная аб'ектыўная памылковасць. З уяўленнем пра міф звязаная таксама моцная адзінкавая або калектыўная вера ў ягоную сапраўднасць, дзякуючы чаму міф функцыянуе як фактар, які вызначае паставы і паводзіны пэўнай адзінкі ці калектыву і спосаб успрымання імі рэчаіснасці. У гэтым сэнсе тэрмінам «міф» можна ахопліваць розныя формы калектыўнай і індывідуальнай містыфікацыі, такія, напрыклад, як палітычная ідэалогія, стэрэатыпы (нацыянальныя, расавыя, рэлігійныя), мода, прапаганда, рэклама, папулярызацыя кіназорак, спарт-

сменаў, «міс» краін, кантынентаў, свету і г. д.

Да асноўных якасцяў зразумелых такім чынам міфічных уяўленняў залічаюцца эмацыйнасць, нарматыўнасць, апераванне сымбалічнымі клішэ, рытуалізаванымі паводзінамі.

Мірча Эліядэ разглядае міф як рытуалізаваны ўзор паводзінаў. Напрыклад, міф «пакутніцтва і барацьбы за лепшае жыццё», які існуе ў сучасным грамадстве, выводзіцца з традыцыі першаснага хрысціянства. Узоры барацьбітоў-рэвалюцыянераў, якія ідуць на смерць дзеля дабра народу, выходзяць з архетыпу святых і пакутнікаў.

Узор пакутніцтва і барацьбы амбівалентны, двухсэнсоўны. З аднаго боку, ён узаконьвае існую сістэму, уладу, а з другога боку — легітымізуе барацьбу супраць іх. Гэты ўзор вырастае з паняццяў, характэрных для грамадстваў, якія выводзяцца з вёскі і прадстаўнікі якіх цярпелі пакуты, пакуль не прыстасаваліся да іншага асяроддзя і ўладкаваліся ў ім, вялі барацьбу за сваё існаванне ў гэтым асяроддзі, бо страцілі ранейшыя суседскія сувязі і засцянковыя ўзоры паводзінаў. З ходам урбанізацыі і індустрыялізацыі, якія пранікаюць у псіхіку чалавека, гэты ўзор мусіць саступіць месца чамусьці іншаму. Бо ягоная прапаганда на доўгі тэрмін можа быць самагубнаю.

Другі прыклад калектыўнага міфу — ідэалізацыя разбойніцтва і рабунку. Яна таксама пашыралася пасля пераезду вясковых жыхароў у гарады, надаючы годнасць іхнай мабільнасці і, у пэўнай ступені, прадпрымальнасці, актыўнасці. Зараз, са спусташэннем вёскі і стратаю традыцыі працаваць на зямлі, ідэалізацыя рабунку мусіць сустрэць супраціў этнолагаў і гісторыкаў. Варта шукаць больш уяўленняў, якія надаюць годнасць менавіта традыцыі грунтоўнай працы.

Існуе функцыянальная тэорыя міфу, якую прапанаваў этнолаг В. Маліноўскі. Згодна з ёй, міф ёсць абавязковаю часткаю кожнае культуры і безупынна абнаўляецца. Кожная гістарычная змена стварае сваю ўласную міфалогію, хоць яна толькі апасродкавана звязаная з гістарычнымі фактамі. Падобных поглядаў трымаецца Ганна Імбс, якая лічыць, што «міф адыгрывае ў культуры пазнавальную ролю, складае цэласную сістэму, якая фармулюе тэрміны, што ўпарадкоўваюць і высвят-

ляюць свет (...). Міф ёсць асаблівым знакам, які адлюстроўвае лад культуры, здзяйсняе ў ім адначасова падзел і ўніфікацыю парадку вартасцяў і рэчаў, сферы «святога» і даступнага ўсім. Тэндэнцыі выключэння міфу з культуры становяць сабою імкненне замяніць сферу «святога», бо яна ёсць непазбыўнаю воссю культуры. Замена сферы «святога» разбурае культурны лад (...). Гэта ў той самы час і эрозія сілаў, якія ствараюць культуру».

## МІФ І РЭАЛЬНАСЦЬ

Міф жывучы менавіта таму, што прапануе самыя простыя адказы на складаныя пытанні. З гледзішча людзей, для якіх гістарычная навука не існуе,— а гэта тычыцца не толькі першабытных грамадстваў,— міф ёсць ісціна. Назваўшы нешта міфам, навуковец праяўляе крытычнае стаўленне да веранняў або ўяўленняў, якія ён разглядае. Гэтым ён аспрэчвае іхную аб'ектыўнасць і ісціннасць. Міф — гэта тое, што даследнік лічыць вымыслам. Падобнае стаўленне прадвызначае адсутнасць у міфе сапраўдных падзеяў, якія даследнік мог бы пазней вылучыць.

Мае рацыю Поль Валеры, які сцвярджае, што «міф — гэта тое, што гіне пры найменшым удакладненні. Строгі погляд і катэгарычныя высновы, шматлікія і ўзгодненыя ўдары, якія наносіць сваімі пытаннямі жвавы розум, забіваюць міф, прыводзячы да бясконцага збяднення свету, невызначальных рэчаў і ідэяў».

У кожную гістарычную эпоху абшар міфічнага залежыць ад таго, што людзі прымаюць за «рэальнае». Па меры развіцця навукі абшар міфу натуральна пашыраецца, бо навуковыя і філасофскія тэорыі акрэсленыя і мяняюць крытэрыі рэальнага.

Ужо грэцкія філосафы пасля Ксэнафонта называлі міфічнымі традыцыйныя апавяданні пра багоў, несумяшчальныя з вымаганняі розуму. Але яны не крытыкавалі пабудовы свету, у якім адбываліся апісаныя ў міфах падзеі. З развіццём навукі і гэты свет быў аднесены ў міфічныя абшары.

У XIX і XX стст. міф быў падданы суровай крытыцы гісторыкаў. Лічылася, што ён адпавядаў дзяцінству людскога роду. Падобна таму як фантазіі дзіцяці ўводзяць яго ў свет казак, якія пступова высвятляюцца сур'ёзнымі

жыццёвымі ўяўленнямі, так і чалавецтва, яшчэ не асэнсаваўшы сваёй магутнасці над сабою і над светам, дазваляла калыхаць сябе міфамі.

Паводле П. Рыкёра, пасля «збяднення мовы», якое адбылося ў наш час, «міф узбагачае яе па-новаму». Сёння мы адчуваем патрэбу пакінуць спусташальныя метады крытыкі і зноў «задаваць пытанні», бо міфы і сымбалі «прымушаюць задумацца».

Як лічыць Ф. Рэфуле, усе міфы супрацьстаяць гісторыі — апісанню мінуўшчыны. Як распавед, яны лічацца міфамі, калі падзеі, якія яны апісваюць, не адпавядаюць звесткам гістарычнае крытыкі (аналізу гістарычных крыніцаў.— **В. Г.**). Але сярод гэтых міфаў навуковец заклікае адрозніваць міфы, з якімі сутыкаецца этнолаг і якія паказваюць імкненне першабытнага чалавека пазбегнуць прыняцця гістарычнага рашэння, ад міфаў, якія раскрываюць чалавеку новыя магчымасці ягонага існавання і падахвочваюць яго да свабоднага рашэння. І ўрэшце, калі вернікі прызнаюць біблейскую гісторыю ў найбольшай ступені экзістэнцыяльнай, яны перастаюць разглядаць яе як міф. Інакш хрысціянская (дадам: — і іудзейская.— **В. Г.**) вера перастае быць сапраўднай.

У кожны гістарычны момант абшар міфу лёгка мяняецца ад індывіда да індывіда, бо крытэрый рэальнасці ва ўсіх розны. Сёння, напрыклад, можна назіраць, як рацыяналістычны падыход да свету выключае з яго ўсё звышнатуральнае, адносячы да міфу веранні хрысціянаў і іудзеяў, у той час калі вернікі бачаць звышнатуральнае, але адначасова лічаць яго сапраўднаю рэальнасцю.

Таму выбар слова «міф» заўсёды мае на ўвазе карэннае супрацьстаянне рэальнасці. Так, гістарычная навука дае адзін з крытэрыяў рэальнасці. У той ступені, у якой традыцыйныя апавяданні, што адносяцца да падзеяў мінуўшчыны, не супадаюць з рэканструкцыяй мінуўшчыны, якую праводзіць сучасная гістарыяграфія, яны лічацца міфічнымі. У шырокім сэнсе мы называем міфам кожны аповед, які мы не можам узгадніць са звесткамі гістарычнае крытыкі. Менавіта на аснове гэтае крытыкі сучасныя гісторыкі лічаць міфічнымі імёны першых цароў Крыту і Рыму. На той жа падставе герой швейцарскай легенды, якая адлюстравала барацьбу швейцарцаў супраць Габсбургаў у XIV ст., Віль-

гельм Тэль лічыцца міфічнаю асобаю. Сапраўды, няма сведчання пра існаванне швейцарскага гараджаніна з такім імем і прозвішчам. Як няма сведчання пра існаванне габсбургскага намесніка Германа Геслера, якога паводле падання забіў Тэль. Адначасова можна даказаць, што падобныя апавяданні існавалі ў шматлікіх краінах аж па самую Індыю.

У разгледжаных выпадках апавяданні лічацца міфічнымі, бо яны не адпавядаюць паслядоўнасці падзеяў, якую высветліла сучасная навука. Але гісторыя, апісваючы падзеі, не абмяжоўваецца фіксаваннем грубага шэрагу падзеяў, якія адбываліся ў пэўны час і ў пэўным месцы. Яна імкнецца знайсці значэнне і важнасць гэтых падзеяў, зразумець іхны сэнс. Іншым разам аказваецца, што значэнне, нададзенае гістарычным падзеям сучаснымі гісторыкамі, не супадае са значэннем, якое прыпісвае ім традыцыя.

Напрыклад, ангельскія бароны ў XIII ст. дамагаліся ад каралёў пэўнага абмежавання правоў кароны. Аднак яны не лічылі гэта новаўводзінамі, а ўсяго толькі вяртаннем да «добрых старых часоў» караля XI ст. Эдуарда Спавядальніка, калі нібыта дзейнічалі «справядлівыя» законы. У існаванні Эдуарда Спавядальніка сучасныя гісторыкі не сумняваюцца, але яны не падзяляюць стаўлення баронаў да ягоных законаў, як «добрых» і «справядлівых». Эпоха Эдуарда была не залатым векам, а звычайнымі варварскімі часамі. Таму сучасныя гісторыкі існаванне справядлівых законаў пры Эдуардзе Спавядальніку адносяць да міфалогіі. У гэтым выпадку міфічныя «справядлівыя» законы прыпісваюцца сапраўднай асобе.

Тое ж адносіцца да ўзяцця ў 1789 годзе Бастыліі, адкуль нібыта былі вызваленыя «няшчасныя» вязні. Насамрэч, у гэтай турме сядзелі звычайныя крымінальнікі — фальшываманетнік, крывазмяшальнік, вядомы сваімі ненармальнасцямі маркіз дэ Сад і падобныя асобы.

Асобныя аўтары разважаюць пра міф «вызвалення Парыжу» ад гітлераўцаў. Сам факт вызвалення Парыжу сумненню не падлягае. Аспрэчваецца толькі інтэрпрэтацыя, якую надаюць яму тыя ці іншыя палітычныя партыі, значэнне, якое гэтыя партыі ў ім вышукваюць. Інакш кажучы, гісторыкі адносяць да міфаў не толькі апавяданні, нязгодныя з гістарычнымі падзеямі,

але таксама іхнае тлумачэнне, заснаванае на гістарычнай рэальнасці. У якасці бліжэйшых да нас прыкладаў можна было б прывесці спрэчкі пра Варшаўскае паўстанне 1944 г., пра забойства польскіх афіцэраў у Катыні, жыхароў Беларусі ў Курапатах (у апошнім выпадку міфічнымі лічацца версіі, нібыта ў Курапатах фашысты забівалі гэбраяў з менскага гэта ці савецкія НКВДзісты забівалі калабарантаў) і г. д.

Хочучы карыстацца крытычным метадам, мы павінны правільна ацэньваць ягоныя магчымасці. Наўрад ці варта цалкам падпадаць пад ягоны ўплыў. Дзякуючы даследаванням нашай эпохі мы асэнсоўваем і абавязковыя запатрабаванні розуму, і абмежаванасць гістарычна-крытычнага метаду.

## ФУНКЦЫЯ МІФУ

Функцыя міфу палягае на тым, што ён уключае чалавека ў суцэльнасць Сусвету. Гэтае намаганне людскога ўяўлення інтэгруе ўсю сукупнасць людскога досведу, чаго не могуць зрабіць ані навука, ані тэхніка. Паводле Л. Жыяра, роля міфу палягае на тым, каб увесці чалавека ў рэальнасць, якая перасягае яго ва ўсіх адносінах і да якой трэба прыстасавацца, каб выжыць. Папярэджваючы тугу і смерць, міф прыходзіць на дапамогу да чалавека, штораз актуалізуючыся праз абрад. Д. Хэмпэл адзначае, што міф аднолькава абапіраецца як на гісторыю, так і на сучаснасць, у якой жыве чалавек і ў якой ён імкнецца жыць у бяспецы.

Не дзіва, што міфы звязаныя з гістарычнаю сітуацыяй: іхная роля палягае на тым, каб абгрунтаваць яе. Яны мяняюцца адначасова з ёю і нават паміраюць, калі выявіцца, што не выконваюць сваіх функцыяў. Леві-Строс звяртае ўвагу на зменлівасць татэмічных міфаў. Тое ж, паводле Ф. Рэфуле, стасуецца да апакаліптычных міфаў. Яны нараджаюцца ў асабліва трагічныя перыяды гісторыі і гінуць, калі хада падзеяў іх больш не апраўдвае. Так было на руінах эсхаталагічных і апакаліптычных надзеяў, якія скончыліся падзеннем Ерусаліма ў I—II ст. н. э. Гэта нарадзіла новае вучэнне гнастыцызму. Крах апакаліптыкі выклікаў да жыцця новыя формы рэлігійнага «самавыражэння», у якое перайшлі старажытныя веранні.

Будучы звязаным з гістарычнай сітуацыяй, мяняючыся адначасова з ёю, міф прымітыўных народаў у той жа час самою сваёю прыродаю негістарычны. Гэта аднолькава стасуецца як да міфаў апакаліптычных, так і да міфаў касмаганічных і этналагічных — пра паходжанне свету і пэўнага этнасу. Апошнія два міфы апраўдаюць, як пачала існаваць нейкая рэальнасць; ці то Сусвет, ці то ягоная частка, выспа, пэўная ўстанова або практыка, стэрэатып паводзінаў, рамяство. Яны імкнуцца надаць рэальнасці, якой бы яна ні была, сутнасны характар. Міф робіць яе саўдзельнай панадчасоваму, вечнаму.

Разам з тым міф не ведае гістарычных падзеяў і не патрабуе іх. Тое, што ён абвяшчае, не адбывалася тут, але адлюстроўвае касмічны, незмяняльны, лёс чалавека.

Міф адлюстроўвае не толькі касмічны лёс чалавека, але і структуру грамадства, у якім ён жыве, бо звязвае яе з прыродай. Ва ўсялякім выпадку, гэта адносіцца да татэмных міфаў.

Перавод рэальнасці ў міфе адбываецца шляхам пераносу падзеяў у абшар пазачасовага. Міфы аб паходжанні ці стварэнні імкнуліся «ўмацаваць» чалавека, зрабіць яго гаспадаром свайго лёсу, зводзячы на нішто падзейнасць жыцця. Яны давалі чалавеку магчымасць расправіцца з магутнымі сіламі, ад якіх ён залежаў.

Згодна з П. Рыкёрам, «гісторыя міфу — гэта барацьба з падзеяй, яна ўяўляе сабою намаганне грамадства, скіраванае на знішчэнне ўзбуральнага ўздзеяння гістарычных фактараў, яна імкнецца адмяніць гісторыю, паслабіць падзейнасць жыцця, пад яе ўздзеяннем гісторыя і яе пазачасовая мадэль узаемна адлюстроўваюць адно аднаго, змяшчаючы ўяўленне гісторыі і ствараючы з гісторыі дакладны вобраз продкаў, дыяхранія пэўным чынам спалучаецца з сінхраніяй так, каб паміж імі не ўзніклі новыя супярэчнасці».

Міф, такім чынам, раскрываецца як спантаннае імкненне чалавека адысці ад патрабаванняў, якія яму выстаўляе падзейнасць жыцця, ад неабходнасці выбару. Чалавек імкнецца знішчыць сваё гістарычнае існаванне.

Апакаліптычныя міфы, як відаць, не маюць дачынення да мінуўшчыны. Аднак зроблены аналіз міфу можна дастасаваць і да іх. Калі верыць М. Бубэру, «штораз, калі чалавек з жахам адступаецца ад пагрозы не-

пасільнае працы і імкнецца пазбегнуць таямнічых патрабаванняў, якія накладае на яго гісторыя, перад ім амаль у апакаліптычным уяўленні паўстае працэс, які немагчыма спыніць».

Папраўдзе апакаліптычныя міфы ўяўляюць сабою спосаб нейтралізацыі гістарычнага жыцця, ухілення ад рашэння, якога патрабуе сучаснасць. У апакаліптыцы канец гісторыі не належыць гісторыі як такой, будучыня ўяўляецца як незалежная ад сучаснасці, ад вольнага рашэння, якое прымае чалавек. Выратаванне, якога чакаюць,— гэта выратаванне, якое, як кажуць, даецца па даверанасці.

Такім чынам, адлюстроўваючы гістарычную сітуацыю, міф у той жа час супрацьстаіць гісторыі не толькі сваёй пазачасовасцю і ў гэтым сэнсе агістарычнасцю, але імкнецца дапамагчы чалавеку знішчыць сваё сапраўднае быццё. Інакш кажучы, міф супрацьстаіць не толькі гісторыі, якую пішуць, але, магчыма, гісторыі, якая адбываецца.

Аднак, як зазначае Эліядэ, міф уяўляе сабою адну з велізарных рухальных сілаў гісторыі, якія, будучы мадэлямі, што не адчуваюцца дотыкам, павінны былі б паралізаваць людскую ініцыятыву. Але папраўдзе яны стымулююць чалавека да стварэння, яны бесперапынна адкрываюць новыя перспектывы для ягонага вынаходлівага розуму. Супакойваючы чалавека, робячы яго гаспадаром свайго лёсу, запэўніваючы яго, што тое, што ён збіраецца зрабіць, ужо рабілася, міф дапамагае чалавеку адкінуць сумнеў у выніку свайго пачынання. Як сведчыць гісторыя гэбрайскага народу, апакаліптычныя міфы натхнялі людзей на смелыя рашэнні і здзяйсненні.

Ці ўсе расповеды, якія гісторыкі акрэсліваюць як міфы дзеля іх неадпаведнасці звесткам гістарычнае крытыкі, будуць міфалагічнымі таксама з прычыны іх няўзгодненасці з гісторыяй як з тым, што адбываецца? П. Рыкёр лічыць такое абагульненне няслушным. Поруч з татэмістычнымі міфамі, варта прызнаць існаванне «гістарычных міфаў», сэнс якіх не вычэрпваецца адпаведнымі сацыяльнымі інстытутамі, але можа быць свядома і свабодна зразумелы ў межах аднаго і таго самага семантычнага поля.

Да гэтай катэгорыі міфаў належыць міф пра Вільгельма Тэля. Мэта міфу ўжо не ў тым, каб нейтраліза-

ваць падзейнасць, але каб раскрыць чалавеку магчымасці ягонага існавання, якое інакш ён бы не спазнаў. Да гэтае катэгорыі, паводле П. Рыкёра, трэба залічыць біблейскія міфы. Сапраўды, хоць Р. Бультман, Г. фон Рад, П. Рыкёр разглядаюць Святую гісторыю як міфічную, яны, тым не менш, цвердзяць, што біблейская думка сваёю глыбіннаю сутнасцю антыміфічная. Ёсць падстава лічыць, як запэўнівае Р. Бультман, што біблейская гістарыяграфія пранізвае сучаснасць усведамленнем адказнасці перад аблічча праклёнаў і блаславенняў, якія дайшлі ў спадчыну з мінулага, і перад будучыняю, якая прынясе выратаванне або смерць. Гэта казань, звернутая да народаў, казань, якая кажа кожнаму пра ягоную адказнасць. Старазапаветныя ўяўленні, у высокай ступені экзістэнцыяльныя, не маюць нічога супольнага з міфалагічнымі канцэпцыямі. Святая гісторыя — гэта не гісторыя-апісанне, гэта ў найвышэйшай меры гісторыя, якая адбываецца.

## ГІСТАРЫЧНЫ МІФ

Пад гістарычным міфам можна разумець уяўленне, якое ў апісальнай форме стасуецца да пэўнае гістарычнае з'явы, г. зн. да падзеі, якая пацвярджаецца гісторыкамі з дапамогаю крыніцаў.

Тэрмін жа «гісторыя» змяшчае ў сабе два сэнсы: гісторыя як навука, што вывучае мінуўшчыну, і гісторыя як тое, што адбываецца з грамадствам у часе і прасторы. У першым сэнсе мы лічым гісторыяй расповед пра людскую мінуўшчыну, адносна верагодны, храналагічна ўпарадкаваны, унутрана арганізаваны, змешчаны ў гістарычным кантэксце, які мае непасрэднае ці апасродкаванае дачыненне да гістарычнае рэчаіснасці.

Калі расповед пра мінуўшчыну не адпавядае гэтым вымаганням або хоць аднаму з іх, гэта значыць, яго можна назваць «парагісторыяй», тым, што знаходзіцца «каля» гісторыі. Прыкладамі парагісторыі могуць служыць утопія, большая частка мастацкае літаратуры на гістарычную тэму і міф.

Гістарычны міф, як і ўсялякі міф,— з'ява натуральная. Яна задавальняе не задаволеныя гістарыяграфіяй духоўныя патрэбы чалавека. Аб'ектам міфатворчых аперацыяў могуць быць як даўнія, слаба пацверджаныя

крыніцамі часы, так і здарэнні і з'явы нядаўняе мінуўшчыны, якія адбываліся на вачах пакалення, што яшчэ жыве, а гэта значыць, прынамсі ўяўна добра вядомыя.

Нас цікавіць механізм узнікнення менавіта гістарычнага міфу, а не іншага. Ён высветлены недастаткова. Прыклады такіх механізмаў прыводзяцца на канкрэтным матэрыяле ніжэй. Некаторыя мяркуюць, што вялікі ўдзел у стварэнні і распаўсюджванні гістарычных міфаў бяруць самі гісторыкі. Спецыялісты часта не асэнсоўваюць крытычна досвед і перакананні свайго грамадзянскага асяроддзя, светапогляду, ідэалагічнай плыні, навуковай школы. Карыстаючыся пэўнаю сістэмаю каштоўнасцяў, яны ўносяць яе ў працэс пазнання. Затым гісторык, ацэньваючы мінуўшчыну, падмацоўвае сваю суб'ектыўную ролю ў працэсе яе пазнання.

Паводле М. Эліядэ, самую гістарыяграфію можна лічыць працягам міфічнай думкі, паколькі яна выконвае функцыю, падобную міфу ў традыцыйных грамадствах. Гэта можна заўважыць не толькі, як лічыць Эліядэ, у даўніх хрысціянаў і летапісцаў, але таксама і ў шматлікіх найноўшых гісторыкаў.

Гістарычнасць міфу ў пэўнай ступені ўмоўная. Яна датычыць толькі ягонае вонкавае абалонкі, а не сутнасці, якая носіць безгістарычны характар. Вельмі сумнеўнае меркаванне, нібыта гістарычны міф ёсць гістарычным фальшам. Не кожнае памылковае ўяўленне пра гістарычны факт ёсць міфам. Вытокі «фальшу» гістарычнага міфу выплываюць з няведання або памылковага прачытання гістарычных крыніцаў.

З другога боку, гістарычны міф часта звяртаецца да фактаў сапраўдных, пацверджаных гістарычнымі крыніцамі, хоць і ўціскае іх у рамкі акрэсленых архетыпных схемаў.

Традыцыя ў суб'ектыўным сэнсе — гэта асноўнае ўяўленне пра мінуўшчыну, якое ўплывае на механізм людскіх дзеянняў і перажыванняў, а таксама акрэслівае погляды на сучасную рэчаіснасць. Таму незалежна ад таго, ці тая традыцыя сапраўдная ці цалкам выдуманая, у суб'ектыўным сэнсе яна мае містычны характар. Традыцыя ёсць міфам з увагі на механізмы яе ўздзеяння і рэакцыі, якія яна выклікае ў чалавеку.

Гістарычны міф, як правіла, аб'ектыўна фальшывы,

але суб'ектыўна ён заўсёды праўдзівы. Міф — гэта тое, у што шчыра і свята верацы, што прымаецца без доказу, як абсалютная праўда. Міфічнае стаўленне да мінуўшчыны характарызуе эмацыйнасць і спрашчэнне складаных гістарычных з'яваў.

Гістарычныя факты выконваюць на глебе міфічнага мыслення ролю сымбаляў, якім аддаюць перавагу ў пэўным грамадстве ці, наадварот, якія сымбалізуюць сілы зла, падлеглыя выключна асуджэнню. Міф ёсць словам, якое акрэслівае ягоныя намеры больш за ягоную «літару».

Гістарычны міф служыць перадачай пэўных вартасцяў, пажаданняў і падзеяў, апавядаючы не гэтулькі пра тое, што было, колькі пра тое, як павінна быць. Такім чынам, ён апранае ў гістарычную вопратку «надчасовыя» ўзоры паводзінаў, прынятыя і асвячоныя іхнымі носьбітамі.

Адна з важных якасцяў міфічных уяўленняў — іхная нарматыўнасць. Міфы навязваюць узоры паводзінаў і складаюць істотную частку матывацыі людскіх дзеянняў, усё роўна, ідзе гаворка пра паводзіны адзінак ці групаў.

Міфічная свядомасць можа суіснаваць з навуковым светапоглядам. Гэта стасуецца да гістарычнага мыслення, якое мае нібыта два пласты — навуковы і міфічны. Гэты другі пласт можна знайсці не толькі ў гістарычнай свядомасці шырокіх колаў грамадства, але таксама і ў людзей са спецыяльнай адукацыяй, значыцца, і ў гісторыкаў, і ў іхных працах. Пра пэўныя абшары мінуўшчыны мы можам мысліць навуковым спосабам, у выпадку іншых мы падпарадкоўваемся міфам. Гэты працэс стыхійны, і ён цяжка паддаецца кантролю.

## ГІСТАРЫЧНЫ МІФ ЯК ЧАСТКА ГІСТАРЫЧНАЕ КУЛЬТУРЫ

Гістарычны міф складае істотную частку гістарычнае культуры. Кожная нацыя і кожная гістарыяграфія маюць свае міфы. Свой асобны пункт погляду на Суворава, Касцюшку, Пілсудскага маюць расейцы, беларусы, палякі, літоўцы.

Гістарычны міф у грамадскім жыцці можа выконваць шмат станоўчых функцыяў. Ён можа быць, і гэта бывае часцей, разбуральным элементам.

Вышэй згадвалася аб'яднаўчая функцыя міфаў. Важная іх дыдактычная, адукацыйная роля. Яна разлічвае, між іншым, на прапаганду грамадска каштоўных вартасцяў, напрыклад, патрыятычных і грамадзянскіх паставаў.

Але ўвогуле міфы прыносяць больш шкоды, чым карысці, бо яны скажаюць вобраз мінуўшчыны, робяць немагчымым правільнае разуменне гістарычныга працэсу і механізмаў грамадскага жыцця, неаднойчы прыводзяць да значных памылак у практычных дзеяннях.

Возьмем, напрыклад, «ягелонскі» міф. Ён абцяжарваў разуменне адмоўных вынікаў польска-літоўска-ўкраінска-беларускіх дзяржаўных уніяў, якія вялі пачатак ад вялікага князя, а потым караля Ягайлы і ягоных нашчадкаў. Пэўны час (падчас вызваленчых войнаў 1794, 1812, 1830—1831 гг., паўстання 1863 г.) гэты міф адыгрываў інтэграцыйную ролю, гуртуючы актыўныя колы грамадства розных этнасаў былое Рэчы Паспалітае супраць іншаземнай агрэсіі і дэспатыі. Але калі яго пачалі рэанімаваць на пачатку XX ст., польскія ўлады не ўлічылі нацыянальнага абуджэння ўсходніх суседніх з Польшчай этнасаў. Гэты міф адцягваў увагу палякаў ад іхных заходніх земляў, што знаходзіліся пад нямецкім панаваннем. Ён прыводзіў да ідэалізацыі ўзаемнага суіснавання Літвы з Каронаю і падтрымліваў у асяроддзі польскага грамадства ілюзіі магчымай адбудовы Рэчы Паспалітай у яе даўніх тэрытарыяльных межах, зразумела, пад польскім кіраўніцтвам. Адмоўныя вынікі гэтага далі сябе знаць у 1918—1920 гг. Тады адбывалася барацьба за межы паміж узноўленымі Польшчай, Літвой, Украінай, Беларуссю. Зразумела, гэта выкарыстала ў сваіх мэтах спадкаемца Расійскай імперыі Савецкая Расія.

У польскім грамадстве не здолелі зразумець, што літоўцы, украінцы, беларусы не жадаюць больш дзяржаўнага звязу з Польшчаю. А без іхнае згоды немажна было марыць пра ўзнаўленне уніі. Паддаючыся міфам, польскія грамадскія дзеячы не здолелі рэальна ацаніць актуальную палітычную сітуацыю на ўсходзе і наканавалі Польшчы паразу ў 1939 г.

Утапічнасць гісторыі, яе гераізацыя служаць петрыфікацыі (акамяненню) міфаў, створаных у грамадстве

або самастойна, або дзякуючы мастацтву і літаратуры як выраз аўтэнтычных грамадскіх патрэбаў.

Калі мы вышэй разглядалі міф, паводле Эліядэ, як рытуалізаваны ўзор паводзінаў, мы не краналіся дылемы гісторыка. На этапе ўтварэння міфу гэта дылема паміж ягоным зместам і праўдаю, а на этапе петрыфікацыі — супярэчнасць паміж даўнімі ўзорамі і новымі грамадскімі патрэбамі.

## ПАЛІТЫЧНЫЯ МІФЫ

Традыцыя і гістарычныя веды маюць асаблівае значэнне ў фармаванні палітычных міфаў, шчыльна звязаных з гістарычнымі міфамі. Е. Мялецінскі ў «Паэтыцы міфу» пісаў, што палітычныя міфы не ёсць «відавочнай хлуснёю ці пацверджаннем праўды. (...) Міф з інструмента першаснага вобразнага мыслення (...) інтэлектуальна пераўтвараецца ў інструмент палітычнай дэмагогіі, якая надае ідэалогіі натуральны выгляд».

Паводле культуралісцкіх поглядаў на палітычны міф, апошні ёсць складанаю псіхічнаю структураю, што ўзнікае ў выніку калектыўнае несвядомасці, агульнае для ўсіх людзей. Згодна такім поглядам, у свядомасці змяшчаецца ўсё, і калі несвядомае выяўляецца праз свядомасць, знікае праблема таго, што праходзіць межы свядомасці. Таму Е. Тапольскі падкрэслівае, што міфы паўстаюць стала, бо адной з якасцяў чалавечага мыслення ёсць міфалагізацыя, спыненне ведаў, змена іх кваліфікацыі ў пэўны момант, на дадзеным этапе. Пазнанне пашыраецца, даследніцкія метады развіваюцца, а веды, якія калісьці былі навуковымі, нязменнымі, пераўтвараюцца ў міф. Першасныя людскія веды таксама адлюстроўваюць свет ненавуковым спосабам, хоць, можа, і слушным. Калі акажацца, што веды сапраўдныя, тады іх можна разглядаць не як міф, а як толькі ўспамін пра міф, які пацвердзіўся.

З'яўленне палітычных міфаў суправаджаецца псіхічнымі працэсамі: скажэннем памяці, забываннем, фантазіяй. Кожнае людское дзеянне абапіраецца на якія-небудзь матывацыі, часта ірацыянальныя і ўгрунтаваныя на ведах, атрыманых падсвядома. Пацверджанне гэтаму — назіранні за масавымі паводзінамі грамадскіх рухаў і псіхалогіяй натоўпу. З'яву міфалагізацыі і даг-

матызацыі навуковых ведаў тлумачыць псіхолаг Л. Фэстынджэр. Ён заўважыў, што ў момант нарастання спрэчнасцяў між поглядамі і пастаўамі людзей і грамадскай рэчаіснасцю або ў сітуацыі, калі рэчаіснасць немагчыма дастасаваць да людскога ўспрымання, калі нельга змяніць погляды, не парушаючы іхных ідэалагічных падставаў, тады прыходзіць у рух неўспрымальная псіхалагічная сістэма. Яна палягае на тым, што чалавек не ўспрымае невыгодную і некарысную інфармацыю. Неўспрымальны механізм людской псіхікі прыводзіць да таго, што засвоеныя калісьці навуковыя веды застаюцца эмацыйна «нейтралізаванымі» і «вышараванымі» са свядомасці. Чалавечая асоба становіцца абыякавай да ўсялякіх вонкавых стымулаў і аргументаў. Дагматызацыі навуковых ведаў спрыяюць яшчэ стэрэатыпы і міфалагізацыйны стылі мыслення і дзеяння.

Сацыяльная псіхалогія дала ўжо шмат доказаў залежнасці між працэсам забывання і людскімі паставамі. Хутчэй забываецца тое, што не згодна з паставамі, чым тое, што супадае з імі. Гэтая навука спрабуе таксама знайсці адказ на пытанні, якія датычаць залежнасці між якасцямі чалавечай асобы і схільнасцю да стэрэатыпнага і міфалагізацыйнага мыслення і дзейнасці.

Да тыповых палітычных міфаў адносяцца міфы, якія ўводзіла камуністычная партыя і яе цяперашнія паслядоўнікі ў розумы грамадзянаў нашай краіны і замежжа. А. Ролік пералічвае некаторыя з іх. Гэта міфы:

— аб уяўнай агульнанароднай уласнасці (хоць фактычна яе гаспадаром была партыйная верхавіна);

— аб адсутнасці класу эксплуатататараў у сацыялістычным грамадстве (хоць у дэмакратычных краінах з рынкавай эканомікай ці «капіталістычнай сістэмай» ад выраблeнага прадукту на заробак працоўным ішло 30—60 %, а ў СССР ад 5 да 15 %, і яшчэ каля пяці працэнтаў ад выраблeнага прадукту вярталася дзяржаве ў выглядзе г. зв. «бясплатнага» медыцынскага абслугоўвання і адукацыі);

— аб правільнасці марксісцка-ленінскай тэорыі (хоць «у імя сусветнай сацыялістычнай рэвалюцыі» былі знішчаныя дзесяткі мільёнаў людзей, а народы краін, дзе карысталіся гэтаю тэорыяй, прыйшлі да агульнага заняпаду, да адсталасці ў эканоміцы, да вынішчэння навакольнае прыроды);

— аб тым, нібыта эканамічны крызіс на тэрыторыі былога Савецкага Саюза ёсць вынікам распаду адзінай эканамічнай прасторы і былых эканамічных сувязяў (хоць у савецкай прэсе 60—70-х гг. увесь час пісалі пра безупынны зрыў паставак з прадпрыемстваў розных частак былой краіны);

— аб тым, што пры камуністах у СССР быў устойлівы дабрабыт, а тагачасны рубель быў стабільны (хоць адносны дабрабыт 60-х гг. быў вынікам ранейшага рабавання вёскі, прымусовае працы мільёнаў грамадзянаў, безагляднага рабунку айчынных прыродных рэсурсаў. Але ў пачатку 70-х гг. лёгка дасягальныя радовішчы прыродных багаццяў былі вычарпаныя, было цяжка набываць тавары, выраслі чэргі, грашовая маса не забяспечвалася таварамі, масавае спойванне насельніцтва нізкаякасным вінам дасягнула небывалага ўзроўню);

— аб высокай прадукцыйнасці калгасаў і саўгасаў (у Беларусі на душу насельніцтва ворнае зямлі прыпадае больш за заходнееўрапейскія краіны, але чвэрць неабходнага збожжа ў рэспубліку імпартуецца).

У 1978 г. Віктар Някрасаў разгледзеў міфы, звяз.-ныя з камуністычнай партыяй. Адзін з гэтых міфаў — міф пра сілу партыі. Яна, сапраўды, была моцная, але таму, што ў яе быў КДБ, таму, што яна вырашала ўсё за ўсіх. Папраўдзе ж яна была слабая — з-за боязі свайго народу, каб той не даведаўся тое, чаго яму было не варта ведаць, з-за страху перад дысідэнтамі, але больш за ўсё таму, што кіраўнікі партыі баяліся адзін аднаго.

Міф аб праўдзівасці партыі абвяргаўся яе беспрынцыповасцю, бо ў СССР то ганілі Гітлера і фашызм, то сябравалі, а то ваявалі з імі. Газеты, радыё, тэлебачанне, мастацкая літаратура, сходы, мітынгі, школа — усё было прасякнута хлуснёю і падманам.

Міф пра дысцыплінаванасць партыі грунтаваўся на боязі яе членаў страціць свае месца. Міф пра любоў народу да партыі абвяргаўся агульнаю нянавісцю народу да яе, недаверам рабочых і сялянаў да інтэлігента, бо ў ім (часцей за ўсё слушна) падазравалі партыйца.

Палітычныя міфы могуць мабілізоўваць мільёны людзей на барацьбу за слушныя мэты, напрыклад, за вольнасць, за грамадскую справядлівасць. Але часцей яны каламуцяць яснасць поглядаў, настаўляюць палітычныя думкі на заганны шлях.

Варта адзначыць найбольш значныя рысы міфічнага мыслення, а менавіта перавагу ў ім дагматызацыі гістарычных ведаў, высноўванне з яго практычных рэкамендацыяў, пазбаўленне гісторыі руху. Чалавек, які мысліць міфалагічна, не бачыць дынамікі гістарычнага працэсу, глядзіць на сучаснасць скрозь прызму нерухомых гістарычных уяўленняў.

## СТЭРЭАТЫПЫ

Прыкладам міфалагічнага мыслення служаць стэрэатыпы. Стэрэатыпамі завуцца схематычныя, стандартызаваныя вобразы сацыяльных з'яваў ці аб'ектаў, спрошчаныя ўяўленні аб пэўных постацях, грамадскіх, этнічных, рэлігійных групах, установах, краінах. Звычайна яны эмацыйна афарбаваныя і вельмі ўстойлівыя. Стэрэатыпы — гэта звычайна перадузятыя ўяўленні, фальшывыя вобразы, «хадзячыя» меркаванні, звязаныя з групавымі (класавымі, расавымі, этнічнымі, рэлігійнымі і г. д.) забабонамі.

Падобныя стэрэатыпы ёсць вынікам дагматызацыі гістарычнага міфу. Упершыню гэты тэрмін у сацыялогію ўвёў амерыканскі публіцыст Уолтэр Ліпман (1922).

Этнічныя, расавыя, рэлігійныя і іншыя групавыя стэрэатыпы не варта ацэньваць з гледзішча сучасных настрояў, нельга іх разглядаць выключна праз прызму этнасу, расы, рэлігіі, якія яны кранаюць. Цяжка патрабаваць ад нашых продкаў халодных ацэнак. Яны ў свой час актыўна не ўспрымалі ерэтыкоў ці «вядзьмарак» (як мы — «агентаў замежнага імперыялізму», «ворагаў народу», прадстаўнікоў «варожых класаў», «рэакцыйных нацыяў»).

Як сумясціць памяць аб рахунку крыўдаў, што існуюць паміж дзвюма сацыяльнымі групамі — этнасамі, класамі, расамі, вернікамі? Патрэбнае шчырае папярэджанне, каб процідзейнічаць групавой нянавісці. Гэта можа здацца задачаю накшталт квадратуры кола, але выйсце ёсць: трэба сумленна прызнаць праблему і выклікаць неаднабаковыя дыскусіі, як такую задачу вырашаць. Г. зн. выйсце можа быць толькі адно — шчырае папярэджанне. Прыкладам можа служыць разгляд «змоўніцкай тэорыі гісторыі».

# ЗМОЎНІЦКАЯ ТЭОРЫЯ ГІСТОРЫІ

Прыхільнікі гэтае тэорыі рашучае значэнне ў гісторыі, у гістарычным развіцці аддаюць змовам і адмаўляюць усе іншыя рухальныя фактары гісторыі. Папраўдзе, змовы існавалі ўсюды і заўсёды. Успомнім змову забойцаў Юлія Цэзара, змову асасінаў падчас крыжовых паходаў і мангольскае навалы, тугаў-душыльнікаў у Індыі, камору ў Нэапалі, мафію, дзекабрыстаў. Але ўсе гэтыя змовы былі звязаныя з пэўнаю мясцовасцю і абмежаваныя часам.

Апроч сапраўдных змоваў, існавалі і існуюць змовы ўяўныя. Надта доўгае жыццё прыпісвалі зноў-такі абмежаваным у прасторы і часе рыцарам-тампліерам, сябрам сакрэтных таварыстваў розэнкройцараў, ілюмінатаў, масонаў. У сучаснай гісторыі змова з імкненнем скарыць свет па чарзе прыпісвалася: езуітам, масонам, «сіёнскім мудрацам», Трэцяму інтэрнацыяналу, а прыхільнікі згаданае тэорыі лічаць, што ўсімі імі (і нават езуітамі —!) нібыта кіравалі гэбраі. Для прыхільніка змоўніцае тэорыі гісторыі ідэальным супраціўнікам быў бы езуіт з сэміцкімі рысамі твару, які насіў бы фартух масона і трымаў у кішэні партыйны білет камуністычнае партыі.

З'явілася нават мастацкая літаратура з раскрыццём падобных змоваў — «Іосіф Бальзамо» і «Дваццаць год пасля таго» Дзюма-бацькі, «Вечны жыд» Сю, трылогія Крастоўскага «Цемра егіпецкая», «Тамара Бендавід» і «Перамога Ваала», «Судны дзень» Віктара Іванова, «У імя айца і сына» Івана Шаўцова, «Усё наперадзе» Васіля Бялова. Змоўніцкая тэорыя дачакалася і свайго «Дон Кіхота» — пародыяў на падобныя творы: «Сутарэнняў Ватыкану» Андрэ Жыда, «Маятніка Фуко» Умбэрта Эка.

Згаданыя аповесці і раманы прысвечаныя вымысленым змовам. Такія ўяўныя змовы той, хто мае ўладу, прыпісвае сваім ідэйным сапраўдным або ўяўным ворагам, каб расправіцца з імі або зваліць віну за свае няўдачы на іншага. Такім чынам Гітлер прыдумаў змову свайго магчымага суперніка і прэтэндэнта на ўладу Рэма, каб расправіцца з ім і ягонымі прыхільнікамі ўнутры нацысцкае партыі. Пазней такім жа вымыслам была трацкісцка-зіноўеўска-бухарынская змова «ворагаў народу», якая

выклікала ў СССР хвалю рэпрэсіяў супраць бязвінных людзей.

Вось такія ўяўныя змовы і маглі легчы ў аснову «змоўніцкае тэорыі» гісторыі. Прынягце падобнае тэорыі робіць зусім непатрэбнаю карпатлівую прафесійную гістарычную крытыку з высвятленнем складаных з'яваў або абумоўленасці гістарычнага працэсу. Просты адказ на складаныя пытанні — усё залежыць ад змоваў — дазваляе прыхільнікам «змоўніцкае тэорыі» тлумачыць увесь ход гісторыі.

Месца рэальных даследаванняў у гэтай тэорыі займае прымітыўнае мысленне, своеасаблівы від магіі. Паводле гэтай тэорыі, не грамадскія і палітычныя рухі, не звычаі, не духоўныя сувязі, не складанае развіццё розных палітычных і эканамічных чыннікаў фармуюць людскую гісторыю. Прынягце змоўніцкага бачання гісторыі вызваляе людзей ад разумовых намаганняў. Уяўны вораг выступае ў ролі ахвярнага казла.

Людзі не любяць прызнавацца ва ўласных памылках, жадаюць прыпісаць гэтыя памылкі іншым. Замест бачання гісторыі, пры якім шмат выпадкаў бывае вынікам супадзення ці збегу акалічнасцяў, а іншым разам і проста глупства, больш спакусліва ўявіць сабе, што намі кіруюць таямнічыя сілы, якія дзейнічаюць з карыслівым намерам. У такіх умовах чалавеку не трэба самому спрабаваць нешта зрабіць, каб уплываць на ходу падзеяў. Гэта тыпова фаталістычная тэорыя, якая нараджае ў чалавека пасіўнае стаўленне да рэчаіснасці.

Змоўніцкая тэорыя гісторыі складае значную частку грамадскае свядомасці. У краінах з дыктатарскім стылем кіравання яна дазваляе аб'ядноўваць прыхільнікаў безупыннае барацьбы супраць уяўных супраціўнікаў рэжыму і ажыццяўляць да іх тэрор.

Дзеля пацверджання сусветных змоваў, пачынаючы з XVII ст., пэўныя палітычныя сілы выкарыстоўваюць супраць сваіх ворагаў творы, якія пры ўніклівым крытычным разглядзе аказваюцца фальшыўкамі. Першаю з такіх фальшывак была апублікаваная з ініцыятывы пратэстантаў кніга «Прыватныя парады Таварыства Ісуса». У ёй пры дапамозе скажэння сапраўдных інструкцыяў езуітам прыпісваліся ўсемагутнасць і імкненне захапіць уладу над светам.

За прыкладам «Прыватных室 парадаў Таварыства Ісуса»

ў самым канцы XVIII ст. езуіт А. Баруэль склаў працу, у якой абвінаваціў таямнічыя таварыствы розэнкройцараў, ілюмінатаў і масонаў у тым, што яны справакавалі Французскую рэвалюцыю з мэтаю сусветнага панавання.

Уяўная ўсемагутнасць езуітаў не перашкодзіла ў 1773 г. Папу Рымскаму распусціць іхны ордэн, а ўяўная ўсемагутнасць масонаў і сяброў іншых сакрэтных таварыстваў не перашкодзіла прыходу ў Францыі да ўлады перш Дырэкторыі, а потым Напалеона. Сувораў і Кутузаў, якія належалі да масонства, грамілі войскі французаў, якія нібыта ажыццяўлялі планы сусветнага масонства.

З сярэдзіны XIX ст. у еўрапейскіх краінах абвастрылася канкурэнтная барацьба між фінансістамі і капіталістамі, у ліку якіх былі асобы карэннага і гэбрайскага паходжання. У рэвалюцыйным руху супраць адных і другіх пачалі браць удзел прадстаўнікі бяднейшай гэбрайскай меншыні жыхарства еўрапейскіх краінаў. Гэта выклікала з'яўленне новае версіі змоўніцкай тэорыі гісторыі — абвінавачванне гэбраяў тымі ж спосабамі, што раней ужываліся супраць езуітаў і масонаў, у сусветнай змове з мэтаю захапіць уладу ў свеце.

Не пазней за 1899 г. у Парыжы група супрацоўнікаў царскай ахранкі на чале з П. Рачкоўскім склала «Пратаколы сіёнскіх мудрацоў». У гэтым творы роля змоўшчыкаў супраць свету прыпісвалася гэбраям. «Пратаколы» вывучаліся, пачынаючы з 1920-х гг. англійскім журналістам Ф. Грэйвзам, рускімі гісторыкамі П. Дэлеўскім, П. Мілюковым, багасловам А. Карташовым, журналістам В. Бурцавым, а ў 80-я гг. дырэктарам Інстытута гісторыі Польскай Акадэміі навук Я. Тазбірам. Гэты твор уяўляе сабою не толькі падлог, але і плагіят. Да гэтае ж высновы прыйшоў суд над фашыстамі-распаўсюднікамі і выдаўцамі «Пратаколаў» у Бэрне ў 1935 г. 26 лістапада 1993 г. Чаромушкінскі суд Масквы прыйшоў да высновы, што публікацыя «Пратаколаў сіёнскіх мудрацоў» ёсць праявай антысэмітызму.

«Пратаколы» складзеныя на аснове памфлета французскага журналіста М. Жалі «Дыялог у пекле між Макіявэлі і Мантэск'ё» (1864). Памфлет быў накіраваны супраць французскага імператара Напалеона III, які быў выведзены ў «Дыялогу ў пекле» ў вобразе італьянскага

палітолага Макіявэлі, што ў памфлеце вызнаваў беспрынцыповасць дзеля захопу ўлады над светам.

Аўтары «Пратаколаў» перапісалі з 2560 радкоў «Дыялогу ў пекле» 1040 радкоў. Перапісчыкі слепа паўтаралі нават памылкі друку.

Задумы «Макіявэлі»-Напалеона III прывесці свет да распаду, прапагандаваць марксізм, дарвінізм і падобныя «разбуральныя» тэорыі, распаўсюджваць парнаграфію, ператварыць друк у сродак разбурэння фальсіфікатары прыпісалі ў «Пратаколах» тым самым гэбраям, пра якіх Жалі нават не ўспамінаў у «Дыялогу ў пекле».

Пераробнікі «Дыялога ў пекле» ў «Пратаколы» выкарысталі таксама вядомы царскай ахранцы «Катэхізіс рэвалюцыянера» С. Нячаева — арганізатара сакрэтнага расійскага таварыства, які карыстаўся метадамі правакацыі і тэрору і паслужыў прататыпам аднаго з герояў «Бесаў» Дастаеўскага, а таксама ўзялі сёе-тое з антысэміцкіх кніг французскіх публіцыстаў Шабаці і Друмона, а таксама з рамана (гэта значыць, з відавочнага вымыслу) пісьменніка Гёдшэ.

Былы прафесар Пецярбургскай духоўнай акадэміі і міністр веравызнанняў Часовага ўраду А. Карташоў характарызаваў «Пратаколы» так: «Перад намі — злоўленыя на гарачым буйныя палітычныя і культурныя махляры, якія лічылі і лічаць магчымым хлуснёю, паклёпам і чужою крывёю «ратаваць Расію». Барані нас Божа напярод ад такіх выратавальнікаў!».

Я. Тазбір лічыць, што ўсіх тых, хто лічыць «Пратаколы» сапраўдным творам, аб'ядноўвае ў вачах гісторыка не толькі злая воля, але і страшэнная прафесійная нядобрасумленнасць, якая відаць у тым спосабе, пры дапамозе якога былі сфабрыкаваныя «Пратаколы». Аўтары гэтай фальшыўкі проста шараговыя халтуршчыкі, на якіх творцы «прыватных парадаў» з таго свету павінны глядзець з пагардай. Іерархія праваслаўнае царквы яшчэ паўстагоддзя таму назад ахарактарызавала іх як фальшыўку. Сёння ніхто з сур'ёзных людзей не выступае ў абарону сапраўднасці ўяўных «сіёнскіх мудрацоў». Асобе, прызнанай у навуковым свеце, нельга рабіць гэтага, бо ўсім відавочная іхная несапраўднасць».

Нягледзячы на падазрэнні ў неаўтэнтычнасці з самага

пачатку, «Пратаколы» друкаваліся падчас рэвалюцыі 1905 г. у Расіі, потым ва ўсім свеце, а зараз зноў у месцы першадруку. Падчас рэвалюцыяў і грамадзянскай вайны іх выкарыстоўвалі для дыскрэдытацыі грамадскіх сілаў, што выступалі супраць самаўладства, і для арганізацыі шматлікіх гэбрайскіх пагромаў. Нацысты ў Германіі з падачы той іх часткі, якая паходзіла з Расіі, адразу выкарысталі «Пратаколы» для грунтавання сваіх прэтэнзіяў на ўладу. Пасажы з «Пратаколаў» фігуравалі ў «Міфе XX стагоддзя» выхадца з Расіі Розэнбэрга і ў «Маёй барацьбе» Гітлера. Нацысцкая прапаганда распаўсюджвала «Пратаколы» вялікімі тыражамі, каб абвінаваціць ва ўсіх бедах грамадства гэбраяў і знайсці зачэпку для іх фізічнага вынішчэння.

Гітлераўцы самі ставілі перад сабою тыя мэты, якія ў фальшыўцы прыпісваліся «сіёнскім мудрацам», а менавіта захоп свету, выкарыстоўвалі палітычныя правакацыі. Кожная фашысцкая партыя, будучы патаемнаю суполкаю, не магла цярпець нават уяўнае канкурэнцыі падобнай арганізацыі. Нацысты стварапі сваю арганізацыю паводле тых рэкамендацыяў, якія прыпісвалі ўяўным «Мудрацам» складальнікі фальшыўкі.

Адрозна ад ранейшых аналагічных падробак, «Пратаколы» пацягнулі за сабою масавае знішчэнне некалькіх мільёнаў бязвінных ахвяраў — гэбраяў Еўропы. Упершыню спажыўцамі падобных падробак сталі людзі, слаба ўстойлівыя да такой канцэнтраванай атакі дэмагогіі, палітычнае хлусні, якая звяртаецца да эмоцыяў, комплексаў, рэлігійных і этнічных прымхаў.

Аніводзін з чытачоў «Пратаколаў» не задумаўся, як жа гэта «сіёнскія мудрацы» пры іхнай уяўнай усемагутнасці не здолелі папярэдзіць вынішчэнне свайго этнасу падчас Другой сусветнай вайны. Так і рэалізацыя «Прыватных парадаў» не прынесла езуітам перамогі над пратэстантамі і не прадухіліла ў свой час ліквідацыі ордэну.

Масавая прапаганда дзейнічала на слабыя галовы людзей, якія дагэтуль не сутыкаліся з падобнымі рэчамі, падобна гарэлцы. Гэтым і тлумачыўся ў значнай меры поспех «Пратаколаў» сярод тых, хто гатовы абвінаваціць у сваіх бедах каго-небудзь, каб толькі не спрабаваць разабрацца ў сапраўдных прычынах бязладу.

## ГІСТАРЫЧНЫЯ ЛЕГЕНДЫ

Часта сустраканы прадукт міфічнага мыслення — гістарычныя легенды. Гэта або ідэалізаваныя, або зацемненыя, насычаныя варожым стаўленнем вобразы пэўных гістарычных установаў, з'яваў, персанажаў.

Пэўныя легенды і міфы гісторыі Беларусі падрабязна разгледжаныя мною ў шэрагу публікацыяў. Таму не лічу вартым пералічваць гэтыя міфы, а спашлюся на легенды, на якія звярнулі ўвагу іншыя даследчыкі.

Так, Ю. Туронак адзначае, што ў беларускай нацыянальна свядомай літаратуры ўладкаваўся міф пра адмоўнае стаўленне нямецкіх акупацыйных уладаў у 1918 г. да беларускае дзяржаўнасці. Прычына — тое, што 25 лютага 1918 г. кайзераўскія жаўнеры скінулі беларускі нацыянальны сцяг з будынку Народнага сакратарыяту ў Менску і сканфіскавалі касу гэтае ўстановы. Той інцыдэнт, паводле Ю. Туронка, засланіў сабою станоўчыя ўчынкі вайскаводца X нямецкай арміі Э. фон Фалькенгайна, хоць той перадаў мясцоваму апарату ўлады ўсе краёвыя дзяржаўныя ўстановы і дазволіў пашырыць беларускую адукацыю. Другім прыкладам легенды Ю. Туронак лічыць міф пра будаўніцтва Беларускае дзяржавы пад гітлераўскай акупацыяй у 1941—1944 гг., нібыта перапынены прыходам Чырвонай арміі.

## ГІСТАРЫЧНАЯ АДУКАЦЫЯ І МІФЫ

Вялікі ўдзел у распаўсюджванні міфаў, легендаў, стэрэатыпаў, як адзначалася вышэй, прымае гістарычная адукацыя. Нярэдка іх падтрымлівае думка пра іхны выхаваўчы плён. Не ўпэўнены, што такім чынам можна дасягнуць дыдактычных мэтаў. Хутчэй мае рацыю наш зямляк, выхадзец з Беларусі польскі пісьменнік Юзаф Ігнацы Крашэўскі. У сваім творы «Літва. Старажытная гісторыя, законы, мова, вера, звычаі» паўтара стагоддзя таму ён пісаў: «Гісторыя нагэтулькі значная, наколькі праўдзівая; становячыся служкаю якой-небудзь думкі і пакорлівай яе нявольніцай, яна страчвае сваё настаўніцкае і філасофскае значэнне».

У школьнай адукацыі цяжка пераконваць моладзь у няслушнасці міфаў, стэрэатыпаў, легендаў. Міфалагічны спосаб мыслення характарызуе не толькі штодзённую гістарычную свядомасць, але і жыве ў літаратуры, мас-

тацтве, сродках інфармацыі, у навукова-папулярных і навуковых працах. Вакол нас свет, поўны міфаў, і ў гэтым вонкавыя цяжкасці праблемы.

Але існуюць і ўнутраныя цяжкасці рацыянальнага доказвання няслушнасці міфаў. І звязаныя яны з немінучым спрашчэннем выкладання, невялікаю колькасцю гадзінаў, адведзеных на выкладанне, абмежаванымі магчымасцямі ўспрымання вучняў. Гэтае спрашчэнне вынікае з шмат якіх міфічных арыентацыяў адносна мінуўшчыны. Нічога не спрыяе міфам больш, чым няведанне. З гэтага вынікае відавочная выснова: спрашчэнне школьных ведаў не можа ісці надта далёка. Спрошчаныя веды вельмі лёгка могуць ператварыцца ў крыніцу міфаў, стэрэатыпаў і легендаў. Так адбывалася неаднойчы.

Другая выснова наступная: школьную гісторыю нельга арыентаваць аднабакова толькі на выхаваўчыя мэты, якія павінны быць прыстасаванымі да фармавальных і пазнавальных мэтаў. Рацыянальнае тлумачэнне сутнасці міфаў патрабуе падвышэння навуковага ўзроўню прадмету і большай увагі да высокае гістарычнае культуры. Трэба фармаваць у моладзі навуковае стаўленне да мінуўшчыны, узбуджаць крытычнасць да абыдзённых гістарычных ведаў.

Тлумачыць міфы нялёгка таму, што шматлікія спасылкі на факты, пацверджаныя навукай, ствараюць выгляд гістарычнае праўды.

Гістарычны факт шматзнакавы. Ён мае і літаральны пласт, выражаны ў апісанні канкрэтнага здарэння, установы ці персанажа, і метафарычны пласт, стасаваны да шырэйшага дыяпазону з'яваў, які перадае прынятыя носьбітамі міфаў сінтэтычныя меркаванні і каштоўнасці.

Прыкладам можа служыць легенда пра словы палітрука Клачкова ля раз'езду Дубасекава пры абароне Масквы ў 1941 г. Гэтыя словы былі сказаныя абаронцам пазіцыяў. Але ж усе 28 абаронцаў пазіцыяў, паводле афіцыйнае версіі, загінулі. Г. зн. перадаць словы Клачкова журналісту Крывіцкаму, які апісаў подзвіг, ніхто з іх не меў магчымасці.

Гістарычны міф пагрозлівы не толькі ў літаральным, але і ва ўласна метафарычным пласце. Узнікненне гістарычнага міфу звязваецца са спрашчэннем і абагульненнем фрагменту гісторыі (гэта можа быць працэс, з'ява,

гістарычны факт). Гэтая працэдура выклікае, з аднаго боку, канцэнтрацыю ацэнкі толькі ў адным пункце (бачанне гістарычнага перыяду праз прызму толькі гэтага фрагменту), а з другога боку — выклікае стварэнне пэўнага пазыўнога сігналу, які ва ўспрыманні чытача быў бы роўны ўспрыманню пэўнага знака.

Міфалагічнае мысленне носіць выбарковы, скарочаны і аднамерны характар. Яно неаднаразова засяроджвае ўвагу на дробных эпізодах, якім надае значэнне сымбаляў. Гэткае мысленне адсоўвае ў цень астатнія факты або ўціскае іх у прынятыя схемы, паслугоўваецца простаю шкалою ацэнак. Перавага аддаецца чорна-белым схемам («добры — дрэнны», «герой — здраднік» і г. д.).

Асобная праблема — карыстанне сымбалямі. Здавён яны мелі вялікую ролю ў гістарычнай адукацыі — як у школе, так і па-за ёю. Дыдактычная гісторыя надае пэўным фактам, часам «значным», часам «другарадным», немалое сымбалічнае значэнне. Іх апісваюць не толькі надта падрабязна, але таксама і вельмі сымбалічна. Дастаткова ўспомніць світку Каліноўскага (або бранявік Леніна, шынель Дзяржынскага, люльку Сталіна).

## НАСЫЧАНАЕ СЫМБАЛЯМІ ВЫКЛАДАННЕ НАЙНОЎШАЕ ГІСТОРЫІ

Апераванне сымбалямі прыносіць пэўныя карысці выхаваўчае прыроды. Але адначасова яно ставарае значныя перашкоды на шляху да зразумення гістарычнага працэсу. У дыдактычна пададзеным апісанні гісторыі часта бывае парушанай структура гістарычные рэчаіснасці, дэфармуюцца прапорцыі і суадносіны. Гэта датычыць пачатковай адукацыі, у якой пераважаюць выхаваўчыя мэты. Яна моцна насычана міфічнымі элементамі. Ад іх цяжка вызваліць прывучаны ў дзяцінстве розум. Гэта тлумачыць адносна слабыя вынікі сярэдняй школы ў рацыяналізацыі гістарычнае свядомасці.

Ці мэтазгодна падаваць факты-сымбалі ў пачатковай школе? Можа, страты ад гэтага будуць значна большыя, чым магчымы плён? Варта ў вывучэнні гісторыі абмяжоўваць міфічна-сымбалічныя элементы, але надаваць школьнаму навучанню гісторыі больш навуковы характар.

Зразумела, гэта пацягне за сабою адмаўленне ад асве-

чаных традыцыяй фактаў-сымбаляў або адсуне іх на менш бачнае месца ў гістарычным выкладанні. Выказваемся за наданне школьнаму гістарычнаму выкладанню больш рэчавага характару з узважаннем у ім рацыянальных і эмацыйных элементаў. Карыснаю зброяю ў пераадоленні гістарычных міфаў можа быць крытычны аналіз выбраных міфаў, стэрэатыпаў, легендаў.

Напрыклад, «чорным» стэрэатыпам немцаў і Нямеччыны, што ўкараніліся ў нас з часоў Другой сусветнай вайны, можна было б супрацьставіць моманты збліжэння беларусаў і немцаў падчас перабывання апошніх у Беларусі як меншыні на працягу стагоддзяў, паказу таго, як нямецкая мова дала пачатак пэўным словам беларускае мовы, таго, як лекары нямецкага паходжання лячылі мясцовае насельніцтва, настаўнікі нямецкага паходжання навучалі дзяцей, майстры працавалі ў рамястве і прамысловасці і г. д.

У сярэдняй школе можна было б аналізаваць «чорныя» і «белыя» легенды такіх постацяў, як В. Ластоўскі, бр. Луцкевічы, С. Булак-Балаховіч, К. Каліноўскі, Чарвякоў, В. Казлоў, «наш Пётр Міронавіч» Машэраў, Грамыка, маршал Якубоўскі і г. д. Такі аналіз дазволіў бы моладзі зразумець складаны і адначасова дынамічны характар гістарычных ведаў і яе ўсялякія пазанавуковыя і навуковыя абумоўленасці. Гэта магло б прышчапіць моладзі крытыцызм у стаўленні да гістарычных меркаванняў, імкненне выпрацоўваць уласны погляд на гістарычныя і сучасныя справы і здарэнні.

Патрэбна змяніць спосаб падачы гістарычных персанажаў, як гэта спрабавалі зрабіць нацыянальна свядомыя беларускія даследнікі А. Бяляцкі і В. Ермалёнак да асобы С. Булак-Балаховіча.

Дасюль яшчэ гістарычныя персанажы маюць надта спрошчаны выгляд, яны схематычныя, аднапамерныя. Варта паказваць асобаў мінуўшчыны як людзей жывых, якія мелі пэўныя вартасці, але таксама і недахопы, якія паддаваліся пэўным слабасцям, рабілі памылкі, глупствы і г. д.

Магчыма, варта ўзбагаціць школьную шкалу ацэнак. Яны мусяць быць больш адцэненымі, чым зараз. Пры гэтым трэба перавагу даваць не гэтулькі першасным ацэнкам («прагрэсіўны — рэакцыйны»), колькі параўнаўчым («у параўнанні з...», «гэта было выйсце больш...»).

## СПРОБЫ ПЕРААДОЛЕННЯ МІФАЎ

Пераадольваць міфы цяжка і складана. Гэта надта няўдзячная задача. С. Гжыбоўскі прыводзіць наступны прыклад. Ён даведаўся ад аднаго гісторыка, што той, вывучаючы біяграфію Яна Кілiнськага, паплечніка Касцюшкі ва ўзброеным чыне 1794 г., а потым удзельніка змовы братоў Цяцерскіх у Вільні супраць царызму (1797), знайшоў у архіве справаздачу прадпрыемства, якое той трымаў. У прадпрыемстве былі занятыя толькі кабеты маладога ўзросту. Гісторык зразумеў, што гэта быў «вясёлы дом», які трымаў герой паўстання і змовы супраць царызму. Гісторык адмовіўся пісаць пра гэты факт біяграфіі Кілінськага. Нават калі гэта анекдот, то ён варты таго, каб яго мець на ўвазе. На наш пункт погляду, і пра такое трэба пісаць, не баючыся дэміфалагізацыі герояў.

Дэміфалагізацыі Жанны д'Арк, Рычарда III англійскага, Рышэльё, Пятра I, Леніна, Троцкага, Сталіна сустракаюцца з вялікімі цяжкасцямі, а іншым разам заходзяць надта далёка (як у прыкладах Марыі Сцюарт або дон Карласа Габсбурга, якіх занадта ідэалізавалі).

Пераадоленне міфаў патрабуе пераказу грамадству як мага больш поўных ведаў пра мінуўшчыну. Мы мусім бачыць гістарычную рэчаіснасць такою, якою яна была, а не такою, якою яна «павінна» быць. Нельга засяроджваць увагу толькі на адным — станоўчым або адмоўным — баку гістарычных з'яваў. Трэба асвятляць іх усебакова, адпаведна патрабаванням прафесійнае навукі, а не прыстасоўваючыся да надзённых палітычных мэтаў тае ці іншае палітычнае партыі.

Існуе гіпотэза, што схільнасць паддавацца гатовым узорам грамадскіх паводзінаў адваротна прапарцыянальная ўзроўню ведаў і грамадскага досведу асобы. Аднак жа грамадства перадае чалавеку міфы і стэрэатыпы стыхійна або ў выглядзе гатовай свядомай перадачы, якая натхняецца адпаведнымі цэнтрамі, напрыклад, цэнтрамі ідэйна-выхаваўчага ўздзеяння, якія звязваюць акрэсленыя падзеі з трываласцю гэтых міфаў і стэрэатыпаў.

Можна сцвярджаць, на падставе даследаванняў фармавання грамадскімі рухамі таталітарнага і аўтарытарнага характару індывідуальнага чалавека (якія пачалі ў свой час Г. Олпарт і Т. Адорна), што існуюць людзі асабліва здольныя да пераймання і пераказу міфаў.

Звязана гэта з існаваннем у іх пачуцця пагрозы, адчужэння, адасаблення, патрэбы бяспекі і аўтарытэту. Людзі з падобным характарам «аўтарытарнай» замкнёнай асобы больш падрыхтаваныя да прыняцця гатовых узораў мыслення і паводзінаў, чым асобы з дэмакратычнаю, адкрытаю паставаю. Яны выяўляюць большую схільнасць да абвостраных супрацьстаўленняў і схематычнага стылю мыслення, а таксама да нецярплівых адносінаў да іншых вартасцяў ды іхных прыхільнікаў. Адсутнасць шырокіх эмпірычных даследаванняў перашкаджае акрэсліць псіхічныя якасці асобы і грамадскае групы, якія спрыяюць працэсу міфалагізацыі гістарычнае свядомасці. Зрэшты, іх па-рознаму тлумачаць асобныя школы і псіхалагічна-сацыялагічныя тэорыі. У самых гістарычных і паліталагічных даследаваннях свядомасці адзінкі і грамадскай групы слаба ўлічваецца праблема ірацыянальных матывацыяў палітычных паводзінаў.

Міфалагізацыі гістарычнае свядомасці напэўна спрыяюць адзінкі і грамадскія групы, слаба інфармаваныя і з недастатковым грамадскім досведам. Гэта звязана з псіхічнымі працэсамі забывання, фантазіі, дэфармацыі памяці. Міфалагізацыю палягчаюць пэўныя асабістыя якасці чалавека, якія выяўляюцца ў схематычным стаўленні да грамадскай рэчаіснасці, варожасці да іншых вартасцяў і перакананняў, у моцна ідэйна матываваных паставах і г. д.

Таму вызваленне гістарычнае і палітычнае свядомасці жыхароў Беларусі ёсць надта цяжкаю задачаю. Гэты грамадскі працэс залежыць не толькі ад гісторыкаў і папулярызатараў гістарычных ведаў, але, не ў апошнюю чаргу, ад самога грамадства.

Менавіта грамадства патрабуе перабудовы псіхікі і змены найбольш закасцянелых формаў мыслення і дзеяння. Найперш трэба звярнуць увагу на тое, што ў розумы беларусаў на працягу дзесяцігоддзяў уводзіліся русіфікатарскія міфы гісторыі, якія моцна ўтрываліся ў іх. Не менш зроблена для падпарадкавання камуністычнай дактрыне і яе трывалым міфам. У далейшай дэміфалагізацыі гісторыі ўсё гэта варта ўлічваць.

У нашыя часы стаўленне да міфу мяняецца. Гэтаму спрыялі працы М. Эліядэ. Ён пісаў: «Трэба разумець, што XIX стагоддзе не магло ўспрыняць сымбаль-міф і вобраз як факты духоўнага жыцця, якія можна хаваць,

скажаць, змяншаць, але якія немагчыма знішчыць». Міфы звырадняюцца, сымбалі становяцца свецкімі, але яны ніколі не зводзяцца ў нішто нават у такі рацыяналістычны час, якім было мінулае стагоддзе. Сымбалі і міфы карэннем ідуць у глыбокую старажытнасць. Яны складаюць частку людскога існавання. Няма такой сферы людскога жыцця, дзе б яны не сустракаліся.

Пераканаць у няслушнасці міфаў, стэрэатыпаў, легендаў можна толькі таго чалавека, які падрыхтаваны быць перакананым. Калі ён не гатовы, калі нешта ў ім супрацiўляецца, то з ім нічога не зробіш. Ён заўсёды знойдзе падставу, каб апраўдаць свае жарсці.

Калі настойліва паказваць усю агіднасць, усю брыдоту, да якіх вядзе, напрыклад, фашызм (карычневы, чырвоны, чорны — тыпу клерыкальнага фундаменталізму), пэўная частка тых, хто вагаецца, адыдзе ад яго. Але немагчыма пераадолець псіхалагічны закон: вобраз ворага, які падаюць чалавеку прыхільнікі фашызму, змяншае страх бязлікага, туманнага зла, пачуцця бездані, у якую ўсё ляціць. Я згодны з Г. Памеранцам, калі той піша, што, пакуль чалавек адчувае боязь зменаў, боязь невядомага, боязь бездані, пакуль чалавек не знайшоў апоры ў самім сабе,— масавая істэрыка, давер міфам, стэрэатыпам, легендам непазбежныя.

І ўсё ж чалавек не можа жыць дзесьці ў іншым месцы,— там, дзе няма гісторыі. Ён па натуры ёсць гістарычнаю істотаю. Мы ўсе «наканаваныя» на гісторыю. Таму мы мусім дбаць пра тое, каб свет нашых гістарычных уяўленняў быў складзены з як мага найлепшага матэрыялу, а не з міфаў, стэрэатыпаў, легендаў сумнеўнага характару.

## ЛІТАРАТУРА


Бурцев В. «Протоколы сионских мудрецов»: доказанный подлог.— Париж, 1938.

Бяляцкі А. Бандыт ці нацыянальны герой // Грунвальд (Талін).—1990.— № 2; Ермалёнак В. Генерал Булак-Балаховіч — хто ён? // Браслаўскія чытанні.— Браслаў, 1991.

Грыцкевіч В. Якой быць беларускай гістарычнай навукі? // Полымя.—1992.— № 5.

Грыцкевіч В. Два погляды на адну канстытуцыю.— Тамсама.— 1993.— № 9.

Грыцкевіч В. Міфы застаюцца міфамі // Літаратура і мастацтва.—1991, 20 верасня.
Грыцкевіч В. Гістарычны міф ці разуменне гісторыі? // Тамсама.—1992, 4 верасня.
Делевский Ю. Протоколы сионских мудрецов (История одного подлога).— Берлин: Эпоха, 1923.
Кон Н. Благословение на геноцид. Миф о всемирном заговоре евреев и «Протоколах сионских мудрецов».— Москва: Прогресс, 1990.
Марле Р. Миф и историко-критический метод; Рефуле Ф. Миф и история // Символ.—1986.— Июль. (Т.) 15.
Ролік А. Наменклатурная міфалогія // Наша слова.—1993.— 8 снежня.— № 49.
Туронак Ю. Беларусь пад нямецкай акупацыяй.— Менск: Беларусь, 1993.
Eliade, M. Aspets du Mythe.— Paris, 1963.
Jaskólski, M. Historia i mit historyczny w doktrynie politycznej // Historyka.— T. 14.
Maternicki, J., Majorek, Cz., Suchoński, A. Dydaktyka historii.— Warszawa: PWN, 1994.
Mity i stereotypy w dziejach Polski.— Warszawa, 1991. Pod red. J. Tazbira.
Niżnik, J. Mit jako kategoria metodologiczna // Kultura a społeczeństwo.—1978.— T. 22.— № 3.
Sidorski D. Nie znam takiego monarchy. Jan Kiliński.— (Katowice:) Śląsk, 1982.
Śliwa M. Odmitologizować świadomość historyczną Polaków // Po co uczyć historii? — Warzawa, 1988.
Tazbir, J. Protokoły mędrców Syjonu: Autentyk czy falsyfikat.— Warszawa, 1992.
Tomicki, F. Mit // Slownik etnologiczny: terminy ogólne.— Warszawa, 1987.
Życiorysy historyczne literackie i legendarne.— Warszawa, 1980.— Seria 1; Warszawa, 1989.— Seria 2; Warszawa, 1992.— Seria 3.

Юры ШАЎЦОЎ

# БАТАРЫЯНСКАЯ ПАРТЫЯ

## НАЦІСК НА МАСКВУ

Сьмерць Стэфана Баторага наступіла ў моманце максымальнага ўзвышэньня ў Рэчы Паспалітай (РП) панаваньня партыі, якую той ачольваў. Баторы памёр у сьнежні 1586 году ў часе падрыхтоўкі да рашучага паходу на Маскву. Жаданьне выступіць паходам на Маскву было ўжо прамоўленае каралём. Сойм, заклікаsuccessive ны да прыняцьця канчатковага рашэньня, абвешчаны. Зьбіраліся сродкі. Грошы часткаю ўжо былі дадзеныя Папам Рымскім. Войскі — часткова змабілізаваныя і сканцэнтраваныя на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага (ВКЛ). Сам Баторы знаходзіўся ў сваёй усходняй стаўцы ў Горадні. Не адзначалася аніякае сур'ёзнае апазыцыі маючаму быць паходу ў самой дзяржаве. Грамадзтва трывала ў стане высокае ступені кансалідацыі, і раптам — нечаканая сьмерць галавы дзяржавы зламала такое грандыёзнае прадпрыемства.

Баторы памёр у часе падрыхтоўкі да рэалізацыі галоўнае мэты сваёй зьнешняй палітыкі: поўнага разгрому і падпарадкаваньня Маскоўскай дзяржавы. Ці меліся рэальныя шансы на гэта? Узгадаем, што, калі ён узышоў на пасад, маскоўскія войскі валодалі Полацкам і практычна ўсім Падзьвіньнем, а таксама й значнаю часткаю Лівоніі. Баторы ня толькі дамогся кансалідацыі ва ўстойлівую цэласьць новага дзяржаўнага ўтварэньня — Рэчы Паспалітай,— але й адваяваў Полацак, большую частку Лівоніі і перанёс вайну на тэрыторыю Маскоўскае дзяржавы. Аблога Баторым Пскова была няўдалаю, аднак яна задэманстравала новыя ваенныя мэты Рэчы Паспалітае: разбурэньне падставаў, на якіх будавалася Маскоўская дзяржава, і ў рэшце рэшт — падпарадкаваньне гэтае дзяржавы і грамадзтва свайму ўплыву.

Трэба ўважаць на тое, што Пскоў у той момант быў

---

Раздзел будучай кнігі «Дэзінтэграцыя культурна-палітычнага абшару Рэчы Паспалітае (1587—1592 гг.)». Два іншыя раздзелы друкаваліся ў «Спадчыне» №№ 2, 3, 1995 г.

наймацнейшаю крэпасьцю Масквы, яе галоўным апірышчам на шляху да Балтыйскага мора, бо магутнасьць Ноўгарада, ды й ён сам былі зусім нядаўна ўшчэнт зьніштожаныя падчас апрычных паходаў Івана IV. У Ноўгарадзе практычна не захавалася нават ранейшага насельніцтва, часткаю зьнішчанага апрычнікамі, часткаю дэпартаванага ў глыбінныя гарады вялізнае дзяржавы. Ноўгарад яшчэ толькі засвойваўся перасяленцамі з карэнных земляў Маскоўскае дзяржавы і быў невялікі, слабы і залежны ад цара. Аднак Пскоў здабыў плён са зьнішчэньня свайго даўняга канкурэнта і знаходзіўся на ўздыме. Гэты ягоны ўздым стаўся вынікам павелічэньня моцы Маскоўскае дзяржавы, і з гэтага складаньне тут якіх-кольвечы сэпаратысцкіх праектаў на карысьць Рэчы Паспалітае ня мела посьпеху. Таму ўдар Баторага па Пскове ставіў на мэце ня толькі адагнаць маскоўскія войскі далей ад Балтыкі, Лівоніі, Полацка і пазбавіць іх галоўнае вайсковае базы ў рэгіёне, ня толькі паслабіць канкурэнцыю адраджэньня Полацка, ня толькі стымуляваць хаця б невялікі рост ранейшага наўгародзкага сэпаратызму, але й зьліквідаваць шчырага хаўрусьніка цара, грамадзтва, што было ягоным галоўным апірышчам на паўночным захадзе дзяржавы. Гэтае грамадзтва, вонкава пасыўна схіляючы галаву перад самаўладзьдзем цара, насамрэч зьяўлялася адным з асноўных творцаў і падваліна ў Маскоўскае дзяржаўнасьці. Згэтуль — і моц супраціўленьня пскаўлянаў шляхоцкаму каралю.

Відавочна, таму Баторы быў вымушаны зьмяніць накірунак свайго галоўнага ўдару на ўсходзе. Пскоў быў залішне адналітны. Але сам у сабе, без Масквы, ён не ствараў небясьпекі. Біць трэба было ў самае сэрца дзяржавы: па разьдзіранай барацьбой розных баярскіх груповак сталіцы. Апрача таго, Пскоў быў усё-такі аслаблены ў выніку паходу Баторага. Для шырокага чыннага наступу там неставала сілаў. Можна было мець спакой з тым, што Пскоў адцягне ўвагу на карысьць Масквы якім-небудзь паходам, прыкладам, на Полацак ці Лівонію. Аднак у выпадку падзеньня Масквы можна было разьлічваць на зьмену зьнешнепалітычнай арыентацыі ў бок шляхоцкае Пскоўскае дзяржавы. У кожным разе ўдар па Пскове дэманстраваў зьмену мэтаў вайны з боку Рэчы Паспалітае. Нагадаем ізноў, што цяпер ішла гаворка пра існа-

ваньне Маскоўскае дзяржавы як значнага геапалітычнага ўтварэньня.

Асабліва спрыяла гэтаму ваенная адсталасьць Масквы. Ейныя войскі ў палявых бітвах зазвычай саступалі войскам Рэчы Паспалітае. РП мела лепшае ўзбраеньне, ужывала сучасьнейшыя тактыкі вядзеньня вайны, войска складалася пераважна з прафэсіяналаў-наёмнікаў і апантанага ідэяй будаваньня свае дзяржавы шляхоцкага рушаньня і ў сэнсе баёвай трываласьці пераўзыходзіла армію постапрычніцкае Масквы.

Зь іншага боку, на ўздым ішла эканоміка Рэчы Паспалітае. Падужэла фальваркавая вытворчасьць на тэрыторыі ўласна Польшчы, у Панямоньні і Пабужжы, рэзка ўзрос гандаль з заходнеэўрапейскімі краінамі, асабліва балтыйскі, пачалося гаспадарчае адраджэньне Лівоніі, Рыга ізноў ператваралася ў марскую браму для ўсходніх ваяводзтваў ВКЛ; хуткімі тэмпамі разварочвалася сельскагаспадарчая каляніізацыя ўкраінскіх стэпаў, да чаго ў вялікай ступені спрычынілася ўзнаўленьне пасьля стогадовага перапынку палітычнай і гаспадарчай кансалідацыі Валыні ў адных руках (лятыфундыя князя Канстанціна Астроскага пад канец XVI стагодзьдзя ахапіла каля паловы абшару Валынскага ваяводзтва, большая частка астатняй тэрыторыі ваяводзтва знаходзілася ў руках залежнай ад яго шляхты і магнатэрыі).

Хуткімі тэмпамі ішло ўліваньне ў эканоміку Рэчы Паспалітае новых прыладаў працы і тэхналёгіяў з краінаў Заходняй Эўропы. Побач — у Швэцыі — акурат у гэты час былі распрацаваныя буйнейшыя на той момант у Эўропе радовішчы мэталяў, праз што дзяржава Стэфана Баторага займела нязьмерна шырэйшы доступ да мэталю і вырабаў зь яго, чым Масква.

Цалкам адваротная сытуацыя склалася ў Маскве. Сельская гаспадарка Маскоўскае дзяржавы, адкінутай Стэфанам Баторым ад балтыйскіх портаў, пагатоў не магла скарыстаць з вынікаў «рэвалюцыі цэнаў», бо мела цяжкасьці з элемэнтарнай рэпрадукцыяй самае сябе. Яе накапленьні цалкам рэквізаваліся на патрэбы дзяржавы, якая так нешанцоўна прарывалася да Балтыкі і ніяк не знаходзіла прымальнага кампрамісу з шляхоцкім грамадзтвам Рэчы Паспалітае, каб вырашыць гэтую сваю праблему «па-літоўску», на шляхох мірнага ўзаемазбліжэньня. У часе «адставаньня нацыянальнае самабытнась-

ці» за Іванам IV Маскоўскае гаспадарства страціла каля трэціны сялянскага насельніцтва і ворных земляў. Да гэтага, асноўныя страты прыпалі на паўночна-заходнія рэгіёны краіны: Ноўгарад, Пскоў, Смаленск. І гэта ва ўмовах няўдалага руху да балтыйскага гандлю і хуткіх эканамічных посьпехаў Рэчы Паспалітае.

Адзіным праўдзівым, хаця й жыцьцёва важным для адбудовы ўсходняга суседа РП, дасягненьнем гэтага пэрыяду можна лічыць, відавочна, прарыў Масквы да Волгі і далей, на Ўрал і ў Сібір. Масква атрымала сваю Амэрыку. Пушніна Ўрала і Сібіры стала маскоўскім эквівалентам каляніяльнага срэбра Гішпаніі, хай сабе і не з такім вялікім значэньнем для сусьветнае гісторыі, як у дачыненьні да адкрыцьця й эксплюатацыі Новага Сьвету. Самае ж галоўнае, што маскоўская «Амэрыка» не апынулася ў руках у мусульманаў. А гэта выглядала досыць рэальным у выпадку захаваньня незалежнасьці Казанскага і Астраханскага ханстваў на тле подступаў да Волгі блізкіх да іх культурна Турэцкае імпэрыі ды Ірана.

Акрамя таго, Маскоўская дзяржава не валодала дастатковымі запасамі расшуканых мэталяў і мусіла завозіць мэталь звонку. Радовішчы Крывога Рога і Ўрала яшчэ нават не былі адкрытыя.

У названых умовах рашучая атака РП на Маскву выглядала на дужа пэрспэктыўную акцыю. А палітыка няспыннага ціску на ўсходняга суседа здаецца найбольш адналітычнай стратэгічнаю лініяй з усіх магчымых. Аднак, разглядаючы магчымыя вынікі няспраўджанага апошняга паходу Стэфана Баторага, варта ўсё ж больш падрабязна разгледзець ірана-турэцкі чыньнік.

## СТРАТЭГІЧНАЕ ПАРТНЭРСТВА З ТУРЦЫЯЙ

Палітыка Турцыі ва Ўсходняй Эўропе пасьля падпарадкаваньня сабе Крымскага ханства напрыканцы XV стагодзьдзя засноўвалася на наступных пастулятах:

1. не дапускаць прарыву кантынэнтальных дзяржаваў да Чорнага мора, г. зн., перашкаджаць земляробчай каланізацыі ўрадлівых прычарнаморскіх стэпаў і вядзеньню кантынэнтальнымі краінамі шырокага чарнаморскага гандлю. Такім чынам стрымліваўся рост асновы геапалітычнае ўстойлівасьці гэтых дзяржаваў — іх сельскае гаспадаркі, кантроль за транзытным гандлем у раёнах Паў-

ночнага Прычарнамор'я заставаўся ў руках армянскага купецтва Турцыі, апрача таго, да Турцыі прывязваліся Дунайскія княствы (Трансыльванія, Валахія, Малдова), якія захоўвалі за сабою пазыцыі галоўных пастаўшчыкоў сельскагаспадарчае прадукцыі ў Канстантынопаль. Зазначым, што сама дастаўка гэтае прадукцыі ў мільённы горад знаходзілася ў руках грэцкага і габрэйскага турэцкага купецтва. Гэта значыць, асноўныя купецкія групоўкі Турэцкае імпэрыі ня мелі цікавасьці да франтальнага засваеньня стэпавых абшараў у прынцыпе, нават і коштам каляністаў-туркаў. Султан зь ягоным дваром былі занятыя досыць пасьпяховымі вайсковымі паходамі на Балканах і ў Закаўказьзі. Ня вырашыўшы сваіх геапалітычных праблемаў у Паўднёвай Эўропе і Закаўказьзі, Турцыя не магла разьлічваць на пасьпяховую сельскагаспадарчую калянізацыю Паўночнага Прычарнамор'я ўласнымі сіламі. З гэтых прычынаў Турэцкая імпэрыя да часу мела выгаду зь існаваньня ў тамтэйшай частцы Эўропы «Дзікага поля»;

2. перашкаджаць аб'яднаньню кантынэнтальных усходнеэўрапейскіх дзяржаваў, бо такое аб'яднаньне ў кожным разе ставіла б мэтаю прарыў да стэпавых чарназёмаў, а ў пэрспэктыве — і да Басфора з Дарданэлямі. Узгадаем у сувязі з гэтым гісторыю Кіеўскае Русі, якая ў момантах свайго больш-менш скансалідаванага стану заўжды распачынала экспансію на поўдзень, маючы на ўвазе Канстантынопаль (красамоўныя ў гэтым сэнсе паходы Сьвятаслава). Турэцкая імпэрыя ў XVI стагодзьдзі прыўлашчыла частку геапалітычных функцыяў імпэрыі Візантыйскае, аднак, у адрозьненьне ад Візантыі, яна мела патэнцыял да шырокае зьнешняе экспансіі, стымуляваны памкненьнем унікнуць лёсу «лянівай» папярэдніцы. Нарэшце страцілі істотную геапалітычную значнасьць качэўныя народы стэпаў, што рэзка адсталі ў разьвіцьці сваёй вайсковай тэхнікі ад земляробчых дзяржаваў.

Таму Турцыя не шукала трывалага хаўрусу з кантынэнтальнымі дзяржавамі Ўсходняй Эўропы, як гэта рабіла ў свой час Візантыя. Палітыку Турцыі можна разглядаць як папярэднюю падрыхтоўку да непазьбежнай вайны зь імі. Таму і стратэгічнай мэтаю султана ва Ўсходняй Эўропе, пакуль не было сілаў на вялікую вайну, рабілася ўзаемнае нацкоўваньне кантынэнтальных дзяр-

жаваў або правакаваньне нутраных закалотаў ва ўзмоцненых дзяржавах;

3. абапіраацца на Крымскае ханства. Моцы гэтага дзяржаўнага ўтварэньня нехапала дзеля ўтрыманьня пад сваім кантролем вялікіх абшараў зь земляробчым насельніцтвам. Засвоіць прычарнаморскія стэпы ўласнымі сіламі татары не маглі, бо ня мелі на гэта ні людзкіх рэсурсаў, ні санкцыі з боку султана. Павялічыць свой геапалітычны патэнцыял за кошт эксплюатацыі важных шляхоў транзыту міжнароднага гандлю, што пралягалі праз кантраляваную імі тэрыторыю, татары не маглі з-за палітыкі Турцыі, якая паставіла найбольш важныя гандлёвыя пункты, перадусім паўднёвы бераг Крыма, пад свой непасрэдны кантроль. Татары ў XVI стагодзьдзі былі ня ў стане таксама вытрымаць уласнымі сіламі канцэнтраваны ўдар любой з кантынэнтальных дзяржаваў, што паказаў досьвед наездаў на Вялікае Княства Літоўскае ў канцы XV — пачатку XVI стагодзьдзяў, а галоўнае — поўнага разбурэньня ў падобнай сутычцы ня менш моцных Казанскага і Астраханскага ханстваў. Нават здужэлае ў «Дзікім полі» казацтва складала немалую пагрозу для татараў, асноўныя ж сілы кантынэнтальных дзяржаваў — тым больш.

Крым выжываў толькі дзякуючы апекаваньню турэцкага султана і таму быў ягоным найадданейшым хаўрусьнікам. Геапалітычная функцыя Крымскага ханства зводзілася да абслугоўваньня абмежаванага кола дыпляматычных намаганьняў султанскага двара моцаю зброі. Для рэалізацыі ўсходнеэўрапейскіх прыярытэтаў Турцыі, як мы іх бачым, геапалітычнага патэнцыялу Крымскага ханства на працягу XVI стагодзьдзя было даволі.

На працягу 2-й паловы XV і ў XVI стагодзьдзі Турцыя ператварылася ў адну з наймацнейшых дзяржаваў Эўропы. Аднак рэвалюцыя цэнаў, што адбывалася ў той самы час, дазволіла асноўнаму суперніку Турцыі ў Міжземнамор'і — блёку каталіцкіх дзяржаваў на чале з Габсбургамі — утварыць дастатковы эканамічны і вайсковы патэнцыял, каб спыніць прасоўваньне Турцыі ў Паўночнай Афрыцы і ў Міжземнамор'і далей на Захад. Турцыя ня здолела прабіцца да Атлянтычнага акіяну і стварыць праблемы ў справе манапольнае эксплюатацыі Габсбургамі «Новага сьвету». Сьведчаньне гэтаму найперш становіць параза Турцыі ў бітве пад Лепанта (1570 г.). Ня

менш важкім паказчыкам непэрспэктыўнасьці для Турцыі далейшага прасоўваньня ў міжземнаморскім кірунку пад канец XVI стагодзьдзя можна лічыць посьпехі інквізыцыі, калі Габсбургі ў Гішпаніі здолелі ўпакорыць патэнцыяльных хаўрусьнікаў туркаў — слынных маранаў і марыскаў.

Умацаваньне ў Паўночнай Афрыцы прыязных Турцыі пірацкіх дзяржаваў не магло кампэнсаваць гэтае страты, бо паўночнаафрыканскія дзяржаўныя ўтварэньні былі скрайне нетрывалыя і паразытычныя па сваёй сутнасьці. У той самы час у Гішпаніі былі страчаныя для Турцыі цэлыя слаі земляробаў, купцоў, рамесьнікаў, якія жылі не з эксплюатацыі чужое працы, але з выкарыстаньня мясцовых рэсурсаў сыравіны.

Нарэшце, дзякуючы паразе пад Лепанта і ўсёй сэрыі злучаных зь ёю вайсковых канфліктаў, стала відочнаю вайскова-тэхнічная адсталасьць Турэцкае імпэрыі ад мадэрнізаваных эўрапейскіх дзяржаваў. Турцыя больш не магла разьлічваць на перамогу ў супрацьборстве высокатэхналягічных родаў войскаў, у першую чаргу, ваенных флётаў. У вайсковай сфэры ёй заставалася адно рабіць стаўку на вядзеньне ў Эўропе наземнае вайны, для якое яна мела велізарныя чалавечыя рэсурсы, або на камбінаваную вайну, калі дзеяньні флёту дапаўняліся б шырокамаштабнымі наступамі на сушы.

Яшчэ большую важкасьць для Турцыі займела цяпер дыпляматычная чыннасьць. Відочнаю стала неабходнасьць уласнае турэцкае мадэрнізацыі. Найперш гэта тычылася прамысловасьці і вайсковае галіны. Таму напрыканцы XVI стагодзьдзя мы можам канстатаваць зьмены характару турэцкае зьнешняе экспансіі. Калі раней яе галоўнаю мэтаю выступала простае заваяваньне суседніх краінаў, абапёртае на існуючыя рэсурсы і патэнцыял, то напрыканцы XVI стагодзьдзя мэтаю сэрыі войнаў стаўся пошук сродкаў дзеля ўмацаваньня ўласнага патэнцыялу. Такой вайной можна лічыць перадусім турэцка-іранскую вайну. Гэтай стратэгічнай мэце была падпарадкаваная пасьля Лепанта ўся зьнешняя палітыка Турэцкае імпэрыі. Да шэрагу пачынаньняў з падобнымі мэтамі можна далучыць і ўсе плянаваныя, але няспраўджаныя войны і канфлікты, накшталт пагрозы вайны з РП у 1590 годзе. Турцыя зусім не адмаўлялася ад барацьбы за пана-

ваньне ў Эўропе. Турцыя не адступалася. Турцыя адно рабіла сабе невялікі перадых.

На гэткім тле дзейнасьць Стэфана Баторага можа разглядацца як спрыяльная для Турцыі:

1. Баторы скансалідаваў заходнюю супрацьвагу Маскоўскай дзяржаве;

2. Баторы не дапусьціў прарыву Масквы да балтыйскага гандлю, значыцца, паспрыяў кансэрвацыі адсталага ўзроўню тэхналягічнага разьвіцьця вайсковага патэнцыялу Маскоўскае дзяржавы. Нагадаем, што Масква ня мела доступу да значных радовішчаў мэталяў. Цяпер і на швэдзка-галяндзкую зброю ёй разьлічваць не выпадала;

3. Баторы прадухіліў разгортваньне шырокамаштабнага імпарту маскоўскае пушніны на Захад, паўплываўшы праз гэта на адносна марудныя ў параўнаньні з магчымымі тэмпы маскоўскае калянізацыі Паволжа, Урала і Сібіры. А гэта, у сваю чаргу, дадавала трываласьці яшчэ вельмі далёкім ад поўнага ўпакарэньня рэшткам палітычных элітаў усходнетатарскіх ханстваў. Хто ведае, колькі дзясяткаў тысячаў дабрахвотнікаў набраў бы Ярмак Цімафеевіч для свайго паходу на Сібірскае ханства, калі б уласная маскоўская цана на пушніну была, прыкладам, удвая вышэйшаю, чым на той час, а агністрэльная зброя — якасьнейшаю і ўдвая таньнейшаю? Напэўна ж, была б, каб Масква валодала Лівоніяй і мела шанс да больш шырокага імпарту пушніны на Захад. У такіх умовах сібірскія татары, бадай, ня здолелі б адбіцца ад казацкае навалы. Ды й арганізаванае войска дваранаў адыграла б у заваяваньні Сібіры больш значную ролю, чым за Ермаком.

Турцыя не перашкаджала Баторାму пляжыць Івана IV. Такое часовае супадзеньне палітычных памкненьняў РП і Турцыі нагэтулькі кідалася ў вочы, што ў грамадзтве РП Стэфана Баторага шмат хто ўважаў за турэцкага стаўленіка. Да гэтага спрычыняўся таксама й факт ягонага прыбыцьця ў РП з Трансыльваніі, якая была ў васальнай залежнасьці ад турэцкага султана. Верагодна, дзеля характарыстыкі стасункаў Баторага і Турцыі можна безь перабольшаньняў карыстацца сучасным тэрмінам «стратэгічнае партнэрства». Гэтыя краіны, праўда, ня мелі ўзаемнае дамовы аб хаўрусе супраць агульнага ворага. Нават у 1586 годзе Баторму не ўда-

лося дасягнуць гэтага, хаця ён і спрабаваў. Аднак яны дзеялі ў адным напрамку, не замінаючы адна адной, узаем дапаўняючы сябе і падладжваючыся пад партнэра. Посьпех аднаго з бакоў аб'ектыўна забясьпечваў посьпех другому.

Іначай выглядае рашучы ўдар Баторага па сталіцы Маскоўскае дзяржавы ў 1587 годзе. Верагодны посьпех гэтага паходу дыпляматычна мог афармляцца па-рознаму. Відавочна, былі б адрэзаныя ад Масквы і далучаныя да РП Бранск, Смаленск, Чарнігаў. У нейкія адмысловыя дзяржаўныя ўтварэньні зь непасрэднай залежнасьцяй ад РП маглі ператварыцца Пскоў і Ноўгарад. Хаця, канечне, у бліжэйшым часе ня варта было непакоіцца пра адраджэньне былое магутнасьці Ноўгарада, дарэшты падарванай Іванам IV ды ягонымі папярэднікамі.

РП пашырыла б сваю ўладу на ўсё балтыйскае ўзьбярэжжа з боку Масквы. Гэта вяло да напружваньня канфлікту са Швэцыяй вакол Эстоніі. Але, уважаючы на тое, што тагачасная Швэцыя мела вельмі слабое сухапутнае войска і досыць паважныя праблемы з сэпаратызмам сваіх складовых частак, мог быць слушным разьлік на посьпех у адстойваньні РП сваіх новых набыткаў на Балтыцы. Рэгіён вакол Масквы мог быць уключаны ў склад РП на правох наступнага сябра дзяржаўнае вуніі, накшталт таго, як гэта сталася ў ВКЛ. Або захаваў бы адно васальную залежнасьць ад караля РП. У кожным разе, у часе ўзьніклага аслабленьня дзяржаўнае ўлады ў Маскоўскай дзяржаве варта было чакаць распальваньня антымаскоўскіх настрояў у Паволжы і Сібіры.

Такое паўстаньне і без паходу Баторага на Маскву разгарнулася на абшарах былога Казанскага ханства ў 1584 годзе. Яно зь вялікай цяжкасьцяй было ўпакoранае ў 1585 годзе з дапамогаю сьпецыяльна перакінутых сюды зь іншых рэгіёнаў войскаў. Аднак у Сібіры яшчэ доўжыўся арганізаваны супраціў парэшткаў палітычнае эліты Сібірскага ханства, і пры гэтай нагодзе можна было не сумнявацца ў абвастрэньні канфлікту.

Такое разьвіцьцё падзеяў вымагала б умяшаньня Турцыі, бо тая не магла дапусьціць падаўленьня Стэфанам Баторым паўстаньняў і ўтварэньня велізарнае дзяржавы ад Віслы да Обі. Было цалкам зразумела, што наступным аб'ектам экспансіі гэтае дзяржавы зробіцца Турцыя,

яшчэ дакладней,— Крымскае ханства. Узнаўленьне ісламскага кардону ў Паволжы на шляху славянскае калянізацыі Ўрала і Сібіры мела сэнс яшчэ й як утварэньне нейкага кшталту пляцдарму дзеля падобнай эксплюатацыі Сібіры, але ўжо рукамі ісламскага сьвету, у тых умовах — рукамі турэцка-татарскага купецтва.

Турцыя мела жыцьцёвую неабходнасьць ва ўласнай Амэрыцы. Уласна, гэта й было яе мэтаю пасьля Лепанта. Бадай, можна рызыкнуць сьцьвярджаць, што Турцыя ішла да гэтага. Уся яе палітыка ў Паволжы была, урэшце, падпарадкаваная гэтай мэце, бо на чым іншым грунтавалася геапалітычныя трываласьць паволжскіх ханстваў, як не на транзытным гандлі Усход — Захад і Поўдзень — Поўнач? А што ляжала на поўнач і паўночны захад ад Казані? Багатыя на пушніну таежныя лясы. Харэзм, нягледзячы на сваё ўзмацненьне ў гэтыя часы, ня мог лічыцца сур'ёзным гарантам стабільнасьці ісламскага панаваньня ў Паволжы. Ён ня мог і скласьці паважнага супраціву Турцыі. Таму зрушаньне Турцыі ў бок Волгі можна разглядаць толькі як імкненьне менавіта гэтае дзяржавы распаўсюдзіць сваю ўладу на рэгіён.

Тэарэтычна паход Стэфана Баторага на Маскву пакідаў мажлівасьць на захаваньне стратэгічнага партнэрства паміж РП і Турцыяй: РП магла б перадаць Паволжа Турцыі ў якасьці васальна залежных ад султана дзяржаваў. Атрыманыя ў выніку паходу набыткі дазволілі б (уважаючы на непазьбежны канфлікт са Швэцыяй, хай сабе і ня дужа маштабны, аднак важкі сваімі складанымі наступствамі для Захаду) разьлічваць на падобную саступку Баторага.

Больш таго, іншы варыянт быў малаверагодны. Гэтаму спрыяў таксама і факт канцэнтрацыі якраз на разгляданых тэрыторыях і прылеглых абшарах найбольш лаяльнага да царскага двара расейскага насельніцтва. Усе гэтыя казакі, стральцы, купцы, паляўнічыя... былі ўсім забавязаныя падтрымцы двара. Масква забясьпечвала іх зброяй і харчам. Масква стрымлівала нянавісьць тутэйшага насельніцтва. Масква давала ім магчымасьць дасягненьня росквіту і дабрабыту. Узгадаем, што пазьней, напачатку XVII стагодзьдзя, у часе Смуты, менавіта адсюль, зь Ніжняга Ноўгарада і ягоных ваколіцаў, гэтых традыцыйных канкурэнтаў ісламскіх ку-

пецкіх абшчынаў Казані, прыйшлі ратаваць і выратавалі Маскоўскую дзяржаву значныя сілы. Няхай і не адны, з дапамогаю хаўрусьнікаў, аднак жа якраз гэтае ніжнегародзкае рушаньне сталася ядром патрыятычнага ўздыму ў Маскве ў тыя жахлівыя для яе часы. І купцам не забракавала ні сродкаў, ні сілаў. Можна быць пэўным, што Стэфан Баторы ня стаў бы ў 1587 годзе правакаваць вайну з Турцыяй, дапамагаючы праз гэта каляніяльным групоўкам ацалець у сечы, наладжанай канкурэнтамі-тубыльцамі.

Праблема Турцыі ў выпадку падобнага разьвіцьця падзеяў палягала ў складанасьці абароны Баторавага падарунку. Турцыя была ня ў стане гарантаваць стабільнага ваеннага забясьпечаньня сваіх хаўрусьнікаў, а нават і гарнізонаў у Паволжы. На той момант яшчэ працягвалася турэцка-іранская вайна, закліканая паставіць пад кантроль Турцыі даўнейшыя іранскія ўладаньні: немалую частку Закаўказьзя і пэўную частку Каўказу. Апрача таго, у апошнія гады жыцьця Баторага іранцы дзейсна бараніліся ад туркаў.

Якраз у 1586—1587 гадах Турцыя пачала свой рашучы наступ на Урал і толькі ў 1589 годзе здолела дамагчыся перавагі. Дарэчы, дата пераходу Турцыі да наступу хавае ў сабе спакусу зьвязаць яго з маскоўскімі плянамі Баторага. Прынамсі, пачатак турэцкага наступу супраць Ірана плянаваўся да сьмерці Баторага, і таму малаверагодна, што вайсковыя пляны РП і Турцыі не былі ў той час сынхранізаваныя. Тым больш што Баторы ў 1586 годзе рабіў спробу дамагчыся ад султана адкрытага вайсковага хаўрусу супраць Масквы. У кожным разе наступ Турцыі ў Закаўказьзі адпавядаў стратэгічным інтарэсам Баторага, бо выводзіў яе на непасрэдныя подступы да Астрахані, што цягнула за сабою ўвязваньне Турцыі ў непасрэдную вайну з Масквою.

Апрача гэтага, значная частка Паволскага гандлёвага шляху была зарыентаваная на Іран. Канечне, Турцыя мела магчымасьці карыстацца кантраляванымі праз свайго галоўнага ўсходняга канкурэнта і суперніка гандлёвымі артэрыямі, але не наўпрост,— пераважна празь дзейнасьць армянскага купецтва, якое трымала ў сваіх руках буйны транзытны міжнародны гандаль як Ірана, так і Турцыі, у рэгіёне на поўнач ад Чорнага мора. Гэтае купецтва не было зацікаўленае ў сур'ёзных геапалітычных зьме-

нах у рэгіёне на карысьць Турцыі. Аднак галоўнае ня ў гэтым.

Галоўнае складала перспэктыва ўмацаваньня Ірана на Каўказе і, магчыма, у Харэзьме. А гэта, у сваю чаргу, адкрывала Ірану магчымасьць разгортваньня ўласнай буйнамаштабнай экспансіі ў Паволжы. Тым больш што пазыцыі армянскага купецтва, зарыентаванага на Іран, там былі моцныя. Несумненна, пры іншых роўных умовах новая РП мела б большую выгоду з усталяваньня партнэрскіх стасункаў з адносна слабым Іранам, чым з моцнай Турцыяй. У гэткім разе, адзіная камунікацыйная лінія паміж Турцыяй і Паволжам у раёне Кубані і Дона трапляла пад удар двух патэнцыйных хаўрусьнікаў. У выпадку нэўтралітэту новай РП у справе турэцка-іранскага канфлікту гэтую камунікацыйную лінію Іран мог паралізаваць і сам.

Выкарыстаньне супраць Ірана Харэзма і ягоных індыйскіх суседзяў, а таксама правакаваньне ўнутрыпалітычнае канфрантацыі ў самым Іране маглі б спраўдзіцца адно ў выпадку непасрэднага ваеннага сутыкненьня Турцыі з гэтаю дзяржаваю: Іран быў залішне моцны, каб ягоная пэрыфэрыя магла самастойна рызыкнуць выступіць супраць.

Паволскія народы былі таксама залішне слабыя, каб разьлічваць на паважных хаўрусьнікаў у супрацьстаяньні новай РП ці нават Ірану. Гэтыя народы мусілі б моцна пацярпець у барацьбе з маскоўскімі каланістамі. Верагодны быў варыянт зацягваньня гэтае барацьбы на шмат гадоў, бо каланісты былі шматлікія й ваяўнічыя й рашучыя, а Стэфан Баторы толькі б скарыстаў зь ператварэньня паволскага канфлікту ў доўгатэрміновы. Гэта значыць, самая актуалізацыя пытаньня пра кантроль над паволскімі ханствамі вяла да абвастрэньня ірана-турэцкіх стасункаў і рабіла працяг канфлікту між імі непазьбежным. У гэтым канфлікце Турцыя ня мела пэрспэктываў перамогі без папярэдняга абясшкоджваньня Ірана.

Гарантаваная антымаскоўская палітыка Баторага змушала Турцыю да прэвэнтыўнага вырашэньня свае іранскае праблемы выключна ваенным шляхам. У 1586 годзе разгарэлася ірана-турэцкая вайна, якая доўжылася да сакавіка 1590 году. У выніку гэтае вельмі цяжкае для абодвух краінаў вайны былі спустошаныя Азэр-

байджан (падмурак эканомікі Ірана), Арменія (значную частку армянаў-купцоў і рамесьнікаў іранцы вывезьлі ў Ісфахан і пасялілі там, ператварыўшы такім шляхам Ісфахан у адну з найбуйнейшых у сьвеце армянскіх калёніяў), некаторыя іншыя вобласьці Закаўказьзя.

У рэшце рэшт, да 1589 году туркі здолелі замацавацца ў адзначаных мясцовасьцях, цалкам адкінуўшы Іран ад Каўказа і Закаўказьзя. У 1587 годзе Турцыя выйшла да паўночнакаўкаскіх стэпаў у раёне Церака. Усьведамляючы, што чарговаю мэтаю Турцыі стане Астрахань, Маскоўская дзяржава паспрабавала замацавацца на Цераку, засланяючы гэтым шляхам турэцкім войскам асноўны праход праз Каўкаскія горы. У 1588 годзе на Церак быў дасланы вайсковы аддзел з заданьнем пабудовы некалькіх крэпасьцяў дзеля блякаваньня мажлівасьці праходу турэцкіх войскаў праз Каўказ у стэпе. Гэты аддзел здолеў заснаваць гарадок на самым Цераку, аднак спроба далейшага руху ў Закаўказьзі прывяла да поўнага зруйнаваньня яго празь мясцовых хаўрусьнікаў туркаў.

Падобную ж мэту станавіла й маскоўская дыпляматычная чыннасьць на каўкаскім напрамку. Нават сярод апошніх жонак Івана IV мы сустракаем кабардынскую князёўну. Ужо на той час Кабарда была асноўнаю хаўрусьніцаю Масквы на Каўказе. У 1588 годзе яна гэта ізноў адчайна засьведчыла. У тым самым годзе ў маскоўскае падданства была прынятая частка Грузіі. Але замацавацца ў Грузіі й на Цераку Маскоўскай дзяржаве ў 1587—1588 гадах не ўдалося. Менавіта ў часе гэтае спробы быў вынішчаны трохтысячны аддзел, які заснаваў гарадок на Цераку.

Ужо ў 1586 годзе было зразумела, што цяпер Турцыя можа распачынаць непасрэдную падрыхтоўку да чынных дзеяньняў у паволскім кірунку. Праўда, яе наўпроставы ўдзел у вайне Баторага супраць Масквы выглядаў пакуль, бадай, заўчасным. Іран яшчэ меў надзею на сутыкненьне Турцыі з Масквою і, мажліва, з новаю РП, таму й ня йшоў на заключэньне мірнае дамовы з султанам. У гэткай сытуацыі Турцыі не выпадала ўцягвацца ў чарговы буйнамаштабны канфлікт. Верагодна, гэта сталася асноўнаю прычынаю адмовы турэцкага султана ў 1586 годзе ад прапанаванага Баторым хаўрусу супраць Масквы.

Зь іншага гледзішча, Турцыя-такі дапамагала Баторау. Як іначай, калі не такой падтрымкай, можна назваць няспынныя наезды крымскіх татараў на маскоўскія ўладаньні цягам усіх 80-х гадоў XVI стагодзьдзя? З кожным годам наезды рабіліся ўсё маштабнейшыя, і кірунак іхнага ўдару ўсё больш набліжаўся да Паволжа. Да 1587 году сфэра актыўных дзеяньняў крымскіх татараў у Паўночным Прычарнамор'і ўсутыч наблізілася да Паўночнага Каўказа й Церака, і пытаньне пра непасрэдныя зносіны Крыма і турак у Закаўказьзі празь Церак абмяркоўвалася ў часе дыпляматычных перамоваў з Масквою. Масква мусіла пагадзіцца на такія зносіны, хаця й з пэўнымі акалічнасьцямі. Дапамога Баторау праз вонкава самастойныя дзеяньні крымскіх татараў, паза ўмовамі хаўрусьніцкае дамовы, надавала Турцыі больш выгодную дыпляматычную падставу:

1. стрымлівала заключэньне хаўрусу паміж Масквою ды Іранам. Іран трохі пазьней, у 1588 годзе, сам запрапанаваў такі хаўрус, але Масква запярэчыла яму, не жажаючы ўцягвацца ў вайну яшчэ і з Турцыяй. Гэта значыць, турэцкая дыпляматычная лінія сябе апраўдала;

2. дазваляла й надалей не прызнаваць правоў Масквы на ейныя паўночнакаўкаскія валоданьні. Гэта адкрывала дарогу да акупацыі гэтых абшараў падчас паходу Баторага на Маскву, а потым — да непрызнаньня правоў на іх залежнага ад Баторага спадкаемца Маскоўскае дзяржавы, а мо нават і самога Баторага. Турцыя мусіла чакаць посьпеху першае фазы атакі РП на Маскву. Сілаў РП і Крыму для такога посьпеху павінна было хапіць.

У самой Маскоўскай дзяржаве на поўную моц ішоў распад палітычных структураў і на паверхню выбілася адкрытая барацьба «прапольскіх» і «антыпольскіх» баярскіх груповак (падзеі сярэдзіны 80-х гадоў у Маскве). Умацаваньне ўплыву РП на абшарах Маскоўскае дзяржавы вымагала б часу. Апрача таго, як ужо згадвалася, пасьля гэтага магла хутка ўсчацца вайна РП і Швэцыі з-за паўночнае Эстоніі.

То ж бо, Турцыя мела поўны запас часу на ўладжваньне канфлікту зь Іранам пасьля пачатку маскоўскага паходу Баторага. Аслабленьне, а мо й разгром Масквы павінны былі змусіць Іран пайсьці на падпісаньне нявыгаднага міру з Турцыяй і прытрымлівацца гэтага мі-

ру. Вось тады б і надышоў найбольш зручны для Турцыі момант пераходу да чыннага ўмяшаньня на паволскім напрамку. Гэткае ўмяшаньне, бадай, набыло б форму паходу на Астрахань, а пасьля, абапіраючыся на астраханскі «пляцдарм»,— зрушэньня да верхняе Волгі і Заволжа.

Агулам беручы, усходняя накіраванасьць зьнешняе экспансіі РП, як ужо зазначалася, была карысная Турцыі й сама па сабе, бо:

1. папярэджвала магчымасьць збліжэньня РП з Масквою або з Габсбургамі на антытурэцкай глебе;

2. відавочная перавага РП у супрацьборстве з Масквою давала магчымасьць Турцыі, не баючыся новых дыпляматычных камбінацыяў, падрыхтавацца да супольнай з РП атакі на Маскву і атрыманьня-такі былых паволскіх ханстваў;

3. супрацьборства РП і Масквы стварала для Турцыі магчымасьць пачатку сур'ёзнай вайны супраць Ірана, дзе б на мэце стаяла перадусім выціскаearnь яго з Закаўказьзя.

Зыходзячы з гэтага, мы можам канстатаваць, што Турцыя ў 1586 годзе мела зацікаўленасьць у пасьпяховым заканчэньні паходу Стэфана Баторага на Маскву. Для яе надзвычай неабходным было захаваньне батарыянскага зьнешнепалітычнага курсу РП нават і ў выпадку малаверагоднага правалу гэтага паходу. Турцыя была пэўная рэальнасьці сваіх разьлікаў на захаваньне пазначанага курсу РП і, зыходзячы з гэтага, пабудавала пасьля Лепанта ўласную зьнешнепалітычную стратэгію, скіраваную на здабыцьцё карыстаньня Волгай і доступу да Сібіры. Гэта значыць, інтарэсам Турцыі пасьля сьмерці Баторага адпавядала захаваньне ўлады ў РП за палітычнай партыяй «батарыянцаў», якая імкнулася працягваць ажыцьцяўленьне ранейшае зьнешняе палітыкі. Апрача таго, Турцыя не магла ўчыняць ніякіх маштабных акцыяў ва Ўсходняй Эўропе да высьвятленьня палітычнае сытуацыі ў РП. Толькі захаваньне там улады батарыянцаў адкрывала Турэцкай імпэрыі дарогу да спыненьня зацягненае вайны зь Іранам і пераходу да новае фазы экспансіі ў Эўропе, пажадана — на маскоўска-паволскім кірунку, подступы да якога з боку Каўказа яна цяпер інтэнсыўна й пясьпяхова таравала. Можна сьцьвярджаць, што толькі гэта ўтварала для Турцыі гіс-

тарычную пэрспэктыву хоць некалі выйграць супрацьстаяньне з ахопленаю «рэвалюцыяй цэнаў» Эўропаю.

Такім чынам, мы вылучылі адну з асноўных характарыстык палітычнае групоўкі (адмысловае партыі, бо гэтая групоўка мела сваю ідэалёгію знешне- і ўнутранапалітычную праграму, была структураваная вакол шэрагу лідараў, супрацьстаўляла сябе паводле зазначаных парамэтраў іншым падобным палітычным групоўкам-партыям) батарыянцаў: рух на Маскоўскую дзяржаву, імкненьне апанаваць яе пераважна гвалтам, захаваньне паміж РП і Турэцкай імпэрыяй міру, а ў ягоных мэтах — стратэгічнага партнэрства.

## ВЫМУШАНАЯ АРЫЕНТАЦЫЯ У ЭЎРОПЕ НА НІДЭРЛЯНДЫ

Падобная геапалітычная арыентацыя РП пры Стэфане Баторым утварала яе своеасаблівае стаўленьне да заходніх эўрапейскіх палітычных закалотаў таго часу. Перадусім, РП унікала збліжэньня з Аўстрыяй і Габсбургамі ўвогуле. Падваліны зьнешнепалітычнае дзейнасьці дому Габсбургаў у той пэрыяд складала:

1. супрацьстаяньне пратэстантам па ўсёй тэрыторыі Эўропы, апекаваньне кантррэфармацыяй. У значнай ступені ў гэтым кантэксьце разьвіваліся дачыненьні Габсбургаў з Галяндыяй, Англіяй, Швэцыяй. Істотна азмрочвалі названае супрацьстаянне дачыненьні Габсбургаў з разьдзіранай рэлігійнымі войнамі Францыяй;

2. супрацьстаяньне Турэцкай імпэрыі;

3. супрацьстаяньне паўставаньню моцных канкурэнцыйных дзяржаўна-эканамічных арганізмаў, такіх як Галяндыя, Англія, Францыя, да пэўнай ступені Швэцыя.

Ужо за часамі Баторага ў Эўропе разгортваўся працэс задзіночваньня блёку пратэстанцкіх краінаў, скіраванага супроць Габсбургаў. Часткаю гэтага блёку можна лічыць і пераважна каталіцкую Францыю. За Баторым РП яшчэ магла ўхіляцца ад удзелу ў гэтым эўрапейскім расколе. Пратэстанцка-каталіцкая расколіна на той час яшчэ не набыла абрысу супрацьстаяньня дзьвюх груповак эўрапейскіх краінаў, але да гэтага йшло. І РП трапіла ў адмысловае геапалітычнае становішча.

Эканамічна РП была ўсутыч зьвязаная з краінамі Поўначы. Ужо з канца XV стагодзьдзя, калі й яе засьпела

рэвалюцыя цэнаў, вызначылася форма інтэграцыі РП у хутка скансалідаваную эўрапейскую эканамічную прастору: пастаўка на экспарт лясных тавараў, пэўных відаў тэхнічных сельскагаспадарчых культураў (лён, пянька), а насамперш — хлеба. Адпаведна з прамысловых рэгіёнаў Заходняе Эўропы ў РП пастаўляліся ў вялізнай колькасьці даволі якасныя прылады працы, безь якіх была б немагчымаю фальваркавая рынкавая вытворчасьць у тых, што былі, памерах, новыя вытворчыя тэхналёгіі і сельскагаспадарчыя культуры, тканіны, мэталі (у тым ліку і каштоўныя), зброя і новыя тактыкі вядзеньня баявых дзеяў. Сама па сабе рэвалюцыя цэнаў, як ведама, мела выгляд імклівага росту ў краінах Заходняе Эўропы цэнаў на харчовыя тавары і сельскагаспадарчую сыравіну побач зь менш хуткім ростам цэнаў на прамысловыя і рамесьніцкія вырабы. Гэты працэс адбываўся ў выніку:

1. хуткага росту незанятага ў сельскай гаспадарцы насельніцтва: рамесьнікаў, жаўнераў, чынавенства, маракоў і жыхароў калёніяў, якіх спачатку забясьпечвалі ўсім неабходным з «Старага сьвету». А гэты рост, у сваю чаргу, быў стымуляваны вялікімі геаграфічнымі адкрыцьцямі і злучанымі зь іх засваеньнем выдаткамі: будаўніцтвам флёту, вырабам узбраеньня, утрыманьнем флёту і калёніяў;

2. прытоку з калёніяў, найперш з Амэрыкі, досыць вялікіх масаў каштоўных мэталяў. Эксплюатацыя калёніяў доўгі час заставалася фактычным манапольным прывілеем двара Габсбургаў. Таму існавала магчымасьць выдаткаваньня каляніяльных прыбыткаў на вялікія праекты: будаўніцтва вялізных флётаў, утрыманьне значных войскаў і ўрадавага апарату, фінансаваньне дзейнасьці буйных мануфактураў, руднікоў, мэталюргічных заводаў і сукнавальняў. Каляніяльнае срэбра і золата выступала своеасаблівым крэдыторам эканамічнага парыву краінаў Заходняе Эўропы;

3. адчужэньня ці спусташэньня цягам безупынных вайсковых дзеяньняў у выніку турэцкае экспансіі шэрагу традыцыйных рэгіёнаў-пастаўшчыкоў сельскагаспадарчых прадуктаў і сыравіны: Балканскае паўвыспы, дунайскіх княстваў (цяпер ужо больш жорстка прывязаных да турэцкага рынку), Малое Азіі, Эгіпта. Гэта былі рэгіёны яшчэ з антычных, нават перадантычных

часоў спэцыялізаваныя найперш на вытворчасьці збожжа. Турэцкі ўрад зацята змагаўся з кантрабандным вывазам з краіны таго ж збожжа, бо ў Турцыі мелася багата сваіх месьцічаў, жаўнераў і чыноўнікаў. І хаця кантрабандны ці пасярэдніцкі сельскагаспадарчы гандаль Турцыі з Паўднёваю Эўропаю працягваўся, ён, канечне, ўжо ня меў тае значнасьці для рэгіёну, што калісьці.

У гэтай сувязі красамоўным ёсьць факт падзеяў 1590 году ў Паўночнай Італіі. На той час разьмешчаныя там дзяржавы апынуліся на мяжы голаду. З Турцыі падвезьці збожжа было немагчыма. І ў Кракаве зьявілася пасольства з намерам арганізаваць транспартаваньне збожжа з РП у Італію на вялізных баржах па эўрапейскіх рэках. Гэткі праект аказаўся заліцьне складаным, і збожжа пераслалі ў Італію морам, на караблёх праз Гібральтар.

Да пазначанае праблемы дадаліся зьмены ў эканамічным раянаваньні Эўропы з прычыны вялікіх геаграфічных адкрыцьцяў. Да канца XVI стагодзьдзя асяродак эканамічнае дзейнасьці перамясьціўся з Паўднёвае Эўропы на ўзьбярэжжа Атлянтычнага акіяну. Адпаведна, паўночныя гарады шукалі сабе больш зручных пастаўшчыкоў неабходнае сыравіны і зручнейшыя рынкі збыту. На гэтай новай эканамічнай кан'юнктуры расквітнеў балтыйскі гандаль і прыбалтыйскія краіны. У тым ліку і РП.

Балтыйскае мора ператварылася ў найбольш ажыўлены эканамічны рэгіён Эўропы. На працягу XVI стагодзьдзя выкшталтавалася эканамічная спэцыялізацыя розных прыбалтыйскіх рэгіёнаў. Так, Швэцыя пастаўляла на эўрапейскі рынак пераважна мэталі; Польшча й Літва (Панямоньне ды Падляшша)— збожжа; Украіна — збожжа, валовіну, скуры; Беларусь — лясныя тавары і тэхнічныя культуры і г. д.

Гэтыя фонавыя чыньнікі ўключалі РП у працэс пабудовы Паўночнага пратэстанцкага блёку краінаў. То ж бо, цэнтрам эўрапейскага гандлю таго часу на працягу XVI стагодзьдзя зрабіліся Нідэрлянды. Менавіта гэтая краіна была найістотнейшым спажыўцом экспартовых тавараў РП і асноўным пасярэднікам іх рэалізацыі ў іншых краінах Эўропы. На ейных караблях РП і перавозіла свой экспарт ды імпарт. Пра гэта напісана шмат.

Аднак РП мела толькі некалькі значных марскіх портаў. Да канца XVI стагодзьдзя яны ўжо досыць сур'-

ёзна спецыялізаваліся на абслугоўваньні перавозак розных відаў тавараў:

— Гданьск (найбуйнейшы порт на Балтыцы) меў характар вялізнага эўрапейскага збожжавага порту;

— Кёнігсбэрг — лясныя тавары;

— Рыга — тэхнічныя культуры.

Астатнія порты РП асаблівага значэньня ня мелі. Гэта значыць, да пералічаных кранікаў з усяе кантынентальнае часткі РП сьцякаўся тавар пэўнага кшталту, тут яго куплялі гуртовымі партыямі, а часам і загадзя на корані забіралі купцы-манапалісты, а пасьля, звычайна на нідэрляндзкіх караблях, накіроўвалі або ў Амстэрдам (да 1585 году — у Антвэрпэн), або, паводле атрыманых адтуль зьвестак, туды, дзе тавар ужо быў запрададзены гуртаўнікамі з Амстэрдамскае (Антвэрпэнскае) біржы. Адтуль, паводле тае самае схемы, у РП прыходзілі гружаныя буйнымі партыямі рамесьніцкіх тавараў судны, зазвычай ізноў нідэрляндзкія. Караблі выгружаліся на месцы, і гуртаўнікі-скупшчыкі атрымлівалі сельскагаспадарчыя тавары, якія развозілі далей, па сваіх рэгіёнах.

Урэшце, працэс экспарту-імпарту найбольш важкіх прадметаў гандлю РП быў нагэтулькі глыбока адладжаны, што цяжка называць гэта гандлем. Для гэтага ён быў залішне маштабна арганізаваны і манапалізаваны. Мы маем тут справу хутчэй з працэсам разьмеркаваньня, дзе на абменны курс уплываў ня так сам рынак, як геапалітычныя, нярынкавыя чыньнікі. Нават зьнешне гэта выдавала на гіганцкі канвэер: два разы на год, увесну і ўвосень, у Гданьск прыбывала вялізарная флятылія ў 300—500 суднаў зь Нідэрляндаў, якія на працягу двух тыдняў разгружаліся ад рамесьніцкіх вырабаў, загружаліся збожжам і арганізавана адыходзілі праз Зунд на Захад. А ў самым Гданьску службоўцы нідэрляндзкіх гуртаўнікоў, хто б яны ні былі, няхай сабе й магнаты, ізноў пачыналі збор ураджаю ад кантрактоўцаў і даўжнікоў у свае вялізарныя клеці.

Безумоўна, Нідэрлянды рабавалі РП. Але эўрапейская ніша для экспартовае прадукцыі РП яшчэ не была запоўненая. Таму тыя ж нідэрляндзкія гуртаўнікі мелі інтарэс да росту экспарту з гэтае краіны, заахвочваючы яго. І нават драбніцаў іх прыбыткаў, якія заставаліся РП,

было даволі, каб дасягнуць тых вартых подзіву вынікаў, якія ўмажлівілі вылучэньне Усходняе праграмы Баторага.

Найпершую неабходнасьць РП у эканамічнай сфэры складала ўтварэньне ўласнага гандлёвага флёту на Балтыйскім моры. Дзеля гэтага трэба было ўпакорыць Швэцыю, якая валодала правам першага штандару на Балтыцы. А за сьпінаю Швэцыі стаялі тыя самыя нідэрляндзкія купцы. Толькі іншыя групоўкі, чым за хлебным гандлем РП. У Швэцыі яны трымалі ў сваіх руках вялікую частку здабычы і перапрацоўкі мэталю, а таксама гандаль ім і вырабленай зь яго зброяю ды іншым.

Баторы ня меў вайсковага патэнцыялу дзеля пасьпяховае вайны зь Нідэрляндамі. Чаго быў варты толькі іхны флёт ды флёт Швэцыі. Але Баторы шукаў шляхоў ствараньня гэткага патэнцыялу. І яны бачыліся, відаць, у заваяваньні Масквы, атрыманьні адтуль дадатковых рэсурсаў дзеля ўзьдзеяньня на Нідэрлянды й Швэцыю.

З рабункам нідэрляндзкага кшталту РП не выпадала змагацца клясычным вайсковым шляхам. Трэба было мацаваць уласную прамысловасьць, шукаць або заваёўваць крыніцы прамысловае сыравіны, найперш мэталяў, заводзіць уласны марскі флёт і дамагацца павагі да яго на моры, гэта значыць, будаваць і флёт ваенны. Батарыянская праграма паступовага ўтварэньня з РП самастойнага геапалітычнага арганізму стварала перадумовы такога шляху.

Але ў часе свайго валадараньня Баторы не ўступаў у непасрэдны канфлікт зь нідэрляндзкім купецтвам. Наадварот, паставіўшы пад свой кантроль купецкія абшчыны буйных партовых местаў (з Гданьскам Баторы з-за гэтага нават ваяваў), ён стварыў выдатныя ўмовы для дзейнасьці гуртаўнікоў. Па сутнасьці, якраз за Баторым міжнародны гандаль РП займеў характар атлянтычнага канвэеру. І на той момант гэта было дасягненьнем, бо давала магчымасьць коштам нават тых драбніцаў прыбытку, што пакідалі шляхце нідэрляндзкія купцы, кансалідаваць дзяржаву і перайсьці да экспансіі на Ўсходзе.

Апісаная нідэрляндзкая матывацыя Баторага да рэалізацыі націску на Маскву дае падставы меркаваць, што батарыянская РП знаходзілася ў стане стратэгічнага партнэрства ня толькі з Турцыяй, але й зь Нідэрляндамі.

Зрэшты, нідэрляндзкія фінансісты ня мелі даволі маг-

чымасьцяў дзеля наўпростага ўзьдзеяньня на РП у выпадку прыняцьця іншай геапалітычнай арыентацыі. Варта зважаць на тое, што на захадзе РП межавала з Аўстрыяй, а тая была натуральным непрыхаваным ворагам Нідэрляндаў, бо кіравалася праз Габсбургаў. Нямецкія дзяржавы, кшталту Брандэнбурга або Пфальца, у параўнаньні з РП былі скрайне слабыя. Аднак жа, заўважым, што Нідэрлянды ўжо ў той час пачалі спакваля выгадоўваць у Брандэнбургу свайго стратэгічнага партнэра на ўсходзе кантынэнту і супрацьвагу РП. Швэцыя мела, як ужо згадвалася, моцны флёт, але вельмі слабое наземнае войска. Адрозна РП, якая мела адно з найлепшых наземных войскаў тагачаснае Эўропы і досыць значны чалавечы патэнцыял.

Такі расклад, натуральна, вымушаў Нідэрлянды шукаць зьбліжэньня з Масквой і Турцыяй супраць РП. У выпадку Турцыі гэта было рэальна і сур'ёзна. Да таго ж, як паказала далейшая гісторыя Эўропы XVII стагодзьдзя, партнэрства паўночных пратэстанцкіх краінаў з Турцыяй супраць Габсбургаў і кантынэнтальных усходнеэўрапейскіх краінаў сталася дужа трывалаю геапалітычнаю канстантаю. Разбурыць яе здолеў адно Пётр І. З Масквою ж у той час Нідэрлянды, пэўна, проста не пасьпелі закласьці партнэрскіх стасункаў з прычыны яе аддаленасьці і цяжкадаступнасьці. Мажліва, спрычынілася й тое, што ў той момант Баторы ўсё-такі перайграў нідэрляндзкіх купцоў. У кожным разе, калі самыя Нідэрлянды ня здолелі спыніць шляхоцкае ваяўнічасьці РП, то лепшага, чым Масква, напрамку для адцягваньня яе ўдару ад сфэраў уласных інтарэсаў, Нідэрлянды ня мелі. Адмовіцца ад эксплюатацыі ўсходнеэўрапейскага «атлянтычнага канвэеру» Нідэрлянды былі ня ў стане. Заменьніка ў Эўропе не было. Ім заставалася адно ўмацаваць Швэцыю ў якасьці супрацьвагі РП, да часу занятай клопатамі на Ўсходзе. Падобная стратэгія, дарэчы, цудоўна спалучалася з памкненьнямі Турцыі і магла стварыць дадатковае апірышча наладжванаму стратэгічнаму ўзаемадзеяньню двух моцных асяродкаў улады.

Зважаючы на досыць паблажлівае стаўленьне Нідэрляндаў да націску на Ўсход, Баторы мусіў яшчэ мацней унікаць зьбліжэньня з Аўстрыяй. Больш за тое, ён, колькі мог, мусіў, пазьбягаючы канфрантацыяў, супрацівіцца

ўзмацненьню ўплыву Аўстрыі і ўвогуле Габсбургаў паблізу межаў РП, а пагатоў — у собскім грамадзтве. Менавіта: Баторы мусіў папярэджваць ціск двара аўстрыйскіх Габсбургаў на дробныя нямецкія княствы, беручы іх пры нагодзе пад уласную апеку, як гэта сталася з Прусіяй. Не на карысьць Батораму было ўзмацненьне аўстрыйскага ўплыву на Балканах і ў Дунайскіх княствах. Што да апошніх, дык Баторы імкнуўся захаваць іх у якасьці прамежкавага поясу між РП і Турцыяй, каб не падстаўляць пад тэарэтычна магчымы турэцкі ўдар свой тыл і мець час для рэакцыі на мажлівыя аўстрыйскія правакацыі супраць Турцыі або РП на гэтым абшары. Гэткая палітыка дазваляла РП спадзявацца на захаваньне нэўтралітэту ў выпадку вайны Аўстрыі з Турцыяй. Апрача таго, яна дадаткова і досыць відочна гарантавала Турцыі захаваньне Баторым Масквы ў якасьці галоўнага кірунку зьнешнепалітычнае экспансіі РП.

Такім чынам, геапалітычная схема Баторага мела напрыканцы XVI стагодзьдзя досыць жыцьцяздольны выгляд: захоўваючы стан прыхаванага стратэгічнага партнэрства з Турцыяй і Нідэрляндамі, наперад прызнаючы сваю падначаленую адносна гэтых кірункаў ролю, атакаваць Маскоўскую дзяржаву. Мэтаю руху Баторага на Ўсход ёсьць поўнае апанаваньне Масквы. Баторы прагназуе непазьбежнае ўзьнікненьне ўсьлед за гэтым узброенага канфлікту з Турцыяй. І на гэты выпадак яму спрыяе разумна захаваная «падушка» ў выглядзе дунайскіх княстваў паміж РП і асноўнай тэрыторыяй Турэцкае імпэрыі, а таксама Аўстрыя, зь якой ён ніякім чынам не канфліктуе, намагаючыся захаваць спакойныя суседзкія дачыненьні. Каб зьберагчы магчымасьць апірышча на Аўстрыю і агулам на Габсбургаў у часе канфліктаў з Турцыяй, Баторы спрыяе асьцярожнаму пашырэньню ў РП мадэрнізаванага каталіцызму, які прыносяць сюды найперш езуіты. Дзеля гэтае нагоды Баторы захоўвае ў краіне прывілеяваны стан каталіцкага касьцёлу і сам застаецца каталіком. Аднак кіраваць ён зьбіраецца пераважна праваслаўнаю краінаю, якою б зрабілася РП у выпадку посьпеху ягонай усходняй палітыкі.

Спраўджваньне гэтае зьнешнепалітычнае дактрыны мусіла ператварыць РП у самастойны, незалежны ад Нідэрляндаў, Габсбургаў ды Турцыі ўладны асяродак Эўропы. Перад РП была адчыненая магчымасьць разнастай-

ных дыпляматычных камбінацыяў, што вялі да атрыманьня ёю выхаду да Чорнага мора і мажлівасьці землеробчае калянізацыі прычарнаморскіх стэпаў. Зь іншага боку, паўставала магчымасьць завесьці ўласны буйны ваенна-гандлёвы флёт і забясьпечыць доступ да радовішчаў мэталяў у Швэцыі. На ўсходзе РП даставала ў карыстаньне найвялікшыя ў сьвеце сваёй плошчаю лясныя масывы, багатыя на пушніну.

## САЦЫЯЛЬНАЯ БАЗА Ў РП

Для характарыстыкі батарыянскае партыі пазначэньня аднае зьнешнепалітычнае праграмы гэтае групоўкі, канечне, замала. Трэба вызначыць сацыяльныя слаі грамадзтва РП, зацікаўленыя ў ажыцьцяўленьні такой праграмы.

Сам па сабе працэс утварэньня РП можна разглядаць як адмысловую сацыяльную рэвалюцыю. «Рэвалюцыя цэнаў» выклікала імклівы рост панскіх гаспадарак, зарыентаваных на вытворчасьць экспартовае прадукцыі. Найбольшае пашырэньне такая гаспадарка ў РП паступова займела ў выглядзе фальварку, які даваў асноўны экспартовы аграрны прадукт у краіне — збожжа. Зямля ўпершыню ў гісторыі краю ператварылася ў крыніцу гэткіх вялізных прыбыткаў. Натуральна, паноўны сацыяльны слой дамогся замацаваньня за сабою манапольнага права на валоданьне зямлёю і абмежаваньня нават права карыстаньня ёю з боку іншых сацыяльных слаёў.

У выніку адбылася нутраная трансфармацыя паноўнага сацыяльнага слою. Ён пакінуў быць слоем пераважна прафэсійных вайскоўцаў, набыўшы, апрача таго, частку функцыяў арганізатараў і кіраўнікоў падставовымі вытворчымі адзінкамі грамадзтва — фальваркамі. Цяпер прадстаўнік кіроўнага сацыяльнага слою атрымліваў даход ня так праз даніну (падаткі) ці вайсковую здабычу, як праз вытворчую дзейнасьць ягонае гаспадаркі.

Зьмянілася матывацыя кіроўнага сацыяльнага слою: не набыцьцё новых даньнікаў, але падвышэньне грамадзкае прадукцыйнасьці працы. У новых эканамічных умовах зьмянілася сыстэма ўзаемастасункаў у межах самога гэтага слою. Цяпер ужо зьнікла неабходнасьць дзеля элемэнтарнага самавыжываньня інтэгравацца ў «дружыну» — спэцыяльную сыстэму будаваньня ўзаемаста-

сункаў у межах свайго слою. Уласная гаспадарка з добрай вытворчасьцю давала адной сям'і даволі даходу, каб самастойна забясьпечыць сябе зброяй і неабходным сацыяльным досьведам дзеля ўтрыманьня ў жыцьцяздольным стане сваёй сфэры жыхарства.

Зьмяніўся характар культуры гэтага сацыяльнага слою, зьмянілася ягоная структура. Наперад выйшла маса ўладальнікаў невялікіх фальваркаў, раней цалкам залежных ад сваіх магнатаў. Менавіта яны паступова зламілі супраціў і магнатаў, і каралеўскага двара, і гарадоў, стварыўшы сваю дзяржаву, дзе ўжо ўсё было зладжана па-новаму, пад іх. Зьмяніўся нават і саманазоў гэтага слою. Яны цяпер дужа рэдка ўжывалі старыя тэрміны кшталту «баяры» або «князі», паўсюдна стаў ужывацца іншы — «шляхта». У розных рэгіёнах РП фальварызацыя мела розныя тэмп і форму, але кірунак руху гэтага землеробчага грамадзтва паўсюль быў адзін і той.

Колькасьць шляхты хутка расла, як і колькасьць насельніцтва расквітнелае дзяржавы. А разам павялічваўся зямельны голад, ціск шляхты на сялянаў, супярэчнасьць між буйнымі землеўладальнікамі (пераважна магнатамі і царквой) ды дробнай і сярэдняй шляхтаю, ціск шляхты на гарады і купецтва (перадусім гуртаўнікоў), а купецтва на шляхту (прыкладам, празь нідэрляндзкія палітычныя камбінацыі са Швэцыяй). Абвастрэньне кожнага з адзначаных канфліктаў магло прывесьці да разбалянсаваньня працы «атлянтычнага канвэеру» і ўпадку прыбытковасьці фальваркаў на вялікім абшары. Выйсьце для шляхоцкае рэспублікі мелася адно ў зьнешняй экспансіі, пакліканай забясьпечыць шляхту новымі зямельнымі надзеламі. А менавіта, у тых умовах — у землеробчай калянізацыі ўрадлівых прычарнаморскіх стэпаў і прылеглае да Балтыкі, спустошанае вайною Лівоніі. Вялізнае значэньне мела й паслабленьне пасярэдніцкага ярма нідэрляндзкіх купцоў праз авалоданьне балтыйскімі портамі, уласным гандлёвым флётам і крыніцамі прамысловае сыравіны.

Гэта значыць, шляхоцкая Рэч Паспалітая ад пачатку паўставала як экспансіянісцкая дзяржава. Ад пачатку быў відочны асноўны напрамак яе зьнешняе экспансіі — Усход. Таму моц у РП мог займець толькі той шляхоцкі кароль, які пасьпяхова ажыцьцяўляў гэтыя мэты. Якраз такім каралём і быў Стэфан Баторы. З гэтае прычыны

асноўнае сацыяльнае апірышча ягонае ўлады складала сярэдняя і дробная шляхта. То быў шляхоцкі кароль. Кароль, які забясьпечыў рост фальваркавае вытворчасьці і функцыянаваньне адпаведнага гандлёвага «канвэеру».

Варта адзначыць, што шляхта была ўсё-ткі і вайсковаю клясаю. Яна ня толькі вяла фальваркавую гаспадарку і экспартовы гандаль, але й ваявала. Шляхта інакш проста не магла гарантаваць сабе панаваньня ў дзяржаве і забясьпечыць яе прырост. Узгадаем, што нават Люблінская вунія нараджалася ў час палявых соймаў. Таму Баторы быў перадусім ваенным правадыром. Увесь ягоны лягер, уся ягоная дактрына была мілітарысцкая паводле сутнасьці і вайсковая паводле формаў рэалізацыі. Да таго ж ня ўся шляхта мела гэтулькі ваяўнічасьці, каб з ахвотаю кідаць свае фальваркі ды ісьці ваяваць на другі край дзяржавы. Яшчэ больш стрымана ставілася да вайны магнацтва, якое мірным часам у сваім рэгіёне досыць лёгка наладжвала хаўрус з купцамі-гуртаўнікамі і цалкам эканамічна ўзалежнівала навакольную шляхту, здабываючы гэткім шляхам дадатковы прыбытак ад манапольнага продажу вырабаў іхных фальваркаў. Толькі працяглыя вайсковыя перамогі Баторага забясьпечвалі яму адданасьць гэтае часткі шляхоцкага стану й стабільнасьць у дзяржаве. Якраз з гэтае прычыны, з-за собскіх палітычных інтарэсаў, ён ня мог не ваяваць. Дзеля гэтага яго, уласна, і абралі каралём.

РП была вялізнаю дзяржаваю, і розныя яе рэгіёны разьвіваліся крыху паасобку, захоўваючы ўласнае стаўленьне да ўсіх учынкаў і дзеяў цэнтральнае ўлады. Выразна акрэсьліваюцца 4 буйныя рэгіёны, добра структураваныя эканамічна, палітычна і культурна:

1. Вялікае Княства Літоўскае ў межах 1570 году з улікам натуральнае цягі да яго тэрыторыі Лівоніі;

2. Украіна або Рускія ваяводзтвы (далей дзеля спрашчэньня будзем называць іх тэрытарыяльным тэрмінам Украіна) — землі, адарваныя ад ВКЛ на карысьць Польскага Каралеўства пасьля Люблінскае вуніі і памежныя стэпавыя абшары інтэнсыўнае земляробчае калянізацыі, разгорнутай там пасьля ўзьнікненьня РП;

3. Малапольшча, разьмешчаная ў вярхоўях Віслы аж да яе сярэдняга цячэньня, разам з блізкімі да яе з усходу пераважна праваслаўнымі ваяводзтвамі, якія не ўваходзілі ў ВКЛ перад 1569 годам;

4. Вялікапольшча, што месьцілася ўздоўж сярэдняй Віслы з прылеглымі паморскімі прускімі абшарамі.

У межах пазначаных вялікіх рэгіёнаў існавалі свае субрэгіянальныя адрозьненьні, а між рэгіёнамі — шырокія «памежныя» паводле сваіх уласьцівасьцяў абшары. Нескладана вылучыць рэгіёны і палітычныя групоўкі, найбольш зацікаўленыя ў націску на ўсход.

Так, Украіна, без сумневу, займела ад батарыянскае палітыкі вельмі шмат.

Па-першае, рэзка зьменшылася колькасьць татарскіх наездаў. Гэта сталася наступствам ня так умацаваньня стэпавых межаў, як удалае дыпляматычнае лініі Стэфана Баторага. На рубяжох Украіны практычна ня ўзводзіліся ніякія абарончыя збудаваньні, пра што РП пазьней моцна шкадавала, аднак гэта дадаткова сьведчыла пра наяўнасьць стратэгічнага партнэрства паміж Баторым і Турцыяй. Масква, якая не магла пахваліцца гэткім дыпляматычным посьпехам, умацавала сваю мяжу вялізарнымі пасамі лясных засекаў, крэпасьцямі ды вастрогамі. Землеробчая калянізацыя вялася Масквою зазвычай паралельна з будаўніцтвам базавых абарончых пунктаў.

Па-другое, надзвычай шпаркімі тэмпамі разгарнулася землеробчая калянізацыя вольных стэпаў. У кароткім часе ў раней бязьлюдных раёнах, прыкладам, уздоўж ракі Сулы, паўсталі цэлыя месты са шматлікім навакольным сялянскім насельніцтвам.

Па-трэцяе, пачала аднаўляцца былая значнасьць Дняпроўскага воднага шляху, і зноў вырас у прыкметны цэнтар міжнароднага транзытнага гандлю Кіеў. Было відавочным, што далейшае адраджэньне з руінаў Лівоніі ў кантэксьце РП паскорыць гэты працэс.

Па-чацьвертае, з дапамогаю Баторага была больш-менш стабілізаваная традыцыйная для Валыні нутраная палітычная няўстойлівасьць і спыненая барацьба розных магнацкіх груповак. Улада там сканцэнтравалася пераважна ў руках Канстанціна Астрожскага. Ён жа быў і ваяводам кіеўскім, праз што ягоны двор рабіўся скразным стрыжнем, на які была нанізаная палітычная структура Украіны і які забясьпечваў тут досыць высокую ступень палітычнае стабільнасьці. Гэткаю ж дабратворнаю для стабільнасьці Украіны сталася адсутнасьць паважнае колькасьці перасяленцаў-палякаў. Землеробчае засваеньне стэпу ажыцьцяўлялася шляхам пераліваньня ў рэгіён

блізкага культурна праваслаўнага насельніцтва. Не было і заўважнага прытоку каталіцкае шляхты. Яна канцэнтравалася ў Рускім і суседніх малапольскіх ваяводзтвах, якія перад 1569 годам не ўваходзілі ў ВКЛ.

Малапольшча вылучалася асабліва значнаю доляю сярэдняе і дробнае шляхты, магнатаў тут было няшмат, гарады ўвогуле мелі абмежаваную самастойнасьць у адрозьненьне, скажам, ад Прусіі. Таму для Малапольшчы час праўленьня Баторага быў і часам уздыму:

1. разгарнулася шырокая калянізацыя Падоліі, куды скіравалася багата малапольскае шляхты, значная колькасьць набліжаных да Баторага малапольскіх шляхцічаў дастала маёнткі ў Лівоніі;

2. гандлёвы «канвээр» дазволіў рэзка прысьпешыць тэмпы нутраное калянізацыі ў рэгіёне, бо тут існавалі надзвычай спрыяльныя прыродныя і геаграфічныя ўмовы дзеля разьвіцьця фальваркавае вытворчасьці: глеба, Вісла, працяглая адсутнасьць спусташальных войнаў;

3. наяўнасьць побач мілітарнае Аўстрыі ў стане пэрманэнтнага супрацьстаяньня Турцыі на Балканах і пратэстантам (наўпрост або ўскосна) на поўначы Эўропы і нармальныя стасункі РП з Аўстрыяй ды Турцыяй стварылі дадатковы рынак збыту для сельскае гаспадаркі Малапольшчы; росту заходняга рынку гэтага рэгіёну спрыяла таксама разьвіцьцё незангажаваных у супрацьстаяньне на Балканах суседніх пратэстанцкіх дзяржаваў Нямеччыны, дзе на грунце мясцовае сыравіны шпаркімі тэмпамі разьвіваліся гарады і рамёствы, што абслугоўвалі тых самых Габсбургаў;

4. плынь транзытнага гандлю Іран — Заходняя Эўропа, а найважней — Турцыя — Заходняя Эўропа цяпер скіроўвалася ў значнай ступені ў абыход Міжземнага мора і Балканаў праз Дунайскія княствы ў Малапольшчу, а ўжо адтуль — далей у краіны Заходняе Эўропы; асаблівую важкасьць пад канец XVI стагодзьдзя набыў гандлёвы шлях з Турцыі праз Малдову на Львоў і Кракаў, у абыход аўстрыйска-турэцкае мяжы.

Варта зазначыць, што ніводзін рэгіён РП не займеў такога моцнага стымулу да эканамічнага разьвіцьця ў выніку паўставаньня шляхоцкае дзяржавы і дзейнасьці Баторага, як Малапольшча. Верагодна, таму яна зьяўлялася галоўным апірышчам батарыянскае партыі ў краіне.

Вялікапольшча, дзякуючы дзейнасьці Баторага і бліз-

касьці да мора, здолела здабыць найлягчэйшы, у параўнаньні зь іншымі абшарамі РП, доступ да балтыйскіх портаў і «канвэеру» ды коштам гэтага ўчыніць рывок у разьвіцьці фальваркавае гаспадаркі. Аднак Баторы адцягваў вырашэньне ўласных вялікапольскіх праблемаў на другі плян у параўнаньні з агульным памкненьнем да заваяваньня ўсходу. Таму вялікапольская шляхта не атрымала ў сваё распараджэньне падпарадкаваныя, як і ў іншых гарадох РП, купецкія абшчыны Гданьска, Эльблёнга і шэрагу іншых гарадоў. Вялікапольшча не дамаглася вольнага доступу да патрэбнага ёй Шчэціна. Яна больш адчувальна, чым іншыя рэгіёны, спазнала на сабе ўціск купецкае эканамічнае зашмаргі, бо ўвідавочкі назірала, як мала прыбытку пакідалі шляхце купцы-манапалісты. Зь іншага боку, ніхто ў РП, гэтак, як вялікапольская шляхта, не ўсьведамляў моцы й небясьпекі нідэрляндзкага купецтва ды патрэбы ў захаваньні адзінства й магутнасьці РП дзеля адпору яму.

Нямала выйгравала ад ажыцьцяўленьня батарыянскае палітыкі і ВКЛ:

1. ВКЛ вярнула сабе Падзьвіньне з Полацкам і Віцебскам, утрывала супраць намаганьняў Масквы цалкам паглынуць яго;

2. ВКЛ займела магчымасьць разгарнуць лівонскі гандаль, а нават і далучыць Лівонію ў будучым да сваёй тэрыторыі;

3. фальваркавая вытворчасьць, экспарт лясных тавараў і тэхнічных культураў ахапілі ўвесь абшар ВКЛ (фальваркі — Панямоньне, Пабужжа, часткова Падзьвіньне, экспарт — астатнюю тэрыторыю);

Зрэшты, прайгравала ВКЛ таксама нямала:

1. Украіна і Падляшша адышлі ў склад Польскага Каралеўства, і шляхта ВКЛ не магла напоўніцу браць удзел у разгорнутай там земляробчай калянізацыі;

2. Лівонія пасьля разгрому маскоўскіх войскаў не ўвайшла наўпрост у склад ВКЛ, тамтэйшыя землі атрымлівалі найперш мала- і вялікапольскія шляхцічы, што не пакідала для ВКЛ мажлівасьці росту ў самым пэрспэктыўным для яго кірунку і пазбаўляла яго гістарычнае пэрспэктывы;

3. рост палітычнае вагі дробнае і сярэдняе шляхты падрываў палітычную стабільнасьць перадусім арыстакратычнага, магнацкага грамадзтва ВКЛ;

4. маскоўскія войны Баторага вяліся або на тэрыторы

ВКЛ, або з вайсковымі пераходамі праз ягоную тэрыторыю, прыносячы ёй значныя эканамічныя страты. Урэшце, ВКЛ з усіх рэгіёнаў РП найбольш выдаткоўвала на маскоўскія паходы, кампенсуючы гэта, у лепшым разе, далучэньнем спустошаных вайною земляў. Трэба зважаць таксама, што ВКЛ мусіла падстрахоўваць караля на выпадак вайсковае няўдачы, ладзячы дзеля гэтага дадатковыя ваенныя рыхтаваньні, умацоўваючы памежныя гарады й фартэцыі (што, дарэчы, не рабілася болей нідзе ў РП). Калі іншыя рэгіёны РП уважалі маскоўскія войны за адмысловыя паходы па здабычу, то для ВКЛ яны былі, бадай, ці не айчыннымі, дзе патрабавалася скрайняя напруга ўсіх сілаў, а ў выніку Княства саступала іншым рэгіёнам у тэмпах эканамічнага разьвіцьця.

Вось жа, найбольшыя выгоды ад батарыянскага націску на ўсход мелі ў РП Малапольшча ды Украіна. Найменшыя — ВКЛ ды Вялікапольшча. Адпаведна падзялялася палітычная база прыхільнікаў і праціўнікаў батарыянскае палітыкі: найбольшы лік прыхільнікаў Баторы набыў напрыканцы свайго жыцьця ў Малапольшчы, найменшы — у Літве.

Заканчваючы характарыстыку батарыянскае партыі, адзначым яшчэ раз яе асноўныя рысы:

1. сацыяльнае апірышча — сярэдняя і дробная шляхта; мясцовая кліентура нідэрляндзкага купецтва, занятая пераважна экспартам сельскагаспадарчых тавараў у Заходнюю Эўропу праз балтыйскія порты, і транзытныя купцы на гандлёвым шляху Іран — Турцыя — Заходняя Эўропа;

2. асноўны рэгіён апірышча — Малапольшча, у меншай ступені — Украіна;

3. мэта — кансалідацыя шляхоцкае рэспублікі, пашырэньне гэткага кшталту грамадзтва найперш на ўсход, шляхам гвалтоўнага ціску на Маскоўскую дзяржаву і земляробчае калянізацыі прычарнаморскіх стэпаў;

4. стратэгічнае партнэрства на антымаскоўскім грунце з Турцыяй і ў меншай ступені — зь Нідэрляндамі;

5. Форма арганізацыі партыі — каралеўскі двор, шляхоцкае вайсковае рушаньне ў часе паходаў; лідэрамі партыі на месцах зазвычай выступаюць ваяводы і гетманы.

Пасьля сьмерці Стэфана Баторага найбольш прыкметным «батарыянцам» застаўся адзін з найбліжэйшых ягоных паплечнікаў — Ян Замойскі.

# ЧОРНАЯ СКРЫНКА

У мяне ў руках невялікая чорная скрынка, дакладней, кардонны карабок, абклеены з усіх бакоў чорнай паперай. Трапіў ён да мяне ад Яўгена Куліка, вядомага беларускага графіка, культурнага і грамадскага дзеяча, а да яго, гадоў 20 назад,— ад Пётры Сергіевіча, з Вільні. Як яна апынулася ў Сергіевіча — наўрад ці нам хто-небудзь цяпер раскажа, бо Сергіевіч памёр у 1984 г.

На вечку скрынкі — этыкетка з мноствам друкаваных словаў на нямецкай мове. Акрамя таго, паверсе надпісы



рукой. Сінім чарнілам — слова «Выставка», чорным — «Др. Дылу. Выстаўка», а фіялетавым — «Экспанаты 1-й Усебеларускай Выстаўкі. Здымкі №№ 397—515 і 222—231». На донцы скрынкі надпіс алоўкам: «Віцебск».

Што ні слова, то загадка. Праўда, з датаваннем больш-менш зразумела, бо 1-я Усебеларуская выстаўка абылася ў 1925 г., а з 1924 г. Язэп Дыла працаваў вучоным сакратаром Інстытута беларускай культуры. Значыць, узрост скрынкі не менш як 70 гадоў. Складаней з яе паходжаннем, але пакуль што зазірнем усярэдзіну.

А ўсярэдзіне — сапраўдны скарб: тонкія, крохкія шкляныя пласцінкі-негатывы з выявамі абразоў, роспісаў, нейкіх фрагментаў царкоўнага дэкору. Усяго негатываў — 55, трох розных памераў: 9×12 см, 10×15 см і 13×18 см. Некаторыя пласцінкі пабітыя, каля дзесятка — у вельмі дрэнным стане, пажоўклыя і выцвілыя, сюжэты ледзь чытэльныя. Наўрад ці ўдасца атрымаць з іх больш-менш якасныя адбіткі без спецыяльных прыёмаў ці папярэдняй фізіка-хімічнай апрацоўкі. І ўсе негатывы, як адзін, абклееныя чорнай паперай — груба, неахайна, проста па эмульсійным слоі. Пакінуты толькі акенцы для ўласна выявы, але ж пад папераю хаваюцца цікавыя дэталі антуражу, асяроддзя, магчымыя падказкі на пытанні: хто і дзе фатаграфаваў гэтыя абразы?

Кожная пласцінка загорнутая ў паперу з нейкай польскай канцылярскай кнігі (міжваенная Вільня?). На паперы вельмі сціплая расшыфроўка сюжэта. Скажам, «Ісус і Марыя» або «Выявы архангелаў». І ўсё. Акрамя таго, у верхнім левым ражку індэкс «Ібк» (Інбелкульт?) і нумар, а ў правым — літары «Мог.» ці «Маг.» (Магілёў?). Такім чынам, усе надпісы разам даюць магчымасць прыблізна акрэсліць геаграфію экспанатаў: Магілёў і Віцебск або Магілёўшчына ці Віцебшчына. Цікавасць узрастае, бо культурныя каштоўнасці гэтых рэгіёнаў былі вынішчаны за 70 гадоў грунтоўна. Гэта не Заходняя Беларусь, дзе бальшавіцкая інквізіцыя лютавала на 30 гадоў меней.

Першае, што трэба зрабіць,— гэта прывесці негатывы ў рабочы стан, каб можна было атрымаць з іх добрыя фатаграфіі. Пачалася доўгая, карпатлівая, асцярожная праца. Кожная пласцінка размочана, папера знята, сляды клею па магчымасці падчышчаныя. Можна друкаваць. Пасля спецыяльнай апрацоўкі «ажылі» яшчэ шэсць нега-



Ібк. № 103. Мог. Вялікі Архірэй (?).



Ібк. № 121. Мог. Багародзіца (На ківоце надпіс: «Сей образ села Телешовицкого брацкій канунній. Року 1723 дня 31 мц маю»).

тываў з ліку зусім безнадзейных. Толькі тры з 55 можна лічыць страчанымі канчаткова.

Абразы, па ўсім відаць, XVII — XVIII стст., пра гэта гавораць дошкі, разьбяныя фаны, тэмперны жывапіс. Вось і нешта знаёмае: славуты Пётр Яўсеевіч з Галынца, «Раство Марыі». Цяпер гэты абраз у Дзяржаўным мастацкім



Ібк. № 89. Маг. Абраз Сьв. Міколы.

музеі. Яшчэ адзін музейны экспанат: вядомы, растыражаваны многімі выданнямі па мастацтву абраз латыгаўскага майстра «Раство Хрыстова». Мы таксама друкавалі гэты твор (гл. «Спадчыну» № 6 за 1991 г.). Але сярод адбіткаў яшчэ восем абразоў таго ж аўтара, вядомых сучасным даследчыкам толькі па апісанню, складзенаму ў 20-я гады Міколам Шчакаціхіным. Прапор-



Ібк. № 137.- Мог. Архангел Міхаіл.



Ісус — Цар Славы. XVII ст. (Дэісус?)

цыі, характар надпісаў, нават твары персанажаў, безумоўна, тае ж самай рукі. На адным са здымкаў (гл. «Вялікі архірэй») ёсць выразная падказка на пытанне «дзе?». Абраз сфатаграфаваны ў інтэр'еры нейкага музея. На сценах — экспазіцыя іконаў, з-за абраза відаць на сцяне частка шыльдачкі са словамі «...ографіческій отдѣлъ». У старой, дарэвалюцыйнай арфаграфіі, з яцямі і цвёрдымі знакамі. Дзе маглі захавацца ў 20-я гады, у гады



Ібк. № 101. Мог. Апостал Павел.



Іб к. № 116—117. Маг. Архангел Міхаіл.

актыўнай беларусізацыі, гэткія надпісы? Хіба што ў якім правінцыйным музейчыку, да таго ж, не свецкага характару. Такія былі якраз у Віцебску і Магілёве.

А вось і зусім нечаканае: 7 абразоў, змешчаных у кнізе маскоўскага журналіста Я. Левіта з красамоўнай назвай «Осталось только на фотографиях» (Москва, 1978 г.). Выданне прысвечана творам мастацтва, што былі або



Іл. № 100. Маг. Апостал Пётр.



Ібк. № 139. Мог. Арх. Міхаіл. Алей, палатно.

знішчаныя, або згубіліся падчас Другой сусветнай вайны. У кнізе — цьмяныя рэпрадукцыі з даваенных рэпрадукцыяў, часам з памылковымі назвамі. Св. Параскева названая чамусьці Янам Багасловам, а Св. Мікола пазначаны як Прарок Іона, хоць на здымку ясна прачытваюцца літары «НИКОЛА». У мяне ж на руках — даволі якасныя, поўныя, неабрэзаныя выявы з дакладнымі подпісамі. Яшчэ чатыры абразы знаходжу ў другім выданні



№ 6389[3]. Сьв. Ілля (Рама яўна пазнейшая, закрывае бакавыя клейны).



Ібк. № 104(а). Мог. Каранаваньне Багародзіцы.

Левіта (1984 г.) пад той жа назвай і адразу ж успамінаю, што «Маці Божая Адзігітрыя Менская» ёсць у каталогу Н. Высоцкай «Тэмперны жывапіс Беларусі канца XV — XVIII стагоддзяў», а там змешчаныя творы з фондаў нашага Мастацкага музея...

Але на гэтым мая эрудыцыя заканчваецца, прыйдзецца звяртацца да экспертаў. Гэта — Элеанора Іванаўна



Ібк. № 110. Мог. Сьв. Барбара.



Іbк. № 120. Мог. Сьв. Юры.

Вецер (цяпер на пенсіі), Надзея Фёдараўна Высоцкая (Дзяржаўны мастацкі музей) ды Аляксандр Адамавіч Ярашэвіч з Музея старажытнабеларускай культуры ІМЭФ Акадэміі навук Беларусі. Задача — максімальна расшыфраваць выявы, па магчымасці вызначыць месцазнаходжанне і лёс абразоў. Найбольш цікавая і змястоўная інфармацыя атрымана ад Э. Вецер. Вядома, што немцы падчас вайны і трохгадовай акупацыі дашчэнту абраба-



Ібк. № 133. Маг. Прарок (Самуіл?) (фрагмент царскай брамы?).



Ібк. № 113. Апосталы Ян і Пётр.

валі Беларусь і вывезлі ў Германію ўсе каштоўнасці з нашых музеяў, у тым ліку і перш за ўсё фонды Дзяржаўнага мастацкага музея, нашай галоўнай мастацкай скарбніцы. Пасля вайны ацалелыя каштоўнасці вярталіся дзяржаве-пераможцы, гэта значыць СССР. Так што, верагодна, яны зараз у Маскве. А з Масквы, як вядома, цяжка што-небудзь забраць. Успомніце лёс усяго, што было нарабавана, заваявана, канфіскавана на Беларусі з часоў Івана Жахлівага і ягоных хцівых паслядоўнікаў...



ІБк. № 136. Мог. Хрыстос з крыжам.



Іл. 316. Раство Багародзіцы (Латыгаўскі майстар).

З пасляваенных рэпарацыяў ды кантрыбуцыяў нешта трапіла ў Ноўгарад, нешта ў Паўлаўск, нешта, магчыма, у Калугу ці іншыя правінцыйныя сховішчы Расеі. Але асноўная маса мастацкіх каштоўнасцей асядала ў сутарэннях Масквы, галоўным чынам у Гістарычным музеі. Праўда, у 50—60-х гг. многае з нашых даваенных калекцыяў вярнуць удалося. Многае, але далёка не ўсё. Нашыя музейшчыкі найбольш ганяліся за творамі свецкага зместу (нават трэцеразраднымі). А літоўцы тым часам ухітрыліся вывезці з Масквы партрэты полацкіх езуітаў



Ібк. № 119. Мог. Багародзіца з дзіцем.

Ібк. № 300. Марыя і Ісус.

Ібк. 299. Перанясенне мошчаў Св. Мікалая.



Ібк. № 98. Мог. Ян Прадцеча.



Ібк. 305. Архангел Міхаіл і прарок Ілля. Латыгаўскі майстар (в. Латыгава, Віцебшчына).

(бо езуіты ж каталікі, ды і Полацк уваходзіў у склад Вялікага Княства Літоўскага. Такая вось аргументацыя).

Што тычыцца кнігаў Я. Левіта, то першы ж абраз з першага (1978 г.) выдання — «Маці Божая Адзігітрыя» з «села Телешовіцкого», паводле некаторых звестак усё яшчэ захоўваецца ў запасніках Гістарычнага музея ў Маскве, як і мноства іншых, не інвентарызаваных, не апісаных, не класіфікаваных, бо, несумненна, чужых. Здымак «Маці Божай» на нашым негатыве вельмі якасны, абраз у ківоце, на ківоце выразны надпіс: «Сей образ



Ібк. № 107. Маг. Укрыжаваньне.

Ібк. № 320. Георгі і Улас (Латыгаўскі майстар).

Ібк. 317. Апосталы Пётр і Павел. 1749 г. (Латыгаўскі майстар).



Іл. № 315. Распятие в лоне (Бацькоўскае маленне).



ІБк. 304. Сімяон Стоўпнік і Ян Хрысціцель (Латыгаўскі майстар).

села Телешовіцкого брацкій канунній». І дата: «Року 1723 31 дня мц маю». Рэдкая дакладнасць датавання.

Цікавы эпізод з дзейнасці нашага Музея старажытнабеларускага мастацтва. Напрыканцы 70-х гадоў рыхтавалася вялікая выстава старажытнабеларускага мастацтва. У Маскве (у ДГМ) пазычылі некалькі абразоў з даваеннай калекцыі нашага мастацкага музея (ведалі ж, дзе што ляжыць!). Абразы прывезлі ў Мінск, адрэстаўравалі, змясцілі ў экспазіцыю. Выстава скончылася, і, нягледзячы на пагрозы і загады ўсялякага кіраўніцтва,



Ібк. № 90. Маг. Абраз Сьв. Міколы.

Ібк. № 94. Мог. а) Чараўнікі. б) Паклон чараўнікоў (фрагмент царскай брамы?).

Ібк. 308. Архангел Міхаіл і Сьв. Мікола (Латыгаўскі майстар).



Іск. № 108. Мог. Яўленьне Абраму трох (Тройца старазапаветная).



Іок. № 104. Мог. (Магчыма, двайны партрэт фундатараў. Надпіс: «Богу вечная слава наша за ўтварэнне велічнага Буйніцкага манастыра, трывалага прыстанку. Клапоцімся пра тое, каб гэтая святая цвярдыня не была спустошаная і выклятая. Ужываем і аддана ўшаноўваем святыя келлі. 1633 год»).

абразы засталіся на радзіме. А потым развалі́ўся СССР, і маскоўскае начальства зрабілася замежным начальствам. Праўда, у выніку гэтай «смелай» аперацыі дачыненні з маскоўскім Гістарычным музеем сапсаваліся, відаць, назаўсёды. Але вось што характэрна: дзе трэба крычаць на ўвесь голас — гаворым намёкамі, эзопавай мовай, дзе трэба ветліва папрасіць — наогул маўчым, каб чаго не выйшла, дзе трэба дзейнічаць па законах — прыніжана просім. Сваё — пазычаем! Славутая беларуская талерантнасць.





Ібк. №№. 129, 130. Мог. Насьценны роспіс (На думку спецыяліставў, роспіс паходзіць з манастыра на Віцебшчыне).



Ібк. № 91. Маг. Прарокі са старой царквы (Царская брама?).



Ібк. 97. Мог. Нараджэньне (фрагмент царскай брамы?)



Ібк. № 95. Мог. а) Паклон пастухоў. б) Чараўнікі.



Ібк. № 109. Маг. Тайная вячэра.





Ібк. № 301. Архангелы (Міхаіл і Гаўрыіл?).

Вяртанне нацыянальных скарбаў — не занятак для энтузіястаў ці навукоўцаў або грамадскіх арганізацыяў. Гэта дзяржаўная справа, і дзеля яе вырашэння патрэбны дзяржаўны розум, дзяржаўная воля і дзяржаўныя сродкі, цвёрдасць і настойлівасць у пошуках. Патрэбна, урэшце, спецыяльная «служба вяртання» на самым высокім узроўні і нястомная праца спецыялістаў.

Чатыры творы з чорнай скрынкі ўдалося ідэнтыфікаваць у зборах Музея старажытнабеларускага мастацтва, яшчэ тры — пасля ўважлівага прагляду выданняў па гісторыі беларускага мастацтва, у прыватнасці, альбомаў Н. Высоцкай. Яна ж, праглядаючы фотаадбіткі, пазнала яшчэ некалькі, што захоўваюцца цяпер у нашых музеях. Такім чынам, з 52 абразоў, роспісаў, фрагментаў удалося прасачыць лёс і высветліць месцазнаходжанне толькі 12-ці. Лёс астатніх невядомы. А ён можа быць розным. Толькі два прыклады.

Адзін з абразоў даваеннай калекцыі Мастацкага музея (паходжаннем з Магілёўшчыны) апынуўся нейкім шляхам у Катэдральным саборы ў Мінску. Не так даўно Дзяржаўны мастацкі музей купіў у прыватнай асобы іконы з уласнай даваеннай калекцыі, з уласнымі інвентарнымі нумарамі (Sic!). Так што, творы гэтыя могуць сустрэцца дзе заўгодна: на бацькаўшчыне і ў Расеі, у Літве, Германіі ці Амерыцы, «выплыць» на славутым Сотбі і г. д.

Гэтая публікацыя не ставіць ніякіх навуковых, мастацтвазнаўчых мэтаў. Наша задача — увесці ў карыстанне некалькі дзесяткаў твораў старажытнабеларускага мастацтва, мала вядомых ці зусім не вядомых сучасным даследчыкам.

Там, дзе гэта мэтазгодна, мы змяшчаем выявы поўныя, з ківаотамі і рамамі, з дэталямі інтэр'ера. У іншых выпадках — выкадроўкі.

**Уладзімір КРУКОЎСКІ.**

# «БЕЛАРУСІКА» Ў ФОНДАХ ГАЛОЎНАГА АРХІВУ СТАРАЖЫТНЫХ АКТАЎ У ВАРШАВЕ

Галоўны архіў старажытных актаў у Варшаве (Archiwum Główne Akt Dawnych — AGAD; гэтую лацінскую абрэвіятуру мы і будзем выкарыстоўваць) лічыцца адным з найбольш аўтарытэтных і вядомых у Еўропе. Заснаваны ён князем Варшаўскага княства Фрыдрыхам Аўгустам 2 лістапада 1808 г. І ўжо больш як 180 гадоў амаль без перапынкаў, акрамя цяжкіх ваенных часоў, служыць навуковай скарбніцай для шматлікіх пакаленняў гісторыкаў. Апошнім часам усё часцей да багаццяў гэтага сховішча дакранаюцца даследнікі з Беларусі, Літвы і Украіны. Тым больш каштоўнымі для нас будуць нячастыя інфармацыйныя выданні накшталт «Інфарматара аб фондах», выдадзенага супрацоўнікамі AGAD (Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie. Informator o zasobie. Opracowanie zbiorowe pod red. T. Zielińskiej. Warszawa, 1992.—311 s. Nakład 800 egz.)

Сёння AGAD размешчаны ў Варшаве на вул. Доўгай, 7 (Dluga, 7), у былым палацы Рачынскіх. У фондах архіву захоўваюцца пераважна матэрыялы, якія датычаць непасрэдна гісторыі Польшчы, а таксама суседніх краінаў, шчыльная сувязь паміж якімі вызначаная аб'ектыўна і гістарычна.

Агульная колькасць фондавых адзінак на пачатак 90-х гг. складае больш за 400 тыс. кніг, пачкаў і папак, актавых матэрыялаў, 8727 пергаментных дакументаў і больш як 36 тыс. планаў і мапаў. Храналагічна дакументы абымаюць шырокія межы ад 1155 г. да 80-х гадоў XX ст. Праца ў архіве структурна падзеленая паміж

4 адзінкамі: I аддзел — акты органаў улады, дзяржаўных і грамадскіх інстытутаў ад старадаўніх часоў да 1795 г.; II аддзел — акты органаў улады, установаў і грамадскіх інстытутаў ад 1795 па 1918 г.; III аддзел — акты сем'яў і прыватных асобаў, а таксама іхных маёмасцяў і дзейнасці; IV аддзел — калекцыя картаграфічных матэрыялаў.

У першым аддзеле архіву для беларусазнаўцаў найбольш значнымі з'яўляюцца наступныя зборы:

— **Літоўская метрыка — транскрыпцыя;**

— **Сумарыюш Літоўскай метрыкі;**

— **Збор Пергаментных дакументаў;**

— **Збор Папяровых дакументаў;**

— **Архіў Чатырохгадовага сойму.**

Першы налічвае 31 архіўную адзінку, якія датуюцца 1440—1582 і 1775—1792 гг. Аднак сярод іх толькі адна кніга ўяўляе сабою аўтэнтык Літоўскай метрыкі, складзенай у 1775—1792 гг. з пацверджаннем прывілеяў, з наданнем грамадзянства ВКЛ і РП (індыгенатаў), ганаровых званняў і пасадаў (набілітацыяў). Астатнія 30 адзінак — копіі з старажытнейшых кніг Метрыкі (1440—1582), зробленыя ў Варшаве ў 70—80-х гг. XVIII ст. лацінскім альфабэтам. За гэты час былі перапісаныя 63 арыгінальныя кнігі. Асноўную частку іхнага зместу складаюць тыповыя канцылярскія паперы: шматлікія граматы і прывілеі князёў ВКЛ; зацверджанні ўмоваў (трансакцыяў); трактаты і дыпламатычныя дакументы, якія характарызуюць дачыненні паміж ВКЛ (з 1569 г.— РП) з Маскоўскаю дзяржаваю і татарскімі ханствамі; інвентары маёмасных адзінак. Сярод іх сустракаюцца таксама матэрыялы іншага характару. Напрыклад, 2 тамы Метрыкі каралевы Боны, 2 тамы кароткага пераказу зместу дакументаў з архіву ВКЛ, якія паходзяць з 1386—1491 гг., і інш.

Другі фонд — гэта 15 архіўных адзінак, якія ўключаюць кароткі пераказ зместу дакументаў, запісаных у кнігі Метрыкі ВКЛ (Сумарыюш). Упарадкаванне Літоўскай метрыкі было зробленае ў Варшаве ў 40-я гг. XVIII ст. Але ж і тут не абышлося без бачных пропускаў. У Сумарыюшы адсутнічае змест каля 130 тамоў Метрыкі.

Вельмі каштоўны і цікавы фонд, які ўмоўна завецца **«Збор пергаментных дакументаў»**. Гэта 8727 архіўных адзінак на лацінскай, польскай, рускай (старабеларускай),

расейскай, нямецкай, італьянскай, французскай, чэшскай, армянскай мовах і нават напісаных уйгурскім альфабэтам. Храналагічна матэрыялы датуюцца вельмі шырока — ад 1159 па 1939 год. Для нас найбольшую цікавасць маюць 1144 пергаментныя дакументы, перададзеныя ў гэты збор з фонду «Варшаўскі архіў Радзівілаў» (сігнатуры 7212—8385, 8385—8437, 8681). Гэта каля 100 адзінак агульнадзяржаўнага характару з архіву ВКЛ, розныя прывілеі і граматы віленскіх князёў літоўскіх, каралёў Польшчы і Рэчы Паспалітай, дадзеныя гэтай славутай сям'і на атрыманне пасадаў, ганаровых званняў і маёнткаў, а таксама дакументы, наадварот, выдадзеныя Радзівіламі розным асобам. Як вядома, шмат хто з гэтага роду займаў найвышэйшыя пасады ў ВКЛ і меў значныя ўплывы на яго ўнутры- і замежнапалітычнае жыццё.

Акрамя пергаментных дакументаў са збору Радзівілаў, пэўнае дачыненне да гісторыі Беларусі маюць 107 адзінак з фонду «Архіў Тызенгаўзаў», якія паходзяць з XIII ст., 1361—1595 і 1749—1785 гг. (сігнатуры 5881, 5936—6040, 7133), 4 адзінкі з фонду «Архіў Патоцкіх з Росі» ці «Роскі архіў» (сігнатуры 8905—8907, 8932) ды іншых асобаў і сем'яў (Браніцкіх, Замойскіх). Яны датычацца галоўным чынам маёмасных справаў (тастаманты, надзелы сямейных уладанняў, спадчынныя дакументы, шлюбныя ўмовы) і прывілеяў для гэтых сем'яў ці канкрэтных асобаў. Гэты фонд таксама вельмі каштоўны для сфрагістаў. Бо пры бальшыні дакументаў захаваліся адціскі розных пячатак.

Збор папяровых дакументаў — 4319 адзінак захавання з 1395 па 1931 гг. Дакументы гэтага збору датычаць шмат якіх бакоў жыцця грамадства: універсалы каралёў Рэчы Паспалітай на правядзенне соймаў і тэрміны папярэдніх соймікаў, універсалы ваяводаў ці кашталянаў на правядзенне соймікаў дзеля выбараў кандыдатаў для земскіх урадаў, універсалы Барскай і Таргавіцкай канфедэрацыяў. Цікавыя матэрыялы адносяцца да ваеннай гісторыі: гэта каралеўскія ўніверсалы на абвяшчанне паспалітых рушанняў, універсалы каронных і вялікакняскіх гетманаў, дакументы, звязаныя з нацыянальнавызваленчымі рухамі XVIII — XIX стст. Даволі значную групу ўяўляюць выпісы актаў Літоўскай метрыкі, Судовага трыбуналу, з гродскіх і земскіх кніг і інш.

У архіве захоўваецца багата дакументаў, якія пахо-

дзяць з другой паловы XVIII — пачатку XIX стст. і адлюстроўваюць падзеі гэтага перыяду. У зборах **«Архіў Чатырохгадовага сойму»** і **«Так званая Літоўская метрыка»**, **«Попелаў»**, **«Карэспандэнцыя Станіслава Аўгуста»** сабраныя матэрыялы, якія характарызуюць унутраную і замежную палітыку адміністрацыі Рэчы Паспалітай у часы кіравання караля Станіслава Панятоўскага, вельмі вялікая яго эпісталярная спадчына, матэрыялы соймаў (найперш трэба назваць «Вялікі Сойм» і Горадзенскі 1793 г.), акты Адукацыйнай камісіі, Вайсковай камісіі Абодвух Народаў і інш.

Захавалася шмат дакументаў, якія маюць дачыненне да паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. У зборы **«Архіў Польскага каралеўства»** маюцца матэрыялы, звязаныя непасрэдна з канцылярыяй самога Т. Касцюшкі і Т. Ваўжэцкага, улёткі часоў паўстання ёсць у зборы «Попелаў», архівалії кіраўніцтва і адміністрацыйных адзінак паўстання знаходзяцца ў зборы «Так званая Літоўская метрыка».

Эканамічная гісторыя Беларусі XVIII ст. фрагментарна прадстаўленая ў зборы **«Камеральны Архіў»**: акты горадзенскай, магілёўскай, навадворскай каралеўскіх эканоміяў; матэрыялы дзейнасці Каралеўскае Скарбовае камісіі (асабліва шмат захавалася з часоў Станіслава Аўгуста Панятоўскага) і інш.

У пэўным сэнсе для даследнікаў-медыевістаў будуць цікавымі матэрыялы фонду **«Земскія і гродскія акты»**, і ў першую чаргу актавыя кнігі з тэрыторыі Падляшша, шчыльна звязанай гістарычна з лёсам і традыцыямі беларускіх земляў ВКЛ. Гэта 199 земскіх і гродскіх кніг з Бельска, Бранска, Дарагічына, Ганёндза, Мельніка, Саколкі, Суража ад 1474 па 1794 гг.

Паводле колькасці архіўных адзінак найбуйнейшым з'яўляецца другі аддзел архіву **«Акты органаў улады, установаў і грамадскіх інстытутаў ад 1795 па 1918 гг.»**. У асноўным матэрыялы геаграфічна адносяцца да тэрыторыі сучаснае Польшчы. Найцікавейшымі для гісторыкаў Беларусі, магчыма, будуць фонды, звязаныя з падзеямі часоў Лістападаўскага (1830—1831 гг.) і Студзеньскага (1863—1864 гг.) паўстанняў, а таксама фонды карных інстытуцыяў Расейскай імперыі XIX ст., якія дзейнічалі ў Царстве Польскім. Зацікаўленасць могуць выклікаць і рэшткі (48 архіўных адзінак) матэрыялаў збору **«Мен-**

**скае кола Варшаўскага таварыства апекі над помнікамі мінуўшчыны»**. Але ж у асноўным гэта дакументы, якія датычаць Лістападаўскага паўстання і наступных рэпрэсіяў на тэрыторыі Менскай губерні. У фондзе **«Метрычныя кнігі і іншыя акты з архіваў парафіяльных установаў і канфесійных гмінаў з гэтак званых забужанскіх тэрыторыяў»** сярод больш чым 3 тыс. адзінак знаходзяцца дакументы евангеліцкіх суполак Вільні і Горадні. Напрыклад, копіі тастамантаў і спісы маёнткаў (копія загаду караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага, які надае дом і зямлю ў Горадні), пратаколы паседжанняў Прэзбітэрскай Рады горадзенскай грамады.

Яшчэ багацейшы на крыніцы з гісторыі Беларусі трэці аддзел AGAD **«Акты сем'яў і прыватных асобаў...»** І ў першую чаргу неабходна вылучыць фонд **«Варшаўскі архіў Радзівілаў»**. Гэта 250 бягучых метраў дакументаў, сярод якіх 1144 пергаментныя і каля 1500 мапаў і планаў (дзве апошнія катэгорыі матэрыялаў знаходзяцца ў адпаведных 1 і 4 аддзелах архіву). Храналагічна яны абымаюць перыяд ад 1190 г. да XX ст. Напісаныя па-руску (старабеларуску), па-польску, па-лацінску, па-габрэйску і асноўнымі еўрапейскімі мовамі. Збор уяўляе сабою фрагменты архіваў розных галінаў роду Радзівілаў ад яго пачынальнікаў з сярэдзіны XV ст.: спадчына згаслай у XVI ст. лініі На Ганёндзу і Метэлях, згаслай у XVII ст. лініі На Олыцы, а таксама На Біржах і Дубінках, як і скончанай у пачатку XIX ст. нясвіжскай і олыцкай лініі. Акрамя гэтых — значная колькасць папераў клецкае лініі Радзівілаў, прадстаўнікі якой у XIX ст. пераанялі ў спадчыну Нясвіж, Олыку і іншыя маёмасці згаслых галінаў роду.

Вялікі архіў Радзівілаў яшчэ ў другой палове XIX ст. быў упарадкаваны і падзелены на 34 аддзелы. У пачатку XX ст. бальшыню з гэтых аддзелаў Радзівілы вывезлі да сваёй рэзыдэнцыі ў Варшаве. Менавіта яны былі пераанятыя AGADам. Сярод гэтых дакументаў знаходзім вялікую колькасць эпісталярных крыніцаў. Гэта лісты да Радзівілаў і іхных сваякоў (Сабескіх і інш.) ад польскіх каралёў і вялікіх князёў літоўскіх, а таксама імператараў, каралёў, князёў і гаспадароў ды іхных родзічаў з Францыі, Даніі, Швецыі, Англіі, Расеі, Малдовы, Валахіі, Германскай імперыі, Курляндыі (з 1533 па 1818 год). З другога боку, арыгіналы і копіі лістоў Радзі-

вілаў да розных асобаў з 1530 па 1884 гг.: вялікага гетмана літоўскага Крыштапа (памёр у 1640 г.), канюшага літоўскага Багуслава (памёр у 1669 г.) і ягоных дачок Людвікі Караліны і Ганны; вялікага гетмана літоўскага Міхала Казімера Рыбанькі (памёр у 1762 г.), падчашага літоўскага Геранімa Флярыяна (памёр у 1760 г.), віленскага ваяводы Караля Станіслава Пане Каханку (памёр у 1790 г.) і іншых. У аддзеле «Гістарычныя дакументы» знаходзяцца арыгінальныя матэрыялы аб грамадскай і палітычнай дзейнасці Радзівілаў ды іхных сваякоў (Сапегаў, Кішкаў, Пшэбендоўскіх і інш.) з XVI — XVIII стст.; фрагментарныя акты з архіву Вялікага Княства Літоўскага (аўтэнтычныя ці блізкія па часе копіі) з гэтага ж перыяду, розныя справы соймаў, дыпламатычныя і ваенныя акты, публіцыстыка, рукапісы тыпу silva rerum. Вельмі важныя гістарычныя дакументы даследнік знойдзе ў аддзеле **«Дыярыюшы»**. Гэта дзённікі соймаў, канфедэрацыяў і розных камісіяў, кніга Сыгілят Меншай Канцыляры ВКЛ з 1709—1719 гг., рэестр падымнага падатку з 1650 г. і рэестр дымаў (абюрата) з 1690 г. у ВКЛ. Тамсама захоўваюцца копіі карэспандэнцыі Януша Радзівіла з 1649—1652 гг. і Багуслава Радзівіла з 1658—1660 гг., прыватныя паперы і запісы Міхала Казімера Рыбанькі і Геранімa Радзівіла. 761 архіўная адзінка з гісторыі войска ВКЛ за 1437 г., 1567—1771 гг. і радзівілаўскай міліцыі за 1658—1821 гг. Стасункі Радзівілаў з рэлігійнымі інстытуцыямі ўсіх хрысціянскіх вызнанняў зафіксаваныя ў 734 архіўных адзінках за 1514—1891 гг., вылучаных у асобны аддзел агульнага фонду.

Значную частку Радзівілаўскага збору ў Варшаве складаюць дакументы эканамічнай і адміністрацыйнай гісторыі маёмасцяў, якія належалі Радзівілам на тэрыторыі Беларусі, Літвы і Польшчы з XVI па XIX ст. Гэта:

— акты нясвіжскай, клецкай, давыд-гарадоцкай ардынацыяў, бабруйскага, барысаўскага, крычаўскага, юрбарскага староставаў, берасцейскай і шавельскай эканоміяў да іншых;

— матэрыялы, якія адносяцца да юрыдык, пляцаў і меншых уладанняў у Вільні, Варшаве, Берасці, Горадні, Навагрудку, Менску, Коўне, Львове і інш.;

— дакументы прамысловых прадпрыемстваў з радзівілаўскіх маёнткаў, у тым ліку гутаў шкла ў Налібаках і Урэччы, персіярні ў Слуцку, ткацкіх мануфактураў

у Нясвіжы і Карэлічах, рудні ў Налібаках, цукроўні ў Карэлічах і Івані ды інш.; 5408 архіўных адзінак інвентароў ключоў ды іхных частак, фальваркаў, вёсак, засценкаў і рэзідэнцыяў (галоўным чынам Нясвіжа і Белай), якія былі ўладаннямі галін роду Радзівілаў, а пазней, у XIX ст.,— Вітгенштэйнаў. У аддзеле «Дакументы, якія адносяцца да ўладанняў» захоўваецца 157 папак з актамі аб маёмасных і спадчынных правах Радзівілаў на ключы Слуцак, Капыль, Койданава, Карэлічы, Копысь, Беліца, Лахва, Славатычы і інш. Тамсама маюцца акты, якія адносяцца да мястэчка Мір.

Аддзел **«Рэестры скарбцаў і ўсёй рухомай маёмасці»** — гэта спісы маёмасці і багаццяў, якія належалі Радзівілам і захоўваліся ў шматлікіх рэзідэнцыях, галоўным чынам у Нясвіжы, Слуцку, Біржах і Белай, а таксама вызначэнне іх коштаў. Рэестры арсеналаў, стайні, транспартных сродкаў, паляўнічага і коннага інвентару, колькасці коней ды іншай жывёлы, сабак і сакалоў; кухоннае і сталовае начынне, абстаноўка і ўпрыгожанні жылых пакояў (мэбля, абіўка, карціны і інш.), прадметаў асабістага ўжытку — адзення, абутку, біжутэрыі. У Радзівілаўскім фондзе захоўваюцца шматлікія каталогі, спісы, інвентары, сумарыюшы, вопісы архіваў і бібліятэк у Нясвіжы, Біржах, Белай, Караляўцы. Сярод іх вопісы архіўных адзінак з архіваў ВКЛ, г. зв. рукапісныя газеткі, якія ўтрымліваюць інфармацыю з розных цэнтраў РП (Варшава, Вільня, Познань, Горадня, Львоў і інш.) і замежных (Парыж, Мадрыд, Рым, Лондан, Вена і інш.).

З родам Радзівілаў звязаныя яшчэ некалькі фондаў у Варшаве. **«Архіў Радзівілаў з Паланэчкі»** — гэта дакументы XV — XIX стст., якія датычаць правоў радзівілаўскага роду на маёнткі Палонка, Паланэчка і Турэц Наваградскага павета, Лявонпаль і Гусакі Браслаўскага павета, Тавяны і Дзевялтоў Вількамірскага павета. Побач з названымі дакументамі ў гэтым фондзе захоўваюцца матэрыялы (гаспадарчыя, спадчынныя) папярэдніх уласнікаў адзначаных маёмасцяў: Глябовічаў, Рудамінаў Дусяцкіх і інш. У фондзе **«Архіў Радзівілаў з Небарова»** даследнікаў гісторыі Беларусі павінны зацікавіць гаспадарча-адміністрацыйныя матэрыялы да Цімкавічаў, фальварку Чамяры ў Берасцейскім павеце, Олыцкай ардынацыі і інш. Сярод нешматлікіх асабіста-радзінных архі-

валіяў небароўскай галіны Радзівілаў неабходна адзначыць «Дзённік» Багуслава Радзівіла з 1661—1666 гг.

Таксама значным зборам дакументаў з гісторыі Беларусі з'яўляецца г. зв. **«Роскі архіў»**. Назва фонду паходзіць ад мястэчка Рось у Ваўкавыскім раёне, дзе ў XIX ст. вядомая ў Рэчы Паспалітай радзіна Патоцкіх сабрала свой архіў, да якога пазней былі далучаны перанятыя імі ў спадчыну дакументы Браніцкіх з Беластока і Сапегаў з Боцькаў (сённяшняя Беласточчына). Гэта 52 бягучыя метры архіўных адзінак, якія датуюцца 1372, 1406, 1437, 1480—1911 гг. і напісаны па-польску, па-руску (старабеларуску), па-расейску, па-лацінску, па-ангельску, па-нямецку, па-французску і па-італьянску. Там утрымліваецца карэспандэнцыя як да прадстаўнікоў названых родаў, гэтак і ад іх — у асноўным эпісталярная спадчына Юзафа Сапегі, падскарбія надворнага ВКЛ, Яна Клеменса Браніцкага, вялікага гетмана кароннага, Патоцкіх з Росі — Стэфана (памёр у 1910 г.), ягонага бацькі Германа і дзеда Яна Аляксандра. Другая катэгорыя — гэта асабіста-сямейныя, маёмасныя і юрыдычныя акты, якія датычаць уладанняў Сапегаў, Патоцкіх і Браніцкіх у ВКЛ, Падляшшы і Малапольшчы. У асобны аддзел вылучаны гаспадарча-адміністрацыйныя дакументы Роскай ардынацыі з 1660—1871 гг. Гэта інвентары, рэвізіі, рахункі, кантракты, рапарты ды інш. па Росі, Боцьках, Тыкоціне, Харошчы, Беластоку і інш. мясцовасцях. У катэгорыі «Мілітарыя» даследнікі вайсковае гісторыі знойдуць матэрыялы пра харугву на чале з Францішкам Сапегам, а пазней ягоным сынам Юзафам, а таксама фрагменты архіваў іншых літоўскіх вайсковых адзінак XVII — XVIII стст.

Для даследнікаў мінуўшчыны Беларусі карысны будзе фонд **«Архіў Тызэнгаўзаў»** (1868 архіўных адзінак, 2686 інвентарных пазіцыяў) за 1254—1874 гг. Ён таксама падзяляецца на некалькі аддзелаў. Гаспадарча-маёмасныя акты ўладанняў Тызэнгаўзаў (Паставы, Віжуны, Крошты і інш.); асобна вылучаны падобныя матэрыялы маёнтка Дубраўляны (Дабраўляны) гістарычнага Свянцянскага павета. 27 архіўных адзінак (360 інвентарных пазіцыяў) складаюць дакументы, непасрэдна звязаныя з Антонам Тызэнгаўзам, падскарбім надворным ВКЛ, гарадзенскім старастам. Гэта адміністрацыйна-гаспадарчыя акты, якія ў асноўным датычаць гарадзенскай эканоміі

ў 2-й палове XVIII ст. Сярод іх дакументы мануфактураў і тэатра ў Горадні, справы спадчыны па А. Тызэнгаўзе, а таксама матэрыялы да ягонае біяграфіі. Багатая ў зборы і карэспандэнцыя розных прадстаўнікоў роду, у асноўным Антона (падскарбія ВКЛ) і Бэнэдыкта (старасты вількамірскага).

Фонд **«Архіў Прозараў і Ельскіх»** адносна невялікі (144 архіўныя адзінкі), аднак змястоўны з гледзішча гісторыі і культуры Беларусі. Ён уяўляе сабой рэшткі багатага архіву вядомага літаратара, публіцыста, стваральніка Бібліятэкі і Музея старажытнасцяў у Замосці на Ігуменшчыне Аляксандра Ельскага (памёр у 1916 г.). Сярод іх радзінныя і маёмасныя дакументы прадстаўнікоў роду Ельскіх герба Пелеш — Уладзіслава, старасты пінскага (сярэдзіна XVIII ст.), Станіслава, маршалка Ігуменскага павета, Караля, харунжага гэтага ж павета (XIX ст.) і інш., якія датычаць іхных уладанняў Гольні, Кордзікі, Масаляны, Сянно ды інш. у Менскім ваяводстве, пазней губерні, ад XVII ст. Таксама пераважна гаспадарчыя дакументы і сваякоў Ельскіх і Біспінгаў, Кунцэвічаў, Бжастоўскіх і інш. З калекцыі самога Аляксандра Ельскага захаваліся матэрыялы да гісторыі беларускае літаратуры, уніяцкае царквы, Віленскага універсітэта, Радамскай і Барскай канфедэрацыяў. Даследнікам павінны быць цікавыя асабістыя паперы дачкі А. Ельскага Аляксандры, жонкі вядомага польскага гісторыка, этнографа, археолага Зыгмунта Глёгера, з 1898—1899 гг. Значную частку фонду складаюць архіваліі Прозараў уласнага гербу, сваякоў Ельскіх. Гэта дакументы Юзафа (віцебскага ваяводы ў XVIII ст.), Караля (абознага ВКЛ, памёр у 1841 г.), жонкі апошняга Людвікі з Шуйскіх, якія датычаць маёнтка Хвойнікі і іншых уладанняў у Рэчыцкім павеце.

Матэрыялы, якія стасуюцца да тэрыторыі Беларусі, захоўваюцца таксама ў фондах **«Архіў Дорыя-Дзерналовічаў»** і **«Архіў Фошчаў»**. Першы ўяўляе сабою 25 архіўных адзінак за 1646—1804 гг. (рэшткі фамільнага архіву юрыдычнага і гаспадарчага характару, звязаных з уладаннямі Дзерналовічаў у Менскім і Віленскім ваяводствах (Вялікая Лебяда, Навасёлкі, Крэўна, Ліпніца, Кушалі). Другі — гэта 148 архіўных адзінак за 1583—1865 гг.

(таксама рэшткі фамільнага архіву), галоўным чынам, паперы Юзафа Дамініка Фошча, земскага суддзі Рэчыцкага павета, ягоных сыноў Фелікса і Аляксандра, маршалка шляхты гэтага ж павета і ўнука Фелікса, таксама маршалка шляхты Рэчыцкага павета. Гэта маёмасныя, юрыдычныя і спадчынныя акты да ўладанняў Фошчаў Дуровічы, Насовічы, Дзятлавічы і інш. у тым самым Рэчыцкім павеце.

Спецыялісты знойдуць пэўныя беларусазнаўчыя матэрыялы і ў іншых зборах архіву. Арыгінал дзённіка Фёдара Еўлашоўскага знаходзіцца ў фондзе **«Архіў Патоцкіх з Радзыня»**, творы, артыкулы і лісты Уладзіслава Сыракомлі — у фондзе **«Архіў Гіпаліта Скімбаровіча»**, розныя матэрыялы масонскіх ложаў Вільні, Варшавы і іншых гарадоў у фондзе **«Масонскі архіў»**. Крыніцы з гісторыі ўніяцкае царквы ў ВКЛ XVII — XIX стст. аб паўстанні пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі ў Беларусі і Літве ў фондзе **«Архіў Замойскіх»**. Гаспадарчыя, юрыдычныя, спадчынныя, эпісталярныя дакументы з Беларусі і аб Беларусі маюцца ў фондах **«Сямейны архіў Панятоўскіх»**, **«Архіў Патоцкіх з Яблоны»**, **«Збор Браніцкіх з Сухой»**, **«Архіў маёмасцяў Варкляны»**, **«Збор з Нацыянальнага музея»**, **«Збор матэрыялаў ад XVI да XX стст. featuring рознага паходжання»**, **«Архіўныя дублеты з Нацыянальнай бібліятэкі»**, **«Архіўныя дублеты з Бібліятэкі Замойскіх»**, **«Набыткі III аддзела»**, **«Паперы Марыяна Мараляўскага»**.

У гістарычных даследаваннях значнае месца заўсёды адводзіцца картаграфічным крыніцам. **«Аддзел картаграфіі»** ў AGAД налічвае больш як 36 000 аркушаў розных мапаў і планаў. Галоўным чынам яны адносяцца да тэрыторыі сучаснае Польшчы, аднак ёсць і з тэрыторыяў ВКЛ. Каля 1500 адзінак з «Варшаўскага архіву Радзівілаў» (папкі 415—453) планаў маёнткаў, мястэчак, фальваркаў, вёсак, засценкаў, зямельных і лясных надзелаў, будынкаў ва ўладаннях Радзівілаў. Яны датычаць, між іншым, Койданава, Карэлічаў, Леніна, Ліпічанскай пушчы, Міра, Налібакаў, Рубяжэвічаў, Смалявічаў, Слуцка, Капыля, Старобіна, Зблянаў. Планы маёнткаў Патоцкіх у Росі (папка 477) вылучаныя ў Картаграфічны аддзел з фонду **«Віляноўскі гаспадарчы архіў»** і інш.

Зразумела, што даведнік не можа даць поўнай характарыстыкі фондаў і дакументаў. Аднак з'яўленне падобных пазіцыяў стымулюе, а галоўнае, дапамагае даследнікам у іхнай навуковай працы. Неабходна назваць яшчэ некалькі публікацыяў, якія выйшлі раней і характарызуюць зборы Галоўнага архіву старажытных актаў у Варшаве:

— Archiwum Główne Akt Dawnych w Warszawie. Przewodnik po zespołach. T. 1. Archiwa dawnej Rzeczypospolitej. Wyd. 2. Oprac. zbior. Red. Jadwiga Karwasińska. Warszawa, 1975.
— Edward Chwalewik. Zbiory polskie. Archiwa, biblioteki, gabinety, galerie, muzea i inne zbiory pamiątek przeszłości w Ojczyźnie i na obczyźnie, w porządku alfabetycznym według miejscowości ułożone. T. 1. Litery A — M. Warszawa, 1926; T. 2. Litery N — Z, Warszawa, 1927.
— Piotr Bańkowski. Archiwum Stanisława Augusta. Monografia archiwoznawcza. Warszawa, 1927.

Генадзь СЕМЯНЧУК.

Альбрыхт Станіслаў РАДЗІВІЛ

# ДЫЯРЫЮШ
## аб падзеях у Польшчы

27 верасьня

На таемнай нарадзе даведзены да ведама намер караля вырушыць да лягеру захапіў усіх зьнянацку і засьпеў іх непадрыхтаванымі да гэтага.

28 верасьня

Падрыхтавана ўсё, што магло б пацягнуць за сабой затрымку выступленьня...

3 кастрычніка

Шмат дваранаў у сілу сваіх пасадаў перадавалі каралю баявых коней: адныя шэсьць, другія дванаццаць, іншыя.трыццаць, а таксама ўзброеных жаўнераў.

4 кастрычніка

Кароль у атачэньні сваіх братоў і нямногіх іншых асобаў выехаў за места на адпачынак, на паляваньне; іншыя ў дзень сьвятога Францішка прысьвячалі сябе малітвам у касьцёле.

---

Пачатак у № 6, 1995 г., № 1, 1996 г.

5 кастрычніка

Кароль, пачуваючы сябе нядобра, нікога не прымаў. Я сабраў шмат гасьцей і, частуючы іх, правёў гэтак дзень.

6 кастрычніка

Кароль спажываў лекі. З каронным жаўнерам, якія падчас пераходу празь Літву рабавалі тыя правінцыі, узьнікла спрэчка не бяз ганьбы для тых, хто прывык учыняць шкоды; калі за гэта іх дакараюць, крыўдзяцца, напускаюць сьціпласьць на твары і з жалю выліваюць кракадзілавыя сьлёзы...

9 кастрычніка

Адусюль пасыпаліся скаргі на пляндруючых казакоў. Нападалі, быццам няпрыяцелі, на Падольлі і дайшлі да такога шаленства, што забілі свайго ўласнага гетмана, прызначанага каралём, паздымалі ўраднікаў, а іншых замардавалі. Кароль жа наказаў гетману рашуча зламаць іхнае свавольства і пакараць вінаватых. Нічога ім тады не стала, бо выехалі зь лягеру бязь ведама гетмана са звычайным для іх свавольствам. Некалькім жа харугвам было загадана рушыць да Кіева і ўціхамірыць гэты казацкі бунт.

10 кастрычніка

Каралевіч Казімер цяжка захварэў на дзіцячую хваробу, якая завецца воспай. Потым ачуняў, пасьля таго як выпіў поўную шклянку халоднай вады, але хвароба перадалася іншым, пра што напішу ніжэй.

11 кастрычніка

Памёр брацлаўскі кашталян Стампкоўскі, васьмідзесяцігадовы стары. Сын ягоны прыбыў якраз на шлюбаваньне з маёй пляменьніцай. Кароль на маю просьбу надаў яму тады годнасьць ягонага бацькі[1].

12 кастрычніка

Надышоў ліст ад Канецпольскага, які даносіў пра няпэўны яшчэ мір з туркамі. Тая вестка ўсіх узбудзіла як штуршок, бо мы меркавалі, што туркі нас ашукалі...



Тамаш Далябэлі. Падзячная імша, 1626 г., фрагмэнт.

## Год Панскі 1635

### Месяц люты

11 лютага

У гэты нядзельны дзень прымас запрасіў на банкет, ад чаго разам зь іншымі я хацеў ухіліцца з прычыны пэўных непаразуменьняў, але саступіў націску некаторых асобаў, і пасьля заключэньня згоды, падтрыманай сатысфакцыяй, з добрым апетытам спажывалі патравы.

12 лютага

Шмат гадзінаў страцілі мы на судох. Вечарам запрасіў нас літоўскі падскарбі. Тут маршалак Сапега прыняў




Султан Асман II. Гравюра. 1621 г.

за абразу тое, што я паведаміў, абараняючы гонар віленскага епіскапа Войны. Ахоплены гневам, выйшаў са зморшчаным ілбом і аж да сьмерці не заключыў са мною шчырага міру...

15 лютага

У гэты дзень адсутны маршалак Сапега быў пакліканы да караля віленскім біскупам, біскупскую гасподу якога, якая належала яму паводле старога звычаю, ён прысвоіў сабе. Гэта нечуваная рэч. Дэкрэт ня быў выдадзены, а на наступны дзень кароль, выклікаўшы да сябе

літоўскага маршалка Сапегу, загадаў яму вярнуць гасподу. А паколькі ён меў галаву, цалкам звар'яцелую, кароль, асьцерагаючыся выпадку, які адбыўся зь ягоным бацькам зь Пякарскім[2], даручыў пэўным асобам і мне таксама стаць на пэўнай адлегласьці і, супакоіўшы словамі хворы розум, схіліў Сапегу да звароту біскупскай камяніцы...

20 лютага

Шляхціч Солтан, прапойскі стараста на Літве[3], быў паклiканы ў суд за саступленьне маскве замку, які быў дашчэнту спалены. І хаця яго нявіннасьць заслугоўвала ўвагі, але кароль пад націскам палякаў адаслаў справу на далейшае сьледзтва, а пасаду паабяцаў камусьці іншаму з Кароны. Кароль рана ўстаў і ўсю рэшту дня, а таксама ночы прысьвяціў Бахусу. Мы былі ў кароннага падкаморага. Кароль, тоячыся там-сям, трэніраваў маладыя члены, але быў намі распазнаны, бо стрымаў дадзенае падкамораму абяцаньне прыбыць.

21 лютага

Папярэдняе п'янства скараціла судовую сэсію, але некалькі працэсаў былі закончаныя выракам...

23 лютага

Судзілі справу брацлаўскага старасты Каліноўскага з падкаморым Чацьвярцінскім пра бунт, які здарыўся ў час абраньня паслоў [4]. Галасы лічылі кулямі, і многа са шляхты было параненых. Учынена дазнаньне, якое, улічваючы недахоп часу, адкладзенае на іншы сойм...

**Месяц сакавік**

2 сакавіка

У хуткім часе вярнуліся ў Варшаву канцлер і каронны падканцлеры, першы — пасьля назбаўленьня ад хваробы, другі — пасьля публічных працаў у прускай камісіі; якраз у тую самую хвіліну даведаліся аб прыбыцьці маскоўскіх паслоў [5] і ўзьнялі перад каралём, які якраз засядаў, справу аб прадастаўленьні ім водпаведзі не



Себасьцян Сабескі, які нясе каралеўскую харугву Жыгімонта III.

літоўскімі, а каронньмі саноўнікамі (каб моўчкі мяне выключыць). Уласнымі вуснамі ўказаў на няслушнасьць жаданьня, бо, як вучаць пераканаўчыя довады, ніколі інакш не рабілася, адпраўленьне пасольстваў якраз ад паўночных народаў выпадала менавіта літоўскаму княству, іншыя ж, г. зн. усе рымскія, францускія, цэсарскія, асманскія і да іх падобныя належалі да кампэтэнцыі каронных саноўнікаў, а літоўскім ня вольна было там нават ступіць. Чаму ж так шалёна замахваюцца на адзіныя, належныя нам ад многіх вякоў маскоўскія

прэрагатывы? Таму альбо няхай згаджаюцца, каб трэцяя частка ўсіх пасольстваў належала літоўскім саноўнікам, альбо няхай пакінуць паўночныя народы, найбліжэйшыя тэрытарыяльна і кліматам, ва ўладаньні Літвы. Кароль, хочучы ўзважыць жаданьні абодвух бакоў, загадаў нам адысьці.

### 4 сакавіка

...Тым часам пад канец сілкаваньня данесьлі аб уезьдзе ў ме́ста паслоў з Масквы. Насустрач ім за чвэрць мілі, да скутай ільдом Віслы кароль выслаў у шматлікай і багатай сьвіце сандамірскага падкаморага Асалінскага ад імя Кароны, а троцкага харунжага Агінскага — ад імя Літвы. Калі нашыя пасланцы паказаліся маскве, тыя хацелі па-варварску ўжыць каварства ў цырыманіяле. Першы іхны пасол Львоў (Аляксей) Міхайлавіч [5] прыкінуўся, што з саняў, у якіх ехаў, высоўвае нагу, каб такім чынам схіліць нашых сысьці з коней. Зразумеўшы, што гэта каварства, нашыя пасланцы моцна сядзелі на конях. З гэтага ўзьнікла слоўная сутычка: тыя хацелі, каб безь ніякага сыходжаньня з коней былі ім аб'яўленыя даручэньні караля, нашыя ж угаворвалі, каб паслы пажадалі выйсьці з саняў дзеля павагі каралеўскай годнасьці. Урэшце, як той Ганімэд [6] зь пячоры, вынырнуў са свайго падарожнага жытла пасол зь белай, як сьнег, барадой; тады толькі ўзаемна павіталіся і перадалі даручэньні караля пры пільным назіраньні з абодвух бакоў за здыманьнем шапкаў так, нібы яны ім былі ў цяжар. Маскоўскі пасол хацеў зноў вярнуцца да саняў, але быў затрыманы нашымі пасланцамі, якія засьведчылі, што, паколькі яны самі прыбылі конна, хочуць суправаджаць іх, таксама едучы на конях. Масква адмаўляліся, спасылаючыся на недахоп коней і змучанасьць. Ніякія довады на іх ня дзейнічалі, схіленыя ці проста прымушаныя, усе яны паказаліся нам на конях. Было чацьвёра маскоўскіх паслоў, якія ехалі пасярэдзіне, паміж іншымі. Гэты дзень паказаў асаблівае відовішча, далучаючы варвараў да каралеўскай доблесьці, бо дазволіў пабачыць небывалы выпадак накіраваньня масквы для пацьверджаньня вечнага міру. Бо хаця ў часы Казімера III зьявіліся былі ў Польшчы з гэтае самае прычыны паўночныя паслы [7] (аднак справа сталася толькі бачнасьцю, і мір



Кароль Жыгімонт III Ваза з жонкай — каралевай Ганнай Аўстрыячкай і сынам Уладзіславам.

не трымаўся доўга), усімі аднадушна было прызнана, што гэты прыезд болей азначаў, чым той, бо, як самі яны часам пагаджаліся, сілы іхныя былі зламаныя, скарб вычарпаны, а шмат людзей было выкрасьлена зь ліку жывых. Кожны мог шчыра ўсьвядоміць, што пагроза вайны з палякамі дадала ім розуму і, акрамя таго, памяці аб патрэбе міру для будучых пакаленьняў, бо жахнуў іхны бляск кап'я і ўдар мяча Белага Арла, што польская вольнасьць тады першы раз адкрылася вачам масквы. Бо ім не адмовілі ў свабодзе вандраваньня па дзяржаве, колькі хацелі, ім, каму ня вольна выйсьці па-за княскую сталіцу. І гэтая вольнасьць была для іх поўная прывабнасьці.

Вяртаюся да суправаджэньня іх на шляху ва Ўяздова [8] (дзе паслам вызначылі сталую сядзібу). Ня ўсе тыя, хто на загад караля і паноў мелі быць на паслугах у масквы, знаходзіліся пры іх да канца, але, ледзь правёўшы іх да прадмесьця, са звыклай благасьцю вярнуліся дадому, з польскай легкадумнасьцю дэманструючы сваю несаліднасьць. Робячы гэта, абапіраліся на якісьці звычай, а маскве выстаўлялі на вочы нікчэмнасьць іхнага лёсу. Паслы ехалі на досыць рахманых конях, іншыя ж не на такіх выбітных. Картэж не дасягнуў лічбы 300 вершнікаў, строі адборныя, пашытыя нядрэннымі краўцамі, зразумела, з дарагімі камянямі, атрыманыя



Жыгімонт III пад Смаленскам. Маст. Далябэлі.

за грошы з княскага скарбу. Масква ўзялі за звычай, што, калі ўдзельнічаюць у дэлегацыі, бяруць са скарбу князя каштоўнасьці і аздобы дзеля ўласнай пышнасьці. Ашчаджаюць іх, рэдка тое ўжываючы. Бо, калі пасьля звароту на чым-небудзь знойдзецца пляма, плаціць за гэта грашыма і ўласным, пабітым палкамі хрыбтом, а ходзяць, аглядаючыся, што іншыя прымаюць за салідпасьць, тады як на самой справе яны асьцерагаюцца нечаканых udараў. Вечарам дадзены каралём ва Ўяздове пачастунак падмацаваў стомленых паслоў...

7 сакавіка

Вельмі рэзка сутыкаўся з каронымі канцлерам і падканцлерам аб прадастаўленьні (Літве) права дачы адказу маскве. Здавалася, што думка караля ўжо схілілася да довадаў ліцьвіноў, але потым палякі так, па кропельцы, цадзілі яму ў вушы салодкія словы, што, яўна зьмяніўшы афэкт, не хаваў схільнасьці да прадстаўнікоў Кароны і, падазваўшы віленскага ваяводу, насуперак свайму звычаю ветлівай мовай пераламіў ягоную настойлівасьць. На праведзеным зноў у біскупа сходзе ліцьвінаў улас-

нымі вушамі мы чулі ваганьні ваяводы, калі раіў, каб мы з такім запалам не кідаліся на абарону правоў, бо, калі палякі ў адказ будуць скрытна падтрымліваць кароннага канцлера, вынікам гэтага будзе заняпад сойму і ўсёй Рэчы Паспалітай. Мы павінны выбраць тое, што ёсьць меншым злом: ці хацець зьменшыць аўтарытэт пячаці, ці ўсеагульным аб'яўленьнем вайны выставіць айчыну на сорам. Я зганьбіў такую размову, але ён, зьвязаны каралеўскім абяцаньнем, ня бачыць, што пярэчыць таму, пра што гаварыў учора, прасіў, запратэставаўшы, лепш уступіць наказу караля, чым згадзіцца са здрадніцкімі парадамі. Дабіўся толькі, што маскве маюць адказаць абодва канцлеры, каронны і я, атрымаў таксама каралеўскі ліст, які перасьцярог, каб палякі потым не ўзурпавалі сабе гэтае права, бо цяпер яно было прадастаўлена кароннаму канцлеру як першаму камісару пры перамовах. Дакумант, выдадзены каралём, знаходзіцца ў Мэтрыцы канцыляры В. Кн. Літоўскага...

### 8 сакавіка

Надышоў дзень аўдыенцыі, прадстаўленай маскоўскім паслам, і каля замку ўчыніўся натоўп варшавянаў. Дзеля прывядзеньня паслоў выслалі тых самых людзей, якія былі пры ўезьдзе, дадаючы ім конных. Увесь сэнатарскі пакой быў абвешаны дыванамі, тканымі золатам, над галавою караля быў бачны балдахін з залаціста-чырвонай тканіны, аздоблены пэрламі; паставілі трон, аздоблены залаціста-чырвоным шоўкам. Сам кароль ясьнеў пышным строем, а капялюш ягоны проста гінуў сярод найвялікшых і бялейшых за сьнег пэрлаў і густа зьвісаючых чапліных пёраў. Усе сэнатары і дваране, якія нагадвалі нейкі вясельны картэж, былі апранутыя ў найдаражэйшыя строі. Сход, здавалася, блішчэў ад золата. Так чакалі прыбыцьця паслоў, усюды, галава к галаве, цicнуліся нязвыкла тлумна. Каля дванаццатай у замак увайшлі масква сярод расстаўленых з абодвух бакоў пехацінцаў, якія мелі прадухіліць бязладзьдзе і ўзьняць годнасьць каралеўскага атачэньня. Прыкрая рэч здарылася з мсьціслаўскім падкаморым Стацкевічам. Калі той ехаў зь іншымі наперадзе паслоў, ягоны конь, пасьлізнуўшыся на лёдзе, скінуў

вершніка на зямлю, прычыніўшы цяжкі пералом нагі з прабіцьцём косьці празь цела і немалым ягоным болем і смуткам прыяцеляў. Пры сьпешваньні паслоў з коней прысутнічалі іншыя, прысланыя каралём для суправаджэньня іх у дарозе аж да сходу, дзе ад імя караля зьявіліся двое кашталянаў. Ля ўваходу ў сэнат, апярэджаныя нашым дварам і картэжам гасьцей, паказалі свае барадатыя абліччы чацьвёра паслоў; годнасьць твару караля перасьцерагла іх, каб, увайшоўшы ў сваіх шапках зь цёмных лісіных шкураў, зьнялі іх, пакідаючы на галовах маленькія, абшытыя пэрламі. Тады каронны канцлер паклікаў выразным голасам пасла вялікага князя Масквы Міхаіла Фёдаравіча Льва Міхайлавіча, губарнатара суздальскага з таварышамі, каб пакорна аддаў чэсьць яго каралеўскай міласьці. Потым я дадаў, што, калі маюць што-небудзь, даручанае ім вялікім князем яго каралеўскай міласьці пану нашаму найміласьціваму, няхай тое спраўляюць, а лісты (якія адзін з дастойнейшых трымаў узьнятыя ўверх ад Уяздова аж на сход сэнату) аддадуць. Вось Леў шпаркім крокам наблізіўся да караля, а я, выйшаўшы насустрач яму, забраў запячатаны ліст; калі яго адкрыў, загадаў, каб паслы разам са сьвітай пацалавалі руку каралю. Вось, скінуўшы перш з галоў малыя шапачкі, ня ўкленчваючы, але схіленьнем галавы паказваючы найпакорную пашану, адзін за адным шпаркім крокам кінуліся да караля. У час гэтай цырымоніі чацьвёра паслоў уселіся на падрыхтаванай лаве, пакрытай дыванком вялікага кошту. Пасьля заканчэньня вітаньня і зачытваньня лістоў я прамовіў, каб прадставілі пункты дэлегацыі. Пасол Леў, устаўшы, шпарка чытаў даручэньні іхнага князя, таксама другі, потым трэці, нарэшце чацьвёрты зачыталі з лістка даручэньні; мне думалася, што ўсе чытаюць рускае эвангельле.

Кароль, склікаўшы сэнат .пасьля нарады, загадаў адказаць агульна. Тады я сказаў, што ЯКМ ласкава прымае віншаваньні вялікага князя і ўзаемна выказвае жаданьне добрага суседства і заўсёднай дружбы. Бо паводле парадку перамоваў прысязе павінны папярэднічаць двухбаковыя пакты і нарады, таму тут, на замку, быў вызначаны аздоблены дыванамі пакой для ўзаемных спатканьняў сэнатараў з пасламі. У адказе зрабіў упамінаньне аб тым, што ЯКМ вызначыў месца і асобаў,



Уладзіслаў IV. Майстэрня П. Рубэнса.

зь якімі даручае ім сысьціся сёньня ці назаўтра, як захочуць, паводле волі. Каронны канцлер, каб не здавалася, што стаіць без карысьці, паўтарыў тое самае, дадаючы, што ЯКМ запрашае на даваны ім самім пачастунак. Кароль узьняўся са стальца і, стоячы, не крануўшы капелюша, запытаў аб здароўі вялікага князя, пасьля чаго адразу ж сеў.

Паслы ўручылі каралю дары. Першы Леў — цэлага чорнага ліса, дзьве касматыя сабалёвыя шкуры найцёмнага колеру і два саракі шкураў, таксама сабалёвых. Потым засталіся трое паслоў і галоўныя сярод баяраў, гэта значыць іхнае шляхты, паднесьці да сарака



Рака Сьвятога Крыжа 1637 году зь фігуркамі сьв. Уладзіслава і Цэцыліі, дар кіеўскага мітрапаліта Рафаіла Корсака на шлюб Уладзіслава IV і Цэцыліі Рэнаты.

саракоў шкураў. Пісар літоўскі Гасеўскі выгукваў са сьпісу імёны тых, ад каго паходзілі ахвяраваныя шкуры, а іншы пісар літоўскі Нарушэвіч аб'яўляў, што кароль узнагародзіць маскву дарамі. Захоўваецца такі звычай, што ўсе паднесеныя дары складваюцца і захоўваюцца ў каралеўскім пакоі, а пры адпраўленьні паслоў вяртаюцца ў цэласьці ахвяраваўшым, а кароль абдорвае і астатніх у той жа самай высокасьці. Падносяць жа дары як найахвотней, хутка з асабліва шчодрае кара-

леўскае рукі і свае маюць атрымаць, і раскошныя падарункі завезьці дадому.

Потым пaслы адышлі і, увайшоўшы ў прызначаны на нарады пакой, чакалі названых каралём сэнатараў, бо выбралі сабе гэты дзень. Гэта былі сэнатары, плоцкі біскуп, каронны канцлер, кракаўскі кашталян, ваяводы — віленскі, лянчыцкі, куяўскі, смаленскі, кашталяны — берасьцейскі, люблінскі, я, каронны падканцлеры, літоўскі падскарбі, вялікі каронны сакратар, абодва духоўныя рэфэрэндары. Мы прыступілі да справы і згодна абмеркавалі некалькі пунктаў дамовы; сэсію мы адклалі да наступнага дня.

Ліцьвінам не падабаўся зроблены мною і каронным падканцлерам падзел адказу паслам, бо канцлер выконваў хутчэй абавязкі заклікаючага і запрашаючага на пачастунак, чым прадстаўляў ранг саноўніка, а я, забраўшы і затрымаўшы ліст, адказваў ад караля на галоўныя пункты і зьмест дэлегацыі, але гэта ў выніку выклікала ў іх падазрэньне ў тым, што палякі пачалі пазбаўляць літву ўсяго права прадстаўленьня адказу і, дачакаўшыся зручнага часу, адбяруць гэтую прэрагатыву. Ужо адкрылася задума палякаў дазволіць ліцьвінам поўнае правядзеньне маскоўскае нарады толькі ў тым выпадку, калі яны будуць пільнаваць уласныя правы з такой настойлівасьцю, якую дэманстравалі напачатку; таму з прыроджанай прагі верхаводзіць пачалі ўкараняць у найважнейшыя галовы заганную нерашучасьць, каб штораз, то болей і болей, пазбаўляць літоўскі народ значэньня. Мне дастаткова таго, што сваім тварам не схаваў перад Богам, каралём і Рэччу Паспалітай нанесенай крыўды, не пакінуў гэтага на справаздачу нашчадкам, суду якой і згрызоце мы, паглынутыя зямлёй, пакінем нашыя справы. Аднак прыкра, што сэнатары, узьнятыя фартунай на найвышэйшыя шчыты, вагаюцца ва ўтрыманьні айчынных правоў, яны, хто фальшыва ўяўляе сябе непахіснымі калонамі, што ідуць найсуровымі стражнікамі, калі ў сваіх думках цягнуцца хутчэй да пасадаў, даходаў, найлягчэйшага доступу да ўсяго, да павелічэньня прыватнай уласнасьці, чым да гатоўнасьці да захаваньня правоў, якой абавязаны паводле прысягі. Не пераважыўшы гэтага болю, хацеў лякарствам вольнага пісаньня прынесьці сабе палёгку.

У гэты дзень уся хата пацела над супакаеньнем

грэцкага веравызнаньня, пры згодзе ўсіх, каб і вуніі, і схізьме вольна было адпраўляць набажэнствы. Сумняваюся, ці неба прызнае тэрмін «вольна», баюся, бо сам уласнай галавою не магу сарваць выразна мацнеючага пагадненьня. У любым выпадку, учыніўшы пратэст як саноўнік Рэчы Паспалітай, адмовіў у пацьверджаньні, не прывешваючы пячаці пры публічным эдыкце, каб не зьневажаць дакораў сумленьня, якія таксама адкрыў духоўным у боязі, каб гэты Судзьдзя, якога сапраўды трэба баяцца, за згаданы тэрмін «вольна» не адмовіў у небе словам «забаронена», а хутчэй прызнаў як вольным падземны сьвет.

### 9 сакавіка

Каля дзясятай гадзіны зьявіліся ў замку паслы і сэнатары, і мы б закончылі ўсе дамовы з пажаданым вынікам, але ўзьнікла вялікая перашкода. Пасьля абраньня масквою паўнамоцным прысягаю нашага цяперашняга караля іхным вялікім князем дыплём абраньня, пацьверджаны подпісамі знаных са шляхты, аддалі ў рукі Станіслава Жалкеўскага, у той час палявога кароннага гетмана і кіеўскага ваяводы, а пазьней вялікага ґетмана і кароннага канцлера. Той, атрымаўшы яго, пераслаў у Смаленск нябожчыку каралю Жыгімонту III, бацьку караля Уладзіслава IV, мяркуючы, што будзе мілым вестуном, і абяцаючы сабе вялікую ўзнагароду, асабліва таму, што лічыў, што тагачасны каралевіч Уладзіслаў быў узьняты на князя Масквы яго жаўнерскім цярпеньнем і працай. Але ўсё здарылася іначай, бо памерлы кароль, падбіты чыёйсьці малазычлівай для Рэчы Паспалітай радай, невядома, ці з амбіцыі, каб самому кіраваць у шырэйшых межах, ці з любові да адзінага ў той час сына, ці з зайздрасьці да таго, у кім прадчуваў, што мог бы ўзносіцца няўдзячна з поваду агромнасьці княства ўсёй поўначы, сурова прыняў Жалкеўскага, хутчэй гняўліва, чым ласкава; і, пагарджаючы ўручаным дыплёмам, адмовіў, зразумела, з-за ўсяго гэтага, у адданьні сына на вялікага князя. Дзе ж гэты дыплём знаходзіцца, вялікая, не вядомая да гэтага часу таямніца. Адныя думаюць, што яго схаваў сам Жалкеўскі, другія — што быў у апецы Сапегі, у той час літоўскага канцлера, трэція — што яго затрымаў літоўскі



Гетман Дэнгоф. 2-я чвэрць XVII ст.

пісар Сакалінскі, іншыя — што знайшоўся, будучы пагардліва пакінуты, у скарбніцы найсьвяцейшай памяці караля, яшчэ іншыя — што цяперашні кароль захаваў яго ў сховішчы. А ў Палянове[9] за згоду на пагадненьні нашыя камісары прысягнулі, што сярод іншых лістоў асабліва дыплём абраньня Уладзіслава на князя Масквы мае быць вернены ў рукі паслоў.

Нягледзячы на пошукі не знайшоўся, усё ж тыя згаданыя ахоўнікі, якія сьцераглі яго на зямлі і якіх умярцьвілі, сьведкамі служыць ужо не маглі. Мы ўсе, турбуючыся аб выніку, пакутавалі над спосабам, якім можна было б прадставіць паслам страту дыплёму. Я падкінуў думку: каронны канцлер мог бы асьцярожна намякнуць

Льву, першаму паслу, што аж дасюль дакумант не знайшоўся, але яго шукаюць далей, калі б, аднак, загінуў, то няхай не сумняваюцца, што кароль і Рэч Паспалітая прадаставяць ім дастатковыя гарантыі. Ледзьве канцлер пра гэта нагадаў, Леў ня толькі ўразіўся, але зьбялеў і амаль страціў дыханьне. Страціўшы львіную адвагу, адразу вярнуўшы дыханьне, прашаптаў: «Пане біскупе, я табе верыў, як божаму анёлу, ты ж схлусіў (такая гэта палітычная манера выказваньня масквы), фальшыва прысягнуў ты і іншыя камісары, што будзе аддадзены ліст, які пахаваны ў невядомым месцы». А смаленскаму ваяводу закрычаў: «Ты палохаў нас прысягай, прынесенай калісьці намі вашаму каралю; чаму ашукваў, калі кажаце, што няма паргаманту. Спакусіў нас фальшывым страхам». Дамаўляліся між сабою, масква, енчачы і плюючы, чым дэманстравалі нашым вушам адначасова боль і непрыстойнасьць. І гэтак рыхтаваліся да неадкладнага адыходу, дэманструючы, што ўжо страцілі надзею на мір; хацелі вяртацца да свайго князя. Нашыя, якія суправаджалі іх, запэўнівалі, што паслы пралівалі слёзы і замест ляманту слалі да неба словы, поўныя наракань-няў і рыданьняў. Кароль правёў гэты дзень на працягваньні судоў.

### 10 сакавіка

Адбылася таемная нарада, што чыніць у гэтай справе. Прапаноўвалі розныя спосабы, каб паслы змаглі паверыць абавязацельству, калі сам кароль пацьвердзіць прысягай, што Рэч Паспалітая не валодае дакумантам. Урэшце пастанавілі выправіць пасольства да маскоўскага князя, а паслоў тым часам затрымаць. Пасьля заканчэньня нарады прыбылі паслы, уносячы справу аб compositio inter status. Думалася, што займаліся тэалягічнымі штудыямі, а дэманстравалі няведаньне справы і законаў. Гучным голасам, выхваляючыся сваёй шматлікасьцю, паставілі перад сабою мэту пагоршыць духоўны стан і пазбавіць яго прыроднага значэньня. Хтосьці, хто ня ведае Вэнэцкай Рэчы Паспалітай, мог бы меркаваць, што гуляюць палітычнымі аргумэнтамі, калі б ня паніка, гаворка і жахлівыя звычаі, знамянальныя для апошніх соймавых сэсіяў, не выдавалі, што гэта адбываецца ў Польшчы. Урэшце вечар раптоўна спыніў нясКладныя размовы.

### 11 сакавіка

Каронны канцлер, ваявода смаленскі і я, прызначаныя ўчарашняй нарадай, падаліся раніцой да маскоўскіх паслоў. Знайшлі мы іх падчас няскладнага цырыманіялу, якога строга прытрымліваліся, які быў прыняты ў варвараў. На пляцы быў увесь іхны картэж, расстаўлены ў доўгі шэраг; нас прынялі і праводзілі. Пры сходах ад імя паслоў нас зноў павіталі найгалоўныя са шляхты. Пасьля ўзыходжаньня на сходы двое найбольш шараговых паслоў падалі нам рукі зь вясёлымі тварамі, шчэрачы зубы паміж барадаў. Урэшце перад апошнім пакоем галоўныя паслы са зморшчанымі брывамі выказалі прывітаньне паводле звычаю. Мы ўселіся ў крэслах на ўзвышэньні. З намі быў таксама літоўскі рэфэрэндары Марцыян Трызна. Пачаў канцлер, ясна ім тлумачачы, што згубу дыплёму лічым справай балеснай, і мяркуючы, якім чынам кароль і Рэч Паспалітая хацелі б у гэтай справе дамовіцца. Кожны з нас таксама стараўся іх пераканаць і зьмяніць іхныя думкі. Доўга найперш паміж сабою шапталіся, імкнучыся здавацца няпрагнымі сэрцам, потым Леў, тройчы ўздыхнуўшы, пачаў напышліва гаварыць. Папракаў караля і Рэч Паспалітую за згубу рэчы такой важнасьці, мовіў, што вялікі князь выразна ім наказаў, каб не адважваліся станавіцца перад ягоным абліччам без дыплёму, што камісары абяцалі яго аддаць; калі гэта не адбудзецца, яны перад Богам будуць нявіннымі, калі вайна прыйдзе на месца сталага міру. Да гэтага сакрэтна дадаў, што, маўляў, некаторыя з вас данесьлі, быццам дыплём быў наўмысна схаваны і на самой справе знаходзіцца ў каралеўскім архіве. Зьдзіўленыя людзкім нягодніцтвам, мы заручыліся прысягаю, што гэта брыдка, вырываючы з карэньнем іхную памылковую думку. Такім чынам, мы так пастанавілі, што належыць выслаць пасланца да вялікага князя. Яны таксама пашлюць кагосьці ад свайго імя. Прасілі, каб тыя пасланьнікі не ад'яжджалі разам, а інакш з прычыны падазронасьці іхнага пана — ведаюць гэта напэўна — жыцьцё іхнае апынецца ў небясьпецы; прасілі, каб кароль і Рэч Паспалітая на гэтым сойме падрыхтавалі абавязацельства з уласнаручнымі подпісамі і пячацямі і паказалі нам яго перад выездам пасланцаў у Маскву, а адзін водпіс выслалі іхнаму князю, каб

урэшце яны тут засталіся. Паслы поціскамі рук выявілі згоду, і адпраўленыя ў тым самым парадку, вярнуліся мы да караля, даводзячы яму ўсё дакладна, на што атрымалі мы адабрэньне яго і ўсёй Рэчы Паспалітай. Праз колькі дзён абавязацельства было падпісанае і ўкладзены ліст да вялікага князя зь ведама паслоў. Справа была даручаная літоўскаму пісару Гасеўскаму.

12 сакавіка

...Кароль у хуткім часе пачаў засядаць у сэнаце. Затрымала нас схізматыцкае вызнаньне (неспадзявана свавольная балбатня), якая распаляла розумы. Я таксама не наказаў сабе маўчаньня і сказаў, што, калі біскупы змогуць выразіць згоду на вашыя набажэнствы, я скрыта ні на што не нападу, калі не, сьведчу, што яўна проціпастаўлюся вашым жаданьням. Тое самае паўтарыў серадзкі кашталян. Потым прымас сказаў: «Няхай ведаюць, што гэтая спрэчка падобная да маёй падагры, на якую пакутую і якую змушаны зносіць». Параўнаньне здалося залішне зьніжаным як для каплана, таму наступіла маўчаньне, і кароль даручыў русінам прыйсьці асобна на наступны дзень...

14 сакавіка

Распачалася таемная нарада над пунктамі замежных легацыяў... Прызваны каралём, каб узяў на сябе пасярэдніцтва паміж схізматыкамі і ўніятамі, учыніў я гэта неахвотна разам з каронным стольнікам Астрарогам і да пэўнай ступені згода зьвязаная была пасьля адабраньня ва ўніятаў па сьмерці цяперашніх уладыкаў Луцкай і Пшамыскай катэдраў; разам з тым прызналі таксама схізматыкам у Вільні і Кіеве школы аж да лёгікі[10]. У сэнаце ўнесьлі справу аб бунтах па местах, прычым герэтыкі хацелі адмяніць правы местаў і акадэміі. Бо ў Кракаве студэнты перашкодзілі пахаваньню пэўнай шляхцянкі герэтычкі (з прычыны арганізаванай насуперак звычаю працэсіі); тыя, улічваючы, што яна і полу была несаліднага, і веры няўстойлівай, наважыліся аддаць астанкі не зямлі, але Вісьле[11]. Таксама і ў Вільні прыпісвалі распушчанасьці акадэміі, што падчас бунту, што ўзьнік на вуліцы Жыдоўскай, былі абрабаваныя



Прыём замежных паслоў, каля 1640 г. Варштат Далябэлі.

некалькі дамоў, а начыньне зьнішчанае. Жах ахапіў многіх, якія мелі нейкія каштоўнасьці, аддадзеныя ў заклад, каб іхная ўласнасьць не зьмяніла паноў. Сам віленскі ваявода, абвінавачваючы ў нахабстве, імкнуўся папракнуць шкаляроў у свавольстве, праціўным праву, а мяшчанаў — у прыхільнасьці да яго, насуперак прывілеям (г. зн. пастановам). Яму запярэчылі біскупы і я з боку сваёй пасады як апякун местаў; спрачаліся мы цяжкімі словамі да дзясятай гадзіны ночы. Ня вырашыўшы гэтага пункту (парадку дня) разышліся, пасвараныя, суцішыўшы гучныя галасы толькі пры выхадзе з замку.

## 15 сакавіка

Кароль засядаў а дванаццатай гадзіне; дзень быў прызначаны на пастановы аб прыватных справах. Перш чым гадзіна дзясятая ўночы закончыла паседжаньне, караля і станы заняволіла спрэчка інаўлоцлаўскіх паслоў з чарніґаўскімі аб першынстве голасу дзеля ўстанаўленьня

адразу, без чыйго-кольвек пярэчаньня, Чарнігаўскага ваяводзтва, якое займае апошняе месца. Калі кароль праз канцлера даручаў гэтую годнасьць камянецкаму падкамораму Каліноўскаму, Кісель, чарнігаўскі падкаморы, які пасьля сьмерці караля вызнаваную ім вунію памяняў на схізму, ужо адсутнічаў, бо, стомлены працай, перанёс адпачынак на начное паседжаньне. Вось ён, які грубасьць мовы ахрысьціў імем польскай вольнасьці, спрэчнасьць думкі прыраўноўваў да развагі, бессаромна называў лагодна адвагай у напышлівасьці духу і беспадстаўнай амбіцыі праглынуўшы ўжо новае ваяводзтва, цяпер, абражаны пасьпешлівасьцю гэтага начнога вынясеньня (пытаньня) і аб пасадзе, і аб асобе, наракаў разгневаны, абгаворваючы гэты спосаб, бо дакліва адчуў узвышэньне іншага над сабой. Гэтая справа, узбурліўшы жоўць, супакоілася ў хуткім часе, змораная сном. Кісель падазраваў інтрыгі пэўных зайздросьнікаў, якія скарысталіся тым, што яго не было...

## 17 сакавіка

Дванаццаты ўдар гадзіньніка заклікаў караля і ўсіх (астатніх) да сэнату, а сэсія доўжылася да шостай раніцы. Добры Божа! Хто ж мог бы апісаць пяром размовы і здарэньні дня? Пасьля буры выступленьняў сойм памацнеў. Літва хацела сьпецыяльна прызначанаму павятоваму жаўнеру, а не каралеўскаму выплочваць жалаваньне, а падскарбія пасьля абраньня ў кожным ваяводзтве і павеце паборцаў звольніць ад рахаваньня падаткаў, што ўносяцца. Каралю, гетману і падскарбію справа здалася няслушнаю і пабудзіла караля да дачы празь мяне паслам суровай водпаведзі. Хаця я нібы прарочым розумам прадчуваў, што справа абернецца дрэнна, і канцлеру кароннаму тое ж здавалася, то, аднак, будучы прызвычаеным да ўступленьня каралеўскае волі, на спатканьні асьведчыў, што кароль зьдзіўляецца, адкуль узялі гэтую задуму, каб жаўнеры, новым, нязнаным дасюль звычаем абіралі зборшчыкаў падаткаў. Таму кароль загадае ўнесьці да скарбу грошы з каралеўскіх маёнткаў і хоча забараніць жаўнеру разьмяшчацца ў старостваx. Найперш пераясоўвалі водпаведзь у маўчаньні, потым ашмянскі падкаморы [12] зачаў гульню, што пры та-

кой незаслужана суровай каралеўскай адозве ўхіляецца ад дазволеных падаткаў. Іншыя ў замяшаньні і з крыкам скардзіліся, што яўна над каркамі павісла absolutum dominium, іншыя, звальваючы ўсю віну на мяне, дамагаліся адной каронная пячаці і аднаго гетманства, яшчэ іншыя хацелі пакінуць караля і сойм, а палякі, якія цешыліся зь нязгоды на Літве, цішком іх нацкоўвалі. Болей за гадзіну працягваўся гэты галас. Я падаўся да караля, просячы, каб пажадаў лагоднейшай адозвай супакоіць узбуджаныя розумы. Ледзь схіліў яго, каб саступіў, бо зноў, будучы распалены гневам, пастанавіў зусім устаць і сарваць сойм, але гарачая просьба супакоіла гвалтоўнасьць ягонага сэрца. Я растлумачыў паслам, што думка караля была іншая, што зусім ня трэба шукаць іншага тлумачальніка гаворкі, апроч самой ЯКМ, што гэта былі толькі прапановы ў справе неразьмяшчэньня жаўнера ў староствах і ўнясеньня падаткаў у скарб, што нічога гэта не магло б наступіць, калі б была нязгода думак. А гэта яўна ўчыніў як прапанову, а не як прымус, бо ведае шляхетнасьць розумаў, прыгадвае сваю прыроджаную зычлівасьць, якая для ўсіх сьвеціць і будзе сьвяціць з прыбаўленьнем надзеі на ўзаемнасьць. І болей яшчэ дадаў для суцяшэньня кіпячых галоў. Аднак спакой не прыйшоў раней, чым сэнатары і польскія, і літоўскія, пакінуўшы крэслы, залагодзілі справы сваімі выказваньнямі. Віленскі ваявода сабраў усіх паслоў і выказаў ім у сваёй прамове, што кароль іх на самой справе задаволіў. Такім чынам, супакоіліся і не адцягнулі часу закрыцьця сойму. Цяпер маршалак і пасол упіцкай зямлі Белазор [13] адважыўся браць мяне на штык у сваёй прамове, што я віноўнік гэтага ўсяго, што спрыяю больш мяшчанам, чым шляхце, што хачу перакуліць правы, і шмат іншых словаў упала зь ягоных агідных вуснаў. Ужо меў ня вельмі ветліва адказаць кулаком, калі б прысутнасьць ЯКМ і старшынствуючыя мяне былі не стрымалі. Пагарда абумовіла асьвячоную вольнасьць мовы, а задуманую помсту пагамавала цярплівасьць. Потым таксама да вушэй усіх дайшло, што і кароль, і дарадцы ў гэтых абставінах усклалі на мае баржы гэты цяжар, які выклікае замяшаньне, а зайздрасьць, якой была дадзеная воля, абярнулася супраць мяне, і, наадварот, навакол шапталі пра маю нявіннасьць, спадзеючыся на якую за



Рыцары. Мал. Яна Матэйкі.

ніпто меў сабе ўколы зайздрасьці, ведаючы, што яна ніколі не ганарыцца нескажоным сумленьнем, і зразумела, хаця ня ведаю, якім чынам спадзявалася прывесьці ў жах нявіннасьць, заўсёды так моцна ад яе адштурхоўваецца, што і сябе, пашарпаную сорамам, аддае на пагарду ўсіх, і тым больш цудоўна сама фальшывая пляма адкрываецца ўсім сьцертаю.

Пад канец сойму ўзьнікла вялікая сварка паміж віленскім і смаленскім ваяводамі, што дадало пажытку дзеля яшчэ большай непрыязьні. Разьвітаньне караля з пасламі працягвалася да шостай раніцы. Таму, як у дзень нядзельны, ішлося проста да касьцёлу, а пасьля слуханьня набажэнства ложа і сон прынялі стомленыя постам і працай члены цела.

18 сакавіка

Кракаўскі кашталян распарадзіўся, каб а чацьвертай гадзіне апоўдні пасол караля Англіі ўдзельнічаў у пышным прыёме, на які былі запрошаныя і найвышэйшыя

сэнатары, і паслы, не вылучаючы таксама і мяне. Аднавіліся гутаркі з сойму, якія асьвяжыла ў памяці багацьце віна і вясёласьць гаспадара. Вярнуліся дадому а гадзіне другой ночы, некаторыя з шумам у галаве...

25 сакавіка

Маскоўскія паслы выслалі да канцлера і да мяне масквіціна Дзьмітрыя з просьбай, каб іх шчодра карміць з запасаў каралеўскага скарбу. Мы абяцалі ім заняцца гэтай справай. Потым канцлер прымаў на банкеце пасла караля Англіі, да чаго далучылася многа кампаніі пры шчодрым стале. Я насуперак звычаю мала ўжываў віна.

26 сакавіка

Вяртаньне падагры прыкавала караля да ложа, так што праводзіны англічаніна і татарына адклаў да вяртаньня здароўя...

28 сакавіка

Інтэрнунцы цэсара Арнальдзіні прыбыў да мяне ў адведзіны. Ня вельмі чаканы госьць удзельнічаў у штодзённым абедзе і зь нямецкай схільнасьці да пацягваньня выпіў неспадзявана шмат віна, бо, седзячы да вечара, мацаваў напоем Вакха горла, змучанае бесьперапыннай балбатнёй. Прыбыў маскоўскі пасол, высланы вялікім князем [14]. Кароль лекамі ўхіляў падагру.

29 сакавіка

Кароль, займеўшы зноў сілу ў нагах, у часе публічнай аўдыенцыі даў дазвол на ад'езд паслам Англіі і татарскаму, апошняга адсылаючы да хана, першага накіроўваючы да Прусаў на аднаўленьне перамоваў. Даў яму ў якасьці доказу прыязнасьці для караля Англіі, яго пана, пярсьцёнак вялікай вартасьці...

**Месяц красавік**

2 красавіка

Кароль узнаўляў паляваньнем сілы, падарваныя лячэньнем. Хвароба кароннага канцлера пачала адступаць.




Эмблема Таварыства Езуса зь езуіцкае брашуры 1616 г.

Я ж схаваўся ў зацішным месцы для набожных роздумаў...

5 красавіка

Кароль з ганку ў касьцёле прымаў удзел у набажэнстве і ўсіх урачыстасцях, а пасьля сьнеданьня памыў ногі ўбогім. Я падсілкаваўся зь некалькімі духоўнымі асобамі ў Калегіі Ісусавага Таварыства.

6 красавіка

Пасьля абеду кароль на хворых нагах абышоў пяць Трунаў Панскіх. Уночы, каля дзясятай, па віне п'янага фурмана згарэў паблізу Віслы гаспадарскі будынак айцоў Езусавага Таварыства...

12 красавіка

Адпраўляў суды пры поўнай лічбе асэсараў, якіх таксама не абдзяліў падсілкоўваньнем. На замку рыхтуюць камедыю на дзень каралеўскай прысягі ў прысут-



Ян Сапега (Мал. Войцеха Герсана).

насьці маскоўскіх паслоў, цяпер праходзяць рэпэтыцыі [15]. Прыбыў таксама нунцы папскі, які з-за паседжаньня, якое працягвалася, мусіў адысьці.

## 13 красавіка

Кароль, думаючы, што вельмі мала сэнатараў, насуперак свайму жаданьню ўстрымаўся ад вядзеньня судоў. Паміж іншымі прыйшла вестка аб сьмерці вялікага літоўскага маршалка Сапегі. Зрабілася тлумна ад тых, хто дабіваўся вакансіі. Я ні аб чым не прасіў караля для сябе, толькі прапанаваў яму свайго брата, берасьцейскага ваяводу, каб, адзначыўшы Весялоўскага вялікім маршалкоўствам, яму надаў меншае, дадаючы Слонімскае староства [16], абапіраючыся на якое лепш бы дзейнічаў, валодаючы жэзлам, які належаў пасадзе маршалка.

Не было недахопу і ў іншых. Каронны падкаморы, моцны каралеўскай ласкай, схіляўся да манаршых ног, прадстаўляючы просьбы за надворнага літоўскага падскарбія Ракоўскага; застаў караля, больш чым звычайна, цьвёрдага. Калі ж кароль адклаў пастанову да наступнага дня, розныя на яго напіралі, і ўжо на зьмярканьні маёй надзеі Слонімскае староства мела быць прызначанае для пісара Сапегі, высланага паслом да Масквы [17].

## 14 красавіка

Прыбыў ранкам і з дапамогай неба гэтулькі зрабіў, што і малодшае маршалкоўства, і Слонім былі прызнаныя майму брату; Блудна дасталася кухмістру Трызну, Маркаў [18] — смаленскаму ваяводу. Расправіўшыся з ваканciямі, кароль праз кароткі час судзіў працэсы.

## 15 красавіка

Мусеў падмацоўваць сябе лекамі; тым часам каля вечара, на жаль усіх, неспадзяваная сьмерць вырвала панну Уршулю Маярын са сьвету. Калі б хто стараўся намаляваць узор вернай слугі, знайшоў бы жывы прыклад у тэй паньне. Прыбыла зь Немец з каралевай Ганнай, маці караля Уладзіслава, аздобленая найлепшымі звычаямі, выдатная ў набожнасьці, шчодрая ў міласьціне, ня стомленая бесьперастаннай працай, улюбёніца караля і каралеваў, пакорная, людзкая для ўсіх, умераная ў харчаваньні і напоях, кароткага сну, зьдзіўляючай памяці, манаскага пасьвячэньня, ня ведаючая адпачынку, умелая ў пісьме па лаціне і па-нямецку, сумленная ў словах, поўная шчырасьці, любячая добрых, цьвёрдая ў вернасьці, клапатлівая аб здароўі каралеўскага дому, найпільнейшая выхавацелька манаршых нашчадкаў, суровая прапаведніца цнотаў, мужным сэрцам зносячая нягоды, ня ведаючая памылак, знакамітая ў рэлігійнай рэўнасьці, не змардаваная служка хворых, памочніца цярпячым нястачы, небывалай разважнасьці, дасьведчаная ў парадзе, не забараняючая нікому доступу, нікому не ў цяжар, спакойная ў цярпеньні цяжкасьцяў, стрыманая ў мове, наймілейшай вымовы, дбалая аб гонары, майстрыха жаночай сьціпласьці, лагодна дакараючая злосных, апякунка тых, хто змагаецца зь недахопам, а не дамагаецца

падтрымкі, найшчадрэйшая карміцелька манахаў, пратэктарка дастойных двору, паплечніца абвінавачаных каралём і каралевай, не парушаючая словам нічыйго гонару, са спачуваньнем захоўваючая ў таямніцы недасканаласьці многіх — адным словам, непараўнальная ў дасканаласьці ўсіх цнотаў. Але балюча, што знайшліся некаторыя, якія ненавісна зь яе насьміхаліся, што, зразумела, паходзіла з зьменлівасьці жыцьця, бо калі цноту суправаджае зайздрасьць, то ідзе за ёю да магілы і пахаваную падгрызае ў памяці. Тут ня вельмі здолела зайздрасьць паразіць насьмешкай сапраўдную славу.

### 16 красавіка

Кароль заставаўся даўжэй на соймах. Перад пакіданьнем замку наведалі мы цела панны Уршулі, яшчэ не зачыненае ў труне...

### 18 красавіка

Надышлі лісты ад нашых паслоў, у якіх, зласловячы дзікім звычаям масквы, даносілі каралю аб прысязе, учыненай вялікім князем у самы дзень Панскай Вячэры [19].

### 19 красавіка

Тыя лісты прачыталі сэнатарам; аднак зь іх было відаць, што камянецкі кашталян непрыстойна абышоўся з масквой, а потым пачалі адкладваць прысягу, і даходзіла да грубых словаў. У той жа дзень каронны рэфэрэндар быў абвешчаны хэлмінскім намінатам і адразу ж наладзіў пышны банкет для ўсяго двору...

### 26 красавіка

Маскоўскі пасланец, высланы самімі пасламі [20], вярнуўся, бо прыставў, будучы недасьведчаным, куды яго даставіць, ні аб чым не запытаўшы, адразу ж далучыў яго да пасольства. З гэтае прычыны настойваў на пакараньні бесталковага, але пасьля ўмяшаньня просячых пакінуў яго, каралю, аднак, расказаў пра гэтую памылку...

### 28 красавіка

Флярэнтыйскі пасол, дапушчаны перад аблічча караля, абвесьціў даручаныя яму пункты місіі, а гэта што

цешыцца зь перамогаў, а па поваду двайной сьмерці родных брацьцяў караля спачувае ў братнім смутку.

Масква, прывезеныя пасьля ад'езду пасла, уручылі ліст ад вялікага князя, потым, праведзеныя да хаты, якая часта прызначалася для перамоваў, чакалі нашага прыбыцьця да іх. Тым часам прачыталі маскоўскі ліст, які ў звыклым прастакоўскім, але характэрным для гэтай нацыі стылі пачынаўся: «Наймілейшы брат і кароль» і абвяшчаў адразу з нагоды ня верненага ліста Жалкеўскага і згубленага дыплёму выбараў караля маскоўскім князем, што кароль запляміў сябе вялікай хлусьнёй. Знаёмы грубы спосаб пісаньня выклікаў у караля толькі сьмех. Сышліся мы з пасламі і пачалі раіцца, лічачы, што князь пры папярэдняй паруцы ўжо згадзіўся на каралеўскую прысягу, як пра гэта даведаўся наш пасланец. Але яны, спрытна выдумляючы даручэньне князя, зноў настойваюць на звароце маскоўскага дыплёму абраньня, што, калі не адбудзецца, справа будзе сарваная ў выніку іхнага ад'езду, і так настойліва, маскіруючы каварства, казалі пра тое, што канцлер і я ахрысьцілі заданьне як безнадзейнае. Па іхным звароце ва Ўяздова мы раілі каралю, каб вечарам выслаў літоўскага рэфэрэндара, каб іх распытаў, паказваючы, што атрыманая згода вялікага князя. Рэфэрэндар выканаў гэта ўдала, бо пры наладжваньні размовы тут і там ніякім чынам ня мог зламаць скрытай настойлівасьці, узьняўся зь месца і сказаў, што сапраўды кароль выклікаў лістамі бліжэйшых сэнатараў, найперш прымаса, каб пасьпяшаліся прыняць удзел ва ўрачыстай каралеўскай прысязе, але паколькі вашыя словы гучаць інакш, то сёньня вышле зноў да сэнатараў лісты адклікаючыя, каб затрымаць іх дома. Цяпер выдала сябе каварства, зараз жа двое паслоў, стрымліваючы яго пасьпешнымі словамі, засьведчылі: «Няхай кароль гэтага ня робіць, няхай прыбудуць сэнатары, то пры ранішнім з'яўленьні канцлераў, якое абвесьціў рэфэрэндар, справа можа быць якімсьці чынам узгодненая». Такі адказ зрабіў нас больш упэўненымі ў сабе.

29 красавіка

Раніцой канцлер разам са мной падаўся да масквіцінаў, каб выдушыць зь іх канчаткова, ці згаджаюцца, ці не. Там пасьля доўгай балбатні з частым уздыханьнем



Гетман Станіслаў Жалкеўскі. 1-я чвэрць XVII ст. Народны музэй у Кракаве.

з абодвух бакоў справа была даведзеная да выніку, бо, аднак, здабылі з заслонаў хітрай натуры сапраўднае і выразнае даручэньне князя, які наказаў ім спыніцца на гарантыі, дадзенай каралём і Рэччу Паспалітай, але — пад карай страты жыцьця — пры бясспрэчнай пэўнасьці ягонай важнасьці. Прагнулі як наймацней сьцерагчы сваё жыцьцё і таму прасілі, каб некалькі асобаў у іхнай прысутнасьці прылажылі руку і пяро да паперы і каб, належным чынам вывучыўшы пячаць, маглі даведацца, ці згаджаецца з подпісам рукі для страхоўкі. Вельмі настойліва таксама малілі, каб іхныя вочы .былі съведчаньнем бачаньня рукі караля, якая піша ліст з запэўніваньнем, што дакумант ягонага



Фігуркі жаўнераў з саркафагу Станіслава Жалкеўскага. Львоў. 1621 год.

абраньня на маскоўскага князя загінуў, а калі і знойдзецца, будзе вернуты. Прызналіся, што, калі гэтага не дапільнуюць, за нядбаласьць заплацяць галавою. Калі атрымалі ад нас супакойвальны адказ, мы накіраваліся да замку і засталі караля занепакоенага. Калі паслы выказаліся, атрымалі ад караля згоду і зацьвердзілі дамовы і абяцаньні камісараў абодвух народаў...

## Месяц травень

### 1 траўня

Першы дзень месяца прывёў да Варшавы прымаса дзеля правядзеньня нарадаў. Так паволі ўсе рыхтаваліся дзеля наданьня бляску ня знанай у Польшчы цырымоніі.

### 2 траўня

Урачыстасьць акту выбавіла з дамоў неспадзявана вялікую лічбу сэнатараў. З набліжэньнем вечара кіраваны ветлівасьцю прыбыў да мяне флярэнтыйскі пасол. Займаліся мы прыемнымі разважаньнямі.

### 3 траўня

Чацьвер выпаў на дзень учыненьня каралеўскай прысягі. Сама сьвятыня абвешана была па сьценах дыванамі, тканымі золатам і шаўковай ніткаю, прыцягвала вочы цудоўным выглядам. На аўтары было пастаўлена шэсьць залатых кандэлябраў, да таго залаты крыж і статуі, выробленыя з таго ж мэталю. Музыка гучала чатырохразовым рэхам, напаўняючы вушы салодкай гармоніяй. Дарога з замку аж да касьцёлу вяла праз пакоі (бо дождж зрабіў немагчымым каралю выхад на вуліцу) сярод разнастайнасьці раскладзеных дываноў.

Пачатак быў а гадзіне чацьвёртай вечарам, бо з прычыны цяжкасьці маскоўскай мовы, якая перашкаджала шпаркаму пісаньню, адцягнулася заканчэньне. Маскоўскія паслы, прывезеныя а гадзіне дванаццатай да замку, найперш затурбаваліся зачытаньнем ім усяго, і шмат было нагодаў да спрэчак, аднак, зь цяжкасьцю супакоеныя, працавалі далей. Перад пачаткам урачыстасьці ўзьнікла справа месца паслоў, ці маюць ісьці перад каралём, ці рухацца за ім, ці таксама павінны паводле звычаю ўзяць яго пад рукі, паказалі нежаданьне, як звыкла забабонна і з запаволенасьцю адказалі: «Нам ня варта праводзіць каго-небудзь да прысягі, асабліва манаршую асобу, гэта быў бы вялізны грэх; толькі б такі ўчынак быў ад нас далёкі!». І так жадалі сабе ісьці парамі перад маршалкам, што таксама і сталася. Зноў узьнікла затрымка, бо прасілі, каб кароль на вачох ува ўсіх пад-



Антоні Мёлер. Плытагоны каля вогнішча, 1592 г.

пісаў абяцаны дыплём. Калі выкананае было іхнае жаданьне, паліліся зь іх словы, поўныя радасьці ад дасягнутага выніку: «Ужо ведаем, што з намі шчыра абыходзіцеся і што наступіць працяглы і непарушны мір». Цяпер дамагаліся, каб кароль заўсёды называў іх князя братам, ён узаемна — караля. Не адмоўлена было ім у гэтым.

Урэшце кароль выйшаў з пакою да касьцёлу, я ж выконваў абавязкі маршалка. Сышлося нечакана шмат людзей, шаснаццаць сэнатараў, двое арцыбіскупаў. Увагоду караля надаваў бляск сапраўды манаршы картэж. Калі кароль наблізіўся да вялікага аўтара, паставілі сталец, укрыты парчою, каб на ім трохі адпачыў. У час кароткага казаньня, прачытанага прымасам, у якім часта з польскімі словамі зьмешвалі лацінскія, адзін з паслоў прасіў мяне, каб схіліў яго да пакіданьня лаціны. Мяне расьсьмяшыла дурнота гэтага чалавека, але нічога яму не адказаў. Тым часам той зноў запытаў у мяне пра львоўскага арцыбіскупа, хто б гэта быў? На мой адказ, што гэта ёсьць мітрапаліт Русі (г. зн., Украіны.— У. С.), адразу пажадаў, каб і ён прысягаў, бо інакш — запэўніваў — яны ўсе выйдуць адсюль з пустымі рукамі. Згадзіўся ахвотна, бо ведаў, засталося

шэсьць нас, сэнатараў, прызначаных, якія пасьля каралеўскае прысягі пацьвердзяць ад імя Рэчы Паспалітай, што не існуе давераны Жалкеўскаму маскоўскі дакумант: двое арцыбіскупаў, каронны канцлер, лянчыцкі ваявода, смаленскі ваявода (які выкліканы каралём, прыбыў у той дзень) і я. Масква ня ведалі, якія сэнатары былі абраныя, дамагаліся асабліва аднаго, смаленскага ваяводы, баючыся, каб, ня зьвязаны прысягай, не турбаваў іх на падставе суседзтва і звычайнай непрыязьні.

І так літоўскі рэфэрэндар, які нёс перад каралём (а збоку маршалка ці ў той момант пры мне) на цяжкім залатым падносе напісаныя і апячатаныя дамовы, паклаў яго зь цяжкасьцю на аўтары, а прымас дастаў залаты крыж і паказаў яго каралю. Я, дастаўшы тэкст каралеўскае прысягі, падаў яго прымасу, а кароль, укленчыўшы на шаўковай падушцы, выразным голасам аддаў належнае формуле прысягі, дадаючы адначасова, што дакумант Жалкеўскага згублены, пасьля чаго пацалаваў крыж. Калі з дапамогай асобаў, што атачалі яго, кароль захацеў устаць, масква стрымалі яго, дамагаючыся асобнай прысягі, што не знайшоўся дакумант маскоўскага абраньня. Я з гневам узяўся ганіць грубасьць іхных звычаяў і ў адпаведнасьці з прыгажосьцю гэтага народа стрымаў іх неадпаведныя мовы, павучаючы адданых у падданства, што іначай належыць зьвяртацца да караля. Устрывожаныя, закрыўшы раты, сталі, як урослыя ў зямлю. Кароль, літуючыся над іх дурасьцю, паўтарыў цалаваньне крыжа ў доказ таго, што дакумант не знайшоўся. Тады масква, падаючы ўдзячнымі вуснамі ня толькі галасы, але і прыкры смурод, прынялі гэта, не хаваючы радасьці і пашаны. Пасьля звароту на сталец кароль слухаў наступныя пасьля сябе прысягі сэнатараў, зьмест якіх чытаў прымас. Мы паўтаралі словы гучным голасам і цалавалі крыж. Калі паслы заўважылі, што літоўскі рэфэрэндар хавае крыж без пацалунку, вялікім крыкам дамагаліся, каб ушанаваў яго прыцісьненьнем вуснаў, што ён таксама, саступаючы іхнай настойлівасьці, учыніў. Кароль забраў у рэфэрэндара дамовы і ўручыў першаму паслу, Льву[21], дадаючы, тыя словы: «Думаю, што ўмацуецца непарушная і пэўная, увенчаная доўгай трываласьцяй, дружба з вашым вялікім князем, маім братам, бо з абодвух бакоў дамовы і замірэньні былі пацьверджаныя прысягай. Занясіце ў рукі князя гэтыя



Пётр Данкерс дэ Рэй. Партрэт Цэцыліі Рэнаты.

гарантыі і перадайце ад майго імя прыязныя віншаваньні». А ўсе паслы адразу абяцалі гэта нізкім схіленьнем галавы. Прымас пачаў сьпяваць падхопленае рэштай тлумна сабраных; гарматы загрымелі нязвыкла моцным гукам, здавалася, што неба і зямля напоўніліся радасьцю. Апостальскі нунцы і флярэнтыйскі пасол з вышыні, праз падрыхтаваную для іх драўляную крату былі відавочнымі сьведкамі ня бачанай больш ніколі ўрачыстасьці.

Кароль вярнуўся да палацу гэтак, як прыбыў. Паслоў і іхную грамаду суправаджаў, як звычайна, прыстаў. Больш цешылі горлы, чым вочы, чакаючымі іх у асобнай хаце мноствам рознага роду гарэлак і лікёраў, бо

атрымалі ад прыроды асаблівы смак да паглынаньня праз шырокія горлы гарэлкі, званай акавітай, аддаючы перавагу гэтаму напою над усімі знакамітымі напоямі; так гэтая спадчына паходжаньня папахвала невуцтвам. Калі каралеўскі стол быў падрыхтаваны, паслы звыклым чынам апярэджвалі караля ў дарозе да яго. Узьнікла спрэчка паміж каронным падкаморым і надворным падскарбім аб парадку месцаў. Адзін і другі цешыўся прыхільнасьцю і ласкай караля, але, паколькі кароль не хацеў ніводнаму адмовіць, каб расьсячы спрэчку вастрыём аднолькавай ласкавасьці, сказаў абодвум устрымацца ад засяданьня пры стале. Падкаморы меў стаць якраз каля караля, а падскарбі — прыняць на сябе працу гаспадара і, кружачыся ўсюды, заахвочваць да весялосьці. Па знаку, дадзеным каралём, паслы ўселіся за сталом разам з доўгім шэрагам сваёй сьвіты, а музыка песьціла вушы салодкім гукам. Астрарог, каронны стольнік, выконваў абавязкі падчашага, а калі наліў напою каралю, пачаркаваўся з усімі пасламі за здароўе маскоўскага князя. Паслы падышлі да караля, чакаючы звароту шклянак; двум першым уручаны вялікай умяшчальнасьці келіхі з чыстага золата, дадаючы залатых дукатаў, двум іншым прапанаваныя былі вялікія срэбныя пазалочаныя, якіх, відаць, ня мелі вяртаць. О, якімі ж радаснымі можна было бачыць іхныя абліччы! Пазіраючы адным вокам на дар, другім на цудоўнае віно, да ўмяшчальнага бруха ўлівалі далікатныя напоі і далікатны вінны букет, а паколькі бальшыні ўжываньне нажоў было незнаёмае, падрыхтоўвалі патравы для ласа чакаючага роту, разрываючы іх рукамі і зубамі.

Папскі і флярэнтыйскі паслы і сама найясьнейшая каралеўна ў атачэньні прыдворных дамаў з вышыні, праз схаваную драўляную крату, прыглядаліся да гэтай камедыі пры стале. Адзін з маскоўскіх дваранаў, будучы цэлы дзень нашча, стаў за пасламі, трымаючы ў выцягнутых руках дамовы, перададзеныя ім каралём. Паводле іхнае волі трэба было адразу пасьля атрыманьня дамоваў выслаць аднаго з паслоў да Ўяздова, але не было ні магчымасьці, ні яны таксама ня мелі даверу да прапанаванага рэфэрэндарам схаваньня дамоваў, таму трымалі іх пры сваім боку і не адаслалі аж да заканчэньня званага стала. Унясеньне сьвечак было зна-



Паўталер Уладзіслава IV Вазы, авэрс і рэвэрс, 1634 г.

кам уставаньня з-за стала. Рушыўся кароль сярод галасу ўсіх там прысутных. Паслы затрымаліся на кароткі час, кароль таксама ўбаку, пакуль агні падрыхтаванага відовішча не разгоняць ночы. Яшчэ не прайшло і гадзіны, вокны замку абселі простыя сьмяротныя, а пасы былі пакліканыя да караля, бо гэта было зроблена ў іх гонар. Пускалі па-майстэрску разьмешчаныя агні, без шкадаваньня нават каралеўскіх вокнаў. Узьнік ляскат, рух, а выгляд розных фасадаў, абарончых замкаў, учынены частымі вогненнымі выбухамі, небывала задаволіў назіраючых. Двое паслоў пацяжэлі ад віна, зь цяжкасьцю трымаліся, дамагаючыся, каб іх адпусьцілі, а ахмяленьне і грубасьць выклікалі пагарду. Так мінула дзясятая гадзіна, і 40 пехацінцаў пры сьвятле лучынаў суправаджала з абодвух бакоў карэтаў усю маскву да ўяздоўскіх дамоў. Апоўначы, звольненыя каралём, падаліся мы на адпачынак.

4 траўня

Раніцой каронны канцлер, далучаны да ліку прускіх камісараў, пакінуў Варшаву. Майму брату Аляксандру Людвіку нададзеная пасада надворнага літоўскага маршалка, што ў той жа дзень пацьвердзіў я моцай удзеленай мне каралём улады. Вечарам адбылася італьян-

ская камедыя (званая recitativa), прыемна прасьпяваная музыкамі ў прысутнасьці паслоў маскоўскіх і флярэнтыйскага. Масква заставаліся нерухомымі, са звыклай нявыхаванасьці, ня хвалячы нічога, апрача камедыяў іхнага вялікага князя, якія хутчэй павінны называцца трагедыямі, якія жорсткà ставяцца на іхных хрыбтах батагом; адсюль з жаласьлівым плачам падавалі галасы, якім, паводле меркаваньня італьянскіх музыкаў, трэба было б аддаць перавагу перад сьпевамі іхных кастратаў.

5 траўня

**Даў апошні адказ па лаціне флярэнтыйскаму паслу, па-польску — маскоўскім паслам** (вылучана мною.— У. С.), не пагарджаючы тою ж цырымоніяй у дачыненьні да таго і тых пры разьвітаньні з каралём, што і пры прыбыцьці. Кароль дзеля паляваньня адразу падаўся да Плоньска. Пасьля абеду наведаў маскву, зь якіх вырваў дакумант, што, калі пасьля адшуканьня дакуманту Жалкеўскага, ён будзе ім перасланы, вернуць нам страхоўку караля і Рэчы Паспалітай.

6 траўня

Флярэнтыйскі пасол пацалаваў руку каралеўны, каб на наступны дзень распачаць падарожжа да Флярэнцыі. Каронны падкаморы па нашэптваньні амбіцыі сам дома частаваў абедам маскоўскіх паслоў; шчодра залілі галовы віном і мёдам. Я быў на прыёме ў маршалка.

7 траўня

Маршалак і смаленскі ваявода выйшлі пасьля майго сьняданьня трохі разьвяселеныя напоем.

8 траўня

Маскоўскія паслы выехалі нарэшце з Варшавы, але многія зь іхнае службы паўцякалі, пакаштаваўшы смаку польскае вольнасьці; знойдзеных пазьней пакаралі біцьцём па твары.

[1] Габрыэль Стампкоўскі, сын ягоны таксама Габрыэль. Маланьня Завішанка, дачка Альжбеты Радзівілаўны і Мікалая Завішы, віцебскага кашталяна.

[2] Міхал Пякарскі, кальвініст, напаў на Жыгімонта III, які ўваходзіў у касьцёл сьв. Яна ў Варшаве, і параніў яго чаканам 15 лістапада 1620 г.

[3] Ян Солтан, пазьней таксама судзьдзя земскі рэчыцкі.

[4] Каліноўскі Адам, стараста брацлаўскі з 1621 ці 1622 г. Стэфан Чацьвярцінскі-Сьвятаполк, брацлаўскі падкаморы (1625—1655).

[5] Маскоўскае пасольства князя Аляксея Міхайлавіча Львова, суздальскага губарнатара; у склад пасольства ўваходзілі трое далейшых паслоў: шадзкі намесьнік Сьцяпан Мацьвеевіч Праесьцеў і дзякі: Міхаіл Цефілацьеў ды Іван Пераносаў.

[6] Ганімэд, паводле грэцкае міталёгіі, слынны сваёй прыгажосьцю юнак, сын Троса, караля Трої.

[7] Расейскае пасольства дзеля заключэньня міру з Казімерам Ягелончыкам 30 ліпеня 1449 г.

[8] Уяздова, вёска на поўдзень ад Варшавы.

[9] Палянова, места ў Расеі, на паўночны ўсход ад Смаленска, паміж Дарагабужам і Вязьмай.

[10] Трэба думаць, што зробленыя яны былі на ўзор езуіцкіх школаў, дапускаючы пяціклясавае сярэдняе школьніцтва і першы год курсу філязофіі, на якім выкладалася лёгіка.

[11] У Кракаве 3 верасьня 1633 г. памерла Францішка, жонка мешчаніна Данііла... Студэнты ўкінулі яе цела ў калюжу, цягнулі за возам, урэшце ўкінулі ў Віслу. Ноччу яе дасталі і пахавалі ў вёсцы Вельканац, пад Кракавам, дзе знаходзіўся эвангеліцкі збор. Студэнты былі выдаленыя з акадэміі.

[12] Адам Мацей Саковіч.

[13] Крыштап Белазор, маршалак Упіцкага павету.

[14] Князь Сямён Шахоўскі і дзяк Георгі Нячаеў.

[15] Пробная пастаноўка пьесы пад загалоўкам «Кароткі збор гісторыі са Сьвятога Пісьма пра Юдыф».

[16] Слонім, места над Шчарай, у Навагрудзкім ваяводзтве.

[17] Казімер Леў Сапега, вялікі літоўскі пісар, прызначаны каралём паслом у Маскву 22 верасьня 1634 г.

[18] Малодшае маршалкоўства, г. зн. надворнае, бо старшае — гэта вялікае. Блудзень (Блудна), места ў Берасьцейскім ваяводзтве. Маркаў, места ў Віленскім ваяводзтве, у Ашмянскім павеце.

[19] Як польскія паслы зь лютага 1635 г. у Маскве знаходзіліся: Аляксандар Песачынскі, камянецкі кашталян, Казімер Леў Сапега, вялікі літоўскі пісар, Пётр Вяжэвіч, Якуб Кароль Мадалінскі, мсьціслаўскі войскі (ураднік, які ахоўваў маёнткі шляхты падчас вайны).

[20] Пад'ячы Грыгоры Бармакоў.

[21] Аляксей Міхайлавіч Львоў.

**Пераклад і публікацыя Уладзімера СЬВЯЖЫНСКАГА.**

# ДЫЯРЫЮШ
## князя Міхала Казімера Радзівіла Ваяводы Віленскага Гетмана Вялікага В. К. Літ.

### 1749

#### December

3. Шчасьліва стаў у Нясьвіжы, у месьце — у палацы стаю; жонку маю слабою на ложку знайшоў, дочкі мае абедзьве здаровыя.

8. Спавядаўся, жонка мая ложкам бавілася; прыбылі да мяне Іхмц п.п. Шышка, кашталян Наваградзкі, і Ельскі, стараста Пінскі, палкоўнік мой петыгорскі,— з жонкаю, таксама Ям п. Яблоньскі, палкоўнік мой драгонскі, з жонкаю, тымі днямі ажаніўшыся з Булгарынянкаю.

17. Па абедзе была рэпрэзэнтацыя досыць пекнай камедыі, кампазыцыі жонкі маёй.

21. Па набажэнстве быў у Альбе, паказваў гасьцям, што там ёсьць да агляданьня годнага.

24. Езьдзіў зранку на аблаву, пад Руднікі, там забілі мы трох ласёў, на куцьцю вярнуўся і застаў княгіню Караліну з Пацеяў Радзівілаву, жонку князя Станіслава, енэрал-маёра.

25. Набажэнства ардынарыйнае як апоўначы, гэтак палуднёвае адправілі мы і пану Богу на хвалу ўвесь дзень у добрай кампаніі прабылі.

26. Па набажэнстве вечарам была камедыя, потым танец, па вячэры разгулялася кампанійка вясёлая, падпіў сабе.

29. Штодня большая прыбывае кампанія ўраднікаў і дыгнітараў, у каторай пры танцах вясёла бавіліся мы.

### 1750

#### Januarius

1. Вечарам была камедыя, каляцыя, і баль дапазна трываў; пошта Варшаўская прыйшла, прынесла, што

---

Пачатак у №№ 4, 5, 1994 г., №№ 1—6, 1995 г., № 1, 1996 г.

Сойм экстраардынарыйны мае быць, а Гарадзенскі ардынарыйны адкладзецца, што нямала правінцыю Літоўскую хвалюе.

5. На каляцыі абіралі мы мігдалёвага караля, лёс паў на князя Станіслава і княгіню стараставую Рэчыцкую — Радзівілаў, іх каралямі абралі, і ў вялікай весялосьці вечар той зышоў.

12. Па набажэнстве была камедыя, баль і каляцыя дапазна, на каторай даведаўся я, што сёньня дзень Ганараты, патронкі княгіні падстолевай Кар. (Любамірскай.— **Перакл.**), зараз трубачам, катлам і музыцы янчарскай загадаў стаць і з гарматаў агню даваць, і сам дужа напіўся з ахвоты.

13. Па абедзе тым жа спосабам была камедыя, штораз іншая, каляцыя і баль, ужо ў дзень спаць пайшоў, з князем падстолім Кар. разьвітаўшыся.

14. Спаў да палудня, бо ўжо днём паклаўся, застаў, што яшчэ князь падстолі ў залі, анічога ня спаўшы, п'е, і прыбыў Ям п. Ігнацы Агінскі, маршалак надворны Літ., каторы ў слабым прыехаў здароўі, і таму яго ад піцьця ўвольніў, а сам мусіў я датрымываць кампанію; перад вечарам шчасьліва князь падстолі Кар. ад'ехаў ad propria, ня спаўшы, а мы па фатыгах адпачывалі.

15. Пошта Варшаўская прыйшла і прынесла зьвестку, што Ям п. Тарла, ваявода Сандамірскі, fatis cessit, пакінуўшы сукцэсарам, што ад траех сясьцёр ягоных ідуць, а менавіта Любамірскім, Мнішкам і Жавускім, акрамя субстанцыі, адзінаццаць мільёнаў трыста тысячаў злотых польскіх гатовай сумы, перад сьмерцю пагадзіўся са мною, хай з Богам спачывае!

## Februarius

2. Учарашняга дня сын мой Януш выехаў да Коўна на соймік, стараючыся аб дэпутацыі на прышлы Трыбунал, хай яму там Бог ва ўсім дапамагае.

4. Па абедзе жонка мая з сынам паехала да Пінска на соймік, каб сына маяго Кароля там дэпутатам утрымаць, хай ім абаім Бог дапамагае! Я з дочкамі маімі рушыўся і, уехаўшы 3 мілі, начую ў Сьвержані, каб быць бліжэй да аблавы.

6. Ізноў паляваў і забіў 6 ласёў.



Малюнак да пьесы «Каханьне зацікаўлены судьдзя».
Мастак М. Жукоўскі.

10. Сёньня атрымаў зьвесткі зь Пінска, ад жонкі маёй, што unanimi voto[1] сын мой Кароль зь Ям п. Парысевічам абраны дэпутатамі на прышлы Трыбунал, канклюдавалі мы набажэнства quadraginta horarum [2], потым карнавал уночы; з Коўна атрымаў, што сын мой Януш, таксама unanimi voto стаўся абраны дэпутатам з Коўна разам зь Ям п. Завішам Чорным, і гэтак з укантэнтаваньнем запусты тыя скончыў.

27. Сёньня адзначаў дзень нараджэньня сыноў маіх Януша і Кароля, каторых хай Бог дабрахотны ў здароўі добрым кансэрвуе, сёньня а гадзіне 10-й і мінуце 30-й Ян а Кароль а той жа гадзіне, але мінуце



Малюнак да пьесы «Несумненнасьць у пастцы». Мастак М. Жукоўскі.

55-й, зачынаюць абодва рок 17-ты, увесь дзень цешыўся я.

## Martius

23. Стаў у Вільні, там, візыты аддаўшы Іхмцям ксяндзам Міхалу Зянковічу, біскупу Віленскаму, і Юзафу Сапегу, каад'ютару Віленскаму, выехалі мы зь Вільні нанач да Нявежы.

27. У катэдры быў на набажэнстве, гадзіну кленчыў, ад 7-й да 8-й папалудні, гадзіны былі расьпісаныя, я меў вышэйзгаданую, жонка мая — ад 9-й да 10-й, і гэтакім спосабам біскупы і каноніки, магістрат і іншае



Малюнак да пьесы «Каханьне — дасканалая майстрыня». Мастак М. Жукоўскі.

панства свае гадзіны мелі пры гробе ў катэдры; чатырнаццаць касьцёлаў пехатою абышоў.

28. У той жа катэдры быў на набажэнстве і шчасьліва пачуў вясёлае Алілуя! Дзьве гадзіны кленчыў, гэта значыць, адну ранкам, другую ўвечар; за местам аб'ехаў 11 касьцёлаў.

## Aprilis

13. Зранку зьехаліся мы да Ям ксяндза біскупа Віленскага, адтуль рушыліся да катэдры, потым па імшы, сьпяванай de Spiritu Sancto, і казаньні рушыўся

я да Ізбы Трыбунальскай, дзе надта вялікі быў конкурс; па адкрыцьці пачалі юрамэнт Іхмці ксяндзы capitulares[3], па выкананым юрамэньце прызваныя былі ваяводзтвы: Вільня — vacat; паветы: Ашмяна — Іхмці п. п. Станіслаў Нарбут і Станіслаў Пазьняк, Ліда — comparnerunt[4] Іхмці п. п. Дамінік Александровіч, Самуэль Кастравіцкі, але як мелі маніфэста і шляхта пратэставала, дык pro vacanti[5] падаў, Вількамір — vacat, Брацлаў — Іхмці п. п. Мікалай Лапацінскі і Язафат Копец, Трокі — Іхмці п. п. Кароль Храптовіч і Станіслаў Катовіч, Коўна — Іхмці п. п. Януш, кн. Радзівіл, сын мой, і Антоні Завіша, Упіта — comparnerunt Імхці п. п. Станіслаў Пузына, стараста Упіцкі, і Станіслаў Русель, як жа шляхта слушна з маніфэсту пратэставала, дык паслаў Іхмосьцяў pro vacanti, із Жмуйдзі — Іхмці п. п. Казімер Станкевіч, стольнік Жмуйдзкі, Аляксандар Пузына і Тадэвуш Білевіч, са Смаленска — Іхмці п. п. Ян Яблоньскі і Кароль Эйдзяловіч, са Старадуба — Іхмці п. п. Рыгор Гімбулт, падкаморы Старадубскі, і Якуб Аранскі, Полацак — Траян Корсак, Антоні Пакош, з Наваградка — Іхмці п. п. Ян Булгак і Уладзіслаў Вольскі, са Слоніма — Іхмці п. п. Аляксандар Мікульскі і Юзаф Брадоўскі, з Ваўкавыска — Іхмці п. п. Марцін Буткевіч і Пётр Савіцкі, зь Берасьця — Імхці п. п. Ігнацы Выганоўскі і Павал Чыж, з Пінска — Імхці п. п. Кароль кн. Радзівіл, сын мой, і Казімер Парысевіч, Мсьціслаў — vacat, Вітабск — vacat, Орша — comparnerunt Іхмці п. п. Антоні Юзафовіч і Ян Замбжыцкі, але як былі вялікія пратэстацыі, дык падаў pro vacanti, Мінск — vacat, Мазыр — vacat, з Рэчыцы — Імхці п. п. Альбрыхт, кн. Радзівіл, стараста Рэчыцкі, і Францішак Ракіцкі, а калі выканалі дэпутаты юрамэнт, дык я да сябе ад'ехаў на абед, а яны заселі дзеля semotis arbitris[6] і абралі маршалкам Трыбунальскім князя Альбрыхта Радзівіла, старасту Рэчыцкага, брата маяго стрыечнага; да Кола духоўнага назначаны Іхмці п. п. Катовіч, Пузына, Ракіцкі, Брадоўскі; да пяра рускага абралі Ям п. Храптовіча, да ляскі скарбовай Лапацінскага; князь маршалак Трыбунальскі частаваў цэлы Трыбунал.

23. У Трыбунале абралі да караля cum denunciatione[7] паслоў — сына маяго Януша і Ям п. Станкевіча.

24. Рушыліся мы ўсе ў дарогу і п. п. паслы Тры-

бунальскія з намі, Кароль, сын мой, застаўся ў Вільні на Трыбунале.

26. Разьвітаўся з маёй жонкаю, каторая з дочкамі маімі да Нясьвіжа рушылася, а я з сынам маім Янушам і калегамі ягонымі, Іхмцямі п. п. Забэлам, маршалкам Ковенскім, Крыштапам Завішам, старастам Суботніцкім, і Станіславам Пюрам, паручнікамі петыгорскімі, далей да Варшавы рушыліся.

27. Начуем у Ваўкавыску; падчас вячэры нешчасьлівую атрымаў навіну, што вуй мой, Я. А. князь Ям Павал Сангушка, маршалак в. В. К. Л., fatis cessit [8] дня 13 красавіка ў Загойцах, пакінуўшы ад першай жонкі сына, ужо мечніка В. К. Л., а зь цяперашняй, Дунінаўны,— трох сыноў і дачок чатыры, хай з Богам спачывае, а Пан Бог хай стараньне мае аб нешчасьлівай тае ўдаве з малымі дзеткамі.

## Majus

6. Стаў на Празе, за мілю перад Прагай спаткаў мяне князь Станіслаў Любамірскі, падстолі Кар., абед са мной еў, потым перавёзься я празь Віслу, стаў у Варшаве і розныя візыты прымаў, сам нікуды не выяжджаў.

7. Зранку паехаў да Двору, меў аўдыенцыю ў караля, пана нашага Аўгуста III, міла быў прыняты і абед з панствам еў; першы візыт аддаў прымасу, ксяндзу Камароўскаму; вечарам ассамблі на апартамэнтах каралевы былі.

14. Ранкам быў у касьцёле а. а. піяраў, там адбыліся паховіны сэрца Ям п. Яна з Чакажэвіч Тарлы, ваяводы Сандамірскага; адтуль на пакоях, там адбылася аўдыенцыя паслоў з Трыбуналу Віленскага, сын мой Януш мовіў да караля, дзякаваць Богу, на ягоныя маладыя гады добра яму ўдалося.

15. На пакоях сын мой меў аўдыенцыю ў каралевы як пасол з Трыбуналу, і тут яму прамова ўдалася, за што імя Езус хай будзе пахвалёна.

16. Зранку езьдзіў да графа Бруля і жонкі ягонай de domo Калаўрат, зь Ям п. Юзафам Патоцкім, кашталянам Кракаўскім, гетманам в. Кар., прасіць аб дачцэ тых графаў для Ям п. Ежага Вандаліна Мнішка, маршалка надворнага Кар., ад каторых графаў атрымалі мы дэклярацыю, быў бы толькі дазвол ад каралеўства, бо гра-

фава дачка ў іх пры Двары служыць за даму; ахвотна пайшлі мы абодва да Двору і ўпрасілі аб аўдыенцыі ў караля, прасілі мы пана, каторы даў дазвол, потым да каралевы Яемці, і тая згадзілася, і, скончыўшы дзевасно-біны, вярнуліся мы да Ям п. Кракаўскага, і ў яго абед еў я.

21. Зранку на аўдыенцыі разьвітаўся з панам і каралеваю, абед еў у п. канцлера в. В. К. Л., вячэру ў Ям п. кашталяна Кракаўскага, гетмана в. Кар., па вячэры перавёзься на Прагу і тут начую.

31. Стаў у Белай у брата маяго кн. Гераніма Флярыяна Радзівіла, падчашага В. К. Л., засталі мы і саму княгіню Магдалену з Чапскіх Радзівілаву, падчашаваю В. К. Л., і матку ейную, ваяводавую, і князя ваяводу Наваградзкага і тут, увесь дзень правёўшы, начуем.

## Junius

13. (У Нясьвіжы.— **Перакл.**) Сёньня шчасьліва канчаю рок веку маяго 48-мы, за што хай П. Бог пахвалёны будзе, спавядаўся; прыбыў сюды Ям п. Ежы Сапега, ваявода Мсьціслаўскі, з дачкою Яемцю паняй Казьмінскай, абед елі мы ў а. а. бэрнардынаў у рэфэктары; па нешпары адбыўся карузэль у чатыры банды, досыць пекны, потым камедыя на тэатрум у садзе ў Кансаляцыі й вячэра, пасьля каторай баль; як надышла гадзіна народзінаў маіх а 12-й — у самую поўнач, дык сто разоў агню далі, і гэтак шчасьліва пачаў я рок 49-ты, потым mediannocte [9] елі мы, і так увесь дзень вясёла скончыўся.

## Julius

1. А 7-й гадзіне ў імя Божае пачаў я піць воды сэльтэрскія з козім малаком па квартовай шклянцы, напалам вады і малака козяга, і гэтак цёплага, як падояць, сёньня адну шклянку з малаком выпіў падчас абеду, а пры вячэры шэсьць самой толькі той вады мінэральнай; вечарам быў на камедыі, каторую кадэты гралі па-француску, Medecin malgre lui [10] з Мальера.

6. Ваду з малаком піў штодня, па тры шклянкі пры абедзе і вячэры зь віном Рэнскім.

17. Тым жа спосабам піў ваду, але як ужо сёньня канчаю, дык толькі дзьве шклянкі вады з малаком выпіў

Марта з Трэмбіцкіх Радзівілава, другая жонка Марціна Мікалая Радзівіла.

пры абедзе і пры вячэры дзьве самой толькі вады. Суды Ардынацкія судзіў, перад абедам і пасьля абеду.

21. Вечарам рушыўся з жонкай і дзецьмі, гэта значыць дочкамі Тэафіляй і Каралінай.

30. Стаў у Варшаве, і сіла розных паноў аддавала мне візыты; novitas [11], што nociva [12], для Айчыны Ям п. Вацлаў Жавускі, ваявода Падольскі, каторы resignavit in manus Regias [13] ваяводзтва, паехаў да Хэлма і там стаўся паслом, але Маэстат хоча яго ўтрымаць маршал-



Малюнак да пьесы «З позірку нараджаецца каханьне». Мастак М. Жукоўскі.

кам пасольскім, на што ўсе буркочуць, і невядома, як пачатак Сойму адбудзецца.

31. Меў аўдыенцыю ў пана, там розныя меў desideria [14], потым пану асыставаў я да касьцёла а. а. Soc. Jesu Літоўскай правінцыі дзеля сьвята іхнага патрыярха Ігнацага, потым быў на страляньні з мушкетаў у каралеўскім садзе, кароль і каралева між кавалерамі стралялі.

## Augustus

3. Ранкам а шостай гадзіне сто гарматаў абвесьціла галу імянінаў каралеўскіх, сабраліся мы на пакоях,

там усе кавалеры ордэру Белага Арла мелі аўдыенцыю ў караля Ямці, прамову ад нас меў noster decanus [15] Ям п. Францішак Бялінскі, маршалак в. Кар., мовіў ён да пана facundo sermone [16] француcкаю моваю, і той жа моваю пан пекна адказваў, усе мы руку цалавалі, потым пан дэкляраваў новых кавалераў і кожнаму ордэр з рукі сваёй аддаў, першаму Ям п. Шоўдрскаму, енэралу Вялікапольскаму, ваяводу Інаўроцлаўскаму, князю Ежаму Радзівілу — Наваградзкаму ваяводу, Мэльхіёру Гуроўскаму — Познанскаму, Салагубу — Вітабскаму, Яну Грабоўскаму — Гданьскаму, Францішку Чорнаму — Войніцкаму кашталянам, Іхмцям Квастэмбэрку, ахмістру каралевы, Францішку Патоцкаму, крайчаму, Антонію, князю Любамірскаму, стражніку Кароннаму, потым асысталі мы пану на набажэнстве, па каторым сядзелі мы зь міласьцівым панствам на абедзе, самыя кавалеры ардэровыя; па абедзе стралялі да тарчы, я не страляў, адмовіўся, бо зроку добрага ня маю, і сіла паадмаўлялася, розныя павыйгравалі praemium.

5. Зранку каля 10-й прыбыў да мяне, пры вялікай маёй асыстэнцыі, якую я да яго паслаў, на маім кані пасол Татарскі Мустафа Ага, каторы за прыбыцьцем па камплемэньце аддаў ліст ад хана сваяго Арслана Герэя, у той жа магніфіцэнцыі і да станцыі сваёй ад'ехаў; у Ізьбе тыя ж difficultates [17] былі, што і ўчора, сальвавалі сэсію да заўтра.

13. Па абедзе асыставаў пану ў садзе пры страляньні да тарчы pro praemiis [18], я не страляў; там у караля ўпрасіў п. Губы, жмуйдзіна, ад сьмерці: той, у Саскім войску ў рэгімэнце п. Бруля за простага драгона служыўшы, свайго унтэр-афіцэра парубаў, і за тое прыгавораны крыгсрэхтам на горла, на расстраляньне, і заўтра мела быць экзэкуцыя, але пан ласкавы дараваў яму горла.

17. Быў на пакоях, абед у сябе, трактаваў пасла Татарскага, катораму падараваў табакеру, у золата апраўленую, з партрэтам каралеўскім і сто чырвоных злотых, а для хана Татарскага пекны залаты палаш паслаў, для пасольскіх людзей па пары сукняў; у Ізьбе тое ж самае, сальвавана да заўтра.

25. Усе, пану асыстуючы, ехалі мы да замку, заселі ў Сэнаце і пачалі Senatus Consilium [19] на двох толькі пунктах: 1 (primo): што чыніць in moderus statu Reipublicae [20]? 2 (secundo): што рабіць з грасуючымі

ў межах Рэчы Паспалітай гайдамакамі? Пачаў прымас, па ім восем біскупаў, потым нас, ваяводаў, сямёра мовіла, сальвавана да заўтра; я выказаў у прамове сваёй, найперш, што прашу, каб пан прабываў у межах Рэчы Паспалітай, гэтак лацьвей прыйдзе mutua inter status[21], канфідэнцыя і абсэрванцыя правоў; на другое выказаў маю падзяку pro cura et solicitudius[22] каралю і далей прасіў, абы трактавана з Дваром Расейскім, каб быў вышэйшы ардынанс да фарпостаў, што на межах стаяць, абы тых свавольных купаў із сваіх не выпушчалі граніцаў да Панстваў Рэчы Паспалітай, таксама ўпрошваў аб прызначэньні certi quanti[23] на спаленае места Вільню.

28. Зранку быў на канфэрэнцыі ў ксяндза-прымаса, фармавалі resultatum[24], на каторай канфэрэнцыі вялікую я меў рацыю да дыспуту і справядлівую, але нічога не дамогся, я на сумленьні вольны — feci quod potui[25]; адтуль на пакоях быў, гала адбылася каралевіча Ксавэра.

29. Ранкам быў на пакоях і з каралямі на аўдыенцыі разьвітаўся, аднак жа паехаў да Сэнату, тут прачытана было resultatum у тым сэнсе, што каралю ў рукі Сойм экстраардынарыйны, як і Соймік рэляцыйны, пакідаем, а калі б Deus avertat[26] пачаліся якія б разрухі, тады вольна каралю рэасумаваць Суды, exorbitantiarum juxta constitutionem Anni 1736[27], другі пункт, што прызначыць кароль канфэрэнцыю зь міністрамі расейскімі як аб гайдамаках, гэтак жа і аб судох памежных; месту Вільні 10.000 злотых польскіх із скарбу В. К. Л. прызначана; па скончаным Senatus Consilium падпісаў я ў Ізьбе Сэнатараскай resultatum; па абедзе быў на пакоях, там, з каралеваю разьвітаўшыся, проста да Віслы паехаў.

## September

9. Шчасьліва стаў у Жоўкве на абед зь вялікай пацехаю падданства; сыны мае абодва спаткалі нас.

24. Ранкам падпісалі мы скрыпт на Самгарадок, alias[28] Бярэзну, на Украіне, ключ, што належыць да Пагрэбышча, аб тым, што ня маю па дажывоцьці прыйсьці да таго ключа, пакуль не аддамо я ці сукцэсары нашыя сумы 40.000 зл. польскіх сукцэсарам Яемці пані кашталянавай Познанскай (Мыцельскай.—**Перакл.**); пры-




Станіслаў Радзівіл, стрыечны брат М. К. Радзівіла.

значыў па 10. 000 штогод з Божага Нараджэньня раты, праз дзесяць гадоў на вымураваньне канвэнту ў маёй новай фундацыі ў Злочаве а. а. рэфарматам, і калі б я перад заканчэньнем памёр, дык аблігую абодвух сыноў маіх сумленьнем, каб тыя сто тысячаў аддалі на тыя муры без заводу, бо ж за іхнае здароўе тую афяру ўчыніў, не абцяжарыўшы фартуны айца маяго, а грунтуючыся на крывава набытай праз мяне субстанцыі Сабескіх, гэта значыць Жоўкаўшчыне, Злачоўшчыне, Памараншчыне і эканоміі Шавельскай, гэта значыць бяз крыўды аблігаючы любых сыноў маіх да чыненьня волі маёй.

29. У дзень імянінаў маіх спавядаўся і камуніяваў,

увесь дзень у вялікай гарачцы быў і зь левага боку пад шчакой пачало пухнуць.

## October

1. Нядобра меўся, п. Лярзак, мой енэрал-ад'ютант, паехаў да Львова па трэцяга да маіх двох дахтароў п. п. Шульца і Матэя.

2. Штораз дык горш маюся, п. Лярзак прывёз пана Наэля, natione француза, дохтара, той мне значна болей дарадзіў, ніж мае.

3. Надта горш меўся, фрызэль з потамі высыпаць пачаў, паслалі таго ж п. Лярзака па іншага дохтара, абы калі памру, дык рэгулярна памёр.

4. Лярзак прывёз пана дохтара Маронскага.

5. Ранкам заўважылі, што зуб рухаўся, казалі вырваць, як жа Пленц, фэльшар мой, досыць лёгка і вырваў, веле крыві і матэрыі рушылася, адразу ж палёгку меў.

6. Дахтары абодва ад'ехалі да Львова, нічога не дапамаглі, але Шульц, мой дохтар, даў жыцьцё.

7. Атрымаў зьвестку з Олыкі, што сын мой Януш на гарачку цяжка захварэў, зараз жа выправіў дохтара Матэя да Олыкі.

10. Жонка мая слабая, сёньня даведалася аб слабасьці сына й яшчэ горай мецца пачала.

11. Я слабы быў, зь нецярплівасьцю чакаўшы зьвесткі аб здароўі сына маяго Януша, але людзі мае атрымалі, што дня 10-га praesentis а 3-й з палудня сын мой найлюбы Януш Радзівіл Богу і Створцы сваяму духа аддаў, сэрца нашае прадчувала тое няшчасьце.

12. Па абедзе Іхмці канцлерства Брацлаўскае (Браніцкія.— **Перакл.**) абое паведалі нам тую фатальную для нас навіну, што сын мой Януш памёр, ня дзеля таго, што быў дзіця мае, але кавалер быў зусім дарослы, вучоны і здатны Айчыне служыць, actu [29] ня скончыў дэпутацыі з павету Ковенскага, у року 17-м веку свайго ў Олыцы асіраціў нас бацькоў сваіх, хай з Богам спачывае, а той жа Пан хай гэтак нам вялікую страту папоўніць у Каролю, Тэафілі і Караліне; мы ж былі абое з жонкай маёй у такой роспачы, што мала не памерлі з жалю, і, каб нам абаім крыві не пусьцілі, пэўна б не жылі, усю ноч ня спаў, пісаў, абы Кароль, сын мой, з Олыкі да нас прыехаў.



Юры (Ежы) Радзівіл, стрыечны брат М. К. Радзівіла.

15. Перад абедам шчасьліва сын мой Кароль прыехаў, вельмі засмучоны па браце, казалі мы яму кроў з нагі пусьціць, хай пан Бог дазволіць зь ім цешыцца, а ён хай нашай надзеяй будзе.

18. Да калецтва маяго, што на губе, дык і на назе, дадалася рожа і цяжка баліць, цэлую ноч дрэнна спаў.

19. Да зубоў, нагі кашаль мяне схапіў; Ям ксёндз Баршчэўскі, асыстэнт енэральскі а. а. кармэлітаў чаравічкавых, прыбыў сюды да мяне, каб мяне забавіць.

21. Сёньня адзначалі іманіны жонкі маёй Уршулі, другое на хросту імя, каторую хай Бой кансэрвуе да ста гадоў, ня дзеля таго што жонка мая, але матрона слушная і разумная.

23. Нядобра меўся, апэрацыю ў губе чынілі, косьць адну зь левай шчакі вынялі, а другую глыбей убілі, на каторую актульна цяпер цяжкія болі цярплю, ксёндз кармэліта ад'ехаў.

30. Штораз дык горай маюся, сёньня дзьве костачкі выйшлі і мяса дзікае паказалася, хай сам П. Бог мяне ратуе.

## November

3. Зь Вільні меў ведамасьці ад біскупа Віленскага, што на іншую плябанію перанёс гультая ксяндза Забельскага, плябана Мірскага, за што хай будзе Бог пахвалёны, што яго пазбавіўся я, цяжка выразіць ягоных злых акцыяў, хаця й пры трэзвасьці; у Дараве цяпер будзе.

6. Ям п. Ігнацы Сапега, ваявода Мсьціслаўскі, па абедзе прыбыў; мяне з гарачкі вялікі боль галавы ўзяў, ня ведаю я, ці доўга буду на гэтым сьвеце мучыцца.

16. Перад абедам прыехаў п. Пэрон, дохтар каралеўскі, за каторым да Варшавы пасылаў я, стаў тут у мяне, заўтра мае чыніць у мяне на губе апэрацыю.

17. Зранку бавіўся з кампаніяй, і вынялі мне трэці зуб, ня ведаю, што далей са мною зробіцца, на ўсё гатовы я, хай зьдзейсьніцца са мной воля Божая!

24. Паволі да здароўя прыходжу, пачынае губа зарастаць, дай Божа як найхутчэй!

## December

15. Па абедзе, разьвітаўшыся з маімі гасьцямі, шчасьліва рушыўся я ў дарогу з жонкаю маёй і траемі дзеткамі, слабым быў на горла.

23. Стаў у Кодню ў Іхмц п. п. Яна Фрыдэрыка і Канстанцыі з кн. Радзівілаў, сястры маёй старэйшай, Сапегаў, канцлераў в. В. К. Л., і тут у замку начуем.

24. На куцьцю прыбылі княства стольнікі В. К. Л. (Ябланоўскія.— Перакл.), en famille [30] шчасьліва адправілі мы вігілію і ютраню.

25. У нашай en famille кампаніі дзень той правялі мы і шчасьліва гэты нешчасьлівы для мяне рок закончылі, у каторым сам я сьмяротна хварэў, сына старэйшага Януша з малігны страціў і сам дагэтуль добра не ачуняў, за што за ўсё хай Імя Панскае пахвалёна будзе на вякі, хай гэты Каляндар працаў, трудоў і няшчасьця маяго ad perpetiam memoriam [31] ляжыць, каб ultimus existens [32] сын мой Кароль зважыў працы

мае і з воляю Божай трымацца мог ва ўсіх нядолях сваіх, бо калі ж каго Бог мартвіць, над тым і зьлітуецца, а я яму маё блаславенства даю, просячы, каб калі ўборзьдзе памру, хай на душу маю і бацькоў маіх памятае, Айчыне хай з пачцівасьцю, як продкі мае і я служыць, дом свой хай любіць і гонар антэцэсараў сваіх трымае, стараючыся чытаць, і хай у вольным народзе, у каторым жывем мы, афэкт і крэдыт мае, усё тое з улады айцоўскае яму прызначаю, а гэтаму року кажу «Амен».

## 1751

### Januarius

1. Зранку шчасьліва пачаў гэты рок праз тое, што ўсправядліваўся перад Панам і Богам маім, адправіў споведзь і камунію перад абразом цудоўнай Маці Божай у калегіяце, потым увесь дзень пры вялікім зьезьдзе людзей вясёла бавіліся мы, да другой па поўначы танцавалі.

3. Па абедзе, разьвітаўшыся зь Я. В. Ямц п. п. Янам Фрыдэрыкам і Канстанцыяй з князёў Радзівілаў, сястрой маёй,— Сапегамі, канцлерамі в. В. К. Л., рушыліся мы з Кодня і, уехаўшы $1^{1}/_{2}$ мілі , сталі мы ў Дабрагічах, пекнай аўстэрыі Ям пана канцлера, але ж як на тыя штукі добра мая сястра здатная, дык там сама, нас абмінуўшы, чакала, як жа ў Дабрагічах і засталі мы княгіню, сястру маю, зь вячэрай, музыкай, танцамі і дапазна бавіліся.

25. Па абедзе езьдзіў да Ўцехі, там застаў кн. Лявона Радзівіла, енэрал-маёра войскаў В. К. Л., у слабым здароўі, пры мне меў параксызм, шкада для дому таго кавалера; на вячэру сюды да Міра вярнуўся.

29. На абед стаў у Нясьвіжы, застаў Іхмц п. п. Ігнацыя і Марыю з Завішаў Ланеўскіх, лоўчых В. К. Л.

### Februarius

2. У касьцёле быў на працэсіі і казаньні, потым досыць меў суседзяў; учарашняга дня прыбыла сястра візытатарка паненак міласэрных, natione француска, з каторай актуальна дамаўляўся аб фундацыі тых сясьцёр тут у Нясьвіжы, хай мне толькі пан Бог дапамагае.

10. Езьдзілі мы да Альбы, там Ям п. ваявода забіў аленя, досыць вялікага, але надта злога, падчас гону аднаго чалавека забіў, другога пакалечыў; абед елі мы ў Галяндэрні, вячэра і танец тут у замку.

11. Абед елі мы ў Кансаляцыі, па абедзе быў карузэль, дамы санкамі бегалі, тры прэміі выйгралі, першую жонка мая, каторую вазіў Ям п. ваявода Смаленскі, другую паня ваяводавая, каторую я вазіў, трэцюю княгіня Ганна з Мыцельскіх Радзівілава, енэрал-маёравая войскаў В.К.Л., каторую вазіў сын мой; вячэра і танец былі ў замку.

21. Штодня то болей зьбіраецца гасьцей да мяне на запусты; па набажэнстве на абедзе меў вялікую кампанію, па абедзе адбылася камедыя французская, праз кадэтаў граная, потым калацыя і баль дапазна, я заўчас дзеля ранішняй споведзі пайшоў спаць; прыбыў сюды Ям п. Станіслаў Лопат, стараста Бабруйскі, з жонкаю Магдаленай Стрыбулянкай, з каторай у мінулым року на Валыні ажаніўся, слушная і зацная кабета і з добрым пасагам.

23. Былі мы на канклюзіі набажэнства, весяліліся мы і скончылі запусты вясёла, я напіўся дужа.

## Martius

3. Ранкам прыехаў Ям п. Пац, кашталян Жмуйдзкі, з сынам п. Мікалаем, абраным з княства Жмуйдзкага дэпутатам; адправілася аўдыенцыя паслоў з Мазырскага павету Іхмц п. п. Віктара Яленскага, падстарасты Мазырскага, і Богуша, каторыя ад гайдамакаў інфэставаныя, просяць аб дывізіі якой для іхнага павету.

4. Шчасьліва скончыў мае імяніны, для посту надта вясёла, з п. падчашым (Пшазьдзецкім.— **Перакл.**) інтарэсаў скончыў, пусьціў яму Мір у арэнду на тры гады.

7. У ночы а гадзіне па поўначы 2-й Я. А. князь Лявон Радзівіл, крайчыч В.К.Л. і енэрал-маёр войскаў В.К.Л., неспадзявана ў ложку Богу духа аддаў тут у замку маім Нясьвіскім, пакінуўшы жонку сваю княгіню Ганну з Мыцельскіх Радзівілаву, енэрал-маёравую, з трыма сынамі Мікалаем, Міхалам і Мацеем і дачкою адной Тэафіляй у сірочым стане, каторая жонка сапраўды ў такой застаецца роспачы, што ня ведаю, ці вытрымае, бо на яе руках муж сканаў; у шкатулцы знайшоўся тастамант, ад паўроку ўчынены, у каторым мяне за першага

аблігуе апекуна жонкі і дзяцей сваіх; той чалавек ужо ад 7-мі гадоў цярпеў Сьв. Валентага хваробу, і нарэшце неспадзявана яго забіла яна; вечарам выправодзілі цела з замку тым спосабам: сьпярша батальён маяго пешага рэгімэнту, потым цэхі местаў, брацтва, школы, законы, музыкі, клірыкі, труну несьлі унтэр-афіцэры таго ж рэгімэнту, перад касьцёлам Ям ксёндз Жаброўскі меў прамову, пасьля каторай труну ўзялі а.а. езуіты і ўнесьлі да Булгарынаўскай капліцы, дзе да паховінаў, што ў касьцёле маюць адбыцца, будзе дэпанаваны.

9. Адзначалі мы імяніны жонкі маёй Францішкі, Te Deum laudamus сьпявана было пры гучным біцьці з гарматаў, на абед прыехаў Ям п. Шышка, кашталян Наваградзкі, і Вяжэвіч, віцэ-інстыгатар В.К.Л., і сіла іншых гасьцей; камедыю французскую кадэты гралі, потым каляцыяй скончыўся дзень.

14. Дачка мая старэйшая Тэафіля, каторай хай П. Бог бароніць, сёньня паннай стала, у пыск даў ёй айцоўскай рукою.

15. Сёньня адбыліся паховіны князя Лявона Радзівіла, енэрал-маёра войскаў В.К.Л., каторы памёр у року жыцьця сваяго 29-м, зь пекнай і прыстойнай апарэнцыяй, усіх cum numeroso clero [33] частаваў я.

21. Шчасьліва вясну пачынаю, я быў на набажэнстве ў паненак бэнэдыктынак, на казаньні і працэсіі; жонка мая ўставічна хворая ляжыць.

24. Сёньня атрымаў ведамасьць, што з дому Патоцкая primi voti Песачынская, другім шлюбам Варонічава, кашталянавая Кіеўская, fatis cessit, пасьля сьмерці каторай добра першага мужа ейнага, Песачынскага, што ў яе пад дажывоцьцем былі, перайшлі да жонкі маёй.

## Aprilis

3. Tandem [34] сёньня пагадзіў Яемць паню Марыяну з Сапегаў Казьмінскую, стараставую Ўсхоўскую, па чатырохгадовым несужыцьці з мужам Ям п. Ігнацым Казьмінскім, старастам Усхоўскім; яны некаторыя падпісалі combinationis documenta [35], якія прызналі перад тутэйшым Нясьвіскім магістратам, і, з ласкі Божае, ужо ad copulam [36] пайшлі; дай ім Божа шчасьце, хай сабе дзеткі гадуюць і болей памнажаюцца на хвалу Божую, цяпер жывучых дзетак ня маюць, толькі дзьве дачкі, Юзэфу і Людвіку, дробныя дзеткі яшчэ.

## Junius

7. Цяжка хварэў на галаву, кашаль меў, гарачка і млявасьць цэлы дзень.

13. Фрызэль вялікі паказаўся на целе, але ж быў на набажэнстве ў а.а. бэрнардынаў, там спавядаўся і гадзіну adorationem [37] кленчаў Сьв. Сакрамэнту з дочкамі маімі, потым асыставаў публічнай працэсіі, каторую адправіў Ям ксёндз Бжазоўскі, рэктар калегіі, першы аўтар перад школамі, другі ў Акадэміі Рыцарскай, гэта значыць у палацы, трэці ў войта Пашкоўскага, чацьверты ў замку; па скончанай працэсіі еў абед у рэфэктары ў а.а. бэрнардынаў і там сабраных гасьцей трактаваў, па нешпары запрасіў усіх на замак, танцавана і каляцыя дана была, а 12-й гадзіне паўночнай рэгімэнт і гарматы абвесьцілі гадзіну нараджэньня маяго, і гэтак шчасьліва рок клімактэрычны 49-ты канчаю, а 50-ты пачынаю, дай Пане, абы для мяне быў шчасьлівейшы за прайшоўшы, і шчасьліва ўжо дачакаўся, каб мовіць псальм: Miserere mei Deus [38].

## Julius

13. Вечарам прыйшла мне экспэдыцыя ад роднай сястры маёй вельмі няўцешная, што муж ейны, Ям Фрыдэрык Сапега, грабя на Кодню і Дарагастаях, канцлер в. В.К.Л., die 6 Julii на Падольлі ў добрах сваіх, што называюцца Лісаводы, з гангрэны ў назе fatis cessit зь вялікай стратаю Айчыне і зь вялікім жалем нас блізкіх, бо быў re et nomine [39] міністар, хай з Богам спачывае, Амэн.

17. Розным учыняў распараджэньні перад дарогаю да Камянца, куды хутка еду даць ратунак стурбаванай сястры маёй, княгіні канцлеравай, удаве.

24. Стаў у Камянцы, у старостве маім, дзе застаў княгіню Канстанцыю з Радзівілаў Сапежыну, канцлераваю В.К.Л., сястру маю, свежую ўдаву, і Ям Ігнацыя Сапегу, ваяводу Мсьціслаўскага, каторых маю я ўпамеркаваць.

26. Княгіня канцлеравая в. В.К.Л., сястра мая, ранюсенька ad propria ад'ехала, я спавядаўся, адзначаючы дзень Сьв. Ганны, імянінаў маткі маёй; па абедзе рушыўся з ксяндзом біскупам Зэнапалітанскім і панам ваяводам Мсьціслаўскім.

28. Стаў у Дабратычах, дзе застаў сястру маю і сукцэса-



Малюнак да пьесы «Золата ў агні». Мастак М. Жукоўскі.

раў нябожчыка, швагра маяго, Ям п. канцлера в. В.К.Л., заўтра пачнем памеркаваньне.

29. Увесь дзень стравілі мы на розных дысцэптацыях, пара начнога спачынку прымусіла нашыя канфэрэнцыі да заўтра адкласьці, хаця па вячэры П. Бог дапамог, што ўсе пагадзіліся.

30. Па абедзе і вячэры перапісана было, і разам усе бакі падпісалі навечна згаджоны запіс, і ўсе рушыліся мы ў дарогу.

## Augustus

8. Сталі мы шчасьліва ў Нясьвіжы.

12. Учора па абедзе шукалі мы ў полі выпушчанага мядзьведзя, і, хаця, схаваўшыся, бараніўся моцна, дзесяць сабакаў пакалечыў, і самога забілі.

21. Сын мой Кароль на гарачку цяжка захварэў, пушчалі яму кроў з нагі, і небарака дужа слабы.

31. Па абедзе новую гралі камедыю, князя Асьвенцымскага, каторая вельмі пекная была, кампазыцыі маёй жонкі; сын мой яшчэ нядобра маецца, я на галаву хварэю.

## October

23. З пошты Рускай даведаўся, што ў Вітабску стала элекцыя новага ваяводы і цэлага земства, ваяводаю абраны Ям п. Юзаф Давойна Салагуб, кашталян Вітабскі, маршалак Трыбуналу В.К.Л.

28. Атрымаў пошту Варшаўскую, каторая прынесла сьмерць Ям п.п. Тамаша Замойскага, ваяводы Люблінскага, стольніка Кароннага Гумецкага і князя Варанецкага, старасты Луцкага, а таксама Яемці панны Ганны з Краінскіх, 1-мо voti Цэтнеравай, 2-di Сапежыны, ваяводавай Мсьціслаўскай.

30. Па абедзе палявалі мы пад Сьв. Крыжам, 11 зайцоў затравілі, потым у каляцыі стралялі да ілюмінаванай тарчы.

31. Па абедзе езьдзілі мы да кансаляцыі, там адбыўся карузэль у чатыры банды; першай правадыр быў мой сын, другой Ям п. Дамінік Рэйтан, харунжы мой Усарскі, трэцяй Ям п. Антоні Абрамовіч, харунжы петыгорскі, знаку князя ваяводы Наваградзкага, чацьвертай Ям п. Ян Яблоньскі, палкоўнік маяго драгонскага рэгімэнту; у кожнай было з шэфам па шэсьць кавалераў, пекна пляц мой дзеля забавы асьветлены быў, сын мой прэміюм выйграў ва ўсіх чатырох штуках; на каляцыю вярнуліся мы да замку, па каляцыі да 2-й гадзіны быў баль, вясёлыя мы былі, я сабе падпіў.

## November

8. Цэлы дзень у доме прабавіў, аглядаў mobilia [40], каторы ў Горадні pro sorti mea [41] узяў па сястры маёй, княгіні Яемці Тэклі з князёў Радзівілаў Сапежыне, ваяводавай Падляскай, сіла нам згінула, але досыць пекныя рэчы знайшлі мы, за што хай П. Бог будзе пахвалёны,



Бяроза Картуская. Картэзіянскі кляштар (закладз. у 1618 г. Львом Сапегам). Маст. Н. Орда.

і хай зь міласэрнасьці сьвятога свайго і яна са сьвятымі ў нябёсах адпачывае на вякі вякоў, Амэн.

10. Стаў шчасьліва ў Карэлічах, п. Пратасовіч зь Менску, скончыўшы справу з ксяндзамі картузамі, кляйноты сюды прывёз, хто цікавы ведаць непачцівасьць тых Бярозаўскіх пустэльнікаў, хай у архівах Нясьвіскіх чытае працэдэр і хай сьцеражэцца зь імі мець трансакцыі, а тое ўсё з таго ідзе, што палякаў не прымаюць, а самі ёсьць vilioris conditionis [42], дык ніводзін у бацькі свайго ня меў бы што есьці, хіба што якім рамяством мусіў бы кавалак хлеба зарабіць, а ў картузах латва такому чалавеку, мець silentium [43], а есьці смачна і піць.

17. Экзаменаваў рахункі падскарбянскія п. Мажэйкі Яна і старастаўскія п. Мікалая Младэцкага, абодва знайшоў вельмі непачцівымі, безь міласэрнасьці і сумленьня мяне крыўдзілі.

## December

2. Па абедзе з жонкай маёй, дочкамі і сынам маім, князёўнай Тэафіляй Радзівілянкай, енэрал-маёраўнай, дачкой нябожчыка князя Лявона, і Мікалаем, крайчычам В.К.Л., абое ў сёмым року, у мяне на адукацыі ёсьць, рушыліся мы ў дарогу да Олыкі.

27. Рушыліся мы да Львова, позна там сталі дзеля вялікай завеі і адразу былі зь візытам у Я. А. княгіні маткі жонкі маёй, якая мешкае пры кляштары паненак дамініканак, і там елі мы вячэру.

## 1752

### Januarius

1. Зранку ў касьцёле паненак бэнэдыктынак спавядаўся і гадзіну кленчаў, і так шчасьліва гэты рок пачаў, хай мяне Бог мае ў сваёй сьвятой ласцы; па набажэнстве з усёю маёй фаміліяй паехалі мы да княгіні маткі нашай, каторай ня толькі віншавалі мы з новым рокам, але і з днём нараджэньня, пачынае яна сёньня 71-шы год; усім сэрцам зычу, каб жыла і ў добрым здароўі лічыла сотню год.

2. Сталася бурда ў маім палацы праз таварыства маё, абвінавачаныя п. Пжэсіцкі — усарскі і п. Антоні Рамановіч — петыгорскі таварышы, каторых загадаў узяць у арышт, заўтра судзіць буду іх, казаў суды пратрубіць.

3. Ранкам суды вайсковыя судзіў, паслаў учарашніх дэлінквэнтаў на інквізыцыю, з арышту іх на пароль звольніўшы, суды на іншы час адклаўшы; па абедзе, разьвітаўшыся з княгіняй, маткаю нашай, рушыліся мы да Жоўквы.

### Martius

13. Сталі мы на Волі на абед, каторы зьеўшы, пайшлі да Адрынішча, там засталі ласёў 10-х, двох уцякло, абодва здаровыя, а з двох застрэленых аднаго сын забіў, дачка Тэафіля другога, а я трэцяга, стральцы яшчэ трох, што разам шэсьць ласёў; вярнуўшыся да Волі, тут начуем.

24. Шчасьліва стаў у Нясьвіжы; тутэйшы стаў заўчора срамотна зарвала зь вялікай шкодаю, тое ж сталася і з Давыдаўскім ставам.

### Aprilis

2. Учарашняга дня шчасьліва выслухалі мы Алілуя, на каторы прыбыў князь Станіслаў Радзівіл, енэралмаёр; я дзьве гадзіны кленчаў, між 11-й і 12-й адправілася рэзурэкцыя, пасьля каторай да замку нанач прыехаў я; сёньня перад набажэнствам прыехаў Ям п. Лярзак, обэрштлейтнант драгонскага рэгімэнту каралевіча, каторы

ад электара Паляціна Рэнскага прывёз ордэр Сьв. Губэрта для князя Станіслава і мне аддаў зь вялікай цырымоніяй, а я надзеў на князя як найстарэйшы ў Польшчы кавалер, бо толькі восьмы ёсьць на цэлым сьвеце; па скончанай цырымоніі былі мы ў касьцёле на набажэнстве, вярнуўшыся, увесь дзень цешыліся мы і адзначалі першы дзень сьвята.

11. Сёньня па абедзе досыць вялікі камень зь мяне выйшаў, прынамсі бяз болю, за што хай п. Бог будзе пахвалёны.

14. Езьдзіў да Альбы глядзець учора вярблюдзіцу, што ажарабілася, самачку паймела.

21. Сёньня ранкам п. Павал Заморскі, рэвізор мой, тыдзень адно хварэўшы, бо толькі мінулым тыднем пошту экспэдаваў, зь вялікім маім жалем Богу духа аддаў, маючы толькі 26 год веку свайго, па-французску пісаў і чытаў, да экспэдыцыяў польскіх і лацінскіх выдатны, прытым верны, пачцівы, і амаль правая рука ў інтарэсах маіх страчана, хай ён спачывае ў ласцы Божай; я да кандукту вечарам асыставаў, заўтра яго пахаваем у касьцёле а.а. бэрнардынаў тутэйшых, Нясьвіскіх, хто гэта чытаць будзе, скажы, прашу, «Вітай Марыя» за душу ягоную.

22. Сёньня ранкам пахавалі Заморскага ў гробе ў а.а. бэрнардынаў, я з пакою не выходзіў дзеля цяжкага болю зубоў, але ж інтарэсы дамовыя канчаў.

23. Па набажэнстве і казаньні адзначалі мы ўгодкі вясельля маяго з жонкаю маёй, скончыўшы 27 год, дай Божа й болей шчасьліва пражыць з пачцівай жанчынаю.

28. У Цэтры абед елі мы, там коні мае аглядаў, жарабец досыць пекны; адтуль, уехаўшы мілі 2, начую ў Карэлічах.

29. Аб'яжджаў гаспадарку, быў у Пэрспэктыве, усё і ва ўсім занядбанае застаў, Міцкевіч, адміністратар, каналля, нічога пачцівага.

## Julius

2. Стаў у Гданьску, стаю на прадмесьці Зангрод, хварэю, крывёю ванітаваў.

6. Абед еў у Ям п. Бухгольца, старасты Люцынскага, адтуль магістрацкім батам езьдзілі мы да вінды, аглядалі купецкі карабель ангельскі, дзе мяне зь вялікім гонарам прымалі як у караблі, гэтак і ў віндзе, нанач да сваіх вярнуліся мы рэзыдэнцыяў.



Ордэн сьвятога Губэрта.

7. Езьдзілі мы за Оліву над мора, і ў аўстэрыі Гогенвасэр, а па нашаму ў Высокіх Водах, елі абед, каторы спраўляў Ям п. стараста Кнушынскі і дзе была Яемц паня Чапская, ваяводавая Паморская, ягоная матка, каторая з добраў сваіх да Гданьска прыбыла; па абедзе езьдзілі мы па-над берагам марскім, напрыканцы былі мы ў Оліве, дзе вельмі пекны аглядаў я сад, між іншымі рэчамі ёсьць вуліца і пэрспэктыва на мора, якая выходзіць на тое мейсца, дзе караблі становяцца, што прыходзяць да Гданьска, таксама касьцёл надта пекны і вялікі, потым, вяртаючыся, да розных партыкулярных заяжджалі мы садоў; трэба прызнаць, што вельмі ў тым куце пекнае палажэньне краю; позна вярнуліся мы да нашых рэзыдэнцыяў.

12. Шчасьліва стаў у Члухаве.

16. Сёньня розныя інтарэсы скончыў, падпісаў кантракт сукеньнікаў і фарбэраў, якіх вязу да Нясьвіжа.



Шляхта і купцы ў Гданьску. З малюнка канца XVII ст.

## Augustus

11. Жонка мая спаткала перад Малевам, сталі мы н́а палудзень у Нясьвіжы; вечарам была проба камедыі новаскампанаванай.

19. Стаў у Вільні, зараз візыты аддаваў і destato [44] будучых Соймікаў канфэраваў.

21. Раніцой зьеха́ліся мы да біскупа Віленскага, там, парадзіўшыся, Іхмосьці віленскія пайшлі на Соймік, і там nomine contradictione [45] абралі пасламі сына маяго, падчашага В.К.Л., і п. Тызэнгаўза, харунжага Віленскага; тое ж самае ўчынілі і Іхмці смаляне, ад нас пайшоўшы, абралі тым жа спосабам Іхмц п.п. Лапацінскага, інсты-

гатара В.К.Л., і Храпавіцкага, падкаморага Смаленскага; тым жа шляхам Іхмці старадубавяне абралі пасламі Іхмц п.п. Стражэвіча, старасту Старадубскага, і Абрамовіча, пісара земскага; я абед еў у Ям ксяндза біскупа, а сын мой шляхту ў мяне трактаваў, я ad hilaritatem напіўся, але, езьдзячы па візытах, выцьверазіўся і цьвярозы да палацу маяго прыехаў.

31. Стаў у Нясьвіжы, застаў маю жонку хвораю на species[46] фэбры.

---

[1] unanimi voto — аднагалосна (лац.)
[2] quadraginta horarum — саракагадзінавае (лац.)
[3] capitulares — тут: капітулярных, капітула — грамада (калегіюм) канонікаў катэдры ці якога-небудзь закону альбо правінцыі (лац.)
[4] comparnerunt — прызначаны (лац.)
[5] pro vacanti — няважнымі (лац.)
[6] semotis arbitris — патаемнае галасаваньне (лац.)
[7] cum denunciatione — з абвешчаньнем (лац.)
[8] fatis cessit — фатальна спачыў (лац.)
[9] medianocte — апоўначы (лац.)
[10] Medecin malgre lui — «Лекар паняволі» — камедыя Ж. Б. Мальера (франц.)
[11] novitas — навіна (лац.)
[12] nociva — шкадлівы (лац.)
[13] resignavit in manus Regias — аддаўшы пад руку каралеўскую (лац.)
[14] desideria — прашэньні (лац.)
[15] noster decanus — наш галава (лац.)
[16] facundo sermone — красамоўная прамова (лац.)
[17] difficultates — цяжкасьці (лац.)
[18] pro praemiis — на прэміі (лац.)
[19] Senatus Consilium — рада Сэнату (лац.)
[20] in moderus statu Reipublicae — з кіраваньнем дзяржаваю (лац.)
[21] mutua inter status — згода паміж станамі (лац.)
[22] pro cura et solicitudius — працу і цьвёрдасьць (лац.)
[23] certi quanti — пэўнае сумы (лац.)
[24] resultatum — тут: рэзалюцыя, ухвала (лац.)
[25] feci quod potui — я зрабіў, што мог (лац.)
[26] Deus avertat — з Боскае волі (лац.)
[27] exorbitantiarum juxta constitutionem Anni 1736 — адступаючы ад адпаведнасьці канстытуцыі 1736 году (лац.)
[28] alias — інакш (лац.)
[29] actu — справу (лац.)
[30] en famille — у сям'і, у сямейным коле (франц.)
[31] ad perpetiam memoriam — дзеля вечнай памяці (лац.)
[32] ultimus existens — апошні ў родзе (лац.)
[33] cum numeroso clero — з усім прысутным клірам (лац.)
[34] tandem — нарэшце (лац.)
[35] combinationis documenta — склад дакумантаў (лац.)

[36] ad copulam — да савакупленьня (лац.)
[37] adorationem — у гонар, славу (лац.)
[38] Miserere mei Deus — «Зьлітуйся нада мною, Божа», пачатак 51 (50) псальма (лац.)
[39] re et nomine — справай і назваю (лац.)
[40] mobilia — тут: рухомасьць, рухомыя каштоўнасьці (лац.)
[41] pro sorti mea — па выроку майму (лац.)
[42] villoris conditionis — подлага паходжаньня (лац.)
[43] silentium — маўчаньне (лац.)
[44] destato — аб стане (лац.)
[45] nomine contradictione — абвесьціўшы без супярэчаньня (лац.)
[46] species — гатунак, кшталт, падабенства (лац.)

## ГЛАСАРЫ

АБСЭРВАНЦЫЯ — трываласць, вернасьць

АХМІСТАР — тут: настаўнік, выхавальнік

ДЫСЦЭПТАЦЫІ — спрэчкі

ДЭЛІНКВЭНТЫ — правапарушальнікі

ІГНАЦЫ — ЛАЕЛА (1497?—1556), заснавальнік закону езуітаў

ІНФЭСТАВАНЫЯ — церпячыя шкоду ад нападаў

КАМЕДЫЯ (17.12.1749)—назва камедыі не ўсталявана, магчыма, гэта была вельмі папулярная ў Нясьвіскім тэатры пьеса У. Ф. Радзівілавай «Каханьне зацікаўлены судьдзя», прэм'ера якой адбылася ў ліпені 1748 г.

КАМЕДЫЯ (13.01.1750) — «Золата ў агні», пьеса У. Ф. Радзівілавай па матывах вядомага сюжэту зь 10-й навэлы 10-га дня «Дэкамэрона» Бакача

КАМЕДЫЯ КНЯЗЯ АСЬВЕНЦЫМСКАГА (31.08.1751) — «Золата ў агні»

КАНВЭНТ — закон, кляштар

КАНСАЛЯЦЫЯ — «уцеха», рэзыдэнцыя Радзівілаў на ўскраіне Нясьвіжа

КАНФІДЭНЦЫЯ — паразуменьне, добрыя стасункі

КВАРТА — чвэрць гарца, 0,7 літра

КЛІМАКТЭРЫЧНЫ РОК — кожны сёмы год па забабонах асабліва небясьпечны

ПРАЦЭДЭР — тут: справа

РАТА — частковы, у пэўны тэрмін плацеж

РЭАСУМАВАЦЬ — тут: узнавіць

СКРЫПТ — квітанцыя, даўгавы запіс

СПРАВА З КСЯНДЗАМІ КАРТУЗАМІ — доўгатрывалая спрэчка М. К. Радзівіла аб каштоўнасьцях ягонай сястры Тэклі, якая памерла ў 1747 г., што былі адданыя на захаваньне ў кляштар картузаў у Бярозе. Картузы (картэзіянцы) — каталіцкі закон, заснаваны сьв. Бруна ў 1086 г. Першы кляштар быў у Шартрозе (Chartreuse) каля Грэнобля ў Францыі, адсюль і назва «картузы», павінны былі захоўваць правіла маўчаньня

СУБСТАНЦЫЯ — тут: маёмасьць

ФРЫЗЭЛЬ — высыпка

ХВАРОБА СЬВ. ВАЛЕНТАГА — эпілепсія

**Пераклад і публікацыя Вацлава АРЭШКІ.**

Міхал БОЛТРЫК

# ХРОНІКА СУПРАСЛЬСКІХ ПАДЗЕЯЎ

Супрасльскі манастыр добра назіраць, узняўшыся над зямлёю.

Ёсць такая фатаграфія Віктара Волкава, зробленая з верталёта. На ёй мы бачым комплекс манастырскіх будынкаў, што акаляюць дзядзінец з поўдня і ўсходу. З заходняга боку — брама-званіца. Далей, па тым самым баку,— дом, дзе жывуць манахі. Да дома адной сцяною прымыкае царква святога Іаана Багаслова. Царква, абкружаная манастырскімі пабудовамі, стаіць з паўночнага боку. З сярэдзіны дзядзінца ўгару ўзносяцца муры, вакол іх — рыштаванні. Гэта царква Дабравешчання Найсвяцейшай Дзевы Марыі, якая зараз адбудоўваецца. Будзе такою, якою пяцьсот гадоў таму яе ўзвялі праваслаўныя Хадкевічы,— гатычна-візантыйскаю.

Праваслаўны манастыр быў заснаваны ў 1498 годзе ў Гарадку Аляксандрам Хадкевічам, сынам Івана Іванавіча, гетмана Вялікага Княства Літоўскага. У 1500 годзе перанесены да Супрасля.

Сузаснавальнік царквы ў Супраслі — архіепіскап, пазней Мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Русі Іосіф Солтан у 1503 годзе прывёз сюды копію цудатворнай іконы Маці Божай Смаленскай.

У 1505 годзе заснаванне манастыра адмысловым томасам пацвердзіў канстантынопальскі патрыярх Іаахім. У 1582 годзе Супрасльскую лаўру наведаў праваслаў-



Супрасль. XIX ст.

ны патрыярх Сербіі і Балгарыі Гаўрыіл. Ён надаў архімандрыту (настаяцелю манастыра) мітру.

У 1589 годзе сам канстантынопальскі патрыярх Ерамія II зрабіў візіт у Супрасль і падпарадкаваў мясцовага архімандрыта непасрэдна сваёй уладзе.

У часе нешчаслівага абвешчання уніі, калі ў Берасці частка праваслаўных епіскапаў Рэчы Паспалітай падпісала акт аб з'яднанні з Рымам, супрасльскі архімандрыт Іларыён Масальскі браў удзел у антыунійным саборы, дзе епіскапы-здраднікі былі пазбаўленыя годнасці праваслаўных іерархаў.

У XVII стагоддзі манастыр заняў уніяцкі ордэн базылянаў. Як каталікі, базыляне не мелі нічога агульнага са сваімі папярэднікамі ні ў дагматычным, ні ў кананічным сэнсе. Першыя ж манахі прыбылі ў Супрасль з сэрца рускага праваслаўя — Кіева-Пячэрскай лаўры. Менавіта за гэты акраец супрасльскай зямлі з пабудовамі на ёй ужо пятае стагоддзе трывае спрэчка.

Сступім цяпер на зямлю і праз веснікі ў муры, побач з брамай-званіцай, увойдзем у манастыр.

Была серада, апоўдні, калі я націснуў гузік званка ля дзвярэй манастыра.

А. Мірон, архімандрыт Супрасльскага манастыра, уласнаю асобаю сышоў з царкоўнае будоўлі. Прыняў мяне ў канцылярыі.

А. Мірон у Супраслі з 1984 года, з таго моманту, як архіепіскап Сава вярнуў сюды манаскае жыццё.

— Сам я з Беластока,— распавядае ён.— У Супраслі раней, у школьныя гады, бываў толькі праездам. Ніколі не затрымліваўся каля нашых манастырскіх будынкаў. У жніўні 1983 года, калі ўжо быў манахам, прыехаў сюды. Глядзеў на моладзь, якая працавала на археалагічных раскопках разбуранай царквы Дабравешчання Найсвяцейшай Дзевы Марыі. Разважаў: «Як пацячэ далей жыццё Супрасльскага манастыра?».

У 1984 годзе а. Мірон стаў ігуменам манастырскага жытла ў Супраслі.

— Памятаю, як усё пачыналася,— згадвае ён.— Акафіст перад абразом Маці Божай Супрасльскай чыталі, бо не было каму спяваць. На службе перад абразом малілася ўсяго некалькі асобаў, потым — некалькі дзесяткаў. Цяпер заўжды поўная царква. Кожную сераду, калі а васемнаццатай перад абразом спяваюць акафіст Дабравешчання разам з малебнам, прыходзяць не толькі нашыя прыхаджане, прыбываюць пілігрымы нават здалёк.

У 1984 годзе а. Мірон, прыехаўшы ў Супрасль, убачыў глыбокую яміну на месцы, дзе стаяла царква Дабравешчання.

У 1995 годзе будоўля царквы набліжаецца да заканчэння. Ужо ёсць дах над алтарнаю часткаю. Неўзабаве з'явяцца бакавыя апсіды, цэнтральнае скляпенне і чатыры бакавыя вежы.

Будучыня манастыра, як яе бачыць а. архімандрыт, у стварэнні: іканаграфічнай школы, духоўнай семінарыі, а, магчыма, і тэалагічных курсаў, архіва і епархіяльна-манастырскага музея, бібліятэкі і выдавецтва (Супрасль мае вялікія друкарскія традыцыі). Тут будзе дом для паломнікаў і месца кантактаў людзей з розных цэркваў.

— Такія планы,— кажа а. Мірон.— Спадзяёмся, усё гэта атрымаецца. Маем перад сабою вялікія мэты. Найбліжэйшая з`іх — гэта «аджыўленне» выбудаванай царквы мазаікамі і абразамі.

Дарэчы, двое брацціяў — Іаан і Пётр — знаходзяцца ў Грэцыі ў манастыры Святога Духа. Там яны ўдасканальваюць сваё ўмельства пісання абразоў і фрэсак.

У самым Супраслі, у манастыры, абразы піша а. Ры-



Супрасльская царква Дабравешчання.

гор. Ён распачаў свой шлях у Варшаўскай духоўнай семінарыі і манастыры ў Яблычнай. Пасля чатыры гады быў у Расеі.

— Там,— расказвае ён,— сустрэў я жывыя камяні расійскага праваслаўя. Нягледзячы на пераследы, як у першыя стагоддзі хрысціянства, людзі там не гублялі веры. Тамтэйшым людзям, тамтэйшым манастырам я вельмі моцна абавязаны.

А. Рыгор піша абразы з 1985 года. Напісаў іх ужо каля сотні. Першая ікона: «Преподобный Иоанн Печерский». Падараваў яе сваёй сястры Анастасіі. Калі я знаходзіўся

ў Супраслі, ён працаваў над «Апошняй вячэрай» для царквы св. Еўфрасінні Полацкай у Старасельцах. Як чалавек сціплы, кажа:

— Не магу сябе назваць іканапісцам або іканографам. Я нават не хачу параўноўваць сябе з іншымі іканапісцамі.

— На маю думку,— лічыць а. Сергій,— манах не павінен расказваць пра тое, што робіць. Ен таксама не павінен гаварыць пра сваё духоўнае жыццё. Манах, пакінуты ў спакоі, мусіць маліцца за сябе і за цэлы свет.

З далёкага свету прыбыў у Супрасль брат Яўген. Ен прыехаў у Польшчу з Галандыі ў 1991 годзе. Меў намер пажыць, папрацаваць. Перайшоў з каталіцтва ў праваслаўе. Застаўся паслушнікам у манастыры. У часе пострыгу прыняў імя Яўген. Вывучыў польскую і царкоўнаславянскую мовы.

— Кожная праца для мяне важная, а малітва — найважнейшая,— кажа ён.— Хачу быць манахам. Дзякаваць Богу, у Супраслі знайшлося месца для мяне.

А. Якуб, які захапляецца электронікай (выпускнік электратэхнікума), да прыняцця рашэння стаць манахам не бываў у Супраслі. Цяпер кіруе тут праваслаўным брацтвам, навучае рэлігіі ў школе, а таксама выконвае ўсю працу, звязаную з электронікай і электрычнасцю, дзеля патрэбаў манастыра і Супрасльскай парафіі.

А. Габрыэль, што прыбыў у Супрасль адразу ж пасля а. Мірона, у гэты дзень, як і ў кожную серада, прымаў хворых.

А. Габрыэль ужо шмат гадоў з поспехам займаецца зельніцтвам. Да яго прыязджаюць людзі з адлеглых куткоў Польшчы і далёкіх краінаў. А. Габрыэль выслухае кожнага, агледзіць вынікі медыцынскіх доследаў і параіць адпаведныя зёлкі, карысныя для лячэння. Засмучаных суцяшае:

— Нельга адчайвацца, сумнявацца. Аблудны сын вярнуўся дадому і быў прыняты там, разбойнік на крыжы выказаў скруху, і Госпад дараваў яму. Кожны з нас мае шанс на перамены, на шчасце...

У Супрасльскім манастыры знайшоў сваё шчасце а. Антоні.

— З ранняй маладосці хацеў быць у манастыры,— кажа ён.— Мае бацькі не пагаджаліся на гэта.

А. Антоні нарадзіўся ў 1913 годзе. Скончыўшы восем-



Мітрапаліт Іосіф Солтан.

дзесят гадоў, уступіў у манастыр. Мае за плячыма святарскае пасвячэнне ў 1937 годзе, высылку ў Сібір, службу ў шматлікіх парафіях Польшчы.

Пры хрышчэнні атрымаў імя ў гонар св. Антонія Пячэрскага. У часе пастрыгу ў Супрасльскім манастыры яму нададзенае імя Антоні ў гонар Антонія Вялікага.

— Які з мяне Антоні Вялікі,— смяецца ён з мудрасцю пражытых гадоў.

А. Антоні выконвае ўсе манастырскія працы.

— Умею любую работу,— кажа,— бо скончыў даваенную гімназію ў Дубне пад Іквай, гімназію з дыхтоўнымі школьнымі майстэрнямі.

А другой гадзіне апоўдні мы палуднавалі ў трапезнай: бульба, запраўленая алеем са смажанай цыбуляй, чорны

хлеб, посная поліўка з драбінкаю крышанага гурка, цыбулі і прыправаў, гародніна, гарбата.

Елі моўчкі, слухаючы павучанні, чытаныя а. Якубам. Пасля абеду манахі разышліся па сваіх келлях, па сваіх абавязках.

«Як даўней»,— падумалася мне.

У доме, дзе знаходзяцца келлі манахаў, да 1915 года жыў епіскап Уладзімір.

Уладыка Уладзімір, які быў тады супрасльскім архімандрытам, згадваў гэтае месца на выгнанні ў Францыі:

**«Рай на зямлі. Рана а чацвёртай служба, потым паслушэнства. Потым ізноў у царкве. Паслушэнствы розныя: хто займаўся друкарствам, іншыя сталяркай. З тых часоў трымаю ў памяці размовы, кнігі, лісты. Па абедзе — ніводнай душы, ніводнага манаха не сустрэнеш. Можна было падумаць, што спяць, але яны працавалі».**

Мінула пара гадоў, як епіскап Уладзімір быў змушаны пакінуць Супрасль. Польшча вярнула сабе незалежнасць. І ў Супраслі, як і ўсюды,— свабода. Свабода з'явілася разам з польскімі салдатамі. Першы яе дзень не аднолькавы для ўсіх.

Праваслаўныя жыхары Супрасля пішуць вясною 1919 года скаргу ў Горадзенскую краёвую беларускую ўправу:

**«Мінуў ужо трэці дзень, як нашае мястэчка знаходзіцца пад ярмом польскіх легіянераў. Усё, што няпольскае, усё беларускае ці яўрэйскае нішчыцца, рабуецца, руйнуецца імі. Масавыя арышты іператрус без ніякае прычыны і нагоды адбываюцца кожны дзень, і дзесяткі нашых грамадзянаў ужо збітыя і ўвязненыя. За найменшую спробу заклiку да пачуцця справядлівасці раз'юшаныя легіянеры пагражаюць расстрэлам. Мы ўжо не кажам пра тую лаянку, якою яны вітаюць кожнага грамадзяніна».** .

Той, хто складае падобныя скаргі, яшчэ не ведае, што гэта — прадказанні будучых канфліктаў.

У канфлікце няроўныя бакі. Па адным — простыя, бедныя людзі. Па другім — магутны каталіцкі касцёл і мясцовыя і дзяржаўныя ўлады.

У Супраслі і ваколіцах на пачатку дваццатых гадоў каля дзвюх з паловаю тысячаў праваслаўных жыхароў.

На падставе распараджэння Міністэрства земляробства і дзяржаўнай маёмасці ад 21.XI.1921 года № 377



Ігнат Даніловіч. Упершыню апублікаваў у 1823—1824 гг. у часопісе «Dziennik Wileński». «Летапісец вялікіх князёў літоўскіх» (частку Бел.-літоўск. летапісу 1446 г., знойдзеную ў Супрасльскім манастыры).

кантралёр дзяржаўных маёнткаў Беластоцкай акругі аддае пад кіраванне і ўтрыманне акруговай Дырэкцыі грамадскай працы ў Беластоку: царкву Дабравешчання Найсвяцейшай Дзевы Марыі, царкву святога Іаана Багаслова, браму-званіцу і мураваную аптэку. Рэшту будынкаў, на падставе актаў ад 9 чэрвеня і 29 жніўня 1922 года, атрымлівае павятовае аддзяленне Беластоцкага сойміку пад памяшканні земляробчай школы.

Лісты, дзённікі, петыцыі, рапарты, адчайныя просьбы, якія шчаслівым выпадкам захаваліся, адбіваюць каларыт тых часоў у Супраслі.

## ПЯЧАТКА НА ЦАРКВЕ

Лета 1919 года. У пятніцу, восьмага жніўня, у Супрасль прыязджае інспектар Збігнеў Лашчынскі. У суправаджэнні бурмістра горада Уладзіслава Казлоўскага і сакратара Марыі Ротэрт ён кіруецца да царквы Дабраве-

шчання Найсвяцейшай Дзевы Марыі. Там іх чакае манах Сава. З ім царкоўны стараста. Абодва атрымліваюць распараджэнне вынесці царкоўнае начынне і ўсе рухомыя рэчы. Іх пераносяць да царквы св. Іаана Багаслова. Царкву Дабравешчання замыкаюць і запячатваюць. З гэтае хвіліны яна знаходзіцца пад наглядам бурмістра Супрасля.

Колькі дзён пазней аб'яднаныя ў праваслаўным брацтве вернікі пішуць у Міністэрства рэлігійных вызнанняў і грамадскай асветы: **«...смутак праваслаўнага народу бязмежны. Манастыр быў праваслаўны і закладаўся як праваслаўны. Слёзна просім абараніць нас ад праследу за святую веру і вярнуць нам нашую дарагую святыню...»**

Зварот падмацаваны некалькімі сотнямі подпісаў. Смутак вялікі, подпісаў шмат. Але і гэта не прыдалося. Бо ўжо з чэрвеня 1919 года ў тым самым міністэрстве ляжыць мемарыял беластоцкага дэкана, ксяндза Люцыяна Халецкага. Ён піша: **«Прашу вярнуць каталіцкаму касцёлу царкву і манастыр у Супраслі»**.

На пачатку 1920 года праваслаўныя з Супрасля складаюць чарговае пасланне ў міністэрства. У ім пішуць: **«...слёзна і пакорліва просім Пана Міністра зняць пячатку і дапусціць нашага айца Саву адпраўляць набажэнствы»**.

Адказу няма, царква застаецца замкнёнай.

Затое пад канец 1920 года Міністэрства земляробства пераказвае дзяржаўнаму Бюро адбудовы 50 тысячаў марак на павет Беласток **дзеля захавання ад разбурэння касцёла ў Супраслі, былой уніяцкай царквы.**

У лютым 1921 года беластоцкае Бюро адбудовы просіць прыехаць і арганізаваць рэстаўрацыйны камітэт ксяндза Пятра Слядзеўскага.

А тым часам праваслаўныя не стамляюцца ў сваіх спробах вярнуць манастыр і ўсё забранае. У сакавіку 1921 г. праваслаўны епіскап Варшаўскай і Холмскай епархіі ў лісце да міністра веравызнанняў падае гістарычны агляд і просіць аб вяртанні таго, што было адабранае. Епіскап узгадвае таксама **«аб вывазе ў Беласток манастырскай бібліятэкі і айца ігумена»**. І гэты ліст застаецца без адказу.

Бурмістр Супрасля, Уладзіслаў Казлоўскі, піша, што зроблена з перанятай праваслаўнай маёмасцю. Так,

дарэчы **«...апекаванне над забудовамі самога манастыра, домам архімандрыта, манастырскімі стайнямі і аборамі было даручанае кіраўніку пачатковай школы пану Генрыку Дзікоўскаму. Дом нацыяналізаваны ва ўжытак пошты і перададзены ў распараджэнне горада».**

А ў Супраслі нядобра. Пра гэта ў сакавіку 1922 года даносіць у Міністэрства веравызнанняў беластоцкі ваявода: **«...у гэтым часе манастыр разам з маёнткам з кожным днём робіцца крыніцай усё больш зацятай вайны між мясцовага грамадства за ўладанне ім».**

Паводле ваяводы, былыя манастырскія будынкі знаходзяцца ў фатальным стане. Улетку 1921 года зламаўся дах царквы з правага боку, над presbiterium. Працякае вада і нішчыць фрэскі. Усярэдзіне, у самой царкве, недагледжаны іканастас, зламаная балюстрада. Каляманастырскія будынкі стаяць расчыненыя, павыманыя вокны, разабраныя печы. Ваявода нагадвае, што ўжо ў 1919 годзе Міністэрства земляробства выдаткавала на рэстаўрацыйныя працы ў манастыры 40 тысячаў марак, а ў 1920 годзе — 50 тысячаў марак.

**«Аднак рэстаўрацыю,**— піша ваявода,— **ніхто дагэтуль і не праводзіў. Хуткае вырашэнне справы Супрасльскага манастыра паўплывала б на агульнае заспакойванне настрояў і пазбавіла б гаспадарчую дзейнасць уладаў ад шматлікіх крытычных заўваг».**

Ваявода просіць аб хуткім прыездзе да Супрасля камісіі і як найхутчэйшым пачатку рамонту. На ягоную думку, каляманастырскія будынкі можна выкарыстаць пад земляробча-лясныя ўстановы, манастырскія землі — пад доследныя палеткі, дом ігумена — пад пансіянат з унутранай дамовай капліцай. А царкву Дабравешчання Найсвяцейшай Дзевы Марыі, пасля яе аднаўлення і ўзяцця пад апеку з боку міністра культуры і мастацтва, **«прызначыць для адпраўлення святочных набажэнстваў падчас галоўных касцельных святаў і нацыянальных урачыстасцяў».**

На чарговыя лісты праваслаўных улады не адказваюць, таму брацтва пры Супрасльскай царкве звяртаецца да «Начальніка Польскай Дзяржавы». Вось змест паслання:

**«Мы, як і ўвесь народ нашай Польшчы, як адзін сталі у шэрагах нашых польскіх войскаў, як сыны, як браты, а з канстытуцыі мы ў рэлігіі ўцісненыя. Не маем**

**нават Божага храму на малітвы. На звароты нашыя не дае нам урад ніякага адказу. Вось мы і звяртаемся з пакорлівай просьбаю да Пана Начальніка Польскай Дзяржавы і просім справядлівага суда — адчыніць нам святыню. Што ж да манастырскіх пабудоваў і зямлі, то мы з гэтага просім толькі, каб нам былі аддадзеныя званіца і царква Іаана Багаслова, бо мы там адно пры адным. А астатняе мы не дагледзім. Што ж да праваслаўнага святара, то мы абавязваемся ўтрымліваць яго за свой кошт, бо без малітвы і пастыра царквы мы здзічэем і слабыя будзем сыны айчыны».**

«Сыны айчыны» не атрымліваюць адказу ад «Начальніка Польскай Дзяржавы». Але Міністэрства веравызнанняў патрабуе тлумачэнняў ад ваяводы. Той хутка адказвае: **«У Супраслі чатыры праваслаўныя царквы, гэта: 1. вялікая царква; 2. малая царква — св. Іаана Багаслова; 3. малая царква на новых могілках, мураваная з цэглы; 4. драўляная капліца на старых могілках.**

**Царква св. Іаана Багаслова, гэтак званая «цёплая», складае непадзельнае цэлае з манастыром, і карыстанне ёю,**— заўважае ваявода,— **да вырашэння пытання з вялікай царквою і манастыром непажаданае. Праваслаўным аж занадта хопіць царквы на могілках. Набажэнствы ў капліцы меў бы права спраўляць прыходскі святар з Васількава».**

«Нас тут багата,— пішуць у лістах праваслаўныя,— хочам стварэння прыхода ў Супраслі».

На гэта ваявода: **«Манастыр мог бы прыцягваць вялікую колькасць вернікаў з суседніх прыходаў. Гэтаму нельга запярэчыць, але гэта не даказвае патрэбы стварэння праваслаўнага прыхода ў Супраслі».** Ваявода не пагаджаецца нават утварыць у Супраслі філію Васількаўскага прыхода.

Праз колькі тыдняў тлумачэнні ваяводы робяцца зразумелымі. Той самы чыноўнік 29 мая 1922 года піша ў Міністэрства веравызнанняў: **«Маленькі касцёл у Супраслі не можа змясціць вернікаў у часе набажэнстваў, таму перадача каталікам згаданай святыні не толькі пажаданая, але і амаль неабходная».**

Аказваецца, ужо складзены «Камітэт рэстаўрацыі касцёла ў Супраслі». Гаворка, канечне, пра царкву Дабравешчання. Старшыня камітэта — ксёндз Ян Крынскі, пробашч Супрасльскай парафіі, скарбнік — Канстанты За-



Супрасльская ікона Маці Божай.

хэрт, сябра — бурмістр Супрасля, Уладзіслаў Казлоўскі. Камітэт мае таксама ганаровага старшыню. Гэта беластоцкі дэкан — ксёндз Хадыка.

Напачатку камітэт дамагаўся вяртання касцёла (вялікай царквы), манастыра і ўсяго маёнтка, што некалі да яго належаў, а таксама грошай на рамонт.

Насуперак пажаданням камітэта ваяводства перадае 26 жніўня 1922 года будынак былога манастыра ў Супраслі земляробчай школе. Але частку памяшканняў

усё ж займае а. Сава (Гаўрылюк) і вартаўнік Антон Краўчук. Абодвух прымушаюць пакінуць манастыр. Сава не падпісвае позвы. У справе іх высялення Міністэрства земляробства і дзяржаўнай маёмасці ў 1923 і 1924 гг. высылае ў Міністэрства веравызнанняў некалькі лістоў. Нарэшце, паводле загаду ваяводы ад 27 мая 1924 г., манаха Саву выдаляюць з манастыра гвалтам.

А з Супрасля ў Міністэрства веравызнанняў усё ідуць лісты ад «рыма-каталіцкага насельніцтва». Подпісы пад лістамі такія ж неразборлівыя, як і ад праваслаўных прыхаджанаў, некаторыя з іх — па-руску. Але лісты гэтыя вылучаюцца вытанчаным стылем і багатым слоўнікам. Надрукаваныя яны на машынцы.

Вось іх фрагменты.

Ад 8.IX.1923 года.

**«У Супраслі знаходзіцца прыгожы і старажытны каталіцкі касцёл, пабудаваны ў 1507—1510 гг. палякамі-каталікамі Аляксандрам Хадкевічам, ваяводам брэсцкім, і мітрапалітам Іосіфам Солтанам. Пры касцёле быў пабудаваны кляштар, паселеныя манахі і закладзеная друкарня, адна з першых у Польшчы. Утварыўся рэлігійна-культурна-асветніцкі асяродак».** Што сталася пазней, у царскія часы? Аўтары пішуць: **«Супрасль стаў другім Пачаевам — кузняю нянавісці і антыпольскай прапаганды. Атрутная супрасльская літаратура шырокай хваляй расцякалася па краі. (...) Польскі асяродак у Супраслі павінен надалей служыць не мэтам, пастаўленым царызмам, але мэтам сваіх фундатараў Аляксандра Хадкевіча і Іосіфа Солтана».**

Ад 14.IX.1923 года.

**«...Мясцовыя ваяводскія ўлады марудзяць з перадачай святыні да патрэбаў рыма-каталіцкай парафіі Супрасля. А з-за гэтага нібы адцягваецца і тая ўрачыстая хвіліна, калі, уваходзячы на парог нашае святыні, мы маглі б засведчыць, што Найяснейшая Рэч Паспалітая ацаніла цярпенні і мукі нашыя і нашых бацькоў...»**

**«Падаючы Пану Міністру гэтую пакорлівую просьбу, мы не толькі верым, што яна будзе як найхутчэй выкананая, але разам і спадзяемся, што Пан Міністр па яе разглядзе ласкава зробіць указанне, каб нашая парафія атрымала таксама і бенефіцый, што належыць да гэтае святыні, менавіта абацтва, якое цяпер знаходзіцца ў распараджэнні ўрада...»**





1) Георгі і 2) Пакутнік. Фрэскі царквы Дабравешчання ў Супраслі. Другая пал. XVI ст.

У архіўных паперах ад 1925 года з'яўляецца згадка пра Салезіянскае Таварыства. Ксяндзы салезіяне ўтрымліваюць два будынкі і 21,2 га зямлі. Умова з імі заключаная да 31 сакавіка 1948 года. Стаўка штогадовага чыншу складае 21 цэнтнер жыта або яго грашовы эквівалент.

У верасні 1926 года ў Супрасль прыязджае М. Збароў-

скі, беластоцкі стараста. У таварystве Канстантага Захэрта — уладальніка маёнтка Супрасль, Францішка Бараноўскага — дырэктара землеробчай школы, Уладзіслава Казлоўскага — бурмістра Супрасля і Яна Страдэня — каменданта пастарунка, робіць агляд святыні. У рапарце пра гэты візіт чытаем: **«...зрабіў агляд касцёла а.а. Базылянаў у Супраслі і знайшоў розныя рэчы, што, паводле меркаванняў прысутных, складаюць гістарычную каштоўнасць. Менавіта: абразы, тканіны, разьбяныя арнаменты ў дрэве, круглы драўняны шчыт з срэбна-жоўтым шыццём на малінавым ядвабе з надпісам вакол на царкоўнаславянскай мове** (выразы нечытэльныя) **і выяваю Вячэры Гасподняй»**.

Стараста распараджаецца ўсё апісаць і замкнуць пад ключ. Апекаванне над усім гэтым мусіць выконваць магістрат Супрасля.

Падчас візіту стараста адчуў сябе таксама ў ролі рэстаўратара спадчыны. Ён піша ў рапарце: **«Азначанае на пачатку шыццё, якое, верагодна, складае найбольшую гістарычную каштоўнасць, мною было вынятае з месца, ачышчанае, запакаванае і да будучай патрэбы, у прысутнасці ўсіх вышэйназваных, аддадзенае бурмістру Казлоўскаму дзеля захавання ў незгаральнай касе магістрата»**.

Стараста таксама агледзеў «цёплую» царкву і на заканчэнне візіту загадаў яе **«замкнуць на месцы шляхам забіцця дзвярэй»**.

З таго часу ўвайсці ў вялікую царкву можна было толькі ў прысутнасці бурмістра або каменданта пастарунка ў Супраслі.

Пад канец 1927 года на супрасльскую сцэну выходзіць віленскі каталіцкі архіепіскап Рамуальд Ялбжыкоўскі. Ён прыязджае ў Супрасль і чацвёртага кастрычніка 1927 года спраўляе ўрачыстую імшу ў вялікай царкве манастыра.

Праваслаўны мітрапаліт Дыянісі піша ў Міністэрства веравызнанняў: **«...манастыр гэты пасля вайны быў зачынены, хаця фармальна не адабраны ў праваслаўных, але не быў і вернуты праваслаўнаму духавенству. Адпраўленне імшы ксяндзом архіепіскапам Ялбжыкоўскім выклікала зразумелы неспакой між навакольнага праваслаўнага насельніцтва, якое слушна лічыць Супрасльскі манастыр і святыню праваслаўнымі»**.

Далей мітрапаліт Дыянісі пытаецца: **«...ці дзяржаўныя**

**ўлады далі рыма-каталіцкаму духавенству паўнамоцтвы на валоданне Супрасльскім манастыром, ці архіепіскап Ялбжыкоўскі ў гэтым разе дзейнічаў без паразумення з дзяржаўнымі ўладамі?»**.

Пасля пяці месяцаў ліставання паміж рознымі галінамі ўлады справа даходзіць да Супрасля.

Магістрат запытвае пробашча, кс. Сідаровіча: **«Дзе знаходзяцца ключы ад праваслаўнае царквы ў Супраслі?»**

Нагадаем, ключы гэтыя мусілі быць пад наглядам бурмістра. У лісце ад 13 лютага 1928 года ксёндз Сідаровіч адказвае чыноўнікам з Супрасля: **«...У справе ключоў ад праваслаўнае царквы ў Супраслі паведамляю, што ў мяне знаходзяцца ключы ад абодвух каталіцкіх касцёлаў. Што ж да царквы праваслаўнай, то ад яе ключоў не маю. Калі магістрат мае на ўвазе былы ўніяцкі касцёл, то паведамляю, што кіраванне і выкарыстанне яго, разам з ключамі, Яго Эксцэленцыя ксёндз архіепіскап Мітрапаліт Віленскі, пасля асвячэння 4.X.1927 года ў прысутнасці прадстаўніка гарадской рады, перадаў мне, адначасова ўскладаючы на мяне адказнасць за ягоную цэласць і адпаведнае канонам выкарыстанне. Гэтым самым магістрат быў вызвалены ад клопату за ключы і адказнасці за выкарыстанне»**.

Быццам усяго гэтага было яшчэ мала, бо на супрасльскую сцэну выходзіць яшчэ адзін прэтэндэнт на манастыр і ўсё, што з ім было звязанае.

Хто? Уніяты.

Ваявода пацвярджае гэта ў рапарце да Міністэрства веравызнанняў: **«У Супраслі 16.IV у манастырскай капліцы было спраўленае набажэнства паводле ўсходнеславянскага абраду і прамоўленая казань на тэму вуніі з рыма-каталіцкім касцёлам. У Супраслі цяпер пражывае 350 асобаў праваслаўнага вызнання, прыналежных да штатнай парафіі ў Васількаве, і для гэтага насельніцтва праваслаўны духоўны з Васількава — псаломшчык, паводле штата,— спраўляе набажэнствы ў капліцы на могілках.**

**Пасяленне ў Супраслі праваслаўнага духоўнага лічу немэтазгодным...»**

Духоўным, што апекаваўся праваслаўнымі ў Супраслі, быў айцец Аляксей Мулярчык, постаць значная для праваслаўя на гэтым абшары. Нягледзячы на зласлівасці, пагрозы і няшчасці, ён ніколі не пакіне сваіх вернікаў.





Фрэскі Супрасльскага сабора. Пач. XVI ст.

А тым часам ксёндз Сідаровіч трымае ключы ад царквы і распараджаецца, а таксама пачынае аднаўляць помнікі.

Звесткі пра гэта даходзяць да Варшавы. Рэстаўратар Варшаўскага і Беластоцкага ваяводстваў, уражаны, піша беластоцкаму ваяводу: **«Я атрымаў звестку, што ў валоданне каталіцкага духавенства перайшла былая ўніяцкая царква ў Супраслі, што да гэтага часу стаяла без выкарыстання,— адзіны такога кшталту помнік абарончага будаўніцтва на ўсходніх землях дзяржавы. У сувязі з**

**вышэйзгаданымі зменамі, існуе пагроза ўзнікнення з цягам часу неабходнасці ў шэрагу прыстасаванняў да каталіцкага культу, рэалізацыя якіх можа выклікаць частковую дэфармацыю высокамастацкага інтэр'ера святыні».**

Рэстаўратар перасцерагае, што нават найменшыя пераробкі могуць пашкодзіць гэтаму помніку і просіць ваяводу выдаць распараджэнне: **«каб ні з якой нагоды не распачыналі якога-небудзь рамонту азначанага помніка без дакладнага дазволу рэстаўрацыйных уладаў першай інстанцыі».**

А пробашч Сідаровіч інфармуе напалоханага рэстаўратара: **«Рэстаўрацыя вядомага гістарычнага касцёла ў Супраслі ў значнай ступені ўжо завершаная. Працы выкананыя прыгожа і самавіта...»**

Існуе адна праблема, зазначае далей пробашч. Якая? Патрэба ў дадатковых выдатках. Грошы патрэбныя, бо: на царкве працякаюць вежы, з адной зваліўся крыж, тры пахіліліся, цячэ званіца, вада нішчыць мазаікі, адвальваюцца гзымсы, тынкоўка. Падлогу знішчыў грыб, ужо дабраўся да дзвярэй.

27 жніўня 1929 года яшчэ раз дае аб сабе знаць архіепіскап віленскі, кс. Рамуальд Ялбжыкоўскі. Піша ў Міністэрства веравызнанняў: **«У Віленскай архідыяцэзіі і суседніх дыяцэзіях існуе вялікая патрэба ва ўстанове для ксяндзоў-пенсіянераў. Дзеля гэтай мэты прызначаны былы манастырскі будынак у Супраслі...»**

Паводле епіскапа, ваяводскі ўрад у Беластоку неаднакроць прызначаў гэты будынак на складскія мэты. А школу, якая месціцца там цяпер, маюць зліквідаваць. **«У сувязі з чым,—** піша архіепіскап,— **прашу шчырай падтрымкі, каб былы манастырскі будынак у Супраслі ў найкарацейшым часе мог быць перададзены Віленскай архідыяцэзіі».**

Міністэрскія чыноўнікі збянтэжаныя. Патрабуюць тлумачэнняў у ваяводы. Хочуць ведаць напачатку, ці праўда тое, што земляробчая школа зліквідаваная.

Ваяводская ўправа тлумачыць: ліквідацыя школы ў бліжэйшым часе не прадбачыцца.

Архіепіскап віленскі ў чарговым лісце ў міністэрства інфармуе гэтую ўстанову **«...маю гонар пачціва паведаміць, што паводле звестак, якімі я валодаю, земляробчая школа ў Супраслі канчаткова ліквідуецца 15 снежня 1929 года».**

У сувязі з гэтай радаснай весткай архіепіскап прапануе распарадзіцца аб перадачы будынка Віленскай курыі.

Зноў да ваяводства шлецца пісьмо, з наддрукоўкай «службова», а ў ім пытанне: **«Ці праўда тое, што школа будзе ліквідаваная?»**

**«Няпраўда»**,— прыходзіць адказ з ваяводства.

Пад гэты вэрхал раздзіраецца манастырскі маёнтак. А праваслаўныя прыхаджане ўсё пішуць: ухвалы, петыцыі, просьбы.

У Міністэрства рэлігійных вызнанняў.

Просьба. 1937 год.

**«Мы, ніжэйпадпісаныя, праваслаўныя грамадзяне Рэчы Паспалітай Польскай, што пражываюць у Супраслі і навакольных вёсках, звяртаемся да Міністэрства рэлігійных вызнанняў з гарачай просьбай і пачціва просім аб літасцівым дазволе адчыніць і перадаць нам, праваслаўным, царкву на імя св. Іаана Багаслова, што знаходзіцца ў абшары Супрасльскага манастыра, і аб прызнанні штатнай філіі пры праваслаўнай царкве ў Супраслі.**

**Адкрыццё царквы і зацверджанне штатнай філіі будзе мець вялізнае маральнае значэнне, бо стане для мясцовага насельніцтва яшчэ адным доказам таго, што ў вольнай незалежнай Рэчы Паспалітай Польскай, любое вызнанне, у любым месцы можа смела хваліць Госпада Бога Найвышэйшага, выконваць свае рэлігійныя практыкі, маліцца аб шчасці Польскае Дзяржавы і яе грамадзянаў. Нарэшце, гэта ўзмоцніць рэлігійны дух і дапаможа абараніцца ад атэістычнага і падрыўнога элемента, што таксама ў інтарэсах дзяржавы і цэлага грамадства».**

Адказам было тое, што рабілася ў царкве св. Іаана Багаслова. Вось жа, у сакавіку 1937 года ксяндзы салезіяне здымаюць з царквы праваслаўныя крыжы. Прыхаджане інфармуюць пра гэта Беластоцкае староства. Стараста, на сустрэчы ў Беластоку, прапануе праваслаўным з Супрасля дзве тысячы злотых адступнога за царкву св. Іаана Багаслова. Настаяцель салезіянаў, пры нагодзе, заяўляе, што праваслаўным гэтай царквы ён не аддасць ні пры якіх умовах.

У снежні 1937 года пачынаецца «пераробка» царквы св. Іаана Багаслова. З святыні выносяць: Галгофу, ікону Ўкрыжавання Гасподняга, ікону Божай Маці, тры

крыжы, два кіёты ад абразоў і драбнейшыя прадметы культу. Усё гэта змяшчаюць у Народным доме ў Супраслі — на гарышчы, за сцэнай і ў гардэробе.

Праваслаўныя бачаць у гэтым прафанацыю і пішуць лісты пратэсту. Безвынікова. Цяпер уся надзея на суд.

Праваслаўная кансісторыя, а таксама ўправа мужчынскага манастыра з сядзібай у Гародні падалі зыск супраць Дзяржаўнага Скарбу і рыма-каталіцкага касцёла ў асобе Віленскай курыі мітрапаліта ў справе прызнання Супрасльскаму манастыру права ўласнасці і валодання нерухомай маёмасцю, што складаецца з трох аб'ектаў былой манастырскай сядзібы. Прадмет спрэчкі — манастырскі цэнтр з зямлёй і ўсімі пабудовамі на ёй, фальварак Падсупрасль плошчай 160 дзесяцінаў і фальварак Кляніца або Васільхава плошчай 93 дзесяціны.

Публічныя паседжанні акруговага суда ў Беластоку, яго цывільнага аддзела, адбыліся 21 лютага і 15 сакавіка 1938 года. Суд чыніўся ў складзе: кіраўнік — віцэ-старшыня К. Воліш, суддзі — Ю. Дамброўскі і Э. Зірквіц.

Прысуд быў неспрыяльны для праваслаўных.

У польскіх архівах я не сустрэў нічога пра лёс пратэсту на прысуд 1938 года, які, верагодна, склаў праваслаўны бок. Неўзабаве перад вайною камісія апісала **дзяржаўныя нерухомасці былога манастыра ў Супраслі.** Усё разам было ацэненае ў 495.954 тыс. зл. Царква Дабравешчання — у 166 тысячаў злотых, царква св. Іаана Багаслова — на 16.200 злотых. Каля гэтай пазіцыі пазначана: **вартасць яе зменшылася, паколькі святыня не выкарыстоўвалася.**

Можа, гэта быў уступ да продажу маёнтка праваслаўнага манастыра?

Праваслаўным з Супрасля засталася царква на могілках. Яе пабудова была скончаная ў 1901 годзе. Цяпер яна стала для вернікаў адзінай дзейснай святыняй.

## СУДНЫ ДЗЕНЬ

Выбух Другой сусветнай вайны перарывае плынь падзеяў, распачатых у Супраслі шмат гадоў таму. Гэтая вайна закончылася для Супрасльскай царквы пачатку XVI стагоддзя трагедыяй.

Шукаю людзей таго часу. Складваю драбніцы памяці. Спісваю звесткі «з другіх рук».



Фрэска Супрасльскага сабора. Пач. XVI ст.

Няма сярод жывых а. Аляксея Мулярчыка, сведкі драматычных падзеяў з верасня 1939 года да апошніх дзён ліпеня 1944 года.

Тое, што захавала людская памяць, толькі аскепкі перажытага за гэтыя пяць гадоў. Цяжка скласці з іх аповесць з лагічнай паслядоўнасцю падзеяў.

А. Аляксандр Макаль, настаяцель у Супраслі ў 1971—1984 гадах, цяпер настаяцель прыхода ў Васількаве.

У 1939-м, нядоўга, у Супраслі былі немцы. Перад 17 верасня евангелісты нямецкага паходжання пакінулі горад.

У Супрасль увайшлі Саветы. Вакол манастыра і блізкіх пабудоваў паставілі вялікі плот. Ніхто з цывільных не ведаў, што за гэтай агароджай. Так было да 1941 года, да вайны з немцамі.

Царква св. Іаана Багаслова была перарobленая на кухню і сталовую. Саветы знялі з царквы (вялікай) крыжы, знішчылі іканастас. Зглумілі магілу а. Далматава (з левага боку пры ўваходзе да царквы, пад рызніцаю).

У 1941 годзе адчулася набліжэнне вайны. Тое, што

расказваю, ведаю з аповедаў матушкі Ніны Мулярчык.

Раптам Саветы пачалі ставіць на вялікай царкве драўляныя крыжы. Можа, гэта была маскіроўка перад немцамі? Праўдападобна, быў загад вярнуць царкоўную маёмасць. У Мулярчыкаў быў нейкі начальнік і турбаваўся: **«Адкуль мы возьмем тых багамазаў?»**.

Выбухнула нямецка-савецкая вайна. Немцы займаюць Супрасль. Саветы ўцякаюць з манастыра і акопваюцца за могілкамі. Там чакаюць немцаў. У спрыяльны момант атакуюць іх з абодвух бакоў. Тады забілі 22 немцаў. Было шмат параненых. Забітых пахавалі на могілках. Пасля Саветы рассыпаліся па супрасльскіх лясах. Немцы іх вышуквалі і расстрэльвалі.

З аповесці матушкі Мулярчык ведаю, што ў 1943 або на пачатку 1944-га ў Супрасль вярнуліся манахі. Было іх недзе каля шасці. Адзін з манахаў меў крыж на грудзях. На крыжы быў надпіс: **«Архімандрыт Ісідор»**.

Чуў у Супраслі і такую аповесць з часоў вайны: манахі з доўгімі барадамі ішлі ў горад вуліцай Дольнай. Немцы, убачыўшы іх, пачалі крычаць: **«Юдэ! Юдэ!»**. Дакладна высветліўшы асобы манахаў, пакінулі іх у спакоі.

Ну, а пасля настаў судны дзень для вялікай царквы ў Супраслі. Немцы разбурылі яе, праўдападобна, 21 ліпеня 1944 года.

Архімандрыт Ісідор, выгнаны разам з іншымі манахамі з Супрасля АКоўцамі, дажываў свае дні ў Агроднічках, вёсцы паблізу Супрасля. Расказваў там пра дзень, калі разбурылі царкву. Людзі з Агроднічкаў пераказвалі мне гэтыя апавяданні. Мелася быць так.

Набліжаўся фронт. Немцы перад адступленнем прыйшлі ў манастыр, да манахаў. Казалі ім: **«Выносьцеся адсюль, бо тут зараз усё будзе паляць»**. А. Ісідор мусіў адказаць: **«Я нікуды не пайду. Застануся, і тут будзе мая магіла»**. Іншыя брацця пайшлі. А. Ісідор застаўся, назіраючы з акна сваёй келлі дзеянні нямецкіх салдатаў. Бачыў, як носяць скрынкі з аўтамабіляў у царкву. Потым быў выбух. Пасля разбурэння царквы немцы падпалілі астатнія будынкі. Дом, у якім знаходзіўся а. Ісідор, застаўся некрануты.

Архімандрыт Ісідор знайшоў прытулак у Агроднічках. Людзі памагалі яму. Асабліва займалася старцам Ганна Валкоўская з Завоевых. Руская, жонка польскага выслан-

ца. Аказалася, што а. Ісідор паходзіць з яе родных мясцінаў. Яна справіла яму пахаванне. Паставіла помнік на могілках у Супраслі. Потым яе пахавалі ў той самай магіле, дзе ляжыць архімандрыт Ісідор.

Да сённяшняга дня не знойдзеная супрасльская ікона Божай Маці. Некалі — яшчэ настаяцелем у Супраслі — я знайшоў у ваколіцах манастыра кавалак меднай бляхі. Супрасльская ікона была выкананая на меднай блясе. Саветы, пасля заняцця Супрасля ў 1939-м, займаліся і рамяством, і гандлем. Хто ведае, можа нават вядро зрабілі з той іконы? А вядро пасля прадалі.

Званы з царквы былі вывезеныя да Брэста. Там іх перахапілі немцы. Відаць, зараз яны ў Польшчы, у адным з рыма-каталіцкіх касцёлаў.

Валянціна Хамер, з дому Трахімовіч, якая жыве цяпер недалёка Супрасля, у в. Целічанцы, узгадвае:

— У ноч з 21 на 22 ліпеня мы чулі выбухі. Я супакойвала сям'ю: не бойцеся, гэта бураць масток на нашай рэчцы.

Потым бачылі, як немцы выехалі з Супрасля. У бліжэйшую нядзелю пайшлі ў Супрасль, у царкву. Царква ляжала ў руінах. Плакалі.

Леаніда Ругень, бабулька з вёскі Агроднічкі:

— Я нарадзілася ў 1908 годзе. Шлюб брала ў 1934 годзе ў Супрасльскай царкве на могілках. За немцамі мы хадзілі маліцца да царквы ў Васількаве. Потым была вайна. Выбухі было чуваць у Агроднічках, шэсць кіламетраў за Супраслем. Тыя, хто потым пайшоў у Супрасль, гледзячы на руіны царквы, рукі заломвалі ў роспачы.

Пярліна архітэктуры ў імгненне вока ператварылася ў руіны.

Гатычна-візантыйская царква Дабравешчання Найсвяцейшай Дзевы Марыі ў Супраслі, з яе амаль пяццю стагоддзямі гісторыі і цудоўнымі фрэскамі, цяпер была мёртваю гурбою цэглы, тынку, скамянелай мулярскай рошчыны і абвугленых кніг.

Тырчэлі рэшткі калонаў. На калонах і руінах былі каштоўныя фрэскі. Усе гэтыя гады іх ніхто не ратаваў.

## ВАЙНА ПАСЛЯ ВАЙНЫ

Навакол кіпела жыццё першых дзён свабоды 1944 года. Людзі перажывалі свае радасці і турботы. У горадзе засноўваліся ўстановы (такія, як перад вайной). З устано-

ваў высылаліся службовыя лісты. Пошта дастаўляла іх на пазначаныя адрасы.

Для праваслаўных у Супраслі, асабліва для а. Мулярчыка, ізноў настаў час змаганняў за царкву. Кажучы праўду, вайна не была часам перапынку ў гэтых захадах.

Атмасферу тых часоў перадаюць выпадкова ацалелыя (не ўсе) лісты, звароты, просьбы.

Супрасль, 4 верасня 1944.

Бурмістр Нармантовіч святару праваслаўнага прыхода ў Супраслі: **«Падаю да ведама, што гарадская рада Супрасля 3 верасня 1944 аднагалосна ўхваліла наступнае: абапіраючыся на рашэнне суда Рэчы Паспалітае Польскай ад 1939 года вярнуць былую манастырскую ўласнасць з будынкамі і агародам управе кс.кс. салезіянаў і прызнаць яе правамоцным уладальнікам».**

Беласток, 25 верасня 1944.

В. а. ваяводы Ежы Штахэльскі святару настаяцелю праваслаўнага прыхода ў Супраслі: **«...пазначаная маёмасць мусіць быць неадменна перададзеная ва ўласнасць управы салезіянаў у Супраслі на тых умовах і на тэрміны, у якіх гэтая ўправа валодала гэтай маёмасцю на 1 верасня 1939.**

**...рашэнне гэтае канчатковае.**

**Разам з тым паведамляю, што Праваслаўнай Царкве для культавых патрэбаў можа быць перададзеная маёмасць нядзейнай сёння евангеліцкай царквы ў Супраслі, у выпадку, калі Царква адмовіцца ад судовых прэтэнзіяў на праве ўласнасці на былую манастырскую маёмасць».**

Супрасль, 3 лістапада 1944.

Рапарт а. Мулярчыка а. Іосіфу Гушкевічу з Беластоцкага сабора: **«На старых могілках знаходзіцца драўляная, з каменнай званіцай цэркаўка, пабудаваная і пасвечаная ў 1848 годзе, 30 чэрвеня. Памянёная царква ніколі не належала ўніятам, тым больш — каталікам. Яна знаходзіцца ў праваслаўнай частцы могілак. На гэтых могілках я спраўляў паніхіды і свяціў магілы. На званіцы гэтай цэркаўкі заўважыў нядаўна брак васьміканцовага праваслаўнага крыжа. Думаў, што ён упаў ад старасці. Але ж не, крыж знялі каталікі, а ў царкве 1 лістапада, вечарам, спраўлялі каталіцкае набажэнства. Прашу падаць пратэст да адпаведных уладаў».**

Улады ад лістоў пераходзяць да пагрозаў. За айцом Мулярчыкам стаіць цэлы прыход. Вернікі 12 лістапада

1945 года пішуць пану старасту Беластоцкага павета: **«...да настаяцеля нашага прыхода не павінны накіроўвацца ніякія патрабаванні або пагрозы. Усё вырашае прыходская рада. Што тычыцца былых манастырскіх будынкаў і царквы св. Іаана Багаслова, то пра вызваленне іх не можа быць і мовы. Мы сваёй крывёй і сілай абаронім дарагую для нас і нашых дзяцей святыню».**

А. Мулярчык таксама паведамляе старасту пра сваё рашэнне: **«Сёння, калі высокі ўрад дзяржавы нашай вымагае ад мяне вызвалення былой манастырскай маёмасці разам з царквой св. Іаана Багаслова, што стварае для вернікаў вялікую крыўду, бо іншай святыні яны не маюць, учыніць гэтага я не магу, нават калі б мне за гэта пагражалі смерцю».**

Магчымасці праследаў у дачыненні да праваслаўных у Супраслі неабмежаваныя. Адну з формаў апісвае а. Аляксей Мулярчык у скарзе павятоваму старасту ў Беластоку: **«З прычыны таго, што моладзь з Салезіянскай управы ў Супраслі выхаваная рыма-каталіцкім клерам у нянавісці да праваслаўных, яна не дае нашым манахам свабодна прайсціся па вуліцы, абзываючы іх рознымі мянушкамі і закідваючы камянямі, і сістэматычна выбівае шыбы ў нашай святыні, а таксама ў жылым доме, як напрыклад: 28 чэрвеня выбітыя 3 шыбы, 30 чэрвеня зноў тры шыбы, а 7 мая, карыстаючыся з адсутнасці ў Супраслі ўладаў, выбітыя ў святыні 8 шыбаў і ў доме епіскапа 4 шыбы — разам 18 шыбаў.**

**Ведаючы, што тое самае будзе паўтарацца, звяртаюся да вяльможнага пана старасты з пачцівай просьбай пакласці мяжу нянавісці да праваслаўя».**

У жніўні 1945 года а. Аляксей Мулярчык атрымлівае паведамленне аб **«афіцыйным увядзенні ксяндзоў салезіянаў ва ўладанне ўсёй маёмасцю».**

У ваяводстве спадзявацца на дапамогу няма чаго. Супрасльскія прыхаджане пішуць да Эдварда Асубкі-Мараўскага:

Супрасль, 18 жніўня 1945.

**«25 ліпеня г.г. пан ваявода беластоцкі выдаў указ аб перадачы ўсёй былой манастырскай маёмасці разам з царквой св. Іаана Багаслова кс.кс. салезіянам. Кс.кс. салезіяне ўжо фактычна карысталіся ўсімі манастырскімі пабудовамі разам з агародам побач з царквой св. Іаана Багаслова, праваслаўныя ж манахі займалі толькі дом**

**епіскапа, злучаны з царквой св. Іаана Багаслова. Аднак уначы з 31 мая на 1 чэрвеня г.г. бандыты АК учынілі напад на праваслаўных манахаў, запалохалі іх зброяй і прымусілі пакінуць манастыр, пасля чаго вызвалены дом адразу ж занялі кс.кс. салезіяне (...). Салезіяне для сваіх рэлігійных патрэбаў маюць адпаведны каталіцкі касцёл у цэнтры горада і капліцу на могілках, адабраную ў нас у мінулым годзе (...) Кожны з нас захоўвае гарачую любоў і прыхільнасць да царквы св. Іаана Багаслова, пабудаванай выключна з ахвяраў нашых і нашых бацькоў, што ад дзядоў-прадзедаў вызнавалі праваслаўную рэлігію (...) Звяртаемся да міністэрства і пачціва просім прыхільна разабрацца ў справе і выдаць адпаведныя ўказанні, каб нашую ўлюбёную святыню — царкву св. Іаана Багаслова ў Супраслі ад нас ніхто не адбіраў...»**

На колькі гадоў шальмаванне праваслаўя ў Супраслі губляе свой размах. Але пагроза не знікае. Пасля перапынку на а. Аляксея Мулярчыка ізноў сыплюцца позвы **па ўрадавай справе.**

А ксяндзы салезіяне, з якімі не падоўжылі дамову аб карыстанні манастырскімі пабудовамі, адыходзяць.

На «поле бою» выходзіць цяпер праціўнік не менш грозны. «Гаспадаром» усяго, што належала манастыру, застаецца Цэнтр навучання кадраў сельскагаспадарчай механізацыі. Ва ўладанні Цэнтра таксама і царква св. Іаана Багаслова.

Націскі даюць вынік.

А. Аляксей адбівае штораз гвалтоўнейшыя памкненні ўлады. Як святар, ён, аднак, не можа супрацівіцца сваёй духоўнай уладзе.

У лютым 1955 года канцылярыя беластоцкага епіскапа, асцерагаючыся глумлення над святымі дарамі, выдае распараджэнне забраць з царквы св. Іаана Багаслова **прадметы рэлігійнага культу.**

А. Аляксей Мулярчык падпарадкоўваецца рашэнню сваіх зверхнікаў. Прадметы рэлігійнага культу ён пераносіць у царкву св. Вялікамучаніка Георгія на могілках. Там спраўляе набажэнствы для сваіх прыхаджанаў.

Пасля буры прыходзіць спакой. Пасля маразоў настае адліга. Такі закон прыроды.

1956 год — адліга ва ўсёй краіне. Здавалася б, што подых адлігі дасягне і Беластока, а можа, і Супрасля.

А. Мулярчык і прыходская рада зноў дасылаюць свае

СУБОТНIКЪ
или
ПОМИННИКЪ.

Тытульны ліст Супрасльскага паменніка, перапісанага Стэфанам Каханевічам.

лісты ў чарговыя ўстановы. Пішуць пра выкідванне «са святыні, збудаванай намі і нашымі бацькамі». Спасылаюцца на «змены, якія прынёс нам кастрычнік».

Верацць «у выпраўленне крыўды».

Чарговыя лісты застаюцца без адказу. Замест гэтага

да Супрасля даходзяць неспакойныя весткі. Подых г. зв. адлігі ў Супраслі мае характар яшчэ больш марозны, чым у змрочныя часы кіравання Берута.

19 ліпеня 1957 года на загад ваяводскіх уладаў рабочыя пачынаюць разбіраць царкву св. Іаана Багаслова. Стала зразумела, што ўлады Беластока вырашылі развязаць праблему, фізічна зліквідаваўшы святыню.

А. Мулярчык піша ў Варшаву:

Супрасль, 1 жніўня 1957.

Ва Ўпраўленне па справах веравызнанняў у Варшаве. Уяздоўскія алеі, 5.

**«...Прыгожыя словы пра шанаванне пачуццяў вернікаў і свабоду выканання рэлігійных культаў на практыцы выглядаюць зусім інакш (...) Мы, праваслаўныя вернікі, жыхары г. Супрасля і навакольных вёсак, прыхаджане бяспраўна адабранай у нас царквы св. Іаана Багаслова, як паўнапраўныя грамадзяне Рэчы Паспалітай, мелі ўсе падставы верыць у тое, што ўчыненая адносна нас крыўда будзе выпраўленая. На жаль, дзеянні мясцовых уладаў сведчаць пра тое, што ў адлеглай ад сталіцы правінцыі крыўды выпраўляюць іншым чынам (...) Мы не ведаем, што ў далейшым хоча зрабіць з царквою карыстальнік былых манастырскіх абшараў. Ведаем толькі, што ён пачаў яе разбіраць».**

Пратэсты, лісты, дэлегацыі, просьбы на некалькі тыдняў затрымліваюць разборку. Аднак з царквы здолелі зняць два крыжы, пакінуўшы адзін — пагнуты.

Упартасць а. Мулярчыка і ягоных прыхаджанаў выклікала стварэнне камісіі, што складалася з прадстаўнікоў Упраўлення па справах веравызнанняў, Міністэрства земляробства, Аддзела веравызнанняў і Ваяводскага ўпраўлення земляробства ў Беластоку.

Камісія засядала **«ў новай рэчаіснасці»**, але прыйшла, у выніку, да старых прапановаў: праваслаўныя ў Супраслі, калі хочуць, могуць атрымаць замест царквы св. Іаана Багаслова некарыстаную евангелісцкую святыню.

А. Аляксей Мулярчык вярнуўся з гэтай весткай у Супрасль, склікаў прыходскі сход. Пасля спрэчак (у ёй былі два галасы на карысць пераходу ў евангелісцкую святыню) распачаў галасаванне. Усе выказаліся (шляхам уздымання рукі) за тое, каб застацца пры царкве св. Іаана Багаслова. Вынік галасавання дайшоў да Аддзела веравызнанняў у Беластоку.

У канцы 1957 года царква св. Іаана Багаслова была вернутая праваслаўным.

Нястомны а. Мулярчык на працягу некалькіх месяцаў адрамантаваў царкву. 26 верасня 1958 года царква была асвечаная пасля капітальнага рамонту.

Аляксей Мулярчык, унук а. Аляксея Мулярчыка, гаворыць сёння пра тыя часы:

— Гэта была вайна за захаванне праваслаўя ў Супраслі. Дзеда цягалі па ўстановах, нападалі на ягоную плябанію ў Супраслі.

На вуліцы 3 мая, дзе знаходзілася плябанія, быў таксама — адразу пасля вайны — бар, у якім прадавалі алкаголь. Там у нейкі вечар 1946 года, а можа, 1947, група асобаў уголас вырашала, што ноччу заб'е паповых сыноў. Добразычлівыя людзі данеслі пра гэта а. Мулярчыку.

Ягоны старэйшы сын Барыс быў далёка ад дома, у войску, малодшы — Воўка (Усевалад), вучань гімназіі ў Беластоку, жыў з бацькамі ў Супраслі.

Сталася так, як прадказвалі ў бары. Ноччу да Мулярчыкаў прыйшлі. Зрабілі «рэвізію» ў хаце, параскідалі рэчы, мэблю, адзенне.

— Дзе старэйшы сын? — дапытваліся яны.

— У войску,— праўдзіва адказвалі бацькі.

— Чаму не ў нашым войску? — пыталіся, прыкладаючы пісталет да скроні а. Мулярчыка.

— Няма старэйшага, то пойдзе малодшы,— вырашылі нарэшце.

— Забіце мяне, але пакіньце сына,— маліла матушка Ніна Мулярчык, калі выводзілі Воўку.

Выходзілі праз ганак. Было цёмна. Васемнаццацігадовы Воўка выкарыстаў хвіліну няўважнасці бандытаў і даў лататы ў гарод. Хвілінай пазней бандыты разбегліся па падворку, гародзе і плябаніі. Але Воўка як пад зямлю праваліўся.

Нядоўга па гэтым нехта загадаў з вуліцы:

— Трэба ісці!

І пайшлі.

Воўка ляжаў у бульбоўніку на гародзе, у некалькіх кроках ад хаты. Назаўтра рана выехаў у Беласток. Хаваўся ў канцылярыі архіепіскапа.

— Шмат гадоў,— успамінае сп. Аляксей,— дзед супрацьстаяў амаль усім. Не раз быў засмучаны стаўленнем іерархіі, якая не разумела ягонай упартасці. Меў

хвіліны сумнення, калі некаторыя пагаждаліся з пераходам у евангелісцкую царкву. «Усё ж гэта не нашае. Недзе на свеце жывуць уладальнікі гэтай царквы. Мусім трымацца сваёй царквы».

Ягоная ўпартасць і нязломная пазіцыя далі станоўчыя вынікі.

Пасля вяртання царквы св. Іаана Багаслова ён гаварыў мне:

«Бог дасць, некалі адбудуем царкву Дабравешчання».

Цяпер бачу, што дзедава прадказанне было слушнае...

А. Аляксей Мулярчык памёр у 1970 годзе. Да плябаніі, дзе стаяла труна, прыходзілі развітацца з ім і праваслаўныя, і каталікі.

На могілках у Супраслі, насупраць царквы, на ягонай магіле стаіць невялікі чорны надгробак. На ім надпіс кірыліцай: **«Настоятель Супрасльского прихода. Митрофорный протоиерей Алексей Мулярчик. Жил 76 лет ск. 14.XII.70 г. Нина Никаноровна Мулярчик жила 82 года ск. 28.III.88 г.»**

Быўшы ў Супрасльскім манастыры, я размаўляў з манахамі пра іхняе манастырскае жыццё і шляхі, якія прывялі іх да гэтага месца.

Тое, пра што мы не гаварылі за манастырскім парогам, чакала свайго рашэння ў Варшаве, у Вышэйшым Адміністрацыйным Судзе.

Тое, пра што мы маўчалі, гэта палац архімандрытаў і паўднёва-заходняе крыло манастырскага комплексу разам з брамай-званіцай.

У трапезнай і капліцы палаца архімандрытаў месціцца філія акруговага музея ў Беластоку, дзе знаходзяцца адрэстаўраваныя рэшткі фрэсак да разбуранай у 1944 годзе святыні. Астатняя частка будыніны паступова занепадае і нішчыцца — навучэнцы тэхнікума сельскагаспадарчай механізацыі выехалі адсюль у новы школьны будынак.

Пра гэтую частку манастырскага ансамбля ўспомнілі ў Беластоку ў метрапалітальнай курыі рыма-каталіцкага Касцёла.

Ізноў, як раней, вандруюць лісты, петыцыі, скаргі. Пытанне аб Супраслі ізноў уздымаецца ва ўрадзе, Сойме і Бельведэрскім палацы.

У першай палове 1993 года — напярэдадні візіту Леха Валенсы на Беларусь — Гжэгаж Поляк, тагачасны рэпарцёр «Gazety Wyborzej», зрабіў яўнымі судовыя

захады, што чыніліся вакол «супрасльскай справы». Рэпарцёр пісаў: **«Як мы даведаліся з неафіцыйных крыніцаў, галава Прэзідыума Рады Міністраў, Ян Марыя Ракіта, на мінулым тыдні выслаў новаму беластоцкаму мітрапаліту, архіепіскапу Станіславу Шымецкаму, ліст з просьбай, каб рыма-каталіцкі Касцёл адмовіўся ад прэтэнзіяў на манастыр у Супраслі (...) Раней, 22 сакавіка, на паседжанні сумеснай камісіі ўрада і епіскапата ўрадавы бок папрасіў прадстаўнікоў Касцёла адазваць заяву ў маёмасную камісію і перадаць манастырскую нерухомасць у Супраслі праваслаўным. Заяву ў мінулым годзе падаў тагачасны беластоцкі архіепіскап Эдвард Кісель. Прадстаўнікі епіскапата абяцалі зрабіць гэта, але да сёння свайго абяцання не выканалі».**

Гжэгаж Поляк, добры знаўца рыма-каталіцкай іерархіі, выказаў меркаванне, што з прызначэннем новага мітрапаліта, архіепіскапа Станіслава Шымецкага, у справе Супрасля можа адбыцца пералом.

У верасні 1993 года тагачасны галава Рады Міністраў Ян Марыя Ракіта прызнаў манастырскія будынкі ў Супраслі (палац архімандрытаў і паўднёва-заходняе крыло з брамай-званіцай) уласнасцю праваслаўнай царквы.

Метрапалітальная курыя ў Беластоку абскардзіла гэтае рашэнне ў Вышэйшым Адміністрацыйным Судзе.

Міністр Ян Марыя Ракіта ў сакавіку 1994 года на прэс-канферэнцыі ў Беластоку тлумачыў прычыны такога, а не іншага рашэння:

— **На маё рашэнне аказала ўплыў некалькі рэчаў. Па першае, праваслаўная царква раней ужо ўводзілася ва ўладанне гэтымі пабудовамі, у 1956 годзе, калі ёй аддалі малую царкву, і ў 1983 годзе, калі за ёй прызналі новую царкву і іншыя будынкі. Апроч таго, у 1991 годзе апостальская сталіца і Ян Павел II зацвердзілі рашэнне перадачы пабудоваў праваслаўнай царкве.**

Ці то міністр Ракіта памыліўся, ці то рэпарцёр беластоцкай газеты дрэнна занатаваў. Царкву св. Іаана Багаслова аддалі праваслаўным пад канец 1957 года. А ў 1983 годзе праваслаўным дазволілі адбудаваць разбураную ў 1944 годзе святыню.

На пачатку мая 1995 года меў нагоду размаўляць у Кракаве з кс. Анджэем Бардэцкім, шматгадовым царкоўным кансультантам у «Tygodniku Powczechnym» і першым дэлегатам па экуменічных справах у Кракаўскай

архідыяцэзіі. Дэлегатам, у гады II Ватыканскага Сабору, яго прызначыў епіскап Вайтыла.

Запытаны мною кс. Анджэй Бардэцкі расказваў пра адкрытасць кракаўскіх людзей да ўсходняга хрысціянства.

З Кракава пераскочылі на Беласточчыну. Спытаў ксяндза, што ён думае аб «супрасльскай справе»?

— Гэтую тэму ведаю толькі з газет,— адказаў ксёндз Анджэй.— Шкадую, што нам не ўдалося пагадзіцца. У Беластоку ёсць епіскап Станіслаў Шымецкі з Кельцаў, былы рэктар Шлёнскай семінарыі. Добра ведаю яго. С ксяндзом-канцлерам Красінскім — у прыяцельскіх стасунках. Ведаючы абодвух ксяндзоў, я думаю, што нам удасца станоўча вырашыць справу ў Супраслі. Быў бы вельмі рады, каб так і сталася.

25 мая 1995 года Вышэйшы Адміністрацыйны Суд адмяніў рашэнне міністра — галавы Прэзідыума Рады Міністраў Яна Марыі Ракіты.

Беластоцкая курыя падала зыск у ваяводскі суд аб прызнанні права на ўласнасць супрасльскіх будынкаў.

Каталікі на казані ў Супрасльскім касцёле, пасля вынясення рашэння ВАС, пачулі: **«Хутчэй будзе канец свету, чым праваслаўныя атрымаюць манастыр»**.

Рэпартаж я пісаў у маі і чэрвені 1995 года. У гэтыя тыдні Папа Ян Павел II абвесціў апостальскі ліст «Orientale lumen» (Святло з усходу) і чарговую, дванаццатую энцыкліку «Ut unum sint» (Каб былі як адно).

Італьянская газета «La Republica» сцвердзіла, што Ян Павел II у свой 75 год нараджэння **«працягнуў руку праваслаўным»**.

**Пераклаў з польскае мовы**
**Аляксей КРУКОЎСКІ.**

Аляксандар НАДСАН

# СЬВЯТЫ КІРЫЛА ТУРАЎСКІ

## IV. ЗАЛАТАВУСНЫ

З усіх твораў Кірылы найбольш вядомыя ягоныя казані, або, як яны называліся ў старажытнасьці, «словы». Яны захаваліся ў вялікай колькасьці сьпіскаў, найстарэйшыя з якіх паходзяць з XIII стагодзьдзя.

Колькасьць словаў, якія бесспрэчна належаць Кірылу, невялікая. Іх толькі восем: на Вербніцу (Евангельле на Літургіі: Ян 12:1-18), на Вялікдзень (Ян 1:1-17); на Нядзелю Антыпасхі або Тамаша (Нядзеля пасьля Вялікадня; Ян 20:19-31); Міраносіцаў (Другая нядзеля пасьля Вялікадня; Мк 15:43-16:8); Расслабленага (Трэцяя нядзеля пасьля Вялікадня; Ян 5:1-15); Сьлепанароджанага (Пятая нядзеля пасьля Вялікадня; Ян 9:1-38); на Ўзьнясеньне Гасподняе (Лк 24:36-53) і на Нядзелю Сьвятых айцоў Першага Нікейскага Сабору (Шостая нядзеля пасьля Вялікадня; Ян 17:1-18). Такім чынам, усе словы адносяцца да Вялікоднага пэрыяду, найбольш урачыстага ў царкоўным календары. Вялікдзень — самае вялікае хрысьціянскае сьвята, калі Хрыстос, уваскросшы, перамог сьмерць. На Вербніцу, а таксама ў нядзелі непасрэдна пасьля Вялікадня, Царква ўспамінае падзеі з жыцьця Хрыста, у якіх найбольш яскрава праявілася ягоная Боскасьць. У Нядзелю айцоў успамінаюцца айцы Першага Агульнага Сабору ў Нікеі (325 г.), якія, супраць гэрэзыі Арыя, пацьвердзілі веру Царквы, што Госпад Ісус Хрыстос зьяўляецца праўдзівым Богам, адзінасутным з Айцом.

Як можна здагадацца, тон словаў урачысты, сьвяточны. Аўтар паставіў за мэту «праславіць», сьвята.

Усе словы Кірылы былі, несумненна, напісаныя ў адным годзе. У слове на Нядзелю расслабленага (трэцюю пасьля Вялікадня) ёсьць выраз: «Гора таму, хто грашыць пасьля атрыманьня духоўнай годнасьці — гэта значыць, пасьля прыняцьця манаства і сьвятарства — а нават самому біскупу, які не баіцца Бога». Некаторыя дасьледчыкі бачаць у гэтым выразе намёк на справу То-

---

Пачатак у № 1, 1996 г.

дарца, што б вызначала дату напісаньня не пазьней як 1169 г.

Кожнае слова Кірылы складаецца з трох частак: уступ, асноўная частка, якая зьяўляецца звычайна разьвіцьцём евангельскай тэмы, і заканчэньне.

Уступ звычайна кароткі. Ён мае за мэту зацікавіць слухачоў, зьвярнуць іхнюю ўвагу на галоўную тэму казані, не апярэджваючы яе.

У Нядзелю Тамаша Кірыла пачынае слова так:

«Царкве патрэбны вялікі настаўнік і мудры прамоўца, каб належна ўсхваліць гэтае сьвята. Мы ж бедныя на словы, і розум наш мутны, і няма ў нас боскага агню для складаньня словаў, карысных для душы. Але дзеля любові да тут прысутных братоў пастараемся сказаць нешта карыснае пра абнаўленьне Хрыстовага ўваскрасеньня...»

А вось уступ да слова ў Нядзелю сьлепанароджанага:

«Міласэрнасьць Божую і чалавекалюбства Госпада нашага Ісуса Хрыста, і ласку Духа Сьвятога, дадзеную шчодра роду людзкому, прапаведую вам, браты, добрыя хрысталюбныя слухачы, дзеці Царквы, сыны сьвятла, прычасьнікі валадарства нябеснага. Кажам, аднак, гэтыя словы не ад свайго сэрца — у грэшнай душы ня родзіцца ніякая добрая справа, ані карысная думка,— але расказваем тое, што ўзялі з сёньняшняга Евангельля Яна Багаслова, сьведкі цудаў Хрыстовых».

На Ўзьнясеньне Госпада Ісуса Хрыста аўтар, быццам няўпэўнены ў сваіх сілах, просіць прарока Захара дапамагчы яму ўславіць вялікую ўрачыстасьць:

«Прыйдзі сёньня ў духу, сьвяты прарочa Захар, дай пачатак нашаму слову ад тваіх прароцтваў аб узьнясеньні на неба Госпада Бога і Збаўцы нашага Ісуса Хрыста! Бо ты ж прадказаў нам гэта не ў прыповесці, але яўна, калі сказаў: Вось Бог наш ідзе ў славе, як у дзень бітвы, і ўсе сьвятыя з Ім; і стануць ногі Ягоныя на гары Аліўнай, проста на ўсход ад Ерусаліму [35]. Хочам і ўсё наступнае ад цябе даведацца...»

Абудзіўшы зацікаўленасьць слухачоў, Кірыла пераходзіць да галоўнай часткі. Звычайна тэмаю служыла евангельскае апавяданьне. Аднак кароткі евангельскі расказ Кірыла пашыраў, разьвіваў і, дзе магчыма, уводзіў у яго драматычны элемэнт. Добрым прыкладам можа служыць слова ў Нядзелю міраносіцаў і Язэпа Арыматэйскага.

Евангельле сьв. Марка коратка апавядае, як Язэп папрасіў у Пілата цела Хрыста і пахаваў Яго ў новай магіле. У Кірылы расказ пачынаецца лірычным плачам Багародзіцы, якая стаяла ля Крыжа Хрыстовага:

«Усё стварэньне спачувае мне, Сыне мой, бо бачыць Тваю несправядлівую сьмерць. Гора мне, Дзіця маё, Сьвятло і Творца ўсяго, што існуе! Якія цярпеньні Твае мне трэба аплакваць сёньня: біцьцё па твары і па плячах? путы ў вязьніцы? аплёўваньне Твайго сьвятога Твару беззаконьнікамі за Тваю дабрыню? Гора мне, Сыне мой! Будучы нявінным, Ты быў зьняважаны і пацярпеў крыжовую сьмерць. Як яны адважыліся каранаваць Цябе цернямі, паіць воцатам і жоўцю і прабіць кап'ём усячысты бок Твой?.. Бачу Цябе, Дзіця мілае, як Ты вісіш голы на крыжы, без дыханьня, бяз выгляду і красы, і душа мая абліваецца горкай крывёю. Я жадала б памерці з Табою, бо не магу глядзець на Цябе, бяздушнага. Няма мне больш ніякай радасьці, бо маё Сьвятло, Надзея і Жыцьцё, Мой Сын і Бог на дрэве згаснуў. Дзе маё, Сыне, дабравешчаньне, якое мне некалі апавясьціў Габрыель, кажучы: Радуйся, поўная ласкі, Госпад з Табою... Гора мне! Каго мне паклікаць, каб плакаў са мною? З кім буду праліваць струмені сьлёзаў? Усе Твае блізкія і прыяцелі, што карысталі з Тваіх цудаў, пакінулі Цябе. Дзе цяпер семдзесят вучняў? Дзе найвышэйшыя апосталы? Адзін з іх хітрасьцю прадаў Цябе фарысэям, а другі, дзеля страху перад першасьвятарамі, выракся Цябе, кажучы, што ня ведае гэтага чалавека. Я адна, Божа мой, слуга Твая, стаю і плачу разам з ахоўнікам Тваіх словаў, любым вучнем Тваім. Гора мне, Ісусе мой, дарагое Імя! Як гэта зямля стаіць, чуючы на сабе Цябе, павешанага на крыжы... Прыйдзіце, гляньце на тайну Божай міласэрнасьці, як Той, які ажыўляе ўсё, сам памёр ганебнай сьмерцю»[36].

Ейны плач пачуў Язэп з Арыматэі. Багародзіца просіць яго пайсьці да Пілата і папрасіць цела Хрыста. Язэп перамагае страх, ідзе да Пілата і просіць яго:

«Дай мне, намесьніку, цела таго дзіўнага Ісуса, які быў укрыжаваны між двух разбойнікаў, абвінавачаны з зайздрасьці першасьвятарамі і бяспраўна зьняважаны жаўнерамі. Дай мне цела Ісуса, якога кніжнікі называюць Сынам Божым, а фарысэі клічуць каралём, і якому ты загадаў прыбіць над галавою дошку з надпісам: «Гэ-

та Сын Божы і цар гэбрэйскі». Дай мне цела Таго, каго ўласны вучань, паквапіўшыся на срэбра, прадаў сьвятаром... Прашу ў цябе цела Таго, пра каго Каяфа прадказаў, што яму аднаму належыць памерці за ўвесь сьвет... Прашу цела таго Ісуса, які на тваё пытаньне адказаў: Я — Сьвятло і Праўда... Дай мне зьняць цела з крыжа, бо хачу пакласьці яго ў маёй магіле...» [37]

Атрымаўшы дазвол, Язэп разам з Нікодымам здымаюць цела Хрыста з крыжа і нясуць на пахаваньне, плачучы:

«Сонца незаходнае, Хрысьце, Творца ўсіх і Уладару ўсяго стварэньня! Як адважуся я дакрануцца да Твайго ўсячыстага цела, да якога ня сьмеюць дакранацца нават нябесныя сілы... Якія адыходныя песьні буду сьпяваць Табе, каго ў неба нязмоўкна славяць сэрафімы? Як панясу на руках маіх Цябе, нябачнага Уладара, які сілаю сваёю носіць усё стварэньне? Як пакладу ў маёй беднай магіле Цябе, што словам умацаваў круг нябесны і спачывае на хэрувімах разам з Айцом і Сьвятым Духам?..» [38]

Калі мінула субота, жанчыны-міраносіцы прыйшлі на магілу. Там яны сустрэлі анёла, які адкрыў ім тайну збаўленьня людзкога роду:

«...Хачу расказаць вам пра тайну Божай любові да людзей, як Ён пацярпеў за Адама, які ўпаў у тленнасьць... Ён зышоў з неба, прыняў цела і стаўся чалавекам, каб заняпалага (Адама) абнавіць і ўзяць з сабою на неба. Той (г. зн. Адам) паслухаўся рады ворага, захацеў стаць богам і быў пракляты; гэты ж (г. зн. Хрыстос) паслухаўся Айца і, будучы Богам, стаўся чалавекам, каб чалавека абагавіць. Той (Адам), працягнуўшы руку да забароненага дрэва, сарваў сьмяротны плод, стаўся нявольнікам граху і зышоў з раю ў пекла. Хрыстос, распасьцёршы рукі на крыжы, вызваліў людзей ад грахоўнага прысуду і сьмерці...» [39]

Слова сканчаецца пахвалою Язэпу Арыматэйскаму.

Тон апавяданьня ў Кірылы мяняецца ў залежнасьці ад нагоды і бывае то ўзвышаны і ўрачысты, то поўны паэтычнага лірызму. Часам ён набывае характар звычайнай размовы, як у выпадку расслабленага (паралітыка), які на пытаньне Хрыста, ці жадае быць здаровым, расказвае Яму ўсе свае няшчасьці:

«Так... Госпадзе! Хацеў бы, але ня маю чалавека, які б мяне ўкінуў у сажалку, калі анёл усхвалюе ваду. Але,

так як Ты запытаўся ў мяне аб здароўі, Уладару, дык паслухай майго кароткага расказу пра ўсе мае няшчасьці і хваробы. Трыццаць восем гадоў ляжу прыкаваны да гэтай пасцелі... Я страціў на лекараў усю маю маёмасьць, але не атрымаў ніякага аблягчэньня, бо няма такога зельля, якое б супрацьдзейнічала кары Божай. Мае знаёмыя брыдзяцца мною, бо мой смурод робіць мяне прыкрым, а мае сваякі саромеюцца мяне, і я стаў чужынцам для маіх братоў... Можа, я памёр? Але ж мой страўнік хоча есьці і язык высах ад смагі. Дык, можа, я жывы? Але ж я не магу ня толькі ўстаць з пасьцелі, але нават паварушыцца: маю ногі, якія ня ходзяць, і рукі, якімі ня толькі не магу нічога рабіць, але нават дакрануцца (да нечага). Я — непахаваны труп, а гэты ложак — мая магіла. Я мёртвы сярод жывых і жывы сярод памёрлых, бо, як жывы, хачу есьці і, як мёртвы, не магу нічога рабіць...»[40]

Пачуўшы скаргі расслабленага, Хрыстос адказвае: «...Як гэта ты кажаш: Ня маю чалавека? Я ж дзеля цябе стаўся чалавекам,— добрым і міласэрным,— і не адмовіўся ад абяцаньня майго ўцелаўленьня...[41] Для цябе Я пакінуў скіпетр вышняга валадарства і хаджу, паслугоўваючы тым, што ўнізе. Бо Я не прыйшоў, каб мне служылі, але каб паслужыць[42]. Дзеля цябе Я, бесьцялесны, прыняў цела, каб аздаравіць душэўныя і цялесныя немачы ўсіх. Дзеля цябе Я, нябачны для нябесных сілаў, зьявіўся ўсім людзям, бо не жадаю пагарджаць Маім вобразам, што ляжыць у заняпадзе, але хачу прывесьці яго да пазнаньня праўды. А ты кажаш: Ня маю чалавека! Я стаўся чалавекам, каб чалавека абагавіць, бо сказаў: Багамі будзеце і сынамі Ўсявышняга[43]. Хто ж служыць Табе больш верна за Мяне?..»

Гэты маналог Хрыста, як і размова анёла з міраносіцамі (гл. вышэй), належаць да найбольш прыгожых рэчаў, напісаных Кірылам. У іх ён разьвівае вучэньне збаўленьня роду чалавечага праз Хрыста. Паводле стылю ён падыходзіць найбліжэй да «сьвятаайцоўскага» пісьменства.

Драматызацыя ў творах Кірылы праяўляецца ня толькі ў дыялёгах, але і ў апісаньні дзеяньня. Найбольш яскравым прыкладам гэтага можа служыць слова на Ўзьнясеньне. Дзеяньне пачынаецца на Аліўнай гары, дзе разам з Хрыстом зьбіраецца ўся Царква: патрыярхі, апосталы, вучні і вялікая грамада верных. Адначасова анёлы ў небе рыхтуюцца прыняць Хрыста:

«Адны прыносяць на крылах хмару, каб узяць з зямлі Хрыста, Бога нашага; іншыя рыхтуюць хэрувімскі пасад. Бог Айцец чакае Таго, каго раней меў ва ўлоньні з сабою, а Сьвяты Дух загадвае ўсім Ягоным анёлам: Адчыніце нябесную браму, хай увойдзе Цар славы!»[44]

Усюды радаснае чаканьне нечага вялікага. Апосталы, убачыўшы, што Хрыстос мае іх хутка пакінуць, просяць жаласьліва:

«Не пакідай, Уладару, сіротамі нас, каго Ты ў міласэрнасьці Тваёй сам палюбіў, але пашлі нам, як абяцаў, Духа Твайго Ўсесьвятога» [45].

Нарэшце Хрыстос, суцешыўшы вучняў і блаславіўшы іх, пачынае ўзносіцца да неба:

«Перад Ім ішлі анёльскія сілы са страхам і радасьцю, каб адчыніць нябесную браму. Але нябесныя вартаўнікі не пускалі іх, кажучы: Гэта брама Гасподняя, бо так загадаў Бог, каб ніхто з зямных праз яе не праходзіў. Цяпер мы ў зьдзіўленьні, бо бачым чалавека, які сядзіць на хэрувімскім пасадзе і хоча ўвайсьці праз гэтую браму перад сэрафімамі. Тады анёлы аб'явілі ім Божую годнасьць і сілу, што спачывае ў гэтым чалавечым целе, і загадалі не супраціўляцца волі Божай, які ўсё мудра робіць. Бо Ён,— казалі яны,— зышоў на зямлю, нябачны нікім, а цяпер ўзыходзіць зноў у выглядзе слугі. Але тыя (вартаўнікі) адказалі: Не паслухаемся, пакуль не пачуем Божага загаду. Тады сам Хрыстос усклікнуў: Адчыніце Мне браму праўды, каб, увайшоўшы, Я мог расказаць Майму Айцу, што Я рабіў і як цярпеў на зямлі! Пазнаўшы голас Госпада, усе сілы нябесныя, паўшы ніц, пакланіліся Яму і сказалі: Хоць мы ня бачылі, як Ты, Уладару, зыходзіў (на зямлю), але пакланяемся Табе цяпер, калі ўзыходзіш у славе».

Кірыла ўпрыгожваў свае словы красамоўнымі формамі і зваротамі. Сярод мастацкіх прыёмаў ён часта ўжываў антытэзу, або супрацьстаўленьне, як напр. супрацьстаўленьне Хрыста і Адама ў прыведзенай вышэй прамове анёла да міраносіцаў. Вось яшчэ адзін прыклад слова на Вялікдзень:

«Перад учарашнім днём Хрыстос быў укрыжаваны **як чалавек**, але **як Бог**, зацьміў сонца і месяц у кроў перамяніў, так што цемра запанавала на зямлі. **Як чалавек**, Ён, усклікнуўшы, аддаў духа, але **як Бог**, Ён затрос зямлёю, так што камяні патрэскаліся. **Як чалавек**, Ён быў

прабіты ў бок кап'ём, але **як Бог**, заслону першага Закону разарваў надвое... **Як чалавек**, Ён быў пакладзены ў магілу, але **як Бог**, асьвяціў ахвярнік царквы народаў».

Іншым частым прыёмам Кірылы было паўтарэньне. У слове ў Нядзелю сьлепанароджанага, калі Хрыстос спытаўся ў сьляпога, ці верыць у Сына Божага, той адказаў:

«**Веру**, Госпадзе, і пакланяюся Табе! **Веру** ў Цябе, Сыне Божы, і слаўлю Цябе! **Веру**, Уладару, і вызнаю Цябе як Хрыста, Збаўцу сьвету! **Веру**, Міласэрны, у Тваё прыйсьце на зямлю і Твой узыход, як чалавека, на неба! **Ты той**, пра каго пісалі прарокі, якія ў духу бачылі Тваё ўцелаўленьне! **Ты той**, каго патрыярхі прадбачылі ў вобразе ягняці, што бярэ на сябе грахі сьвету! **Ты**, Госпадзе, **той** самы, пра якога вучылі заканадаўцы: Калі прыйдзе Мэсія, Ён адменіць Закон і дасьць ласку...».

У слове ў Нядзелю Тамаша (Нядзеля пасьля Вялікадня), у Кірылы ёсьць апісаньне вясноўага адраджэньня прыроды, як сымбалю адраджэньня ўсяго стварэньня праз уваскрасеньне Хрыстова:

«Сёньня вясна красуецца і ажыўляе зямную прыроду; бурныя вятры, лагодна павяваючы, прыносяць багацьце пладоў, а зямля корміць семя і родзіць зялёную траву... Сёньня нованароджаныя ягняты і цяляты хутка бегаюць і скачуць і весела вяртаюцца да сваіх матак, а пастухі на жалейках радасна славяць Хрыста...»

Калі ўзяць пад увагу кліматычныя ўмовы Беларусі, дык становіцца ясным, што вобраз вясны ў творы Кірылы не зьяўляецца вынікам назіраньня прыроды ў ваколіцах Турава. У ім адчуваецца ўплыў падобных апісаньняў у Рыгора Назьянскага (328—383) [46]. Кірыла, аднак, аслабляе мастацкі эфэкт алегарычным тлумачэньнем вобраза:

«Вясна — гэта вера Хрыстова, якая праз хрост родзіць нанова людзкую прыроду; бурныя вятры — гэта грэшныя пажаданьні, якія праз пакуту ператвараюцца ў дабрадзейнасьці і прыносяць плады, карысныя для душы; зямля — гэта наша прырода, якая, прыняўшы семя Слова Божага... родзіць у страху дух збаўленьня...»

Кірыла быў чалавекам свайго часу і таму ня быў свабодны ад модных плыняў, якія панавалі ў тагачасным бізантыйскім і ўсходнеславянскім пісьменстве. Адной з такіх модных рысаў было празьмернае ўжываньне алегорыі, або іншасказаньня, г. зн. спробы знайсьці іншы, «глыбейшы», сэнс у штодзённых зьявах. Алегорыя мае закон-

нае месца і зьяўляецца неад'емнай часткай прыповесьцяў. Аднак празьмернае ўжываньне яе ўводзіць у твор элемэнт штучнасьці. Бізантыйскія царкоўныя пісьменьнікі, а за імі і славянскія часоў Кірылы нярэдка злоўжывалі алегорыяй. Клімэнт Смаляціч у сваім лісьце да сьвятара Тамаша пісаў: «Хачу ведаць іншасказальна цуды Хрыстовыя, апісаныя ў Евангельлі». Кірыла ня быў выняткам у гэтым.

Кірыла сканчае звычайна свае словы кароткай пахвалай Богу і сьвяту, як, напрыклад, у слове ў Нядзелю Тамаша:

«Таму, браты, верым Хрысту Богу нашаму, паклонімся Ўкрыжаванаму, уславім Уваскрослага; дайма веру Таму, хто явіўся апосталам; будзем пяяць хвалу Таму, хто паказаў бок Тамашу; усхвалім Таго, хто прыйшоў ажывіць нас; вызнайма Таго, хто асьвяціў нас, узьвялічым Таго, хто даў нам багацьце дабротаў; пазнайма аднаго ад Тройцы Госпада, і Бога, і Збаўцу нашага Ісуса Хрыста, якому слава разам з Айцом і Ўсесьвятым Духам».

Кірылу звычайна робіцца закід, што ў ягоных словах адсутнічае элемэнт маральнага навучаньня. Гэта ў вялікай ступені сапраўды так. Кірыла падыходзіць найбліжэй да практычных выснаваў у канцы слова на Вербніцу:

«Дык вось, браты, выпадае нам, як людзям Божым, уславіць Хрыста, які палюбіў нас. Прыйдзіце, паклонімся Яму і прыпадзем у думках, як блудніца, цалуючы Ягоныя чыстыя ногі. Адрачэмся, як яна, ад дрэнных дзеяньняў, выльем на Ягоную галаву, быццам духмяны алей, нашу веру і любоў. Выйдзем, як некалі народ, насустрач Яму, зломім, быццам галінкі, наш гнеў. Пасьцелем Яму, быццам вопратку, нашыя добрыя ўчынкі; ускліднем Яму ў малітве, як малыя дзеці; пойдзем перад Ім, паказваючы міласэрнасьць да бедных... Падрыхтуем у пакоры, быццам сьвятліцу, нашыя душы, каб Сын Божы ўвайшоў туды пад выглядам прычасьця і справіў вячэру разам са сваімі вучнямі... Умярцьвім пажаданьні цялесныя і ўсклікнем: Гасанна на вышынях! Благаславёны Той, хто прыйшоў на дабравольныя цярпеньні, якімі Ён зьнішчыў пекла і перамог сьмерць».

Практычнае значэньне падобных павучаньняў малое з прычыны іхняга агульнага характару. Наогул, словы Кірылы напамінаюць хутчэй радасныя гімны ў гонар Усявышняга. Гэта было абумоўлена, несумненна, і харак-

тарам Вялікоднага пэрыяду — найбольш радаснага і ўрачыстага ў царкоўным календары.

Узятыя ў цэласьці, словы Кірылы, аднак, не пазбаўленыя навучальнага элемэнту. Ва ўсіх ягоных словах, як і ў малітвах, заўсёды прысутная думка пра Божую спагадлівасьць і любоў да людзей. Гэтая любоў праявілася з асаблівай сілаю ў справе адкупленьня роду людзкога праз Ісуса Хрыста, які «прыйшоў ня толькі дзеля праведных, але, каб узьняць увесь сатлелы і заняпалы злачынны сьвет. Ён узяў грахі ўсіх на сябе і прыбіў іх да крыжа» (*Слова на Вялікдзень*).

«Вось мудрасьць Божая і Ягоная невыказная любоў да людзей! — усклікае ў іншым месцы Кірыла.— Якая душа ня ўсьцешыцца з Ягонай міласэрнасьці, дзякуючы якой Ён нас палюбіў і прыблізіў да сябе, калі мы былі яшчэ далёка ад Яго!» (*Слова ў Нядзелю сьлепанароджанага*).

Іншая тэма, якую пасьлядоўна разьвівае Кірыла,— гэта параўнаньне і супрацьстаўленьне між Старым і Новым Запаветамі:

«...Ідаласлужэньне адышло ўжо, і крыжовая тайна перамагла бесаўскае насільле, а род людзкі ня толькі збавіўся, але і асьвяціўся вераю Хрыстоваю. Пасьля адмены крывавых ахвяраў казьлянятаў і цялятаў Стары Закон зьбяднеў; толькі адзін Хрыстос сам прынёс сябе Айцу ў ахвяру за ўсіх» *(Слова ў Нядзелю Тамаша).*

«...Мінуў ужо Стары Закон з патрабаваньнем ахвяраў казьлянятаў і запаветамі старцаў, ня змогшы ацаліць людзкія немачы. Закон Майсея нічога не асягнуў, а толькі аддаў усіх пад уладу граху. Цяпер сам Творца і Заканадаўца прыйшоў абнавіць стварэньне і збавіць чалавека, як кажа прарок: Не пасрэднік і не анёл, але сам Госпад збавіў нас» (*Слова ў Нядзелю сьлепанароджанага*).

Тая самая думка зьяўляецца асноваю параўнаньня сажалкі ў Бэтсаідзе з хростам:

«...(У Бэтсаідзе) анёл Гасподні прыходзіў і хваляваў ваду, і той, хто першы ўваходзіў у яе пасьля гэтага, бываў аздароўлены. Бо гэтая вада аздараўляла не заўсёды, але толькі, калі яе парушаў анёл. Цяпер у хросьце сам Уладар анёлаў, Дух Сьвяты, прыходзіць і асьвячае ваду, даючы здароўе для душаў і целаў і ачышчэньне грахоў. Калі хто сьляпы розумам, ці кульгае няверствам, ці засох у роспачы бясчынстваў, ці спаралізаваны лжы-

вай навукай,— вада хросту аздараўляе іх усіх. Тая сажалка прымала ўсіх, але аздараўляла толькі аднаго,— і то не заўсёды,— раз у год. Хрост кожны дзень аздараўляе і ажыўляе многіх. Нават калі ўсе людзі, што на зямлі, прыйдуць да хросту, ласка Божая не паменшыцца, і ўсе атрымаюць аздараўленьне ад грахоўных недамаганьняў»[47] (*Слова ў Нядзелю расслабленага*).

Такім чынам, навучальны элемэнт не адсутнічае зусім у словах Кірылы. У іх адчуваецца намаганьне аўтара даць слухачом багаслоўскае выясьненьне тайны нашага збаўленьня і адкупленьня. Толькі часта багаслоў у Кірылы спаборнічае з паэтам...

У словах сьвятога Кірылы адчуваецца шчасьлівае спалучэньне пісьменьніцкіх здольнасьцяў з абшырнымі на той час багаслоўскімі ведамі. Кірыла быў, несумненна, найлепшым знаўцам Сьвятога Пісаньня сярод раньніх усходнеславянскіх царкоўных пісьменьнікаў. Ён таксама ведаў творы айцоў царквы, прынамсі тыя, якія былі даступныя ў славянскім перакладзе. Часам складаецца ўражаньне, што ягоныя словы належаць да сьвятаайцоўскай пары, так яны прасякнутыя ейным духам. Асабліва вялікі ўплыў на яго мелі творы айцоў «залатой пары» — Рыгора Назьянскага (Багаслова), Эпіфана Кіпрскага і інш. Калі казаць пра Яна Залатавуснага, то ягоны ўплыў адчуваецца ў перайманьні характару творчасьці. Францускі дасьледчык А. Ваян заўважыў, што Кірыла настолькі добра ведаў Яна Залатавуснага, што часта ўзьнікае ўражаньне, быццам ён пераймае яго даслоўна, тымчасам як ён толькі насьледуе манеру пісаньня.

Як прыклад красамоўнага мастацтва, словы Кірылы былі незвычайным зьявішчам свайго часу. Багацьце вобразаў і разнастайнасьць формаў ажыўлялі іх і трымалі зацікаўленых слухачоў у напружаньні. Мова словаў багатая на трапныя параўнаньні і прыклады. Авеяныя духам любові да Бога, словы справядліва здабылі іхняму аўтару славу другога Залатавуснага, «які больш за ўсіх зазьзяў на Русі».

## V. ДОБРЫ ПАСТЫР

Кірыла правёў вялікую частку свайго жыцьця ў пастырскай дзейнасьці, перш як духоўны настаўнік у манастыры, а пасьля як біскуп на Тураўскім пасадзе. Ён меў высокае паняцьце біскупскай годнасьці і балюча пе-

ражываў, калі нехта хацеў выкарыстаць біскупскае становішча для нягодных мэтаў. У тым часе сталася сумна вядомая справа Тодарца, якая пагражала разьбіцьцём царкоўнай еднасьці ў Кіеўскай мітраполіі. Кірыла ня мог заставацца збоку ад гэтай справы. Замест, аднак, таго, каб пачынаць спрэчкі з праціўнікамі, ён напісаў «Прыповесьць пра чалавечую душу і цела»[48], вядомую таксама як «Прыповесьць пра кульгавага і сьляпога», дзе ён выклаў свой погляд на Царкву і царкоўных дастойнікаў. У аснову твора лягла вядомая сярод усходнеславянскіх царкоўных пісьменьнікаў гісторыя ўсходняга, найхутчэй гэбрайскага, паходжаньня. Пачынаецца яна тым, што «нейкі гаспадар пасадзіў вінаград, агарадзіў плотам, выкапаў студню, зрабіў вароты, але не зачыніў іх. Перад тым як адысьці, ён разважаў так: Каго мне паставіць сьцерагчы вінаграднік? Калі пастаўлю аднаго з маіх слугаў, ён, ведаючы маю дабрыню, абкрадзе маю маёмасьць. Ведаю, што зраблю. Пастаўлю пры варотах кульгавага, а з ім сьляпога. Калі вораг захоча ўвайсьці і абакрасьці вінаграднік, кульгавы яго ўбачыць, а сьляпы пачуе. Увайсьці ж у вінаграднік кульгавы, калі б і хацеў, ня зможа з-за сваіх хворых ног, а сьляпы, калі і ўвойдзе, то заблудзіць і згіне. Аднак вартаўнікі аказаліся хітрэйшымі, чым думаў гаспадар. Як толькі ён адышоў, кульгавы сеў на сьляпога і пачаў паказваць яму дарогу. Такім чынам яны ўвайшлі ў вінаграднік і абакралі яго. Калі гаспадар даведаўся, ён паклікаў сьляпога. Але той адказаў: Ты ведаеш, што я сьляпы, без праваднікa не магу нікуды ісьці і не магу сам трапіць у ніводнае месца, калі б і хацеў. Я ня чуў, каб нехта праходзіў міма праз вароты, бо інакш узьняў бы крык. Думаю, гаспадару, што гэта кульгавы абакраў цябе. Тады гаспадар паклікаў кульгавага. Сустрэўшыся, яны пачалі абвінавачваць адзін аднаго. Кульгавы казаў: Калі б ты мяне не насіў, я б сам ня мог увайсьці, бо я кульгавы. А сьляпы адказаў: Калі б ты ня быў маім праваднікoм, я б ня мог трапіць (у вінаграднік). Паслухаўшы іх, гаспадар загадаў іх абодвух пасадзіць у вязьніцу»[49].

Вобраз гаспадара нагадвае аўтару пра Бога, а вінаграднік з адчыненымі варотамі — пра Царкву. «Царква,— кажа ён,— для ўсіх адчыненая. Яна наша маці, якая родзіць нас у тайне хросту і корміць тых, што ў ёй жывуць».

Як гаспадар паставіў вартаўнікоў пры ўваходзе ў вінаграднік, так Бог устанавіў у Царкве зьверхнікаў, каб ахоўвалі сьвятыя тайны:

«Як кульгавы і сьляпы былі пастаўленыя ахоўваць тое, што ўнутры, так і патрыярхі, арцыбіскупы і ігумены пастаўленыя між царквою і ахвярнікам сьцерагчы сьвятыя тайны ад ворагаў Хрыстовых, гэта значыць, ад гэрэтыкаў, злосных спакусьнікаў, несумленных грэшнікаў і паганых іншаверцаў».

Пытаньне іерархіі царкоўнай знаходзіцца таксама ў слове на Вербніцу:

«Словы Евангельля, якія шматразова Хрыстос казаў для збаўленьня людзей, ёсьць страваю для нашых душаў. Ягоны слаўны і пачэсны дом — Царква — мае выдатных будаўнікоў: патрыярхаў, біскупаў, сьвятароў, ігуменаў і ўсіх царкоўных настаўнікаў, якія сталіся блізкімі Богу дзякуючы веры і чысьціні жыцьця і атрымалі ласкаю Духа Сьвятога розныя дары навучаньня і ацаленьня паводле меры дару Хрыстовага».

Такім чынам, царкоўныя іерархі зьяўляюцца будаўнікамі Дому Божага, настаўнікамі і ахоўнікамі сьвятых тайнаў. Яны не самазванцы, а пастаўленыя Богам, і кожны з іх атрымлівае асобы дар Духа Сьвятога. Гэты дар, які даецца ў сьвячаньнях, атрымліваецца не адразу, але паступова:

«...Хрыстос дзьмухнуў у твар апосталам і сказаў: Прыміце Духа Сьвятога[50]. Гэта быў ня поўны дар, але парука сьвятарства, бо Ён загадаў ім чакаць Сьвятога Духа, які, «прыйшоўшы, да канца асьвяціць вас»[51]. Таксама біскупы сьвяцяць паддыяканаў, чытальнікаў і дыяканаў. Усё гэта ня поўны дар, а толькі парука далейшых сьвячаньняў, каб маглі падрыхтавацца да дасканалага сьвятарства».

Сьвятарства, такім чынам,— гэта нешта вялікае. Таму няма нічога горшага, як недастойнае ўспрыняцьце сьвятарскай годнасьці:

«Няма нічога больш мілага Богу, як сьціпласьць у духоўным стане, і нічога больш агіднага, як самаўпэўненасьць і высакамернасьць таго, хто ганарыцца сваёй годнасьцю, а ня Богам».

Кірыла параўноўвае нягоднага кандыдата ў біскупы да Адама, які, «...валодаючы ўсімі зямнымі багацьцямі, усі-

мі жывёламі, морам і ўсімі стварэньнямі, што жывуць у ім, маючы ўсяго ўдосталь у зямным раю, пакваліўся самавольна на сьвятыя рэчы, пажадаўшы ўвайсьці з зямнога раю ў нябесны... Ён зрабіў так, як недастойны царкоўнік, які, затаіўшы свой грэх і ня дбаючы пра закон Божы, толькі дзеля дачаснай славы ўзышоў на біскупскі пасад».

Кірыла зьвяртаецца да нягодных царкоўных дастойнікаў:

«Зразумейце сёньня, неразумныя сярод людзей дастойнікі, разбэшчаныя сьвятары! Ці ж Той, хто даў нам вушы, ня чуе, і хто стварыў вочы, ня бачыць?.. Ці ж Той, хто навучае народы, не разумее нашага грэшнага ўпадку? Госпад ведае дрэнныя думкі злых людзей. Ён скідае няправедных уладароў і адганяе ад ахвярніка нягодных сьвятароў. Ніякая годнасьць гэтага сьвету ня выбавіць ад мукі тых, хто ломіць Божыя прыказаньні».

Падобная перасьцярога знаходзіцца ў слове на Нядзелю расслабленага:

«Гора таму, хто грашыць пасьля ўспрыняцьця духоўнага стану — гэта значыць, манаства і сьвятарства,— а нават самому біскупу, які не баіцца Бога».

Каб разьвеяць усякае сумненьне, Кірыла сьцьвярджае катэгарычна:

«У якім стане мы б ні былі, мы далёкія ад Бога, калі ў нас няма добрых учынкаў і жалю за грахі».

Словы «жаль за грахі» хаваюць у сабе ноту надзеі. Як добры пастыр і лекар душаў, Кірыла не абмяжоўваецца дыягназам хваробы, але тут жа прапануе лякарства. Ён перасьцерагае верных, каб ня бралі прыкладу з Юды:

«Дзеля гэтага не ўпадаем у роспач, як Юда, і не ўсумнімся, як садукеі, у цялесным уваскрасеньні з мёртвых; але ў пакаяньні стукайма ў Божыя дзьверы, аж пакуль брама нябесная ня будзе нам адчыненая. Праўдзіва сказаў Госпад: Стукайце, і адчыняць вам; шукайце, і знойдзеце; прасеце, і будзе вам дадзена».

А што Госпад пачуе голас грэшнікаў, якія прыходзяць шчыра і ў пакоры да Яго, няма ніякага сумненьня, бо:

«Няма такога граху, які б мог пераўзысьці Божую міласэрнасьць».

## VI. КІРЫЛА І БЕЛАРУСЬ

Літаратурная спадчына Кірылы Тураўскага параўнаўча невялікая: восем «словаў» (казаняў), дзьве «прыповесьці» і адзін «сказ», трыццаць малітваў і два каноны. Апрача гэтых твораў, аўтарам якіх быў бясспрэчна Кірыла, ёсьць шмат іншых — «Кірылы мніха», «Кірылы недастойнага», «Кірылы грэшнага» і г. д.,— аўтарства якіх сумніўнае. У многіх выпадках невядомы аўтар выкарыстоўваў славу Кірылы і падпісваў свой твор, звычайна слабейшы з мастацкага боку, ягоным імем.

Творы Кірылы дайшлі да нашых дзён у шматлікіх рукапісных сьпісках, самыя раньнія з якіх паходзяць з XIII стагодзьдзя. Ягоныя «словы» былі настолькі блізкімі па духу і стылю да падобных твораў «сьвятаайцоўскай пары», што іх вельмі рана пачалі ўключаць у г. зв. «Таржэсьцьвеньнікі», або «Залатавусныя», як называліся зборнікі казаняў і навукаў сьвятых айцоў, у першую чаргу Яна Залатавуснага, на нядзелі і сьвяты. Пачынаючы з XVI ст., гэтыя зборнікі пачалі выдавацца друкам. Зьяўленьне друкаваных зборнікаў было лягічным працягам рукапіснай традыцыі, і яны не прадстаўлялі б вялікай цікавасьці, калі б ня тое, што першыя з іх былі надрукаваныя ў Беларусі. Першым такім друкаваным зборнікам было «Тлумачальнае Евангельле» («Евангелие учительное»), якое выйшла ў Заблудаве ў 1569 г. Друкарамі былі Іван Фёдараў і ягоны калега Пётра Мсьціславец, якія пасьля няўдалай спробы заснаваць кнігадрукаваньне ў Маскве, павінны былі ўцякаць адтуль, і знайшлі бясьпечны прытулак на Беларусі пад апекаю гетмана Вялікага Княства Літоўскага Рыгора Хадкевіча. У кнізе знаходзіцца «Слова на Ўзьнясеньне» Кірылы Тураўскага.

Пазьней, асабліва ў XVIII стагодзьдзі, было выпушчана беларускімі друкарнямі ў Супрасьлі і Вільні некалькі выданьняў зборніка «Ян Залатавусны», названага так ад імя аўтара большасьці зьмешчаных у ім казаняў і «навукаў». Аўтару гэтых радкоў вядомы зьмест віленскага «Залатавуснага» 1798 г., экзэмпляр якога знаходзіцца ў Бібліятэцы імя Францішака Скарыны ў Лёндане. У кнізе ёсьць два словы Кірылы Тураўскага, менавіта «Слова на Нядзелю. Тамаша» і «Слова на Нядзелю расслабленага».

Вялікую цікавасьць мае гісторыя выданьняў малітваў

Уплыў канону на плач Багародзіцы ў слове Кірылы відавочны.

[37] У Эпіфана Кіпрскага (315—403) ёсьць падобная прамова Язэпа:

«...Дай мне на пахаваньне мёртвае цела таго асуджанага табою Ісуса Назарэя, Ісуса жабрака, Ісуса бяздомнага, Ісуса, усімі бачанага голага, упакоранага, дзіўнага, няведамага сярод чужых, пагарджанага ўсімі... Дай мне цела гэтага Дзіўнага, бо якая карысьць табе з яго... дай мне цела гэтага мёртвага, а разам і Бога, каб я мог пакрыць Таго, хто пакрыў мае бясчынствы; дай мне гэтага мёртвага, каб я мог пахаваць Таго, хто пахаваў у Ярдане мае грахі...» (Miklosich F. Monumenta linguae paleoslavicae e Codice Suprasliensi. Vindobonae 1851, pp. 343—344). Казань Эпіфана была вядомая ў славянскім перакладзе ўжо ў XI ст. і ўваходзіла ў склад г. зв. Супрасьльскага Зборніка. Зборнік гэты, хоць не беларускага паходжаньня, зьяўляецца адным з найстарэйшых помнікаў пісьменства на тэрыторыі Беларусі.

Варта таксама параўнаць слова Кірылы з песьняй, якая сьпяваецца на вячэрні ў Вялікую Пятніцу ў часе пакланеньня Плашчаніцы:

«Прыйдзіце, верныя, ушануем Язэпа, годнага памяці, што ўночы прыйшоў да Пілата і папрасіў у яго Жыцьцё ўсіх, кажучы: Дай мне Таго беспрытульнага, што ня меў дзе галавы прыхіліць; дай мне таго беднага, якога вучань фальшывы выдаў на сьмерць; дай мне таго ўбогага, Маці якога, убачыўшы Яго на крыжы павешанага, з плачам казала: «Гора мне, Дзіця маё! Гора мне, Сьвятло вачэй маіх і наймілейшы плод улоньня майго. Сёньня спраўдзілася тое, што прадказаў у сьвятыні Сямён, бо сэрца маё меч прабіў. Ты ж замяні на радасьць уваскрасеньня плач мой»».

[38] Параўнай песьню, якая сьпяваецца ў Вялікую Пятніцу на вячэрні на вынас Плашчаніцы:

«Цябе, які апранаешся ў сьвятло, быццам у вопратку, Язэп з Нікодымам зьняў з крыжа і, убачыўшы Цябе голага і непахаванага, заплакаў ад глыбіні сэрца і сказаў: Гора мне, наймілейшы Ісусе! Убачыўшы Цябе на крыжы павешанага, сонца памеркла, зямля ў страху ўскалыхнулася, і заслона царкоўная разарвалася. Вось гляджу на Цябе, які дзеля мяне дабравольна прыняў сьмерць: як я Цябе пахаваю, Божа мой, якім палатном спаўю Цябе? Якімі рукамі дакрануся да нятленнага цела Твайго і якія песьні пяяць буду на адыход Твой, Усядобры? Узьвялічваю цярпеньні Твае, слаўлю пахаваньне, а з ім і ўваскрасеньне Твае і клічу: Госпадзе, слава Табе!»

[39] Супастаўленьне Адама і Хрыста бярэ свой пачатак ад Сьв. Паўла Апостала. Вось прыклады: «Як цераз праступак аднаго ўсім людзям прыйшло асуджэньне, так цераз праведны ўчынак аднаго ўсім людзям прыходзіць жыцьцядайнае апраўданьне» (Рым 5:18); «Як у Адаме ўсе паміраюць, так у Хрысьце ўсе жывуць» (1 Кар 15:22).

У старацаркоўнай літаратуры было вядомае «Слова пра Адама і Хрыста» бізантыйскага паходжаньня. Яго выкарыстаў Кіеўскі мітрапаліт Іларыён у сваім «Слове пра закон і ласку» (1051 г.):

«...Хрыстос нарадзіўся ад Чыстае Дзевы, бо Адам быў створаны з чыстае зямлі. Так як Адам, дасканалы чалавек, зграшыў, як дзіця, то Хрыстос прыбіў цела сваё да крыжа, каб ацаліць Адама, параненага сьмяротным дрэвам; Хрыстос расьцягнуў рукі сваe на крыжы, бо Адам працягнуў руку сваю да дрэва... Хрыстос пакаштаваў воцату і жоўці, бо Адам смачна еў...». (Калугин Ф. Г. Илларион, Митрополит Киевский. Памятники древнерусской церковно-учительной литературы. Вып. I, СПб., 1894, сс. 83—84).

[40] Параўнай гэты ўрывак з песьнямі на вячэрні ў Нядзелю расслабленага:

«Калі ўбачыў Цябе расслаблены, што ляжаў, быццам непахаваны нябожчык, ён усклікнуў: Зьмілуйся нада мною, Госпадзе, бо ложак мой стаўся для мяне магілаю! Нашто мне жыць? Ня трэба мне Авечай сажалкі, бо ня маю нікога, хто б мяне да яе занёс, калі ўзварухнецца вада...».

Таксама далей: «Госпадзе, ня маю чалавека, які б занёс мяне ў сажалку, калі пачне варушыцца вада. Я страціў маю маёмасьць на лекараў, але нічога не асягнуў...»

[41] У песьні на ліцьці на вячэрні ў Нядзелю расслабленага гаворыцца:

«Збавіцель, зьмілаваўшыся, кажа яму (г. зн. расслабленаму): Дзеля цябе Я стаўся чалавекам, дзеля цябе Я прыняў цела, а ты кажаш: Ня маю чалавека...»

[42] Гл. Мц 20:28.

[43] Гл. Пс 81:6, таксама Ян 10:34.

[44] Параўнай песьню на вячэрні на Ўзьнясеньне:

«Госпад узьнёсься на неба, каб паслаць сьвету Пацяшыцеля. Неба падрыхтавала Яму пасад, хмары — ягоныя сходы. Анёлы здумеліся, убачыўшы Чалавека вышэй за іх. Айцец прымае Таго, хто быў ва ўлоньні Яго спрадвеку; Дух Сьвяты загадвае анёлам: Адчыніце, князі, вароты вашыя!»

[45] На вячэрні на Ўзьнясеньне сьпяваецца:

«Апосталы, убачыўшы, як Ты, Госпадзе, Жыцьцядаўчага Хрысьце, узносіўся на хмарах, заліліся сьлязамі і, поўныя суму, з плачам казалі: Не пакідай, Уладару, сіротамі слуг Тваіх, якіх Ты палюбіў у міласэрнасьці і добрасардэчнасьці Тваёй, але пашлі нам, як абяцаў, Усесьвятога Духа Твайго, каб Ён прасьвятліў душы нашыя».

[46] Пра ўплыў Рыгора Назьянскага на Кірылу Тураўскага гл.: Vaillant A., Cyrille de Turov et Gregoire de Nazianze. Revue des Études Slaves, t. 26, Paris, 1950, pp. 34—50.

[47] Параўнаньне Бэтсаіды з хростам ёсьць у сьв. Яна Залатавуснага:

«...Як тады (г. зн. у Бэтсаідзе) не вада сама лячыла,— бо тады б яна рабіла гэта заўсёды,— але моц анёла, так і ў нас не проста вада, але вада, якая атрымала ласку Сьвятога Духа, робіцца здольнай абмыць грахі... Тады слабасьць магла перашкодзіць таму, хто шукаў аздараўленьня. Цяпер усе маюць поўную свабоду прыбліжацца, бо не анёл ужо узварушвае ваду, але сам Уладар анёлаў дзейнічае... Нават калі б увесь сьвет прыйшоў, ласка ня зьменшыцца, як і ня зьменшыцца яе моц, але застаецца заўсёды такой самай» (Migne, Patr. Gr. v. 59, p. 203).

Усьлед за Янам Залатавусным гэты прыклад паўтарыў Тэафілякт Баўгарскі ў пачатку XII стагодзьдзя.

[48] Поўная назва твору ёсьць «Прыповесьць мніха Кірыла пра чалавечую душу і цела, пра ўваскрасеньне мёртвых, і пра суд і мукі».

[49] Прыповесьць пра кульгавага і сьляпога прыцягнула ўвагу шматлікіх дасьледчыкаў, сярод іх М. Сухамлінава, І. Франко (гл. заўвагу 25) і І. Яроміна (Еремин И. Притча о слепце и хромце в древнерусской литературе). Изв. отдела Русского языка АН СССР, т. 30, 1925, сс. 323—325).

Кірыла памылкова лічыць аўтарам прыповесьці сьв. Апостала Мацьвея, відаць, зьмяшаўшы яе з прыповесьцю пра злых вінаградараў (Мц 21:31—40). Несумненна адно, што прыповесьць пра сьляпога і кульгавага дайшла да яго не ў першапачатковай, але ў «хрысьціянскай» форме.

Побач з тэмаю Царквы і царкоўнай іерархіі Кірыла ў сваёй прыповесьці разьвівае тэму жыцьця пасьля сьмерці. Сьляпы для яго — гэта вобраз душы, а кульгавы — цела. Кірыла робіць выснову, што да другога прыйсьця Хрыстовага «няма ні суду, ні мучэньняў для ўсякай душы чалавека, вернага і нявернага». Такога погляду прытрымліваліся некаторыя царкоўныя пісьменьнікі (Афрат Сырыйскі, Фоцый, Тэафілякт Баўгарскі і інш.), але ён пярэчыць хрысьціянскай традыцыі і навуцы Царквы, дзе ад самага пачатку існавала практыка малітваў за памёрлых і культ сьвятых. Малітвы Кірылы сьведчаць, што ён верна прытрымліваўся царкоўнай традыцыі.

[50] Гл. Ян 20:22.

[51] Магчыма, Кірыла тут меў на ўвазе Ян 16:13, або Ап. Дз 1:8.

[52] Надсон А. Малітаўнік Мамоніча 1601 г. Божым шляхам, Лёндан, 1970, № 1, сс. 8—12; № 2, сс. 5—6.

[53] Гарэцкі М. Гісторыя беларускай літаратуры. Вільня, 1920, с. 11.

Ластоўскі В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўна, 1926, сс. 27—30.

[54] Канакоцін О. Літаратура — зброя клясавай барацьбы. Менск, 1932, с. 67.

[55] Скраб. Б. Сьв. Кірыла Тураўскі. Першы вялікі беларускі пісьменьнік і красамоўца. Беларускі праваслаўны патэрык. Першы сшытак. Варшава, 1943, сс. 17—21.

[56] Tatarynovic P. San Cirillo vesc. Ji Turov e la sua Jottrina spirituale. Roma, 1950.

[57] Надсон А. Сьвяты Кірыл Тураўскі. Лёндан, 1968.

Nadson A. The Writings of St Cyril ot Turaŭ. The Journal of Byelorussian Studies. Vol. 1, No. 1, london, 1965, pp. 4—15; *also:* Spiritual Writings of St Cyril of Turau. Eastern Churches Review. Vol. 1, No. 4, 1967—1968, pp. 347—358.

[58] «Казаньне на нядзелю сьвятога Фамы». На сучасную беларускую мову пераклумачыў Алесь Разанаў. Крыніца, № 7. Менск, 1994, сс. 8—24.



*Чаму сыны нашага народу так лёгка адракаюцца ад матчынай гутаркі? Кажуць: бо цёмны нашы беларусы. Але гэта няпраўда. Забываюць родную мову, адракаюцца ад бацькоў і братоў сваіх найбольш тыя, хто дайшоў навук, выйшаў у людзі. Яны ня цёмны: яны пераймаюць чужое дзеля карысьці. У сэрцы такіх людзей загасла любоў да свайго народу і роднай мовы. Дачэсная карысьць, жаданьне пашаны ў чужых, сьмешны гонар — усё гэта заняла мейсца ў апусьцеўшай іх душы.*

Алаіза Пашкевіч (Цётка). 1914 г.

